Джоан Роўлінг

# Гары Потэр і філасофскі камень




Для Джэсікі, якая любіць разнастайныя гісторыі,
для Анны, якая таксама іх вельмі любіць,
і для Дзі, што пачула гэту казку першай.

*Пераклад прысвячаецца Насце, якая вельмі жадала прачытаць Гары Потэра па-беларуску*

пераклад Вольгі Быкоўскай

Выдавецтва "Сам сабе перакладчык, верстальшчык і чытач"



*«Гары Потэр» (англ. Harry Potter) — серыя раманаў ангельскай пісьменніцы Дж. К. Роўлінг. Кожны з раманаў апісвае адзін год з жыцця галоўнага героя — хлопчыка-чараўніка Гары Потэра.*
*Было выдадзена сем частак, усе сем сталі вельмі папулярнымі і былі перакладзеныя на шмат моваў.*
*Апошняя была выдадзена 21 июля 2007.*
*Агульны тыраж кнігаў склаў больш за 325 міліёнаў (на 64 мовах).*

*«Гары Потэр і філасофскі камень» (англ. Harry Potter and the Philosopher's Stone) - першы раман у серыі кнігаў. У ім Гары даведваецца, што ён можа чараваць, сустракае сяброў Рона і Герміёну у Школе Чарадзейства і Чараўніцтва «Хогвартс» і з іх дапамогай перашкаджае вярнуцца ў свет злому чараўніку лорду Валандэморту.*



*За тое, што гэты пераклад атрымаўся дзякуй аўтарам двух перакладаў на беларускую мову і двух на рускую, google translator, slounik.org і складальніку слоўніка праграмы Libre Office. :-) Прэтэнзіі па перакладу не прымаюцца, так як ён не з'яўляецца прафесійным і ніколі не прэтэндаваў на гэтую ролю. Але калі знойдзеце значныя памылкі, і вашае адчуванне справядлівасці не дазволіць іх прамінуць, можаце даслаць іх аўтару перакладу на e-mail: pinkby@gmail.com.*

# Частка першая

## Хлопчык, які выжыў

Містар і місіс Дурслі, якія жылі ў доме нумар чатыры на Прайвэт драйв, з гонарам маглі сказаць, што яны цалкам нармальныя. Яны былі апошнімі людзьмі, ад якіх вы маглі чакаць чагосьці дзіўнага ці містычнага, бо яны не займаліся такімі глупствамі.

Містар Дурсль быў дырэктарам фірмы «Ґрунінгз», што выпускала свёрлы. Ён быў вялікі, мускулісты мужчына, у якога амаль не было шыі, затое раслі пышныя вусы.

Місіс Дурсль была хударлявай бландзінкай. У яе шыя была даўжэйшая за звычайную ў два разы, што было для яе вельмі карысным, так як яна шмат часу праводзіла, выцягваючыся, каб шпіёніць за суседзямі праз садовыя платы.

У Дursляў быў маленькі сын, якога назвалі Дадлі, і, па іх меркаванні, не было ў свеце лепшага хлопчыка.

У Дursляў было ўсё, што яны маглі пажадаць, але яны таксама мелі і сакрэт, і іх найвялікшы страх быў у тым, што нехта адкрые яго. Яны і не ўяўлялі, што будуць рабіць, калі нехта даведаецца пра Потэраў.

Місіс Потэр была сястрой місіс Дурсль, але яны не сустракаліся шмат год. Фактычна, місіс Дурсль рабіла выгляд, што ў яе няма сястры, таму што і яе сястра, і яе ні на што не здатны муж былі поўнай супрацьлегласцю Дурслям. Калі такое ўвогуле магло быць. Дурслі уздрыгвалі, падумаўшы, што сказалі б суседзі, калі б Потэры прыехалі на іх вуліцу.

Дурслі ведалі, што ў Потэраў таксама ёсць маленькі сын, але яны яго ніколі не бачылі. Гэты хлопчык быў другой добрай прычынай трымацца надалей ад Потэраў: яны не хацелі, каб Дадлі вадзіўся з такімі дзецьмі.

Аднойчы містар і місіс Дурслі прачнуліся у сумны, шэры аўторак, тады і пачалася гэтая гісторыя. У воблачным небе нічога не прадвяшчала, што дзіўныя і загадкавыя рэчы хутка адбудуцца ва ўсёй краіне.

Містар Дурсль мармытаў нешта сабе пад нос, завязваючы свой самы сумны гальштук для працы. Місіс Дурсль пераказвала мужу плёткі, змагаючыся адначасова з Дадлі, які крычаў ва ўвесь голас, і намагаючыся запіхаць яго ў высокае дзіцячае крэсла.

Ніхто з іх не звярнуў увагу на тое, як вялікая рудаватая сава праляцела міма вакна.

У палову на дзявятую містар Дурсль узяў партфель, клюнуў місіс Дурсль у шчаку і паспрабаваў пацалаваць на развітанне Дадлі, але прамазаў, бо ў сына была істэрыка, і ён кідаўся ў крэселцы туды-сюды і кідаў сваю аўсянку на сцяну.

- Маленькі мой, - ласкава хмыкнуў містар Дурсль і сышоў з дому. Ён залез у машыну і адʼехаў ад дома нумар чатыры.

Містар Дурсль даехаў да вугла вуліцы, калі зʼявіўся першы знак чагосьці

своеасаблівага: там сядзела котка і глядзела на мапу. Секунду містар Дурсль не разумеў, што бачыць, потым дзёрнуўся і павярнуў галаву, каб паглядзець яшчэ раз.



Гэта была паласатая котка, якая сядзела на вуглу Прайвэт драйв, але аніякай мапы там не было. «Што гэта ў галаву прыйшло?» - падумаў містар Дурсль. Пэўна, святло так упала.

На ўсялякі выпадак містар Дурсль міргнуў і ўтаропіўся на котку. А котка ўтаропілася на яго. Калі містар Дурсль заехаў за вугал і паехаў па вуліцы ўверх, ён усё яшчэ бачыў ката ў люстэрка задняга выгляду. Зараз кот чытаў шыльду, на якой было напісана «Прайвэт Драйв». Не, зразумела, проста глядзеў на шыльду. Каты не могуць чытаць мапы ці шыльды!

Містар Дурсль патрос галавой і выкінуў ката з думак. У выніку па дарозе ў горад ён думаў толькі пра вялікую замову звёрлаў, які спадзяваўся атрымаць сёння.

Але на краі горада звёрлы былі выціснутыя з ягонай галавы нечым яшчэ. Седзячы ў машыне ў звычайным ранішнім корку, ён не мог не заўважыць шмат дзіўна апранутых людзей. Людзей у мантыях. Містар Дурсль не выносіў людзей, якія апраналіся ў смешнае адзенне, страшна падумаць, што на сабе апранаюць юнакі! Ён вырашыў, што гэта чарговае глупства сучаснай моды.

Ён забарабаніў пальцамі па рулю, і ягоны позірк упаў на групу гэтых дзівакоў, якія стаялі зусім побач. Яны пра нешта азартна шапталіся. Містар Дурсль раззлаваўся, калі пабачыў, што пара з іх зусім не была маладымі. Увогуле, адзін мужчына быў старэй за яго і апрануты пры гэтым быў у ізумрудна-зялёную мантыю. Вось бессаромны!

Але потым ў галаву містару Дурслю прыйшла думка пра тое, што гэтыя людзі маглі збіраць грошы на нешта… Так яно і ёсць!

Машыны пачалі рухацца, і праз пару хвілінаў містар Дурсль прыехаў на стаянку «Грунінгса». Ягоныя думкі вярнуліся да звёрлаў.

***

Містар Дурсль заўсёды сядзеў у офісе на дзясятым паверсе, спінай да вакна. Калі б не так, то гэтай раніцай яму б было цяжэй засяродзіцца на працы. Ён не бачыў, як днём лёталі совы. Але гэта бачылі людзі знізу, яны паадчынялі рты і глядзелі як вялікія начныя птушкі хутка пралятаюць над галавой. Большасць з іх ніколі не бачылі соваў і ноччу.

Раніца містара Дурсля аднак праходзіла як самая звычайная раніца без соваў. Ён накрычаў на пяць чалавек, зрабіў некалькі важных тэлефонных званкоў і пакрычаў яшчэ трохі. Да ланчу ён быў ужо ў вельмі добрым настроі. Менавіта тады містар Дурсль вырашыў размяць ногі і пайшоў прагуляцца па наваколлі і заадно набыць сабе булачку ў пякарні.



Дурсль паспеў забыцца на людзей у мантыях, але сустрэў чарговую групу каля пякарні. Ён паглядзеў на іх так злосна, як мог. Ён не ведаў чаму, але яны прымушалі адчуваць яго ніякавата. Гэты натоўп таксама азартна шаптаўся, і пры іх не было ніякіх каробак для ахвяраванняў.

На зваротным кірунку, сціскаючы ў руцэ пакунак з вялікім пончыкам, містэр Дурсль пачуў некалькі словаў з таго, што яны казалі:

- Потэры, гэта праўда… Я чуў так…

- Іх сын Гары…

Містар Дурсль стаў як укопаны. Яму стала страшна. Ён азірнуўся на людзей, якія перашэптваліся, хацеў нешта спытаць, але потым перадумаў і вырашыў за лепшае сысці.

Ён пайшоў назад па дарозе, хутка падняўся ў офіс, папрасіў сваю сакратарку не непакоіць яго, схапіў слухалку і амаль набраў хатні нумар, але перадумаў. Дурсль паклаў слухалку на месца і прыгладзіў вусы, думаючы… не, гэта было глупства. Потэр – не такое ўжо незвычайнае прозвішча.

Ён быў абсалютна ўпэўнены, што на свеце было куча людзей, якіх клікалі Потэрамі, а іх сыноў – Гары. Ён таксама не быў упэўнены, што ягонага пляменніка назвалі Гары, бо ніколі не бачыў хлапца. Яго маглі называць і Харві. Ці Гаральд.

Не было прычынаў для непакою місіс Дурсль. Яна адразу ўпадала ў дэпрэсію, калі прыгадвала пра сваю сястру. Ён не вінаваціў яе: калі б у яго была такая сястра… але ўсё ж, тыя людзі былі ў мантыях…

У рэшце рэшт, містару Дурслю стала значна цяжэй канцэнтравацца на звёрлах, чым па абедзе. Калі ён сыходзіў з будынку ў пяць гадзінаў, то так расхваляваўся, што сутыкнуўся з кімсьці, хто стаяў перад дзвярыма.

- Прабачце, - крэкнуў ён маленькаму старому чалавеку, які спатыкнуўся і ледзь не ўпаў.

Гэта было за некалькі секундаў да таго, як містар Дурсль заўважыў, што мужчына быў апрануты ў фіялетавую мантыю. Але, амаль не ўпаўшы ў бруд, незнаёмец не збянтэжыўся. Наадварот, ягоны твар зморшчыўся ў шырокай усмешцы, і ён сказаў такім скрыпучым голасам, што некалькі мінакоў азірнуліся:

- Не прабачайцеся, мой дарагі сэр, нічога не можа мяне сёння засмуціць. Радуйцеся, Самі-Ведаеце-Хто сышоў назаўсёды! Нават маглы павінны святкаваць такі шчаслівы-шчаслівы дзень!

І стары мужчына абняў містара Дурсля у раёне жывата і сышоў.

Містар Дурсль прырос да асфальту. Яго толькі што абняў зусім незнаёмы дзівак. Ён таксама падумаў, што яго яшчэ не называлі маглам, нават думаць не хочацца, што гэта можа азначаць. Ён быў у шоку. Дурсль кінуўся да сваёй машыны і паехаў дадому, спадзяючыся, што прычынай усяго было разгуляўшаяся фантазія, чаго раней ніколі не рабіў, бо не адабраў фантазіі.

Як толькі ён пад’ехаў да дому нумар чатыры па Прайвэт драйв, ён пабачыў – і гэта не ўсцешыла яго – паласатую котку, тую ж што і зранку. Зараз яна сядзела на садовым плоце. Ён быў упэўнены, што гэта тая ж котка, бо ў яе былі плямы вакол вачэй.

- Пшык! - крыкнуў містар Дурсль.

Котка не рухалася, толькі ўважліва на яго паглядзела. Ці нармальна яна сабе паводзіла? Містар Дурсль зайшоў у дом, збіраючыся не ўцягваць у гэта жонку.

У місіс Дурсль быў прыемны, нармальны дзень. Яна распавяла пра ўсё мужу за вячэрай пра містара Наступныя дзверы, пра праблемы з ягонай дачкой, і як Дадлі вывучыў новае слова («Не буду!»). Містар Дурсль спрабаваў паводзіць сабе звычайна. Калі Дадлі пайшоў спаць, ён пайшоў у гасціную паглядзець вечаровыя навіны.

- І ў канцы выпуску навінаў - назіральнікі за птушкамі паведамляюць, што совы сёння паводзілі сабе вельмі незвычайна. Нармальныя совы лятаюць уначы, і іх вельмі цяжка пабачыць пры дзённым святле. Але была мноства сведкаў, якія распавядалі, што сотні гэтых птушак лялі днём. Эксперты не могуць растлумачыць, чаму совы так змянілі паводзіны.

Вядучы дазволіў сабе пасміхнуцца.

- Усё гэта больш чым загадкава. І зараз Джым МакГуфін з надвор’ем. Распавядзеш пра дождж з соваў сёння ноччу, Джым?

- Добра, Тэд, - сказаў сіноптык. – Я не ведаю пра гэта, але не толькі совы былі надзвычай дзіўнымі сёння. Тэлегледачы з Кэнту, Ёркшыру і Дандзі званілі, каб расказаць мне, што замест дажджу, які я абяцаў учора, яны бачылі зоркапад! Магчыма, людзі пачалі святкаваць рана Ноч Вагню, якая будзе не раней наступнага тыдню. Але я магу паабяцаць мокрую ноч сёння.

Містар Дурсль застыў у сваім крэсле. Зоркапад па ўсёй Брытаніі? Совы лятаюць днём? Паўсюдна загадкавыя людзі ў мантыях? І чуткі, чуткі пра Потэраў…

Місіс Дурсль прыйшла ў гасціную з двума кружкамі гарбаты. Не, так было нядобра. У яго было што сказаць ёй. Містар Дурсль нервова пракашляўся.

- Эээ, Пятуння, дарагая, ты нічога не чула пра сваю сястру апошнім часам?

Як ён і чакаў, місіс Дурсль выглядала шакаванай і раззлаванай. Яны звычайна

рабілі выгляд, што ў ягонай жонцы няма сястры.

- Не, - сказала яна рэзка. – Навошта?

- Пацешны матэрыял у навінах, - прамармытаў містар Дурсль. – Совы… зоркапад… і было шмат дзіўна выглядаючых людзей у горадзе сёння…

- І…?

- Я проста падумаў… можа быць… гэта магла зрабіць… ты ведаеш… яе групоўка.

Місіс Дурсль піла гарбату праз падціснутыя вусны. Містар Дурсль думаў, ці хопіць у яго смеласці сказаць пра пачутае ім імя «Потэр». Ён вырашыў, што не хопіць. Замест таго ён сказаў так акуратна, як мог:

- Іх сын, ён прыкладна ўзросту Дадлі?

- Я думаю, што так, - сказала місіс Дурсль суха.

- Як яго клічуць? Гаральд, ці не так?

- Гары. Праціўнае, простанароднае імя, калі ты запытаешся мяне.

- О да, - адказаў містар Дурсль, ягонае сэрца забілася мацней. – Так, я цалкам згодны.

Ён не сказаў больш ні слова па гэтай тэме да таго, як яны пайшлі спаць. Пакуль місіс Дурсль была ў ванне, містар Дурсль пракраўся да вакна спальні, каб паглядзець на сад каля дому. Котка ўсё яшчэ была там, гледзячы ўніз на Прайвэт драйв, як быццам кагосьці чакала.

Можа, гэта яму ўсё прымроілася? Ці магло гэта ўсё адбывацца з удзелам Потэраў? Калі гэта адбылося… калі яны былі з гэтым звязаныя… - ён не ведаў, што з гэтым рабіць.

Дурслі ляглі ў ложак. Місіс Дурсль хутка заснула, але містар ляжаў без сну, напружана думаючы. Ягоная апошняя суцяшальная думка перад тым, як ён заснуў была пра тое, што нават калі Потэры былі ўцягнутыя, не было ніякіх прычынаў для іх прыходзіць да яго і місіс Дурсль.

Потэры ведалі вельмі добра, што ён і Петунія думаюць пра іх і іх дзіця… Ён не бачыў, як ён і Петунія могуць трапіцца ў нейкую такую гісторыю - калі канечне, нешта сапраўды адбывалася. Ён павярнуўся і пазяхнуў. Гэта іх не тычыцца…

Як ён памыляўся.

***

Містар Дурсль спаў і бачыў трывожны сон, але котка, якая сядзела звонку на плоце, спаць зусім не збіралася. Яна сядзела быццам статуя, яе вочы былі накіраваныя на дальні вугал Прайвэт драйв. Яна не пасунулася ні калі нехта хлопнуў дзвярыма машыны на суседняй вуліцы, ні калі дзве савы праляцелі над галавой. Фактычна, было каля поўначы, калі котка першы раз зрабіла нейкі рух.

На далёкім рагу вуліцы, за якім як раз і назірала котка, узнік мужчына. Узнік так нечакана, што можна было падумаць, што ён выскачыў з-пад зямлі. Котка дзёрнула хвастом і звузіла вочы.

Нікога падобнага на гэтага мужчыну ніколі не было на Прайвэт Драйв. Ён быў высокі, хударлявы і вельмі стары, калі звярнуць увагу на сівыя валасы і бараду, якія




былі настолькі доўгімі, што даставалі яму да пояса. Ён быў апрануты ў даўгую робу, паверх - пурпурную мантыю, якая цягнулася па зямлі і бацінкі на высокіх абцасах з пражкамі.

Ягоныя блакітныя вочы былі светлымі, яркімі і блішчэлі з-пад акуляраў у форме паўмесяца. Ягоны нос быў вельмі доўгі і кручком, быццам бы яго зламалі цэлых два разы. Яго звалі Альбус Дамблдор.

Дамблдор не разумеў, што трапіў на вуліцу, дзе ўсё, пачынаючы з ягонага імені і заканчваючы ягонымі бацінкамі было звышнезвычайным. Ён нешта шукаў у мантыі. Ён ўважліва паглядзеў на котку, якая ўсё яшчэ глядзела на яго з іншага канца вуліцы. З нейкіх прычынаў яе выгляд пазабавіў яго.

Дамблдор пасміхнуўся і прамармытаў:

- Трэба было здагадацца.

Ён знайшоў тое, што шукаў ва ўнутранай кішэні. Гэта рэч выглядала як срэбраная запальнічка. Ён запаліў вагонь у ёй, потым зачыніў. Бліжэйшы вулічны ліхтар патух з лёгкім хлапком.

Мужчына паўтарыў аперацыю – наступная лямпа пагасла. 12 разоў выкарыстоўваў запальнічку, пакуль святло не знікла на ўсёй вуліцы. Толькі два маленькіх агеньчыка гарэлі ў аддаленні, якія былі нічым іншым як вачыма коткі.

Калі нехта паглядзіць у вакно зараз, нават вострая на вочы Місіс Дурсль, ён не разгледзіць на вуліцы абсалютна нічога. Дамбдор засунуў выключальнік ліхтароў назад у кішэню ў мантыі і пайшоў уніз па вуліцы ў кірунку дома нумар пяць, дзе ён сеў на бардзюр каля коткі. Ён не глядзеў на яе, але праз секунду пачаў з ёй размаўляць.

- Прыемна бачыць вас тут, прафесар МакГонагал.

Ён пасміхнуўся паласатай котке, але яна ўжо знікла. Замест давялося пасміхнуцца даволі раздражнёнай жанчыне, якая была ў квадратных акулярах, дакладна такіх, як плямы ў коткі вакол вачэй. Яна таксама была апранутая ў мантыю, толькі ў ізумрудную. Яе чорныя валасы былі ўкладзеныя ў тугую гульку. Яна выглядала заўважна раззлаванай.

- Як ты даведаўся, што гэта я?

- Мой дарагі прафесар, я ніколі не бачыў ката, які б сядзеў так доўга застыўшым на адным месцы.

- Ты бы таксама застыў, калі б сядзеў на цаглінай сцяне цэлы дзень, - адказала МакГонагал.

- Цэлы дзень? Замест таго, каб святкаваць? Я прайшоў з дзясятак вечарынак і святаў, пакуль ішоў сюды.

Прафесар МакГонагал яшчэ больш спахмурнела.

- Канечне, усе святкуюць, усё правільна, - сказала яна нецярпліва. – Ты думаеш, яны павінны быць трохі быць больш асцярожнымі, але не – вось нават маглы заўважылі. Гэта было ў іх навінах.

Яна тузанула галавой ў бок цёмнага вакна гасціннай Дурсляў.

- Я чула гэта. Чарады соваў… зоркапад… Яны ж не зусім дурні. Не маглі не заўважыць. Зоркапад у Кэнце – я магу пабіцца аб заклад, што гэта быў Дэдалус Дзігл. Ён ніколі не быў асабліва разумным.

- Ты не можаш злавацца на іх, - сказаў Дамблдор мякка. – У нас было мала прычынаў для святаў апошнія 11 год.

- Я гэта ведаю, - заявіла МакГонагал раздражнёна. – Але няма прычынаў губляць галаву. Людзі ставяцца зусім абыякава да асцярожнасці. Хадзіць днём па вуліцы, нават не апрануўшыся ў маглаўскае адзенне, пойдуць жа чуткі.

Яна кінула востры позірк на Дамблдора, як быццам спадзяючыся, што ён скажа ёй нешта, але ён прамаўчаў.

- Проста выдатна, у той дзень, калі Самі-Ведаеце-Хто знік, маглы могуць даведацца пра пра нас. Я спадзяюся, ён сапраўды знік, Дамблдор?

- Сапраўды выглядае на гэта, - адказаў Дамблдор. – Так што гэта сапраўднае свята. Не жадаеш лімоннага дражэ?

- Што?

- Лімоннае дражэ. Гэта такі від салодкіх прысмакаў маглаў, які я адшукаў.

- Не, дзякуй, - сказала прафесар МакГонагал прахалодна, так як яна лічыла, што зараз не самы падыходзячы момант для лімоннага дражэ. – Як я сказала, нават калі Самі-Ведаеце-Хто знік…

- Мая дарагая прафесар, такі безумоўна разумны чалавек, як ты, можа называць яго па імені? Усе гэтыя «Вы-Ведаеце-Хто» – нонсэнс. Адзінаццаць год я спрабаваў пераканаць людзей называць яго ягоным імём: Валдэморт.

Прафесар МакГонагал уздрыгнула, але Дамблдор, які ў гэтым момант адлялпяў дзве лімонных цукеркі ад абгорткі, гэтага не заўважыў.

- Гэта яшчэ больш усё заблытвае, калі мы працягнем казаць Вы-Ведаце-Хто. Я ніколі не бачыў ніякіх прычынаў баяцца казаць імя Валдэморт.

- Я ведаю, - адказала МакГонагал, напалову з захапленнем, напалову з жахам. – Але ты іншы. Кожны ведае, што вы адзіны, каго Вы-Ведаеце… ох, ладна, Валдэморт, баяўся.

- Ты лісліўіш мне, - сказаў Дамблдор спакойна. – У Валдэморта была моц, якой у мяне ніколі не было.

- Толькі таму, што ты ммм настолькі высакародны, каб выкарыстаць яе.

- Гэта добра, што зараз цёмна. Я не чырванеў так моцна з таго часу, як мадам Помфры сказала мне, што ёй падабаюцца мае новыя механыя навушнікі.

Прафесар МакГонагал каротка і востра паглядзела на Дамблдора і сказала:

- Совы нічога ў параўнанні з новымі чуткамі, якія лятаюць навокал. Ты ведаеш, што ўсе яны кажуць? Пра тое, чаму ён знік? Пра тое, што канчаткова спыніла яго?

Выглядала, што МакГонагал дайшла да тэмы, якая найбольш трывожыла яе пад час размовы, сапраўднай прычыны, чаму яна сядзела на цвёрдай халоднай сцяне цэлы дзень, бо яна не глядзела яшчэ на Дамблдора так пранізліва ні як котка, ні як жанчына.

Яна збіралася зрабіць так з самага пачатку: не верыць у тое, што кажуць усе, пакуль гэта не зацвердзіць Дамблдор. Аднак Дамблдор узяў яшчэ адну лімонную смакталку і не адказаў.

- Што яны кажуць, – націскала яна, – што ў апошнюю ноч Валдэморт вярнуўся ў Годрыкаву западзіну. Ён вярнуўся каб знайсці Потэраў. Чуткі ў тым, што Лілі і Джэймс Потэры яны… яны… што яны памерлі.

Дамблдор схіліў галаву. МакГонагал ахнула.

- Лілі і Джэймс… Я не магу ў гэта паверыць… Я не хачу ў гэта верыць… Вох, Альбус…

Дамблдор працягнуў руку і паляпаў яе па плячы.

- Я ведаю… ведаю, - сказаў ён цяжка вымаўляючы словы.

Голас прафесара МакГонагал дрыжаў.

- Гэта не ўсё. Яны кажуць, што ён спрабаваў забіць сына Потэраў, Гары. Але ён не змог. Ён не здолеў забіць маленькага хлопчыка. Ніхто не ведае, чаму ці як, але яны кажуць, што калі ён не змог забіць Гары Потэра, сіла Валдэморта нейк рассеялася і гэта прычына, чаму ён знік.

Дамблдор хмурна кіўнуў.

- Гэта… гэта праўда? – прафесар МакГонагал запнулася. – Пасля ўсіх гэтых забітых людзей… ён не здолеў забіць маленькага хлопчыка? Гэта так дзіўна пасля ўсяго, што рабілі, каб спыніць яго… але як у імя нябёсаў Гары ўдалося выжыць?

- Мы можам толькі здагадвацца, - сказаў Дамблдор. – Магчыма, мы ніколі не даведаемся.

Прафесар МакГонагал выцягнула аднекуль карункавую насовачку і прыклала яе да вачэй пад акуляры. Дамблдор гучна ўсхліпнуў, узяў залаты гадзіннік са сваёй кішэні і паглядзеў на яго. Гэта быў вельмі дзіўны гадзіннік. У яго было 12 стрэлак, але ніводнай лічбы, замест іх маленькія планеты рухаліся вакол.

- Хагрыд спазняецца. Я думаю, што гэта ён сказаў, што трэба быць тут?

- Так, - адказала МакГонагал. – І я не разумею, калі ты збіраўся сказаць мне, чаму менавіта тут.

- Я прыйшоў, аб аддаць Гары ягоным цёці і дзядзі. Яны ягоная адзіная сям'я, якая ў яго засталася.

- Вы не маеце на ўвазе – вы не можаце мець на ўвазе тых людзей, што жывуць тут? – закрычала прафесар МакГонагал, ускачыўшы на ногі і паглядзеўшы на дом нумар чатыры. – Дамблдор, вы не можаце. Я назірала за імі цэлы дзень. Вы не можаце знайсці яшчэ двух людзей, якія б так моцна нас не любілі. І ў іх ёсць свой сын, я бачыла, як ён пінаў сваю маці, патрабуючы салодкае, усю дарогу, пакуль яны ішлі па вуліцы. І Гары Потэр прыедзе і будзе жыць тут?!

- Гэта найлепшае месца для яго, - сказаў цвёрда Дамблдор. – Ягоныя цёця і дзядзя змогуць растлумачыць яму ўсё, калі ён падрасце. Я напісаў ім ліст.

- Ліст? – перапытала МакГонагал слабым голасам, сеўшы назад на бардзюр. –



Сапраўды, Дамблдор, ты думаеш, што можаш растлумачыць усё гэта ў лісце? Гэтыя людзі ніколі не зразумеюць яго! Ён знакаміты… легенда, я не буду здзіўленая, калі сённяшні дзень будзе вядомы як дзень Гары Потэра ў будучыні… будуць напісаныя кнігі пра яго… кожнае дзіцё будзе ведаць імя Гары Потэра!

- Дакладна, - сказаў Дамблдор, які глядзеў вельмі сур'ёзна над сваімі акулярамі. – Гэта дастаткова каб ускружыць хлапечую галаву. Знакаміты да таго, як ён навучыцца хадзіць і размаўляць! Знакаміты нечым, што ён не можа памятаць! Кара, ты бачыш наколькі лепей, калі ён вырасце падалей ад ўсяго гэтага і даведаецца пра ўсё тады, як будзе гатовы прыняць гэта?

Прафесар МакГонагал адчыніла рот, каб нешта сказаць, але перадумала, зглытнула і потым сказала:

- Так, так, ты, канечне, правы. Але як хлопчык з'явіцца тут?

Яна паглядзела на ягоную мантыю, быццам бы Гары Потэр мог хавацца пад ёй.

- Хагрыд прывязе яго.

- Ты думаеш гэта мудра давяраць Хагрыду нешта такое важнае?

- Я даверу Хагрыду маё жыццё, - проста адказаў Дамблдор.

- Я не кажу пра ягонае сэрца, яно ў правільным месцы, - сказала прафесар неахвотна. – Але ты не можаш прыкідвацца, што не ведаеш, што ён нядбайны. Ён заўсёды імкнуўся… а гэта што за гук?

Нізкае буркатанне парушыла цішыню навокал. Яно станавілася ўсё гучней, і пакуль яны глядзелі на вуліцу ў пошуках фар, яно вырасла да рову. У паветры паказаўся вялічэзны матацыкл, які зваліўся на дарогу прама перад імі.

Калі матацыкл быў агромністы, то ён казаўся маленькім па ўзроўню з мужчынам, які сядзеў на ім верхам. Ён быў амаль удвая вышэй, чым нармальны чалавек, і найменш у пяць разоў шырэй. Насамрэч, ён выглядаў занадта вялікім, каб быць рэальным. І такім дзікім: лохмы густых чорных валасоў і барада хавалі большую частку твару, далоні памерам з крышку сметніцы. Ягоныя ногі былі абутыя ў бацінкі памерам з дзельфінятаў. У шырокіх, мускулістых руках ён трымаў пучок коўдраў.

- Хагрыд, - сказаў Дамблдор, - нарэшце. І дзе ты ўзяў матацыкл?

- Пазычыў яго, прафесар Дамблдор, - адказаў велікан, асцярожна злазячы з матацыкла. – Малады Сырыўс Блэк даў яго мне, сэр.

- Не было праблемаў?

- Не, сэр. Дом амаль цалкам зруйнаваны, але я ўзяў яго перад тым, як маглы пачалі лазіць навокал. Ён заснуў, пакуль я ляцеў над Брысталем.

Дамблдор і МагГонагал схіліліся над звёрткам. Усё, што яны пабачылі ўнутры, быў маленькі хлопчык, які глыбока спаў. Пад чорнымі валасамі яны пабачылі незвычайны шнар у форме маланкі.

- Гэта… было сюды…? – прашаптала прафесар МакГонагал.

- Так, - адказаў Дамблдор. – Гэты шнар застанецца яму назаўсёды.

- Ты не можаш нічога з гэтым зрабіць?

- Нават калі б і мог, не стаў бы. Шнар можа яму спатрэбіцца. Напрыклад, у мяне ёсць адзін на левым калене, які у форме мапы лонданскага метро. Добра, давай яго, Хагрыд. Лепей закончым з гэтым.

Дамблдлор узяў Гары на рукі і панёс да дому Дурслей.

- Магу я… магу я развітацца з ім, сэр? – спытаў Хагрыд. Ён схіліў над Гары вялікую кудлатую галаву і пацалаваў яго вялікім калючым і пахнучым віскі пацалункам. Потым, нечакана Хагрыд завыў як вялікі паранены сабака.

- Шшшшш! – зашыпела прафесар МакГонагал, - ты разбудзіш маглаў!

- Пппрабачце, - прарыдаў Хагрыд, выцягнуўшы вялікую плямістую насоўку і схаваў у ёй твар. – Але я не магу… Лілі і Джэймс памерлі… а маленькі бедны Гары будзе жыць з магламі…



- Так, так, гэта ўсё вельмі сумна, але вазьмі сабе ў рукі, Хагрыд, а тое нас знойдуць, - прашаптала прафесар МакГонагал, асцярожна паляпаўшы Хагрыда па руцэ у той час, як Дамблдлор пераступіў праз невысокую садовую агароджу і падышоў да параднага ўваходу.

Ён паклаў кошык, у якім ляжаў Гары, акуратна на ганак, дастаў ліст са сваёй мантыі паклаў яго да хлопчыка. Потым ён вярнуўся назад. Цэлую хвіліну яны стаялі і глядзелі на маленькі звёртак, плечы Хагрыда трэсліся ад рыданняў, прафесар МакГонагал адчайна мігала, падалося, што вочы Дамблдлора патухлі.

- Добра, - сказаў урэшце Дамблдлор, - зроблена. У нас няма больш прычынаў заставацца тут. Мы можам пайсці і далучыцца да святкавання.

- Таак, - сказаў Хагрыд прыглушаным голасам. – А я

пайду і аддам назад Сырыўсу ягоны матацыкл. Ддабранач, прафесар МакГонагал, прафесар Дамблдлор, сэр.

Выціраючы мокрыя ад слёз вочы рукавом пінжака, Хагрыд усеўся на матацыкл, завёў яго і з ровам знік у начы.

- Я спадзяюся хутка цябе пабачыць, прафесар МакГонагал, - сказаў Дамблдлор, кіўнуўшы ёй. Прафесар МакГонагал у адказ высмаркалася ў насовачку.

Дамблдлор павярнуўся і пайшоў назад па вуліцы. На рагу ён спыніўся і дастаў выключалку ліхтароў. Ён клікнуў адзін раз і 12 шароў святла хутка вярнуліся на свае месцы. Прайвэт драйв нечакана асвятлілася аранжавым святлом, і ён заўважыў паласатую котку, слізнуўшую за вугал у іншым канцы вуліцы. На ганку дома нумар чатыры быў бачны звёртак з коўдраў.

- Удачы, Гары, - прамармытаў ён. Ён павярнуўся на пятках, мантыя ажно засвісцела ў паветры, і знік.

Ветрык трапаў акуратныя жывыя загароджы на Прайвэт драйв, якія стаялі ціха і акуратна пад чарнільным небам. Апошняе месца, дзе маглі здарыцца тыя рэчы, што здарыліся.

Гары Потэр павярнуўся ўнутры кошыка, але не прачнуўся. Ягоная маленькая рука трымала ліст пра яго, і ён спаў, не ведаючы, што ён знакаміты, не ведаючы, што прачнецца праз некалькі гадзінаў ад крыку місіс Дурсль, якая адчыніць дзверы, каб паставіць бутэлькі з-пад малака. Ён таксама не ведаў, што правядзе наступныя тыдні ў штуршках свайго стрыечнага брата Дадлі...

Ён не мог ведаць, што ў гэты самы момант людзі таямніча сустракаюцца па ўсёй краіне на святкаваннях, уздымаючы бакалы, яны кажуць прыглушанымі галасамі: «За Гары Потэра, хлопчыка, які выжыў!»



# Частка другая

## Зніклае шкло

Прайшло каля дзесяці год з таго моманту, як Дурслі прачнуліся і знайшлі свайго пляменніка на ганку, але Прайвэт драйв зусім не змянілася. Сонца ўзышло над тым жа акуратным кветнікам і латунным нумарам чатыры на дзвярах Дурслей, пракралася ў іх гасціную, якая была амаль такая ж як ноччу, калі містар Дурсль глядзеў навіны пра соваў. Толькі фотаздымкі на камінным палічцы сапраўды паказвалі, як шмат часу прайшло.

Дзесяць год таму там было шмат малюнкаў, на якіх было нешта накшталт вялікіх ружовых пляжных мячыкаў у каляровых капялюшыках, але Дадлі Дурсль не быў больш немаўлятам. Цяпер фотаздымкі паказвалі вялікага светлага хлопчыка, які ездзіў на сваім першым ровары, на каруселі на кірмашы, гуляўся ў кампутарную гульню з бацькам, быў зацалаваны ў абдымках маці.

У гэтым пакоі зусім не было зразумела, што ў доме жыў яшчэ адзін хлопчык.

Але Гары Потэр усё яшчэ жыў тут, у гэты момант ён спаў, але яму засталося нядоўга. Ягоная цётка Пятуння прачнулася, і ейны пранізлівы голас быў першым гукам, які ён пачуў на пачатку дня.

- Паааад'ём! Прачынайся! Зараз жа!

Гары адразу прачнуўся. Цёця пагрукала ў дзверы яшчэ раз.

- Пад'ём! – завішчала яна. Гары пачуў, як яна накіравалася на кухню і бразнула патэльняй. Ён перакуліўся на спіну і паспрабаваў узгадаць сённяшнія сны. Нешта было добрае. Быў лятучы матацыкл. У яго было файнае адчуванне, што ён ужо бачыў такі сон раней.



Ягоная цётка зноў з'явілася каля дзвярэй.

- Ты ўжо ўстаў? – запатрабавала яна.

- Амаль, - сказаў Гары.

- Тады ўставай, я хачу, каб ты паглядзеў за беконам. І не думай даць яму згарэць, я хачу, каб усё было ідэальна ў дзень народзінаў Дадлі.

Гары застагнаў.

- Што ты кажаш? – цёця грозна пракрычала праз дзверы.

- Нічога, нічога…

Дзень нараджэння Дадлі, як ён мог забыцца? Гары сонна вылез з ложка і пачаў шукаць шкарпэткі. Ён знайшоў пару пад ложкам, сагнаў з іх павука і апрануў. Гары ўжо прызвычаіўся да павукоў, таму што камора

под лесвіцай, дзе ён спаў, была поўная іх.

Калі ён апрануўся, спусціўся на кухню. Стол амаль схаваўся пад падарункамі на Дзень народзінаў Дадлі. Выглядала, што ён атрымаў новы кампутар, які хацеў, другі тэлевізар і гоначны веласіпед. Чаму Дадлі хацеў гоначны веласіпед, было загадкай для Гары, таму што Дадлі быў вельмі тлусты і ненавідзеў практыкаванні (акрамя тых, канечне, калі трэба было кагосьці пабіць).



Любімая груша для біцця Дадлі быў Гары, але часта ён не мог яго злавіць, бо Гары, хаця і не выглядаў на гэта, быў вельмі хуткі.

Магчыма, таму што ён жыў у каморы пад лесвіцай, Гары быў занадта худы і малы для свайго ўзросту. Ён выглядаў нават меней і нязграбней, таму што заўсёды насіў старое адзенне Дадлі, а кузэн быў у пяць разоў болей за Гары.

У Гары быў хударлявы твар, гузаватыя калені, чорныя валасы і яркія зялёныя вочы. Ён насіў круглыя акуляры, пераматаныя пасярэдзіне скотчам, таму што Дадлі ўвесь час намагаўся стукнуць яго ў нос. Адзінае, што падабалася Гары ў сваім знешнім выглядзе, быў вельмі тонкі шнар на ілбе, які выглядаў як маланка. У яго ён быў так доўга, як ён памятаў і першае пытанне, якое ён задаў цёці Пятунні, адкуль ён узяўся.

- У той аўтамабільнай аварыі, у якой загінулі твае бацькі. І ніякіх пытанняў, - адказала яна.

Не запытвайся – гэта было першае правіла ціхага жыцця ў Дурслей.

Дядзя Вернан зайшоў ў кухню, калі Гары пераварочваў бекон.

- Расчашы свае валасы, - прабурчаў ён замест ранішняга вітання.

Прыблізна раз на тыдзень дзядзя Вернан глядзеў над газетай і крычаў, што Гары патрэбная стрыжка. Гары стрыглі часцей, чым усіх хлопчыкаў ў ягоным класе разам узятых, але гэта не давала ніякага эфекту, бо ягоныя валасы ўсё роўна раслі абы як.

Гары смажыў яйкі, калі Дадлі зайшоў на кухню з маці. Дадлі быў вельмі падобны на дзядзю Вернана. У яго быў вялікі ружовы твар, кароткая шыя, маленькія вадзяністыя блакітныя вочы і густыя светлыя валасы, якія ляжалі роўна на яго тоўстай галаве. Цёця Пятуння часта казала, што Дадлі выглядаў як анёл, Гары ж лічыў, што Дадлі падобны на свінню ў парыку.

Гары паклаў на талеркі яешню і бекон і паставіў іх на стол, што было складана, бо там амаль не было месца. Дадлі, паміж тым, пералічваў свае падарункі. Ягоны твар пацямнеў.

- Трыццаць шэсць, - сказаў кузен, паглядзеўшы на маці і бацьку. – Гэта на два меней, чым у мінулым годзе.

- Дарагі, ты не палічыў падарунак ад цёці Мардж, паглядзі, ён тут пад гэтым вялікім ад мамы і таты.

- Ну добра, але ўсе роўна 37, - сказаў Дадлі, чырванеючы.

Гары, які заўважыў, што ў Дадлі набліжаецца істэрыка, пастараўся хутка з’есці бекон і яешню, каб ён не скінуў ежу на падлогу разам са сталом.

Цёця Пятунія таксама распазнала небяспеку, таму хутка сказала:

- Мы набудзем табе яшчэ два падарункі, калі паедзем. Як наконт гэтага, пончык? Яшчэ два падарункі.

Дадлі задумаўся. Выглядала гэта як цяжкая праца. Урэшце ён сказаў павольна:

- Тады я атрымаю трыццаць… трыццаць…

- Трыццаць дзевяць, салодкі мой, - падказала цёця Пятунія.

- Вох, - Дадлі цяжка сеў і схапіў бліжэйшы падарунак. – Тады добра.

Дзядзя Вернан усміхнуўся.

- Гэты хлапец ведае сабе кошт, увесь у бацьку. Малойца, Дадлі! - ён ускудлаціў сыну валасы.

У гэты момант зазваніў тэлефон, і цёця Пятунія пайшла адказаць. Гары і дзядзя Вернан глядзелі як Дадлі разгортвае гоначны ровар, відэакамеру, самалёт з пультам, шаснаццаць новых кампутарных гульняў. Ён ужо сарваў паперу з залатога гадзінніка, калі цёця Пятунія вярнулася ад тэлефона заклапочанай і раззлаванай.

- Кепскія навіны, Вернан, - сказала яна. – Місіс Фіг зламала нагу. Яна не здолее ўзяць яго.

Яна павярнула галаву ў кірунку Гары.

Рот Дадлі адчыніўся ў жаху, але сэрца Гары забілася мацней. Кожны год у дзень народзінаў Дадлі ягоныя бацькі бралі яго і сябра на цэлы дзень у дзіцячы парк, паесці гамбургераў у рэстаран ці паглядзець фільм. Кожны год Гары заставаўся з місіс Фіг, вар’ятскай бабулькай, якая жыве ў двух вуліцах адсюль. Гары ненавідзеў гэта. Увесь дом у яе праваняў капустай, і місіс Фіг прымушала глядзець усе фотаздымкі катоў, якія калі-небудзь у яе былі.



- Што зараз? – спыталася цёця Пятунія, паглядаючы шалёна на Гары, як быццам ён гэта ўсё спланаваў. Гары ведаў, што павінны спачуваць місіс Фіг, але гэта было нялёгка, калі ён нагадаў сабе,

што ў яго цяпер ёсць цэлы год перад тым, як ён пабачыць Цібла, Сняжынку, Містара Пуса і Тафту.

- Мы можам пазваніць Мардж, - прапанаваў Вернан.

- Не будзь дурным, Вернан, яна ненавідзець хлапца.

Дурслі часта размаўлялі пра Гары, быццам яго тут не было ці, хутчэй, быццам ён быў зусім глупы і няздольны іх зразумець як, напрыклад, смоўж.

- Як наконт Як-Там-Яе-Імя, тваёй сяброўцы Івоны?

- На вакацыях на Маёрцы, - адрэзала цёця Пятуння.

- Вы можаце проста пакінуць мяне тут, - Гары спадзяваўся на гэта (ён змог бы глядзець па тэлевізары тое, што захоча і, магчыма, нават пасядзець за кампутарам Дадлі).

Цёця Пятуння выглядала, быццам бы зжавала лімон.

- І вярнуцца дадому і знайсці дом у руінах? – сказала яна.

- Я не ўзарву дом, - заявіў Гары, але яны не слухалі.

- Я думаю, мы можам узяць яго ў заапарк, - сказала цёця Пятуння павольна. – І пакінуць яго ў машыне…

- Машына - новая, ён не застанецца там адзін...

Дадлі пачаў гучна рыдаць. Праўда, насамрэч, ён не плакаў, шмат гадоў мінула, калі ён сапраўды плакаў, але ён ведаў, што калі ён зробіць плаксівы выраз і завые, мама дасць яму ўсё, што ён хоча.

- Мілы Даддзі-думс, не плач, мама не дасць яму сапсаваць твой асаблівы дзень! – крыкнула яна, абдымаючы сына.

- Я… я… не хачу… каб… ён ехаў з намі! – крычаў Дадлі, паміж прыступамі няшчырых рыданняў. – Ён заўсёды пс… псуе ўсё!

Ён стрэліў нахабнай ухмылкай з абдымкаў сваёй маці.

І тут нехта пазваніў у дзверы.

- Божухна! Яны тут! – сказала адчайна цёця Пятуння, і момантам пазней лепшы сябар Дадлі П’ерс Полкіс зайшоў са сваёй маці.

П’ерс быў няскладны хударлявы хлопчык з тварам як у пацука. Ён заўсёды быў адзін з тых, хто трымаў рукі за спінамі тых, каго Дадлі біў.

Дадлі адразу ж перастаў рыдаць.

***

Праз паўгадзіны Гары, які не мог паверыць у сваю ўдачу, сядзеў на заднім сядзенні машыны Дursляў з П›ерсам і Дадлі і ехаў у заапарк упершыню ў жыцці. Цёця і дзядзя так і не прыдумалі, што яшчэ можна з ім зрабіць, але перад тым, як яны ад›ехалі, дзядзя Вернан адвёў Гары убок.

- Я папярэджваю цябе, - сказаў ён, наблізіўшы ружовы твар да твару Гары. - Я папярэджваю цябе, хлопец, нейкія жартачкі, нешта з тваіх штучак, і ты прасядзіш у каморы да самых Калядаў.

- Я не збіраюся рабіць анічога, - адказаў Гары, - Абяцаю.

Але дзядзя Вернан не паверыў яму. Як і ніколі раней.

Была адна праблема: дзіўныя рэчы часта здараліся вакол Гары, і таму Дурслі і думалі, што ён можа нешта зрабіць.



Аднойчы цёця Пятуння, стомленая, вярталася з Гары ад цырульніка, спрабуючы зразумець, чаму ён заўсёды адтуль вяртаецца, быццам і не стрыгся, узяла кухонныя нажніцы і абстрыгла яго так каротка, што ён быў амаль лысы, акрамя пасмы, якую яна пакінула, каб «схаваць гэты жахлівы шнар».

Дадлі смяяўся як дурны з Гары, які правёў бяссонную ноч, уяўляючы, як ён такім прыйдзе ў школу. А там жа з з яго і так смяяліся праз мешкаватае адзенне і заклееныя акуляры.

На наступную раніцу, аднак, ён знайшоў свае валасы ў тым жа стане, як яны былі да стрыжкі цёці. За гэта ён прасядзеў у каморы тыдзень, хаця і спрабаваў растлумачыць, што не разумее, як валасы адраслі так хутка.

У іншы раз цёця Пятуння паспрабавала прымусіць яго апрануцца ў агідны стары швэдар Дадлі (карычневы з аранжавымі грыбамі). Чым мацней яна спрабавала нацягнуць яго на Гары, тым меней станавіўся швэдар, пакуль не стала зразумела, што ён налезе хіба што на ляльку, а, канечне, не на Гары. Цёця Пятуння вырашыла, што швэдар «сеў» пад час мыцця, і гэта было вялікай палёгкай – Гары не пакаралі.

У іншы раз ён нечакана аказаўся на стол ў школьнай сталовай. Банда Дадлі як звычайна гналася за ім, калі нечакана атрымалася так, што Гары сядзеў на трубе. Дурслі атрымалі вельмі злосны ліст ад класнай кіраўніцы, якая заявіла, што Гары залез невядома навошта на самую верхавіну школы. Але насамрэч хлопчык хацеў толькі заскочыць на бакі для смецця, як ён спрабаваў растлумачыць праз дзверы каморы дзядзі Вернану. Гары думаў, што гэта вецер падхапіў яго.

Але сёння нічога не павінна быць кепскага. Можна было замірыцца з Дадлі і П'ерсам, каб пабыць недзе акрамя школы, каморы ці гасцінай місіс Фігз, якая праваняла капустай.

Пакуль вёў машыну дзядзя Вернан скардзіўся цёці Пятунні. Яму падабалася скардзіцца на тое, як працуюць людзі, на Гары, гарадскую раду, Гары, банк і Гары – гэта былі некалькі самых любімых тэмаў. Але гэтай раніцай ён распавядаў пра матацыклы.

- …носяцца як маньякі, юныя хуліганы, - сказаў ён, калі адзін з матацыклістаў праехаў міма.

- Я бачыў сон пра матацыкл, - сказаў, нечакана ўзгадаўшы, Гары. – Ён лятаў.

Дзядзя Вернан ледзь не ўрэзаўся ў машыну спераду. Ён павярнуўся назад і ўперыўся позіркам у Гары, ягоны твар нагадваў вялічэзны бурак з вусамі.

- МАТАЦЫКЛЫ НЕ ЛЯТАЮЦЬ!

Дадлі і П’ерс захіхікалі.

- Я ведаю, што не лятаюць, - сказаў Гары. - Гэта быў проста сон.

Ён ужо пашкадаваў, што сказаў пра гэта. Калі было нешта ў свеце тое, што Дурслі ненавідзелі нават болей, чым ягоныя пытанні, дык гэта былі размовы пра нешта невытлумачальнае, нават калі гэта быў сон ці мультфільм, яны глядзелі на яго, быццам у яго ўзнікла небяспечная ідэя.

Тым часам навокал была вельмі сонечная субота, у заапарку гуляла шмат сем’яў. Дурслі набылі на ўваходзе Дадлі і П’ерсу па вялікім шакаладным марозіве. Дзяўчына, якая прадавала марозіва, з усмешкай запыталася, што жадае Гары перад тым, як яны здолелі адцягнуць яго ад латка, таму ён таксама атрымаў марозіва, танны лімонны лёд. Але гэта зусім няблага, падумаў Гары, лізнуўшы яго.

Яны стаялі і глядзелі, як гарыла пачэсвае галаву. Гэтая жывёліна выглядала зусім як Дадлі, хіба што не была бландынкай.

У Гары была найлепшая раніца за доўгі час. Ён акуратна гуляў па вузкай дарожцы трохі ў аддаленні ад Дурсляў, каб Дадлі і П’ерс, якім бліжэй да абеду пачалі надакучваць жывёлы, не пачалі сваю любімую забаўку - тузаць яго.

Яны паелі ў рэстаране заапарка. Калі Дадлі закаціў істэрыку, што ў ягоным дысерце занадта мала марозіва, дзядзя Вернан набыў яму яшчэ адно, а Гары дазволілі даесці першую порцыю.

Пазней Гары думаў, што так добра доўга быць не можа.

Пасля абеду яны пайшлі ў тэрарыум. Там было цёмна і прахалодна, уздоўж усіх сценаў стаялі акварыумы. За шклом былі бачныя шмат яшчарак і змеяў, якія поўзалі і слізгацелі паміж кавалкамі дрэва і камянёў. Дадлі і П’ерс хацелі пабачыць вялізных атрутных кобраў і тоўстага пітона, які мог забіць чалавека.

Дадлі хутка знайшоў найвялікшую змяю. Яна магла бы абярнуцца два разы вакол машыны дзядзі Вернана і расплюшчыць яе. Але ў той момант змяя яўна была не ў гуморы і проста спала.

Дадлі пастаяў каля тэрарыума, прыціснуўшы нос да шкла, нейкі час разглядваў карычневыя бліскучыя кольцы.

- Зрабі, каб ён пачаў варушыцца, - загадаў ён тату.

Дзядзя Вернан пагрукаў у шкло, але змей не адрэагаваў.

- Зрабі гэта зноў, - сказаў Дадлі. Дзядзя Вернан пагрукаў мацней, кулаком, але змяя драмала, як і раней.

- Гэта сумна, - прастагнаў Дадлі. Ён пакрочыў прэч.

Гары падышоў да тэрарыўма і паглядзеў уважліва на змяю. Ён не здзівіўся, калі б яна проста памерла ад нуды. У яе ж няма іншай кампаніі акрамя дурных людзей, якія ўсе дні





даўбаняць ў шкло, спрабуючы яе патурбаваць.

Гэта было горш, чым жыць у каморы, дзе першым госцем была цёця Пятуння, якая будзіла яго. Акрамя таго, ён усё ж мог гуляць па дому.

Змяя нечакана расплюшчыла круглыя вочы. Павольна, вельмі павольна яна падняла галаву пакуль яны не аказаліся на адным узроўні з вачамі Гары. Яна яму падміргнула.

Гары аслупянеў. Потым ён хутка паглядзеў навокал, каб зразумець, ці не бачыў гэтага яшчэ нехта. Нікога не было. Ён паглядзеў зноў на змяю і падміргнуў у адказ.

Змяя кіўнула галавой ў накірунку дзядзі Вернана і Дадлі, потым узняла вочы на столь. Да таго ж яна адарыла Гары позіркам, які казаў: «У мяне гэта ўвесь час».

- Я ведаю, - прамармытаў Гары, хаця не быў упэўнены, што змяя можа пачуць яго праз шкло. – Сапраўды раздражняе.

Змяя энергічна кіўнула.

- Адкуль ты тут? – спытаў Гары.

Змяя ткнула хвастом у маленькую таблічку каля шкла. Гары паглядзеў на яе. Там было напісана: «Удаў, Бразілія».

- Там было добра?

Удаў зноў паказаў на таблічку і Гары прачытаў далей: «Гэты экзэмпляр нарадзіўся ў заапарку».

- Во, я бачу, дык ты ніколі не бачыла Бразіліі?

Як толькі змяя схіліла галаву ў знак згоды, дзікі крык ззаду Гары прымусіў яго і змяю падскочыць.

- ДАДЛІ! Містэр ДУРСЛЬ! ІДЗІЦЕ І ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ГЭТУЮ ЗМЯЮ! ВЫ НЕ ПАВЕРЫЦЕ, ШТО ЯНА РОБІЦЬ!

Дадлі, перавальваючыся, прыйшоў так хутка, як толькі мог.

- З дарогі, ты! – сказаў ён, пхнуўшы Гары пад рэбры. Злоўлены знянацку Гары аступіўся і ўпаў на бетонную падлогу.

Астатняе адбылося ў адну секунду, так хутка, што ніхто не бачыў, як гэта здарылася. П’ерс і Дадлі ўпёрліся насамі прама ў шкло, потым адскочылі назад з крыкамі жаху.

Гары сеў і ахнуў: шкло з акварыўма ўдава знікла. Вялікая змяя хутка раскруцілася і саслізнула на падлогу. Людзі па ўсім тэрарыўме крычалі і беглі да выхаду.

Калі змяя хутка паўзла міма яго, Гары мог паспрачацца, што пачуў нізкі шыпячы голас:

- Бразілія, я іду… Дзякуй, аміга.

Ахоўнік тэрарыума быў у шоку.

- Але шкло, - паўтараў ён. – Куды яно падзелася?

Дырэктар заапарку асабіста заварыў для цёці Пятунні чашку моцнай салодкай гарбаты, пакуль зноў і зноў прабачаўся. П›ерс і Дадлі ледзь маглі размаўляць, так у іх трэсліся вусны. Наколькі бачыў Гары бачыў, змяя толькі жартаўліва стукнула іх хвастом па нагах.

Да таго часу, калі яны ўсе вярнуліся ў машыну дзядзі, Дадлі пачаў з захапленнем распавядаць, як змяя ледзь не адкусіла яму нагу, а П’ерс бажыўся, што яго амаль што не задушылі. Але горш за ўсё, для Гары было тое, што П’ерс супакоіўся дастаткова, каб сказаць:

- Гары размаўляў з ёй, хіба не?

***

Дзядзя Вернан пачакаў пакуль П’ерса забралі дадому перад тым, як заняцца Гары. Ён быў настолькі раззлаваны, што не мог нармальна размаўляць. Ён здолеў толькі сказаць:

- Ідзі ў камору і будзеш сядзець без ежы! – здолеў сказаць ён перад тым як схапіцца за галаву, цёця Пятуння пабегла і наліла яму вялікую пляшку брэндзі.

Шмат пазней Гары ляжаў у сваёй цёмнай каморы. Больш за ўсё ён хацеў, каб у яго быў гадзіннік. Ён не ведаў, колькі часу і не быў упэўнены, што Дурслі ўжо спяць. Да гэтага час ён не мог рызыкаваць і выпаўзці на кухню за нейкай ежай.

Ён жыў з Дурслямі амаль дзесяць год, дзесяць няшчасных гадоў, так доўга, як ён помніў, з таго часу, калі ён быў яшчэ малышом і ягоныя бацькі загінулі ў аўтакатастрофе. Ён не мог прыгадаць, што быў у машыне, калі яны памерлі.

Часам, калі хлопчык капаўся ў сваёй памяці пад час доўгага сядзення ў каморы, ён пабачыў дзіўнае відовішча: яркая ўспышка зялёнага святла і агонь – боль у раёне ілба. Гэта, ён быў упэўнены, была аварыя, хаця ён не мог уявіць, адкуль тады ўзялося зялёнае святло.

Ён не мог прыгадаць бацькоў. Цёця і дзядзя ніколі не размаўлялі пра іх і, канечне, яму было забаронена пытацца. У доме нават не было іх фотаздымкаў.

Калі ён быў меншы, Гары марыў і марыў, што нехта невядомы прыйдзе і забярэ яго адсюль, але гэтага так і не здарылася. Дурслі былі адзінай сям’ёй, што ў яго была.

Часам ён думаў (ці спадзяваўся), што дзівакі на вуліцы яго ведаюць. Маленькі мужчына ў фіялетавым цыліндры пакланіўся яму аднойчы, калі яны хадзілі з цёцяй Пятуннай і Дадлі за пакупкамі. Пасля допытаў, адкуль ведае Гары гэтага чалавека, цёця Пятуння выбегла з крамы без пакупак.

Дзіўнага выгляду старая жанчына, апранутая ў зялёнае, весела памахала яму аднойчы ў аўтобусе. Лысы мужчына ў вельмі даўгім пурпурным паліто ўзрушана паціснуў яму руку на вуліцы ў іншы дзень і сышоў без аніводнага слова.

Самая дзіўная рэч ва ўсім гэтым была ў тым, што падавалася, што гэтыя людзі ведаюць нейкага другога Гары і спрабавалі разгледзіць яго бліжэй.

У школе з Гары не сябраваў ніхто. Кожны ведаў, што банда Дадлі ненавідзела нязграбнага хлопчыка ў абвіслым старым адзенні і пабітых акулярах, і ніхто не хацеў ісці супраць іх.



# Частка трэцяя

# Лісты ад нікога

Пабег бразільскага ўдава каштаваў Гары найдаўжэйшага ў жыцці пакарання. Але час мінуў, яму ўжо было дазволена вылезці з каморы, летнія канікулы пачаліся, і Дадлі ўжо разбіў сваю новую відэакамеру, самалёт з радыёкіраваннем і першым – гоначны ровар, збіўшы заадно старую місіс Фіг, калі яна пераходзіла Прайвэт драйв на мыліцах.

Гары быў рады таму, што школа закончылася, але гэта не адмяняла існаванне банды Дадлі, удзельнікі якой прыходзілі да іх дадому кожны дзень. П›ерс, Дэніс, Малкольм і Гордан – усе былі вялікія і дурныя, але Дадлі - найвялікшы з іх і найглупейшы. Ён быў лідарам. Астатнія з іх былі заўсёды гатовыя далучыцца да любімага спорту Дадлі – паляванне на Гары.

Гэта была прычына таго, што Гары праводзіў як мага больш часу па-за домам, блукаючы навокал і думаючы пра канец вакацыяў, у чым ён бачыў маленькі праменьчык надзеі. З надыходам верасня Гары пяройдзе з пачатковай школы ў сярэднюю і ўпершыню за ўсё жыццё не будзе з Дадлі.

Дадлі ўладкавалі ў старую прыватную школу, куды калісьці хадзіў і дзядзя Вернан «Смелтынгз». П'ерс Полкінс пойдзе туды ж. Гары ж пойдзе ў «Стоўнвэл Хай», звычайную раённую школу. Дадлі думаў, што гэта вельмі смешна.

- Яны акунаюць галавой ва ўнітаз у першы дзень у «Стоўвэле», - сказаў ён Гары. – Хочаш падняцца наверх і папрактыкавацца?

- Не, дзякуй, - адказаў Гары. – У нашую бедную прыбіральню не трапляла яшчэ нічога больш жахлівага, чым твая галава – ён засмеціцца.

І збег, пакуль Дадлі не зразумеў сэнс гэтых словаў.

***

Аднойчы ў ліпені цёця Пятуння ўзяла Дадлі ў Лондан, каб набыць яму школьную форму, пакінуўшы Гары ў Місіс Фіг. Старая ледзі была не такая кепская, як звычайна. Аказалася, што яна зламала нагу, спатыкнуўшыся аб аднаго са сваіх коцікаў і цяпер не любіла іх так моцна, як раней. Яна дазволіла Гары глядзець тэлевізар і дала яму трохі шакаладнага пірага, якія меў такі смак, быццам яму некалькі год.

Гэтым вечарам Дадлі круціўся ў гасцінай перад сям'ёй у новенькай школьнай форме. Хлопчыкі «Смэлтынга» насілі бардовыя курткі, памаранчовыя штаны і плоскія саламяныя капелюшы як у яхтсменаў. У склад формы таксама ўваходзілі сучкаватыя палкі, якімі, калі настаўнікі не глядзелі, яны павінны былі тузіць адзін аднаго. Гэта лічылася добрай трэніроўкай для будучага жыцця.

Гледзячы на Дадлі у новых брыджах, дзядзька Вернан сказаў хрыпла, што гэта найганарлівейшы момант у яго жыцці. Цётка Пятуння пачала плакаць і сказала, што не можа паверыць, што гэта яе мышка Дадлік, ён выглядае такім прыгожым і дарослым. Гары стрымліваўся як мог, ён падумаў, што два з ягоных рэбраў, магчыма, ужо зламаліся, так моцна ён намагаўся стрымаць смех.

***

Жахлівы пах сустрэў Гары на кухні, калі наступнай раніцай ён прыйшоў туды на сняданне. Амаль адразу ён зразумеў, што смурод ішоў з вялікай металічнай кадкі ў ракавіне. Кадка была поўная бруднымі анучамі, якія плавалі ў шэрай вадзе.

- Што гэта? – спытаў ён цёцю Пятунню. Яна падціснула вусны, як рабіла гэта звычайна, калі ён задаваў пытанне.

- Твая новая школьная форма, - сказала цёця.

Гары паглядзеў у тазік зноў.

- О, - сказаў ён. – Я і ўявіць не мог, што яна будзе такой мокрай.

- Не будзь дурнем, - раззлавалася цёця Пятуння. – Я фарбую для цябе старыя рэчы Дадлі ў шэры колер, каб было як ва ўсіх.

Гары сур'ёзна ў гэтым сумняваўся, але вырашыў за лепшае не спрачацца. Ён сеў за стол і паспрабаваў не думаць, як ён будзе выглядаць у свой першы дзень у «Стоўнвол Хай». Напрыклад, быццам апрануў старую скуру слана.

Увайшлі Дадлі і дзядзя Вернан. Абодва зморшчылі насы ад паху ад новай формы Гары. Дзядзя Вернан як звычайна адчыніў газету, а Дадлі пачаў грукаць па стале сваёй школьнай палкай, якую ён цягаў цяпер паўсюдна.

Яны пачулі званок паштальёна і шум ад лістоў, якія ён закінуў у дзірку ў дзвярах.

- Прынясі пошту, Дадлі, - сказаў дзядзя Вернан па-за газетай.

- Хай Гары.

- Прынясі пошту, Гары.

- Лепей хай Дадлі зробіць гэта.

- Стукні яго сваёй палкай, Дадлі.

Гары ўхіліўся ад палкі і пайшоў за поштай. На дыванку каля дзвярэй ляжалі паштоўка ад сястры дзядзі Вернана Мардж, якая адпачывала на востраве Уайт, карычневы канверт, які выглядаў як рахунак, і ліст для Гары.

Гары падняў яго і ўважліва паглядзеў, сэрца трапяталася ў грудзях быццам на вялікай гумцы. Ніхто ніколі не пісаў яму. Хто гэта мог быць? У яго не было сяброў, не было іншых блізкіх людзей, ён не быў запісаны ў бібліятэку, таму яна не магла папрасіць у яго вярнуць кнігі. Але гэты ліст быў відавочна для яго, тут не магло быць памылкі.

Містэру Г. Потэру
Камора пад лесвіцай
4, Прайвэт Драйв
Літл Вінгінг
Сурэй

Канверт быў тоўсты і цяжкі, зроблены з жоўтага пергаменту, а адрас быў напісаны ярка-зялёнай ручкай. Марак не было.

Павярнуўшы канверт дрыжачымі рукамі, Гары ўбачыў фіялетавую васкавую пячатку з гербам, на якім былі леў, арол, барсук і змяя вакол вялікай літары Х.

- Хутчэй, хлопец! – крыкнуў дзядзя Вернан з кухні. – Што ты там робіш? Шукаеш у пошце бомбу?

Ён захіхікаў над сваім жартам.

Гары вярнуўся ў кухню, па-ранейшаму гледзячы на ліст. Ён аддаў дзядзі рахунак і паштоўку і павольна пачаў адчыняць жоўты канверт.

Дзядзя Вернан хутка прагледзіў рахунак, адкінуў яго з агідай і перайшоў да паштоўкі.

- Мардж захварэла, - сказаў ён цёці Пятунні. – З’ела нейкага вугора.

- Тата! – сказаў нечакана Дадлі. – Тата! У Гары нешта ёсць!

Гары амаль дабраўся да самога ліста, які быў напісаны на такой жа паперы, з якой быў зроблены канверт, але ўсё закончылася, калі ліст рэзка вырваў з рук дзядзя Вернан.

- Гэта маё! – запратэставаў Гары, спрабуючы вярнуць ліст назад.

- Хто мог бы табе напісаць? – насмешліва запытаўся дзядзя, спрабуючы адчыніць ліст і зазірнуць, што там напісана.

Колер ягонага твару з чырвонага на зялёны змяніўся хутчэй, чым у святлафора. І не спыніўся на дасягнутым: праз некалькі секунд твар стаў шаравата-белага колеру старой аўсянкі.

- П-П-Пятуння! – прашаптаў ён.

Дадлі спрабаваў прачытаць ліст, але дзядзя Вернан трымаў яго так высока, як мог. Цёця Пятуння ўзяла яго асцярожна і прачытала першы радок. Імгненне падавалася, што яна зараз згубіць прытомнасць. Яна схапілася за грудзі і шумна дыхала.

- Вернан! Божухна! Вернан!

Яны ўтаропіліся адзін на аднаго, выглядала, што яны забыліся пра існаванне




Гары і Дадлі. Дадлі не звыкся з такім ігнараваннем сваёй асобы. Ён рэзка стукнуў бацьку сваёй палкай па галаве.

- Я хачу прачытаць гэты ліст, - сказаў ён гучна.

- Я хачу прачытаць гэта, - сказаў Гары шалёна, - гэта маё.

- Пайшлі вон адсюль, абодва – прахрыпеў дзядзя Вернан, засоўваючы ліст назад у канверт.

Гары не рухаўся.

- Я ХАЧУ МОЙ ЛІСТ! – закрычаў ён.

- Дазвольце мне паглядзець на яго! – запатрабаваў Дадлі.

- Вон! - зароў дзядзька Вернан.

Ён узяў абодвух - Гары і Дадлі – за шкірку і выкінуў іх у хол, ляснуўшы дзвярыма кухні перад іх насамі. Гары і Дадлі адразу ж люта, але маўкліва пабіліся за месца перад замочнай свідравінай. Дадлі выйграў, таму Гары, акуляры якога боўталіся на адным вухе, лёг на жывот, каб падслухоўваць праз шчыліну паміж дзвярамі і падлогай.

- Вернан, – сказала цётухна Пятуння дрыжачым голасам, - Паглядзі на адрас, як гэта магчыма, каб яны даведаліся, дзе ён спіць? Думаеш, яны сочаць за намі?

- Сочаць, шпіёняць, можа нават падглядваюць, - дзіка прамармытаў дзядзя Вернан.

- Але што мы павінны рабіць, Вернан? Напісаць адказ? Сказаць, што мы не жадаем?

Гары мог бачыць, як чорныя бліскучыя туфлі дзядзі падскоквалі па кухні.

- Не, - сказаў ён урэшце. – Не, мы не будзем іх заўважаць. Калі яны не атрымаюць адказу… Так, гэта найлепшы выхад. Мы не будзем рабіць нічога…

- Але…

- Я не хачу, каб адзін з іх жыў у нас дома! Хіба мы не паабяцалі, калі ўзялі яго, што будзем змагацца з гэтай небяспечнай бязглуздзіцай?

***

Гэтым вечарам пасля таго, як ён вярнуўся з працы, дзядзя Вернан зрабіў тое, што ніколі не рабіў раней - прыйшоў у камору Гары.

- Дзе мой ліст? – адразу запытаўся Гары. – Хто напісаў мне?

- Ніхто. Гэта было адасланае табе па памылцы, - сказаў дзядзя каротка. – Я спаліў ліст.

- Гэта не была памылка, - сказаў Гары злосна, - там было напісана пра маю камору.

- ЦІХА! – пажаўцеў дзядзя Вернан, і парачка павукоў звалілася са столі. Ён зрабіў некалькі глыбокіх уздыхаў і потым прымусіў сабе ўсміхнуцца, усмешка выглядала поўнай болю.

- Дарэчы, Гары, пра камору. Твая цёця і я падумалі… ты занадта вялікі… мы думаем, табе трэба пераехаць у другую спальню Дадлі.

- Навошта? - запытаўся Гары.

- Не задавай пытанняў! – прарычаў дзядзя. – Бяры рэчы і паднімайся зараз жа.

У доме Дурсляў было чатыры спальні: адна для дзядзі Вернана і цёці Пятунні, адна для гасцей (звычайна сястры дзядзі Вернана Мардж), адна, дзе Дадлі спаў, і яшчэ адна, дзе Дадлі захоўваў цацкі і рэчы, якія не змяшчаліся ў першай спальні.

У Гары спатрэбіўся толькі адзін пад›ём наверх, каб зацягнуць туды ўсе свае рэчы. Ён сеў на ложак і агледзеўся.

Амаль усё ў пакоі было разбіта. Відэакамера, набытая месяц таму, ляжала на цацачным танку, якім аднойчы Дадлі пераехаў суседскага сабаку. У вуглу ляжаў першы тэлевізар Дадлі, які ён разбіў нагой, калі адмянілі ягоную любімую перадачу. Далей была вялікая клетка для птушкі, дзе раней сядзеў папугай, якога Дадлі змяняў у школе на сапраўдную пнеўматычную вінтоўку. Вінтоўка ляжала з пагнутым дулам, бо Дадлі сеў на яе.




Палічкі былі забітыя кніжкамі. Менавіта кніжкі былі адзінай рэччу ў пакоі, якая выглядала новай і некранутай.

Знізу быў чутны роў Дадлі, які размаўляў з маці:

- Я не хачу яго там… Мне патрэбны гэты пакой… выганіце яго…

Гары ўздыхнуў і расцягнуўся на ложку. Учора ён аддаў бы ўсё, каб быць тут. Сёння ён бы, хутчэй, вярнуўся ў сваю камору з лістом, чым быць тут без яго.

Наступным ранкам, пад час сняданка было ціха. Дадлі быў у

шоку. Ён крычаў, біў бацьку палкай, штурхаў маці і нават кінуў чарапахай у дах парніка, але так і не атрымаў свой пакой назад. Гары ўзгадваў учорашні вечар і горка шкадаваў, што не прачытаў ліст у вітальні. Дзядзька і цётка змрочна пазіралі адзін на аднаго.

Калі прынеслі пошту, дзядзя Вернан, які, як выглядала спрабаваў быць прыязным з Гары, сказаў Дадлі пайсці і прынесці яе. Яны чулі, як ён па дарозе грукае сваёй палкай па ўсім падрад, потым пачулі ягоны крык:

- Яшчэ адзін! «Містэру Г.Потэру, маленькая спальня, 4 Прайвэт драйв».

З хрыплым крыкам дзядзя Вернан падскочыў з крэсла і пабег у прыхожую. Ён паваліў Дадлі на зямлю і вырваў у яго ліст, прычым Гары схапіў яго за шыю, спрабуючы адцягнуць ад Дадлі. Пасля хвіліннага гарачага бою, дзе кожнаму дасталася шмат удараў палкай, дзядзя выпрастаўся, задыхаючыся і трымаючы ліст Гары ў руцэ.

- Ідзі ў сваю камору… маю на ўвазе ў свой пакой, - звярнуўся ён да Гары. – Дадлі, ідзі, зараз ідзі.

Гары наразаў кругі ў новым пакоі. Нехта ведаў, што ён пераехаў з каморы, і яны ведалі, што ён не атрымаў першы ліст. І, пэўна, яны паспрабуюць яшчэ раз? На гэты раз ён зробіць усё, каб у іх атрымалася. У яго з'явіўся план.

Ён equal пераводзіў будзільнік на 6 гадзінаў раніцы, а зраніцы хутка яго выключыў і ціха апрануўся. Ён не павінны быў пабудзіць Дурсляў. Хлопчык спусціўся ўніз у поўнай цемры.

Гары збіраўся чакаць паштальёна на вуглу Прайвэт драйв і атрымаць ліст першым. Яго сэрца моцна білася, калі ён краўся праз цёмны хол да выхаду.

Гары падскочыў, ён наступіў на нешта вялікае і мяккае на дыванку каля ўваходу, на нешта жывое!

Тут жа наверсе запалілася святло і да свайго жаху Гары зразумеў, што вялікае і мяккае нешта было тварам ягонага дзядзі. Вернан ляжаў на дыванку ў спальным меху, каб упэўніцца, што Гары не зробіць тое, што ён планаваў зрабіць.

Ён крычаў на Гары дзесьці паўгадзіны і потым сказаў яму прынесці яму гарбаты. Пакуль Гары заварваў тую няшчасную гарбату на кухні, пошту ўжо прынеслі, і трапіла яна прама ў рукі дзядзі Вернана.

Гары паспеў разгледзіць тры лісты з адрасам, напісаным зялёным чарнілам.

- Я хачу, - пачаў ён, але дзядзя Вернан парваў лісты ў яго на вачах.

Дзядзя Вернан не пайшоў у гэты дзень на працу. Ён застаўся дома і забіў дзірку ў дзвярах, куды кідалі пошту.

- Пабачыш, - тлумачыў ён цёці Пятуні, трымаючы цвікі ў роце, - калі яны не здолеюць дасылаць яму пошту, яны спыняцца.

- Я не ўпэўненая, што гэта спрацуе, Вернан.

- О, гэтыя людзі думаюць не так як мы, Пятуння, - сказаў дзядзя Вернан і стукнуў па цвіку кавалкам фруктовага пірага, які прынесла яму цёця.

У пятніцу для Гары былі дастаўленыя не меней за 12 лістоў. Так як яны не маглі трапіць у дом праз дзірку для пошты, яны былі прасунутыя пад дзверы, у бакавыя шчыліны. Некалькі нават закінулі праз маленькае вакно ў ванне на першым паверсе.

Дзядзя Вернан зноў застаўся дома. Пасля спальвання ўсіх лістоў, ён узяў малаток, цвікі і забіў дошкамі ўсе шчыліны вакол парадных дзвярэй і чорнага ўваходу. Цяпер ніхто не мог выйсці з дому.

Ён напяваў “На дыбачках праз цюльпаны”, пакуль працаваў і забіваў маленькія цвічкі.

***

У суботу ўсё пачало выходзіць з-пад кантролю. Дваццаць чатыры лісты для Гары аказаліся ў доме: скручаныя і схаваныя ў кожны з двух дзясяткаў яек, якія вельмі збянтэжаны малочнік перадаў цёці Пятунні праз вакно гасцінай. Пакуль дзядзя Вернан званіў на пошту і ў краму, каб знайсці вінаватых, цёця Пятуння прапускала лісты праз мясарубку.

- Хто ж так хоча пагаварыць з табой, плахіш? – запытаўся ў Гары азадачаны Дадлі.

***

Раніцай нядзелі дзядзя Вернан спусціўся да сняданка стомленым і трохі хворым, але шчаслівым.

- Ніякай пошты ў нядзелю! – аб’явіў ён усім спакойна, пакуль намазваў мармелад на сваю газету. – Ніякіх праклятых лістоў сёння.

Нешта са свістам звалілася з кухоннай трубы прама на патыліцу дзядзі. У наступны момант трыццаць ці сорак лістоў пачалі вывальвацца з каміна як кулі. Дурслі нырнулі ўніз, але Гары скокнуў у паветры, спрабуючы злавіць адзін.

- Вон! ВОООOН!



Дзядзька Вернан абхапіў Гары вакол таліі і выкінуў яго ў прыхожую. Калі цётка Пятуння і Дадлі выбеглі з гасцінай, прыкрываючы твары рукамі, дзядзька зачыніў дзверы. Было чуваць, як лісты ўсё яшчэ падаюць у пакой, адскокваючы ад сцен і падлогі.

- Значыцца так, - заявіў дзядзя Вернан, спрабуючы казаць спакойна але ў той жа час вышчыпваў сабе вусы. – Я хачу, каб усе вы сабраліся і былі тут праз пяць хвілінаў. Мы з’язжаем. Бярыце толькі самае неабходнае адзенне. І не спрачацца!

Ён выглядаў так небяспечна з напалову абадранымі вусамі, што ніхто і не рашыўся нешта сказаць. Праз дзесяць хвілінаў яны прабілі сабе шлях праз

забітыя дзверы, селі ў машыну і імчаліся па дарозе ў бок шашы.

Дадлі сядзеў, усхліпваючы на заднім сядзенні, яго бацька даў яму па карку, калі ён спрабаваў спакаваць у сваю спартыўную сумку свой тэлевізар, відэамагнітафон, а таксама кампутар.

***

Яны ехалі. І ехалі. Нават цёця Пятуння не асмельвалася спытацца, куды ж яны едуць. Перыядычна дзядзька Вернан даваў рэзкі паварот управа ці ўлева.

- Адарвацца ад пагоні… адарвацца, - мармытаў ён.

Яны не спыніляся для перакусу цэлы дзень. Ноччу Дадлі не вытрымаў, пачаў выць у голас. У яго ніколі не было такога дрэннага дня. Ён быў галодны, ён прапусціў пяць тэлевізійных праграмаў, якія хацеў паглядзець, і ён ніколі не быў так доўга без гульні-бойкі з іншапланецянінамі на ягоным кампутары.

***

Дзядзька Вернан спыніўся ў апошнім змрочным гатэлі на ўскрайку вялікага горада. Дадлі і Гары жылі ў адным пакоі з двума ложкамі, засцеленымі затлхлымі сырымі прасцінамі. Дадлі хроп, але Гары не спаў, седзячы на падваконні і гледзячы на агні праязжаючых машын, разважаў...

На сняданне наступным ранкам яны з’елі чэрствыя кукурузныя мюслі і халодныя кансерваваныя памідоры з тостамі. Толькі яны паспелі скончыць, як уладарка гатэлю падышла да іх століка.

- П’габачце, але ці няма ся’год вас спадара Г. Потэра? Я толькі што знайшла на стойцы ‘гэгістрацыі ліст для яго.

Яна падняла ліст, каб яны маглі прачытаць адрас, напісаны зялёнымі чарніламі.

Містэру Г. Потэру
Пакой 17
Гатэль «Рэйлв’ю»
Коўкворф

Гары зрабіў рух, каб схапіць ліст, але дзядзя Вернан злавіў ягоныя рукі на ўзлёце. Жанчына проста глядзела.

- Я вазьму іх, - сказаў дзядзя, уздымаючыся, і хутка пайшоў за ёй з сталовай.

***

- Можа, нам усё ж лепей вярнуцца дадому, дарагі? – нясмела прапанавала цёця Пятуння праз пару гадзінаў, але дзядзя Вернан не глядзеў на яе.

Што ён шукаў, ніхто з іх не ведаў. Ён завёз іх у самую чашчобу лесу, выйшаў, агледзеўся, паківаў галавой, вярнуўся ў аўтамабіль, і яны паехалі зноў. Тое ж самае адбылося ў сярэдзіне узаранага поля, пасярэдзіне моста і на верхняй частцы паркінгу.




- Тата звар’яцеў? - спытаў Дадлі ў цёткі Пятунні далёка за поўдзень, калі дзядзька Вернан прыпаркаваўся на ўзбярэжжы, замкнуў іх машыне і ўцёк.

Пачаўся дождж. Вялікія кроплі білі па даху аўтамабіля. Дадлі пачаў шмыгаць носам.

- Сёння панядзелак, - сказаў ён сваёй маці. – Сёння па тэлебачанні будзе «Вялікі Умбэрта». Я хачу да тэлевізара.

Панядзелак. Гэта нагадала Гары пра нешта. Калі сёння быў панядзелак… а Дадлі заўсёды ведае дні тыдня, бо глядзець тэлебачанне… Тады заўтра аўторак, дзень, калі Гары спаўнялася 11 год.

Канечне, ягоны дзень народзінаў ніколі не быў цікавым, у мінулым годзе Дурслі падарылі яму вешалку і пару старых шкарпэтак дзядзі Вернана. Але ўсё ж не кожны дзень табе спаўняецца адзінаццаць.

Дзядзя Вернан вярнуўся ўсміхаючыся. Ён таксама нёс з сабой нейкі даўгі, тонкі пакунак і не адказаў цётцы Пятунні, калі яна запыталася, што гэта.

- Я знайшоў вельмі добрае месца! – абвесціў ён. – Хадзем. Усе выходзім!

Звонку было вельмі халодна. Дзядзя Вернан паказваў кудысьці далёка ў мора, на нешта падобнае на скалу. На вяршыні была самая жаласная хацінка, якую можна было сабе ўявіць. Адно было дакладна: там не было тэлевізара.

- Сёння прагназуюць шторм! – сказаў дзядзька Вернан, радасна пляскаючы у далоні. - І гэты джэнтльмен ветліва пагадзіўся пазычыць нам сваю лодку!

Бяззубы стары падышоў да іх бачком, паказваючы з даволі нядобрай усмешкай на старую лодку, хістаўшуюся ў шэра-сталёвай вадзе.

- Я ўзяў для нас нешта перакусіць, - заявіў дзядзька Вернан. - Так што ўсё на борт!

У лодцы было смяротна халодна. Ледзяныя пырскі марской вады і дажджу спаўзалі па шыях за каўняры, халодны пранізлівы вецер давяршаў справу. Мінула, падаецца, некалькі гадзінаў, пакуль яны нарэшце прысталі да скалы, дзе дзядзька Вернан, штохвілінна саслізваючы з мокрых камянёў, праклаў шлях да доміка.

Унутры было жахліва. Моцна пахла водарасцямі, вецер свістаў праз шчыліны ў драўняных сценах, а ў каміне было сыра і пуста. Было толькі два пакоі.

Ежа, захопленая дзядзем Вернанам, аказалася пакункам чыпсаў кожнаму і чатырма бананамі. Ён паспрабаваў распаліць вогнішча пустымі пакункамі ад чыпсаў, але тыя толькі дымілі і ванялі, але ніяк не разгараліся.

- Вось тут бы спатрэбіліся тыя лісты? – спытаў ён весела.

Дзядзька Вернан быў у вельмі добрым настроі. Відавочна, ён разлічваў на тое, што шансаў даставіць пошту ў шторм не было. У думках Гары быў згодны з ім, хоць гэта не падбадзёрыла яго.

Калі надышла ноч, абяцаны шторм разгуляўся не на жарт. Пыркі ад высокіх хваляў даляталі да сценаў хаціны, і моцны вецер грымеў у брудныя вокны. Цётка Пятуння знайшла некалькі зацвілых коўдраў, аднесла іх у другі пакой і склала ложак для Дадлі на пабітай моллю канапе. Яна і дзядзька Вернан ляглі на правалены ложак у іншым пакоі. Гары не засталося нічога іншага, як знайсці самае мяккае месца на падлозе і згарнуцца абаранкам пад найбольш тонкай ірванай коўдрай.

Бура бушавала мацней і мацней. Гары не мог спаць. Ён уздрыгнуў і перавярнуўся, спрабуючы ўладкавацца ямчэй. У жываце буркатала ад голаду. Храп Дадлі заглушаўся нізкім громам, які пачаўся каля паўночы.

Асветлены цыферблат гадзінніка Дадлі, які вісеў на краі канапы на ягоным тлустым запясці, падказаў Гары, што яму будзе адзінаццаць праз дзесяць хвілін. Ён ляжаў і глядзеў яго, як з кожным цік-так набліжаецца і набліжаецца ягоны дзень народзінаў.

Хлопчык ляжаў і думаў, ці ўзгадаюць пра гэта Дурслі і дзе зараз аўтар лістоў.

Засталося пяць хвілін. Звонку пачуўся трэск. Гары спадзяваўся, што дах не збіраецца абрынуцца на іх, хоць ад гэтага можа быць цяплей.

Чатыры хвіліны. Можа быць, дом па Прайвет Драйв так і будзе поўны лістоў, калі яны вярнуцца. Тады ён бы здолеў неяк выкрасці хаця б адзін.

Тры хвіліны. Цікава гэта мора так жорстка ўдарае ў скалу?

І (дзве хвіліны) што за смешнае храбусценне? Можа скала бурыцца і падае ў мора?

Адна хвіліна перад тым, як яму будзе адзінаццаць. Трыццаць секунд... дваццаць... дзесяць... дзевяць… можа, абудзіць Дадлі, каб пазлаваць?... тры... два... адзін...

БУМ.

Халупа здрыганулася. Гары выпрастаўся, гледзячы на дзверы. Нехта на вуліцы, грукаў, жадаючы зайсці.



# Частка чацвертая

# Ключнік

БУМ. Пагрукалі зноў. Дадлі падскочыў.

- Хто страляў? – запытаўся ён сонна.

Ззаду раздаўся шум, у пакой уварваўся дзядзька Вернан. У руках ён трымаў вінтоўку. Цяпер стала зразумела, што было ў доўгім тонкім пакеце, які ён прывёз з сабой.

- Хто там? – пракрычаў ён. – Я папярэджваю: я ўзброены!

Паўза… потым – шшшшшшш-ШАРАХ!

У дзверы ўдарылі з такой сілай, што яны пахіснуліся, зваліліся з завесаў і з аглушальным трэскам прызямліліся на падлогу.

На ўваходзе стаяў самы вялікі мужчына, якога бачыў Гары ў жыцці. Твар у яго быў амаль цалкам схаваны пад доўгай, калматай грывай валасоў і дзікай, заблытанай барадой. Але вочы былі добра заўважныя і блішчалі з-пад гэтых валасоў як чорныя жукі.

Схіліўшыся, велікан праціснуўся ў хату, але ўсё роўна ягоная галава змяла пыл са столі. Ён нагнуўся, падняў дзверы і лёгка ўсталяваў іх назад. Шум буры суцішыўся. Мужчына павярнуўся і паглядзеў на іх усіх.

- Ці можна кружку гарбаты? Гэта было нялёгкае падарожжа…

Ён падышоў да канапы, дзе сядзеў Дадлі, замарожаны страхам.

- Пасунься, тоўсты, - сказаў незнаёмец.

Дадлі піскнуў і пабег хавацца за сваю маці, якая сціснулася ад жаху за дзядзькам Вернанам.

- А, вось і Гары! – заявіў гігант.

Гары паглядзеў на люты, дзікі, цёмны твар і ўбачыў, што вочы-жукі іскрацца ва ўсмешцы.

- Апош'і раз я бачыў цябе зусім маленькім, - сказаў велікан. – Хехе. Ты вельмі падобны да таты, але ў цябе вочы мамы.



Дзядзька Вернан набраў поўныя лёгкія паветра.

- Я патрабую, каб вы сышлі адсюль! – заявіў ён. – Вы зламалі… зламалі і зайшлі!

- Ах замаўчы ўжо, Дурсль, вялікі ёлупень, - сказаў велікан, ён перагнуўся праз спінку канапы і забраў зброю з рукі дзядзькі Вернана, сагнуў дула ў вузел гэтак жа лёгка, быццам бы яно было зроблена з гумы, і кінуў яе ў кут.

Дзядзька Вернан зрабіў яшчэ адзін пацешны гук, быццам піскнула расціснутая мыш.

- У любым выпадку, Гары, - сказаў велікан, павярнуўшыся спінай да Дурсляў, - віншую цябе з Днём Нараджэння. Вось прыцягнуў табе нешта… тут… падаецца, я на гэтым

пасядзеў… але ўсё роўна павінна быць смачна.



З унутранай кішэні сваёй чорнай куртцы ён дастаў крыху раздушаны пакунак. Гары адчыніў яго дрыготкімі пальцамі. Унутры быў вялікі, ліпкі шакаладны торт з надпісам зялёным крэмам «З днём народзінаў, Гары».

Гары падняў позірк на велікана. Ён павінны быў сказаць «дзякуй», але словы згубіліся па дарозе недзе ў ягоным роце і адзінае, што ён сказаў:

- Хто вы?

Велікан рагатнуў.

- Сапраўды, я не прадставіўся. Рубеўс Хагрыд, ключнік і ляснік у «Хогвардсе».

Ён працягнуў вялікую руку, схапіў ёй руку Гары і патрос.

- Дык што наконт гарбаты, га? – спытаўся новы знаёмы, паціраючы рукі. – Дарэчы, не адмоўлюся і ад чаго памацней.

Ён паглядзеў на пусты комін, дзе валяліся зморшчаныя мяшкі ад чыпсаў, і фыркнуў. Велікан нахіліўся над ім, яны не маглі бачыць, што менавіта ён там рабіў, але калі ён адступіў секундай пазней, там весела палаў агонь. Ён напоўніў усю вільготную хаціну мігатлівым святлом і цяплом. Гары адчуваў, як цяпло напаўняе яго цела, быццам ён пагрузіўся ў гарачую ванну.

Велікан зноў плюхнуўся на канапу, якая прасела пад яго вагой, і пачаў даставаць з кішэняў усялякія рэчы: медны чайнік, слізкі пакет кіўбасак, качаргу, заварнік, некалькі адбітых кружак і бутэльку нейкай вадкасці бурштынавага колеру. З апошняй ён зрабіў вялікі глыток перад тым, як пачаць гатаваць.

Неўзабаве хаціна была поўная гукаў гатавання ежы і паху падсмажаных кіўбасаў. Ніхто не сказаў ні слова, пакуль Хагрыд працаваў, але пасля таго, як ён зняў з качаргі першыя шэсць тлустых, сакавітых, злёгку падпаленых кіўбасак, Дадлі трохі пасунуўся наперад. Дзядзька Вернан тут жа сказаў рэзка:

- Нічога не бяры з таго, што ён дае, Дадлі!

Гігант змрочна ўсміхнуўся.

- Такому вялікаму пудзінгу, як твой сын, няма сэнсу станавіцца яшчэ больш тлустым, Дурсль, так што не хвалюйся.

Ён аддаў кіўбаскі Гары. Хлопчык быў такім галодным, што адчуваў, быццам ніколі не еў нічога больш смачнага, але ўсё яшчэ не мог падняць вочы на велікана.

Урэшце, ён зразумеў, што ніхто нічога яму не патлумачыць.

- Прашу прабачэння, але я так і не ведаю, хто вы такі, - урэшце сказаў Гары.



Гігант зрабіў вялікі глыток гарбаты і выцер рот тыльным бокам рукі.

- Называй мяне Хагрыд, - сказаў ён. – усе так робяць. Як я сказаў, хехе я ключнік у «Хогвартсе». Ты, зразумела, ведаеш пра «Хогвартс».

- Эээз, не, - адказаў Гары.

Хагрыд выглядаў шакаваным.

- Прашу прабачэння, - хутка сказаў Гары.

- Прабачэння? – праравеў Хагрыд, паварочваючыся да Дурсляў, якія спрабавалі схавацца ў ценях. – Гэта яны павінны прасіць прабачэння! Я ведаў, што яны не аддалі табе лісты, але я ніколі не думаў, што нават не ведаеш пра «Хогвардс», хоць крычы! Хіба табе ніколі не было цікава, дзе твае бацькі ўсяму вучыліся?

- Усяму чаму? – запытаўся Гары.

- УСЯМУ ЧАМУ? – загрымеў Хагрыд. – Зараз пачакай… пачака' адну секунду!

Ён устаў. У гневе ён, падалося, запоўніў увесь дом. Дурслі скурчыліся каля сцяны.

- Вы маеце на ўвазе… маеце на ўвазе, - зароў ён на Дурсляў, - што гэты хлопчык, гэты хлопчык! Не ведае нічо'а ні аб ЧЫМ?

Гары падумаў, што гэта ўсё ж занадта. Ён хадзіў у школу, і яго ацэнкі былі нядрэннымі.

- Я ведаю некаторыя рэчы. – сказаў ён. – Напрыклад, я ведаю матэматыку і іншыя прадметы.

Але Хагрыд проста пацёр рукі і сказаў:

- Пра наш свет. Мой свет. Свет тв'іх бацькоў.

- Што за свет?

Хагрыд выглядаў так, быццам гатовы ўзарвацца.

- ДУРСЛЬ! – грымнуў ён.

Дзядзька Вернан, які стаў вельмі бледным, прашаптаў нешта накшталт «Мімблвімбл». Хагрыд дзіка паглядзеў на Гары.

- Але эээ ты павінны ведаць пра маму і тату, - сказаў ён. - Я хачу сказаць, што яны знакамітыя. Ты знакаміты.

- Што? Мае мама і тата не былі знакамітымі, адкуль вы гэта ўзялі?

- Так, ты не ведаеш… не ведаеш пра іх? - Хагрыд правёў пальцамі па сваіх валасах і ўставіўся на яго з вялікім здзіўленнем.

- Мммм дык ты не ведаеш, хто такі? – урэшце запытаўся ён зноў.

Дзядзька Вернан знайшоў згубленую мову.

- Стоп! – скамандаваў ён. – Спыніцеся тут жа, сэр! Я забараняю вам казаць хлопчыку што-небудзь!

Больш адважны чалавек, чым Вернан Дурсль задрыжаў бы пад лютым позіркам Хагрыда, якім ён яго ўзнагародзіў. Калі велікан загаварыў, кожны гук у слове дрыжаў ад гнева.

- Вы ніколі не казалі яму? Не казалі яму, што было ў лісце Дамблдлора, пакінутым з ім? Я бачыў, як Дамблдлор пакінуў яго, Дурсль! Як вы хавалі гэта ўсе гэтыя гады?

- Хавалі ад мяне што? – горача спытаў Гары.

- СТОП! Я ЗАБАРАНЯЮ! - дзядзя Вернан пажаўцеў ад страху.

Цётка Пятуння ўздыхнула ў жаху.

- Сходзі, падыхай паветрам, астынь, - сказаў Хагрыд. - Гары, ты чараўнік.

У хаце павісла маўчанне. Чуўся толькі шум толькі мора і свіст ветру.

- Хто? - ахнуў Гары.

- Чараўнік, ‘анечне, - заявіў Хагрыд, зноў сядаючы на канапу, якая застагнала і правісла яшчэ ніжэй. – і вельмі добры, я б сказаў, трэба толькі трохі патрэніравацца. З такімі мамай і татам, як твае, не можа быць інакш. Прыйшоў час прачытаць табе твае лісты.

Гары працягнуў руку і, нарэшце, узяў жаўтлявы канверт, углядаючыся ў ізумрудна-зялёныя чарнілы: для сп-ра Г. Потэра, Падлога, Хатка-на-скале, Мора. Ён выцягнуў ліст і прачытаў:

*Школа «Хогвардс» для вядзьмарак і чараўнікоў*
*Дырэктар Албус Дамблдлор*
*(Ордэн Мэрліна першай ступені, Гранд СУРС., Калдун, Важная асоба, Міжнародны кангрэс чараўнікоў)*

*Дарагі містар Потэр,*

*Мы рады паведаміць Вам, што Вы прыняты ў «Хогвартс», школу вядзьмарства і чараўніцтва. Ніжэй прыкладаецца спіс неабходных для навучання кніг і абсталявання.*

*Навучанне пачынаецца з 1 верасня. Мы чакаем Вашу саву не пазней чым 31 ліпеня.*

*З павагай,*
*Мінерва МакГонагал,*
*намеснік дырэктара.*

Пытанні выбухнулі ў галаве Гары быццам феерверк, і ён не мог вырашыць, якія задаць у першую чаргу. Праз некалькі хвілін ён прамармытаў: «Што? Значыць, яны чакаюць маю саву?»

- Галапін Гаргонс! Ледзь не забыўся! - сказаў Хагрыд, стукнуўшы рукой сабе па ілбе з дастатковай сілай, каб перакуліць каня з павозкай.

З яшчэ адной кішэні свайго паліто ён выцягнуў саву - сапраўдную, жывую, ўскудлачаную саву - доўгае пяро і скрутак пергаменту. Высунуўшы язык, ён напісаў запіску, якую Гары лёгка прачытаў перакуленай з ног на галаву:

*Дарагі прафесар Дамблдлор,*

*Уручыў Гары ягоны ліст.. Вазьму яго з сабой, каб набыць ягоныя рэчы заўтра. Надвор'е – жахлівае. Спадзяюся, вы ў парадку.*

*Хагрыд*

Хагрыд згарнуў запіску, аддаў яе саве, якая схапіла яе дзюбай, падышоў да дзвярэй і кінуў саву ў шторм. Потым ён вярнуўся і сеў, як быццам гэта было так звычайна, як паразмаўляць па тэлефоне.

Гары зразумеў, што стаіць з шырока раскрытым ротам, і хутка яго закрыў.

- Пра што гэта я? - сказаў Хагрыд, але ў гэты момант дзядзька Вернан, па-ранейшаму бледны, але вельмі злы, з'явіўся ў коле святла ад вогнішча.

- Ён не паедзе, - сказаў ён.

Хагрыд хмыкнуў.

- Я хацеў бы пабачыць таго вялікага магла, які яго спыніць, - сказаў ён.

- Каго? – спытаў Гары з інтарэсам.

- Магламі, сказаў Хагрыд, - мы называем людзей без магічных здольнасцяў, як Дурслі. Табе моцна не пашэнсіла вырасці ў маглейшай сям'і з маглаў, якіх я калісьці бачыў.

- Мы пакляліся, калі мы ўзялі яго, што скончым з гэтай лухтой!, - сказаў дзядзька Вернан. - Пакляліся, што выкаранім гэта з яго! Чараўнік!

- Вы ведалі? - сказаў Гары. - Вы ведалі, што я чараўнік?

- Ведалі! Раптоўна віскнула цётка Пятуння. - Ведалі! Вядома, мы ведалі! Як ты мог не быць чараўніком пры тым, што мая праклятая сястра была тым, кім яна была? О, яна атрымала такі ж ліст і знікла, каб вяртацца дадому толькі на школьныя вакацыі. У яе былі поўныя кішэні жабінай ікры, яна ператварала кубкі для гарбаты ў пацукоў.

Я была адзінай, хто бачыў, што яна - вырадак! Але для маёй маці і бацькі, гэта не было так. Лілі гэта і Лілі тое, яны ганарыліся тым, што ў нас у сям'і нарадзілася вядзьмарка!

Яна спынілася, каб зрабіць глыбокі ўдых, а затым працягнуць. Здавалася, яна хацела сказаць ўсё гэта на працягу многіх гадоў.

- Потым яна сустрэла гэтага Потэра ў школе, і яны з'ехалі і ажаніліся. Потым з'явіўся ты, і, вядома, я ведала, што ты такі ж дзівак і такі ж ненармальны. І потым, вось, калі ласка, яна пайшла і ўзарвалася, а мы атрымалі цябе!

Гары пабялеў. Як толькі ён зноў здолеў гаварыць, ён сказаў:

- Узарвалася? Вы сказалі мне, што яны загінулі ў аўтакатастрофе!

- Аўтакатастрофа! - зароў Хагрыд, зрабіўшыся такім раззлаваным, што Дурслі забіліся назад у свой кут. - Як маглі загінуць у аўтакатастрофе Лілі і Джэймс Потэр? Гэта бязладдзе! Скандал! Гары Потэр не ведае ўласнай гісторыі, калі кожнае дзіця ў нашым свеце ведае яго імя!

- Але чаму? Што здарылася? – хутка спытаў Гары.

Гнеў сыходзіў з твару Хагрыда. Ён выглядаў сапраўды ўстрывожаным.

- Я ніколі гэтага не ўяўляў, - сказаў ён ціхім заклапочаным голасам. – Раней у мяне не было разумення, чаму Дамблдлор сказаў мне, што з табой могуць быць праблемы. Вох, Гары, я ня ве'аў, што я буду чалавекам, якія расп'вядзе табе… я не мог уявіць, што ёсць людзі, якія не ведаюць пра «Хогвардс».

Ён кінуў цяжкі погляд на Дурсляў.

- Добра… найлепш пачаць з… я не магу табе сказаць усё… гэта вялікая загадка… частка ад гэтага…

Ён сеў, утаропіўся ў агонь на некалькі секунд, а потым сказаў:

- Гэта пачынаецца, я думаю, з… з чалавека па імені - але гэта неверагодна эх, вы ня ведаеце ягонае імя, але ўсе ў нашым свеце яго ведаюць…

- Імя каго?

- Мммм я не люблю казаць ягонае імя… Ніхто не любіць.

- Чаму?

- Гулпінская гаргулля, Гары! Людзі проста баяцца. Каб мне на месцы праваліцца, гэта вельмі складана. Глядзі, быў такі чараўнік, які стаў… кепскім. Такім кепскім, як ты можаш уявіць. Горш і горш. Ягонае імя было…

Хагрыд зглытнуў, але так нічога і не сказаў.

- Не маглі б вы напісаць яго? – прапанаваў Гары.

- Не, і напісаць яго не магу. Ладна... Волдэморт, - Хагрыд здрыгануўся. – Не прасі мяне сказаць гэта зноў. У любым выпадку, гэта... гэты чараўнік, каля дваццаці гадоў таму, пачаў збіраць паслядоўнікаў. І знайшоў іх, некаторыя з іх баяліся, некаторыя хацелі частку ягонай сілы, канечне, ён даў ім сілу.

Наступілі цёмныя дні, Гары. Не ведалі, каму можна было давяраць, з кім можна было сябраваць з чараўнікоў і вядзьмарак… жудасныя рэчы адбываліся. ‹кечне, некаторыя супраціўляліся, і ён іх забіваў. Жудасна.

У той час было толькі адзінае бяспечнае месца – «Хогвартс». Шаноўны Дамблдлор быў адзіным, каго Самі-Ведаеце-Хто баяўся. Не адважваўся напасць на школу, прынамсі тады.

Твае мама і тата былі найлепшыя чараўнікі, якіх я калісьці ведаў. Наймацнейшыя вучні ў «Хогвартсе» ў свой час! Невядома чаму, але Самі-Ведаеце-Хто ніколі не спрабаваў перацягнуць іх да сабе, верагодна, ведаў, што яны былі занадта блізкія да Дамблдлора, каб пажадаць перайсці на цёмны бок.

Можа быць, ён падумаў, што зможа пераканаць ммм… можа быць, проста хацеў прыбраць іх са свайго шляху. Хто ведае. Ён з›явіўся ў вёсцы, дзе яны жылі, на Хэлоўін, дзесяць гадоў таму. Табе быў толькі годзік. Ён прыйшоў у дом… і…і…

Хагрыд раптам выцягнуў вельмі брудную, плямістую насоўку і гучна высмаркаўся.

- Выбачайце, - сказаў ён. - Але гэта так сумна… я ведаў тваіх тату і маму, найпрыемнейшыя людзі… і ўсё роўна…

Самі-Ведаеце-Хто забіў ‹іх… І потым, гэта рэальная за›адкавая рэч, ён паспрабаваў забіць цябе, хацеў закончыць справу, а можа, проста любіў забіваць. Але ён не мог гэта зрабіць.

Ніколі не думаў, адкуль у цябе на ілбе гэты шнар? Ён незвычайны. Гэта тое, што ммм атрымаеш, калі магутнае зло закранае цябе. Ё› эээ паклапаціўся пра тваіх



маму і ‹ату, нават пра хату, але гэта не спрацавала на цябе, ‹енавіта таму ты знакаміты, Гары.

Ніхто ніколі не выжыў пасля таго, як ён вырашаў забіць яго, акрамя цябе. Ён забіў найлепшых вядзьмарскія і чараўніцкія сем›і - МакКінансаў, Боўнсаў, Прэветсаў. Ты быў проста дзіцём, але ты выжыў.

Нешта вельмі балючае адбывалася ў розуме Гары. Калі гісторыя Хагрыда закончылася, ён зноў прыгадаў ярка-зялёную ўспышку святла, больш ясна, чым ён калі-небудзь памятаў гэта раней. Ён успомніў нешта ў першы раз у жыцці: высокі, халодны, жорсткі смех.

Хагрыд сумна на яго паглядзеў.

- Забраў цябе хех з разбуранага дома сам, па загадзе Дамблдлора. Прывёз да вось гэтых…

- Поўнае глупства! - сказаў дзядзька Вернан.

Гары падскочыў, ён ужо амаль забыў, што Дурслі былі там. Дзядзька Вернан, здавалася, атрымаў назад сваю мужнасць. Ён утаропіўся на Хагрыда і сціснуў кулакі.

- Зараз праслухай сюды, мой хлопчык, - зароў ён. - Я згодны ў цябе ёсць нешта дзіўнае, што, верагодна, лечыцца лупцаваннем рамнём. І калі казаць пра тваіх бацькоў, ну, яны дзівакі, і калі казаць прама: у свеце лепш без іх. Калі запытаецеся ў мяне, яны самі нарваліся, блытаючыся з гэтымі чароўнымі тыпамі. Я гэтага і чакаў, заўсёды ведаў, што яны пайшлі па крывой дарожцы.

У гэты момант, Хагрыд ускочыў з канапы і выцягнуў з-за пазухі патрапаны ружовы парасон. Ён навёў яго на дзядзьку Вернана як меч і заявіў:

- Я папярэджваю цябе, Дурсль, я папярэджваю - яшчэ адное слова...

У небяспецы быць праткнутым канцом парасоніка барадатага гіганта, мужнасць дзядзькі Вернан зноў дала трэшчыну, ён прыціснуўся да сцяны і заціх.

- Так-та лепш, - сказаў Хагрыд, цяжка ўздыхнуўшы і сеўшы на канапу, якая на гэты раз прасела аж да падлогі.

Гары, паміж тым, да гэтага часу перапаўнялі пытанні, сотні з іх вярцеліся на языку.

- Але што здарылася з Волан… Прашу прабачэння, з Самі-Ведаеце-Кім?

- Добрае пытанне, Гары. Знік. Растаў. Той жа ноччу, калі спрабаваў забіць вас. Цябе гэта хехе зрабіла яшчэ больш знакамітым. Гэта самая вялікая за’адка… ён атрымліваў больш і больш сілы, чаму ён знік?

Некаторыя кажуць, што ён памёр. Трызненне сабачае, на мой погляд. Не факт, што ў ім засталося дастаткова чалавечага, каб памерці. Некаторыя кажуць, што ён усё яшчэ тут, чакае свайго часу, але я не веру і ў гэта.

Людзі, якія былі на яго баку вярнуўся да нас. Кажуць, былі быццам у трансе. Наўрад ці яны б гэта зрабілі, калі б ён мог вярнуцца назад.

Большасць з нас лічаць, што ён усё яшчэ там недзе, але страціў сваю сілу. Занадта слабы, каб працягваць. Нешта ў цябе прыхлопнула яго, Гары. Было нешта той ноччу, на што ён не разлічваў, ён верыў, што ніхто яго не пераможа. Але нешта спыніла яго, вось і ўсё.

Хагрыд паглядзеў на Гары з цеплынёй і павагай, але Гары зусім не быў ўсцешаны ці поўны гонару, ён адчуў, што гэта была жудасная памылка. Чараўнік? Ён? Як ён мог ім быць?

Ягонае жыццё – гэта здзекі ад Дадлі і здзекі ад цёткі Пятуні і дзядзькі Вернана. Калі ён сапраўды чараўнік, чаму яны не ператварыліся у барадаўчатых жабаў, калі паспрабавалі замкнуць яго ў каморы? Калі ён калісьці перамог наймацнейшага ведзьмака ў свеце, чаму ў Дадлі заўсёды была магчымасць пнуць яго як футбольны мяч?

- Хагрыд, - сказаў ён ціха. - Я думаю, вы зрабілі памылку. Я не думаю, што я магу быць чараўніком.

Да яго здзіўлення Хагрыд ўсміхнуўся.

- Не чараўнік, га? Ніколі не рабіў дзіўныя рэчы, калі быў напалоханы або злы?

Гары паглядзеў у агонь. Ён вярнуўся да думак пра гэта… кожная дзіўная рэч, якую ён рабіў, калі быў засмучаны або злосны… калі яго мучыў Дадлі з бандай, а ён неяк апынуўся па-за іх дасягальнасцю... не жадаў ісці ў школу з смешнай прычоскай і атрымаў валасы назад… а калі Дадлі ўдарыў яго каля тэрарыўму, хіба ён не адпомсціў, нават не разумеючы як, напусціў на яго ўдава?

Гары паглядзеў на Хагрыда, усміхнуўся і пабачыў, што Хагрыд увесь свеціцца.

- Бачыш? – сказаў Хагрыд. - Гары Потэр - а не чараўнік. Чакай, яшчэ будзеш найлепшым у «Хогвартсе».

Але дзядзька Вернан не збіраўся здавацца без бою.

- Хіба я не сказаў вам, што ён не пойдзе? - прашыпеў ён. - Ён збіраецца ў «Стоўнвэл Хай» і будзе ўдзячны за гэта. Я чытаў тыя лісты, і яму трэба ўсякая дрэнь - кнігі загавораў і палачкі, і…

- Калі ён хоча ісці, такія вялікія маглы, як вы, яго не спыняць, - прабурчаў Хагрыд. – Не пусціць сына Лілі і Джэймса Потэраў у «Хогвардс»! Звар'яцелі? Яго імя трапіла ў спісы вучняў гэтай школы ад нараджэння.

Ён пойдзе ў найлепшую школу вядзьмарства і чараўніцтва ў свеце. Сем гадоў там, і ён не пазнае сабе. Ён будзе вучыцца з моладдзю свайго роду, змяніцца, ён будзе вучыцца пад кіраўніцтвам найзнакаміцейшага дырэктара «Хогвартса» Альбуса Дамбл...

- Я НЕ БУДУ ПЛАЦІЦЬ ДУРНАВАТАМУ СТАРОМУ ЁЛУПНЮ, ЯКІ НАВУЧЫЦЬ ЯГО МАГІЧНЫМ ТРУКАМ! - закрычаў дзядзька Вернан.

Але ён урэшце зайшоў занадта далёка. Хагрыд схапіў парасонік і раскруціў яго над галавой.

- Ніколі, - грымеў ён, - не абражай Альбуса ДАМБЛДЛОРА, калі я побач!

Ён са свістам апусціў парасон уніз, ягоны кончык паказаў на Дадлі. Усе пабачылі ўспышку фіялетавага святла, і гук, быццам запусцілі феерверк, рэзкі віск. У наступную секунду Дадлі танцаваў на месцы, прыціснуўшы рукі да свайго азадку, і выў ад болю. Калі ён прыбраў рукі, Гары ўбачыў кручок хваста свінні праз адтуліну ў штаны кузена.

Дзядзька Вернан зароў. Схапіўшы Дадлі, цётку Пятунню, ён пацягнуў іх у іншы пакой, кінуў апошні, поўны жаху, погляд на Хагрыд і зачыніў за імі дзверы.

Хагрыд апусціў парасон і пачасаў сваю бараду.

- Нельга выходзіць з сябе, - сказаў ён са шкадаваннем, - але усё роўна не спрацавала. Жадаў пераўтварыць яго ў свінню, але, пэўна, ён быў так падобны на парася, што нічога рабіць не засталося.

Ён кінуў погляд на Гары з-пад кусцістых броваў.

- Буду ўдзячным, калі ты не будзеш згадваць пра гэта ў «Хогвартсе», - сказаў ён. – Мне эээ нельга займацца магіяй, строга забаронена. Мне дазволілі трохі пачараваць, каб даставіць табе лісты, і гэта адна з прычынаў, чаму я ўзяўся за гэтую справу.

- Чаму нельга займацца чараўніцтвам? – спытаў Гары.

- Ну, эээ, я вучыўся ў «Хогвартсе», але я… э… мяне выгналі. Вось сказаў праўду. На трэцім курсе. Яны зламалі мне палачку. Але Дамблдлор дазволіў мне застацца ў якасці ключніка. Вялікі чалавек - Дамблдлор.

- А за што вас выключылі?

- Пра гэта даведаешся пазней. А тое ў нас на заўтра ёсць шмат справаў, сказаў Хагрыд гучна. – Трэба будзе паехаць у горад і набыць табе ўсё, што патрэбна.

Ён зняў чорнае паліто і кінуў яго Гары.

- Укрыйся, - сказаў ключнік. – Не хвалюйся, калі будзе трохі круціцца, я думаю, ў мяне там у кішэні – пара лясных соняў.



# Частка пятая

## Касы завулак

Гары прачнуўся рана раніцай наступнага дня. Хоць ён ведаў, што сонца ўжо паднялося, але ён не расплюшчваў вачэй.

- Гэта быў сон, - сказаў ён сам сабе. - Мне прысніўся гігант па імені Хагрыд, які прыйшоў, каб сказаць мне, што я пайду ў школу для чараўнікоў. Калі я расплюшчу вочы, то буду як звычайна ў сабе ў каморы.

Нечакана ён пачуў гучны грукат.

Гэта цётка Пятуння грукае ў дзверы, падумаў Гары, ягонае сэрца ўхнула. Але ён усё яшчэ не расплюшчваў вачэй. Гэта быў такі добры сон.

Тук. Тук. Тук.




- Ладна, - прамармытаў Гары. – Я ўстаю.

Ён сеў, і важкае паліто Хагрыда звалілася з яго. Хаціна была поўная сонечнага святла, шторм скончыўся. Хагрыд спаў на разваленай канапе, а ў вакно рэпалася сава, пагрукваючы кіпцюром па шкле. Яна трымала газету ў дзюбе.

Гары ускочыў на ногі такі шчаслівы, быццам унутры яго надзьмуваўся вялікі паветраны шар. Ён падышоў прама да акна і тузануў яго, адчыняючы. Сава ўляцела і скінула газету прама на Хагрыда, які ад гэтага так і не прачнуўся. Птушка саскочыла на падлогу і напала на паліто велікана.

- Не рабі гэтага.

Гары спрабаваў сагнаць саву, але яна злосна пстрыкнула на яго дзюбай і працягнула дзяўбці паліто.

- Хагрыд! – гучна сказаў Гары. – Тут сава.

- Заплаці ёй, - крэкнуў Хагрыд з канапы.

- Што?

- Яна хоча апла’у за дастаў’у папераў. Паглядзі ў кішэнях.

Паліто Хагрыд, здавалася, было зроблена выключна з кішэняў: звязкі ключоў, нейкія кулі, гранулы, шарыкі на вяровачках, мятныя смакталкі, пакуначкі... Нарэшце, Гары выцягнуў жменю дзіўных манет.

- Дай яму пяць кнатаў, - сказаў Хагрыд сонна.

- Кнатаў?

- Маленькія бронзавыя.

Гары адлічыў пяць маленькіх бронзавых манетак. Сава працягнула лапку, і хлопчык паклаў грошы ў маленькі скураны мех, прывязаны да яе. Потым птушка вылецела праз адчыненае вакно.

Хагрыд гучна пазяхнуў, сеў і пацягнуўся.

- Трэба выбірацца, Гары, шмат справаў на сённяшні дзень: мы павінны трапіць у Лондан, каб купіць усе рэчы ‘ля школы.



Гары вярцеў у руках манеткі чараўнікоў і паглядзеў на іх. Ён адчуў, быццам балёнік шчасця ўнутры яго толькі што атрымаў пракол і здзьмуўся.

- Мммм… Хагрыд?

- Ммм? – спытаў Хагрыд, нацягваючы на ногі велізарныя боты.

- У мяне ж няма грошай, а ты чуў, што дзядзька Вернан сказаў учора ўвечары… ён не будзе плаціць за навучанне мяне магіі.

- Не хвалюйся пра гэта, - сказаў Хагрыд, устаючы і пачухваючы галаву. – ‘умаеш, бацькі табе нічога не пакінулі?

- Але калі іх дом быў разбураны…

- Яны не захоўвалі сваё золата ў сабе дома, хлапец! Не, першы прыпынак у нас будзе «Грынгатс». Банк чараўнікоў. Еш кіўбаскі, яны і халодныя нічога сабе такія, ды і я ад тарта не адмоўлюся.

- У чараўнікоў ёсць банкі?

- Толькі адзін. «Грынгатс». Ім кіруюць гобліны.

Гары выраніў кавалак кіўбаскі, якую трымаў у руках.

- Гобліны?

- Ага, я ўвогуле лічу, што трэба быць вар’ятам, каб паспрабаваць абрабаваць яго, лепей ніколі не звязвацца з гоблінамі, Гары. Калі трэба нешта схаваць, дык «Грынгатс» - гэта самае надзейнае месца ў свеце, акрамя, можа быць, «Хогвартса».

Я павінны наведаць «Грынгатс» ў любым выпадку па загадзе Дамблдлора. Справы «Хогвартса», - Хагрыд горда выпрастаўся. - Ён звычайна давярае мне рабіць важныя рэчы. Цябе забраць, напрыклад, ці вось у «Грынгатс» заехаць. Сабраўся? Дык хадзем.

Гары выйшаў за Хагрыдам на скалу. Неба было чыстым і мора бліскацела ад сонечных прамянёў. Лодка, якую наняў дзядзя Вернан, была ўсё яшчэ тут, прывязаная да скалы, але яна набрала шмат вады пад час шторму.

- А як ты сюды трапіў? – запытаўся Гары, пашукаўшы вачыма іншую лодку.

- Прыляцеў, - адказаў Хагрыд.

- Прыляцеў?

- Так. Але мы не здолеем вярнуцца так жа. Я не магу зараз карыстацца магіяй.

Яны ўладкаваліся ў лодцы, Гары глядзеў на Хагрыда, спрабуючы ўявіць яго ў палёце.

- Нешта гэта занадта павольна, - сказаў Хагрыд, паглядзеўшы на Гары. - Калі я ээээ трохі… зусім крыху паскору працэс, ты ж не будзеш балбатаць пра гэта ў «Хогвартсе»?

- Вядома, не, - сказаў Гары, жадаючы бачыць пабольш магіі.

Хагрыд зноў выцягнуў ружовы парасон, пастукаў двойчы аб бок лодкі, і яны панесліся да зямлі.

- Чаму трэба быць вар’ятам, каб паспрабаваць абрабаваць «Грынгатс»? - спытаў Гары.

- Загаворы, чараўніцтва, - каротка патлумачыў Хагрыд, разварочваючы пад час

размовы газету. - Кажуць, што цмокі сцерагу'ъ скляпенні. І затым хехе трэба будзе знайсці правільны шлях: «Грынгатс» на сотні кіламетраў пад Лонданам, разумееш? Глыбока пад зямлёй. Калі паспрабуеш, памрэш ад голаду, нават калі патрымаеш у руках золата.

Гары сядзеў і думаў, пакуль Хагрыд чытаў сваю газету «Штодзённы прарок». Гары ведаў ад дзядзькі Вернан, што людзі любілі, каб іх пакідалі ў спакоі, пакуль яны гэта рабілі, але зараз гэта было як ніколі цяжка. У яго ніколі не было столькі пытанняў у галаве.

- Міністэрства магіі зноў нарабіла глупстваў, - прамармытаў Хагрыд, гартаючы старонкі.

- А што ёсць такое міністэрства? – спытаў Гары да таго, як змог сабе спыніць.

- Канечне, - сказаў Хагрыд. - яны хацелі Дамблдлора прызначыць міністрам, вядома, але ён жа ніколі не пакіне «Хогвартс», таму стары Карнэліюс Фадж атрымаў гэтую пасаду. Такі няўклюда, якіх я больш не бачыў. Кожную раніцу ён дасылае Дамблдлору соваў з просьбамі парады.

- Але што робіць Міністэрства магіі?

- Ну, іх асноўная праца ў тым, каб не маглы не здагадаліся, што ў краіне жывуць яшчэ і ведзьмы і чараўнікі.

- Навошта?

- Як навошта? Каб мне праваліцца, Гары, тады кож'ы захоча вырашыць свае праблемы з дапамогай чараў. Не, лепей, каб яны пакінулі нас у спакоі.

У гэты момант лодка мякка ткнулася ў прычал. Хагрыд склаў газету, і яны ускараскаліся па каменных прыступках і выйшлі на вуліцу.

Мінакі глядзелі на Хагрыда разявіўшы раты, пакуль яны ішлі праз маленькі гарадок да чыгуначнай станцыі. Гары не мог іх у гэтым абвінаваціць.

Мала таго, што Хагрыд - у два разы вышэйшы за звычайнага чалавека, дык ён яшчэ паказваў на зусім звычайныя рэчы, як, напрыклад, парковачныя аўтаматы і казаў гучна:

- Ну ты паглядзі, Гары, га? Якіх рэчаў панапрыдумвалі гэтыя маглы!

- Хагрыд, - сказаў Гары, трохі запыхваўшыся, бо быў вымушаны бегчы, каб не адставаць, - ты сказаў, што ў «Грынгатсе» ёсць драконы?

- Ну, так яны кажуць, - сказаў Хагрыд. - Божа мой, як мне падабаюцца цмокі.

- Ты хочаш завесці аднаго у сябе?

- З дзяцінства хачу. Хадзем сюды.

Яны дайшлі да станцыі. Там як раз стаяў цягнік да Лондана, які адпраўляўся праз пяць хвілінаў. Хагрыд, які не разумеў «грошаў маглаў», як ён іх называў, даў іх Гары, каб той набыў ім квіткі.

Людзі яшчэ больш уважліва глядзелі на іх, калі яны селі ў цягнік. Хагрыд сеў адразу на два крэслы і пачаў вязаць на спіцах нешта, што нагадвала ярка-жоўты тэнт для цырка.

- Твой ліст з «Хогвартса» з табой? – запытаўся Хагрыд, не перапыняючы вязання. Гары дастаў пергаментны канверт з кішэні.

- Добра, - адзначыў велікан. - Там ёсць спіс усяго, што трэба.

Гары разгарнуў другі ліст паперы, які ноччу не заўважыў, і прачытаў:

«Хогвартс», школа вядзьмарства і чараўніцтва

Форма. Першакурснікам трэба мець:

1. Тры наборы простай вопратцы для працы (чорнай).

2. Адзін востраверхі капялюш (чорны) для штодзённага апранання.

3. Адна пара ахоўных пальчатак (з скуры цмока ці аналагічнай).

4. Адна зімовая мантыя (чорная, з серабрыстымі гузікамі).

Калі ласка, звярніце ўвагу на тое, што на адзенні вучняў павінны быць нашытыя імёны.

Неабходныя на курс кнігі

Усе студэнты павінны мець:

1. «Стандартная кніга загавораў» (1 клас), Міранда Гошаўк

2. «Гісторыя магіі», Бацільда Бэгшот

3. «Тэорыя магіі», Адальберт Вафлінг

4. «Трансфігурацыя» (кіраўніцтва для пачаткоўцаў) Эміцік Світч

5. «Тысяча магічных траў і грыбоў», Філіда Спора

6. «Магічныя адвары і зеллі», Арсеніюс Джыгер

7. «Фантастычныя звяры і дзе іх шукаць», Ньют Скамандр

8. «Абарона ад цёмных сілаў», Квенцін Трымбл

Іншыя рэчы

1. Чароўная палачка

2. Кацёл (волава, стандартны памер 2)

3. Набор піялаў са шкла ці крышталю

4. Тэлескоп

5. Латуневыя шалі.

Студэнты таксама могуць прывезці саву або котку, або жабу.

БАЦЬКАМ НАГАДВАЕМ, што на першым курсе ў вучняў не можа быць сваіх мётлаў.

- Мы здолеем усё гэта набыць у Лондане? – падумаў Гары ўслых.

- Калі кхе-кхе ведаць, куды ісці, - адказаў Хагрыд.

Гары ніколі не быў у Лондане раней. Хоць Хагрыд, здавалася, ведаў, куды ісці, ён, відавочна, не прывык рабіць гэта звычайным спосабам. Ён застраў, спрабуючы прайсці праз турнікет у метро, гучна скардзіўся, што месцы былі занадта малыя, а цягнікі ехалі занадта павольна.




- Я не ведаю, як маглы абыходзяцца без магіі, - сказаў ён, калі яны падняліся па эскалатары на ажыўленую вуліцу з шматлікімі крамамі.

Хагрыд быў настолькі вялікі, што перад ім натоўп расступаўся, і ўсё што Гары трэба было зрабіць, дык гэта трымацца прама за ім. Яны прайшлі кніжныя і музычныя крамы, кавярні і кінатэатры, але ніводнае месца, якое б выглядала так, быццам там можа прадавацца чароўная палачка. Гэта была усяго толькі звычайная вуліца, поўная простых людзей.

Няўжо прама пад імі закапаныя груды золата чараўнікоў? Ці былі на самай справе крамы, якія прадавалі кнігі загавораў і мётлы? Можа, гэта ўсё быў нейкім вялізным жартам, які падрыхтавалі Дурслі? Калі б Гары не ведаў, што ў ягоных сваякоў не было пачуцця гумару, ён бы так і падумаў. Нават нягледзячы на ўсё, што Хагрыд сказаў яму, усё гэта выглядала неверагодным. Але Гары ўсё роўна не мог не давяраць яму.

- Гэта тут, - заявіў Хагрыд, спыняючыся, - «Дзіравы кацёл». Знакамітае месца.

Гэта быў маленькі, брудны на выгляд паб. Калі б Хагрыд не паказаў на яго, Гары б увогуле яго не заўважыў. Людзі, якія спяшаліся побач, менавіта не бачылі паб, іх вочы саслізнулі з вялікага кніжнага магазіна на музычную краму.

У Гары склалася ўражанне, што толькі ён і Хагрыд маглі бачыць «Дзіравы кацёл». Перш чым ён паспеў аб гэтым сказаць, Хагрыд ужо завёў яго ўнутр.

Для вядомага месца там было вельмі цёмна і шэра. Некалькі старых жанчын, седзячы ў куце, пілі з малюсенькіх шклянак шэры. Адна з іх паліла доўгую трубку. Маленькі чалавек у цыліндры размаўляў са старым барменам, які быў зусім лысы і падобны на бяззубы грэцкі арэх.

Нізкі шум балбатні, калі яны ўвайшлі, спыніўся. Усе, здавалася б, ведалі Хагрыда, яны махалі і ўсміхаліся яму, а бармен пацягнуўся за стаканам.

- Як звычайна, Хагрыд?

- Не магу, Том, я па справах «Хогвардса», - адказаў Хагрыд, хлопнуўшы вялікай рукой па плячу Гары, ад чаго ў хлопчыка падагнуліся калені.

- Бог мой, - сказаў бармен, углядаючыся ў Гары, - Гэта… гэта можа быць…?

У «Дзіравым катле» раптам стала зусім ціха.

- Барані маю душу, - прашаптаў стары бармэн, - Гары Потэр... які гонар.

Ён выбег з-за стойкі, кінуўся да Гары і схапіўся за ягоную руку са слязамі на вачах.

- Сардэчна запрашаем, спадар Потэр, сардэчна запрашаем.

Гары не ведаў, што сказаць. Усе глядзелі на яго. Старая жанчына з трубкай, старанна зацягвалася, не разумеючы, што тытуню ўжо няма. Хагрыд ззяў.

Потым пачалося вялікае адсоўванне крэслаў, і ў наступны момант Гары апынуўся у цэнтры невялікага натоўпу, паціскаючы рукі кожнаму ў «Дзіравым катле».

- Дорыс Крокфорд, спадар Потэр, не магу паверыць, што я вас сустрэла.

- Такі гонар вас бачыць, спадар Потэр, такі гонар.

- Заўсёды хацеў паціснуць вам руку, я ўвесь трапячу.

- Вельмі прыемна, сп-р Потэр, проста не ведаю, як выказаць, наколькі прыемна. Дзігл, маё імя, Дэдалус Дзігл.

- Я бачыў вас раней! - сказаў Гары, пабачыўшы, як цыліндр Дэдалуса Дігла ўпаў з ягонай галавы ад хвалявання. - Вы пакланіўся мне аднойчы ў краме.

- Ён памятае! – закрычаў Дэдалус Дзігл, азіраючыся навокал. – Вы чулі гэта? Ён памятае мяне!

Гары паціскаў рукі зноў і зноў. Дорыс Крокфорд падышла яшчэ раз.

Наперад выбраўся бледны малады чалавек, ён выглядаў вельмі нервовым. Адно з яго вачэй дрыжала.

- Прафесар Квірэл! - сказаў Хагрыд. - Гары, прафесар Квірэл будзе адным з тваіх настаўнікаў у «Хогвартсе».

- П-П-Потэр, - прамармытаў прафесар, захопліваючы руку Гары. - Н-н-не магу сказаць вам, як в-в-вельмі рады сустрэцца з вамі.

- Якую магію вы выкладаеце, прафесар Квірэл?

- А-абарона ад ц-ц-цёмных сілаў, - прамармытаў прафесар, як быццам ён нават думаць пра гэта не хацеў. - Але вам, я думаю, не прыйдзецца яе вучыць.

Ён нервова засмяяўся.

- Вы будзеце набываць рэчы для вучобы, я думаю? А я д-дабраўся да з-з-завулка п-падабраць новую к-кнігу пра вампіраў, - падаецца сама думка пра гэта яго пужала.

Але іншыя не дазволілі прафесару Квірэлу трымаць Гары ля сабе. Яму спатрэбілася амаль дзесяць хвілін, каб уцячы ад іх усіх. Нарэшце, Хагрыду ўдалося перакрычаць балбатню.

- Мы павінны ісці… Шмат трэба купіць, давай, Гары.

Дорыс Крокфорд паціснула руку Гары ў апошні раз, і Хагрыд павёў яго праз бар да выхаду ў невялікі, абнесены сцяной двор, дзе не было нічога, акрамя сметніцы і пустазелля.

Хагрыд усміхнуўся Гары.

- Я ж казаў? Што ты знакамітасць? Нават прафесар Квірэл задрыжаў, калі пабачыў цябе, праўда ён звычайна дрыжыць...

- Ён заўсёды так нервуецца?

- О, так. Бедны хлопец. Бліскучы розум. Ён быў нармальным, калі быў студэнтам і вучыўся па кніжках, потым уехаў на год на практыку… Кажуць, ён сустрэў вампіраў ў Чорным лесе, і там жа былі нейкія праблемы з вядзьмаркай. Пасля гэтага ён так і не вярнуўся ў нармальны стан. Баіцца студэнтаў, баіцца свайго прадмета… Дзе мой парасон?

Вампіры? Ведзьмы? У Гары закружылася галава. Хагрыд, тым часам, падлічваў цагліны ў сцяне над сметніцай.

- Тры ўверх… дзве па дыяганалі, - прамармытаў ён. Правільна. Адыдзі ў бок, Гары.

Ён тройчы пагрукаў па сцяне кончыкам свайго парасона.

Цэгла, якую ён закрануў, задрыжала, і ў сярэдзіне з’явілася маленькая адтуліна, якая станавілася шырэй і шырэй. Ужо праз секунду перад імі аказалася арка, досыць вялікая нават для Хагрыда, якая выходзіла на брукаваную вуліцу.



- Сардэчна запрашаю, - заявіў Хагрыд, - Касы завулак.

Ён усміхнуўся здзіўленню Гары. Яны прайшлі праз арку. Гары хутка зірнуў праз плячо і ўбачыў, што сцяна амаль імгненна зноў стала цэлай.

Сонца ярка свяціла на катлы у вітрыне бліжэйшай крамы. «Катлы ўсіх памераў - медзь, латунь, волава, срэбра, з аўта-памешваннем, складныя», - было напісана на шыльдзе над ёй.

- Так, сюды нам т'эба, - сказаў Хагрыд, - але спачатку нам трэба ўзяць грошы.

Гары жадаў бы, каб у яго было як мінімум восем пар вачэй. Ён круціў галавой ва ўсіх кірунках, пакуль яны ішлі па вуліцы, імкнучыся глядзець ва ўсе бакі адначасова: крамы, тавары, людзі, якія рабілі пакупкі.

Пухлая жанчына, выходзячы з аптэцы, паківала галавой, і калі яны яе міналі Гары пачуў, што сказала: «Печань цмока, сямнаццаць сіклаў за ўнцыю, зусім звар'яцелі».

Нізкае, мяккае уханне чулася з цёмнай крамы пад назвай «Савіны гандлёвы цэнтр Лупавока – совы рудыя, вухаючыя, амбарныя, карычневыя і палярныя». Некалькі хлопчыкаў прыкладна ўзросту Гары прыціснулі насы да вітрыны з мётламі.

- Глядзі, - пачуў Гары, як нехта з іх сказаў, - новая «Німбус-2000» - самая хуткая.

Былі крамы адзення, крамы тэлескопаў і дзіўных сярэбраных інструментаў, якіх Гары ніколі не бачыў. У іншых вокны былі забітыя бочкамі селязёнкі кажаноў, вачэй вугроў, хістаючыміся грудамі кнігаў загавораў, пер›ем, рулонамі пергаменту, бутэлькамі з зеллямі і глобусамі месяца…

- «Грынгатс», - сказаў Хагрыд.

Яны дайшлі да асляпляльна-белай забудовы, якая навісала над іншымі маленькімі крамкамі. Каля паліраваных бронзавых дзвярэй, апрануты ў пунсова-залатую форму стаяў…

- Так, гэта гоблін, - сказаў Хагрыд спакойна, пакуль яны ішлі па белых каменных прыступках да увахода.

Гоблін быў прыкладна на галаву ніжэйшы за Гары. У яго быў смуглы, разумны твар, вастраверхая бародка і, як заўважыў Гары, вельмі даўгія пальцы і ступні. Ён пакланіўся ім, калі яны ішлі ўнутр. Там яны аказаліся перад другімі дзвярамі, на гэты раз з срэбра, са словамі, выгравіраванымі на іх:

*Калі ласка, заходзь, незнаёмец, але сцеражыся,*
*Калі ў цябе толькі сквапнасць у галаве,*
*Калі возьмеш, не зарабіўшы,*
*Заплаціш самы найвялікі кошт.*

*Злойдзей, ты папярэджаны:*
*Шукаючы ў нас чужы скарб,*
*Ты знойдзеш хутчэй непрыемны сюрпрыз.*

- Як я і казаў, трэба быць вар’ятам, каб паспрабаваць іх абрабаваць, - сказаў Хагрыд.

Пара гоблінаў правялі іх праз сярэбраныя дзверы, і яны трапілі ў велізарную мармуровую залу. Больш за сотню гоблінаў сядзелі на высокіх крэслах за доўгім прылаўкам, нешта пішучы ў вялікіх кнігах, узважваючы манеты на латунных вагах, разглядаючы каштоўныя камяні праз спецыяльныя акуляры.

Было незлічона шмат дзвярэй, якія вялі з зала, і яшчэ больш гоблінаў сустракалі людзей і праваджалі іх. Хагрыд і Гары падышлі да стойкі.

- Прывітанне, - сказаў Хагрыд, звяртаючыся да свабоднага гобліна. - Мы прыйшлі за грашыма з сейфа спадара Гары Потэра.

- У вас ёсць ключ, сэр?

- Ён дзесьці тут, - сказаў Хагрыд і пачаў даставаць рэчы з кішэняў прама на стойку, раскідаўшы па кнізе гобліна жменю пляснявелых пячэняк для сабак. Гоблін зморшчыўся.

Гары ж у гэты час глядзеў, як іншы гоблін узважвае кучу рубінаў, такіх вялікіх, як вуглі.

- Вазьміце, - сказаў Хагрыд нарэшце, трымаючы ў руках малюсенькі залаты ключык.

Гоблін паглядзеў на яго ўважліва.

- Выглядае як мае быць.

- І ў мяне яшчэ ёсць ліст ад прафесара Дамблдлора, - дадаў Хагрыд важна, распраўляючы плечы. - Гаворка ідзе пра Вы-Ведаеце-Што ў сховішчы 713.

Гоблін уважліва прачытаў ліст.

- Вельмі добра, - сказаў ён, вяртаючы яго Хагрыду. – У мяне ёсць той, хто дапаможа вам прайсці да сейфаў. Грыфук!

Грыфук быў яшчэ адным гоблінам. Хагрыд забраў усё печыва для сабакаў у кішэню, і яны з Гары пайшлі за Грыфукам да адной з дзвярэй, што вялі з залі.

- А што гэта за Вы-ведаеце-што ў сховішчы 713? – спытаў Гары.



- Не магу сказаць, - адказаў загадкава Хагрыд. – Вельмі вялікі сакрэт. Справы «Хогвардса». Дамблдлор даверыўся мне. Мая праца ўвогуле сакрэтная.

Грыфук прытрымаў перад імі дзверы. Гары, які чакаў, што і далей паўсюдна будзе мармур, быў здзіўлены. Яны трапілі ў вузкі каменны праход, што быў асвечаны палаючымі факеламі і ішоў уніз пад даволі крутым нахілам.

На падлозе была вузкая чыгунка. Грыфук свіснуў, і да іх, грукочучы, пад›ехала цялежка. Яны ў яе залезлі - Хагрыд з некаторымі складанасцямі - і паехалі.

Спачатку яны проста імчаліся праз лабірынт ліха закручаных праходаў і пераходаў. Гары спрабаваў запомніць: налева, направа, направа, налева, пасярэдзіне на развілцы, направа, налева - але гэта было немагчыма. Ваганетка, якая з грукатам ехала наперад, здавалася, сама ведала, куды трэба, бо ў Грыфука не было руля.

У вочы Гары біла халоднае паветра, але ён трымаў іх шырока адкрытымі. Аднойчы яму здалося, што ён пабачыў успышку вагню ў канцы калідора. Ён дзёрнуўся, каб паглядзець ці не цмок гэта, але было позна: ўсё знікла за паваротам. Тым часам яны спусціліся яшчэ глыбей і зараз ехалі міма падземнага возера, дзе велізарныя сталактыты і сталагміты выраслі з столі і падлогі.

- Я ніколі не ведаў, - крыкнуў Гары Хагрыду, пераадольваючы шум цялежкі. - У чым розніца паміж сталагмітамі і сталактытамі?

- У сталагміце ёсць «м», - сказаў Хагрыд. – Не задава’ мне больш пытанняў, а тое я адчуваю, што зараз званітую.

Ён выглядаў зусім зялёным, калі цялежка нарэшце спынілася побач з невялікімі дзвярамі у сцяне. Хагрыд выйшаў і быў вымушаны прыхінуцца да сцяны, каб спыніць дрыжыкі ў каленях.

Грыфук адчыніў дзверы. Спачатку з пакоя выйшла шмат зялёнага дыму, а як ён рассеяўся, Гары ахнуў. Унутры былі горы залатых манет, стопкі срэбраных і кучкі маленькіх бронзавых кнатаў.

- Усё тваё, - усміхнуўся Хагрыд.

Усё гэта для Гары было неверагодна. Дурслі не ведалі пра гэта, а тое б адабралі ў яго хутчэй, чым ён міргнуў. Колькі разоў яны скардзіліся на тое, колькі каштавала ім карміць Гары? І ўвесь час клад, які належаў яму, быў схаваны глыбока пад Лонданам.

Хагрыд дапамог сабраць Гары кучку грошаў ў сумку.

- Золата - гэта галеоны, - растлумачыў ён. - Сямнаццаць сярэбраных сіклаў складаюць галеон і 29 кнатаў – сікл. Гэта ўсё досыць лёгка. Гэтага павінна хапіць на пару семестраў, а астатняе мы пакінем тут у бяспецы.

Ён павярнуўся да Грыфука.

- Цяпер да сейфа 713, калі ласка. А мы можам ехаць больш павольна?

- Толькі адна хуткасць, - адказаў каротка Грыфук.

Яны паехалі яшчэ глыбей і набралі хуткасць. Паветра станавілася халаднейшым і халаднейшым асабліва, калі яны абміналі рэзкія павароты. З грукатам яны праехалі над падземным ярам. Гары перагнуўся цераз борт, каб паглядзім, што там унізе, на цёмным дне, але Хагрыд застагнаў і выцягнуў яго назад за каўнер.

У сховішча №713 не было замочнай свідравіны.

- Дайце дарогу, - сказаў Грыфук важна. Ён асцярожна пагладзіў дзверы адным з доўгіх пальцаў, і яна проста растала.

- Калі нехта акрамя гоблінаў «Грынгатса» паспрабаваў бы зрабіць нешта такое, іх бы засмактала праз дзверы. Яны б аказаліся там у пастцы, - патлумачыў Грыфук.

- Як часта вы правяраеце, ці няма некага ўнутры? – запытаўся Гары.

- Прыкладна раз у дзесяць гадоў, - адказаў Грыфук з даволі непрыемнай усмешкай.

Нешта сапраўды надзвычайнае павінна было быць унутры гэтага вельмі абароненага сейфу, упэўніўся Гары. Ён нахіліўся наперад з нецярпеннем, чакаючы ўбачыць па меншай меры казачныя каштоўныя камяні. Але там было пуста!

Потым ён усё ж такі нешта заўважыў: брудны маленькі пакет, загорнуты ў карычневую паперу, які ляжаў на падлозе. Хагрыд падняў яго і засунуў глыбока ўнутр свайго паліто. Гары хацелася б ведаць, што гэта, але ён падумаў, што лепей не пытацца.

- Вяртаемся ў гэту вар'ятскую цялежку і не размаўляй са мной па дарозе назад, а тое мне лепей трымаць мой чортаў рот на замку, - прабурчаў Хагрыд.

Яшчэ адна дзікая паездка на цялежцы, і яны стаялі, міргаючы ад сонечнага святла, па-за межамі «Грынгатса». Гары не ведаў, куды бегчы першым чынам цяпер, калі ў яго была сумка, поўная грошай. Ён не ведаў, колькі галеонаў у фунце, але ён дакладна ведаў, што зараз у яго больш грошай, чым было за ўсё ягонае жыццё. Больш, чым нават калі-небудзь меў Дадлі.

- Можна ісці па форму, - сказаў Хагрыд, кіўнуўшы ў бок крамы мадам Малкін «Вопратка на ўсе выпадкі жыцця». - Слухай, Гары, будзе вельмі недарэчна, калі я збягу на хвілінку, пакуль ты абіраеш, ў «Дзіравы кацёл»? Я іх ненавіджу гэтыя вазочкі «Грынгатса».

Ён па-ранейшаму выглядаў трохі хворым, так і атрымалася, што Гары ўвайшоў у краму мадам Малкін адзін, трохі нервуючыся.

Гаспадыня крамы аказалася невысокай, усмешлівай вядзьмаркай, ўся ў ружавата-ліловым.



- У «Хогвардс»? – спытала яна, калі Гары загаварыў. – Тут вось усё, што трэба. Дарэчы, тут іншы малады чалавек таксама прымярае форму.

У задняй частцы крамы хлопчык з бледным выцягнутым тварам стаяў, пакуль другая ведзьма падшывала ягоную даўгую чорную робу. Мадам Малкін стала каля Гары на табурэтцы, дастала аднекуль доўгі халат, накінула над яго галаву, і пачала вымяраць патрэбную даўжыню.

- Прывітанне, - сказаў хлопчык. – Таксама ў «Хогвардс»?

- Так, - адказаў Гары.

- Мой бацька за суседнімі дзвярыма купляе мне кнігі, маці вышэй па вуліцы глядзіць на палачкі, - сказаў хлопчык. У яго быў нудны, манерны голас. – Потым я збіраюся пераканаць іх, каб яны ўзялі мне гоначную мятлу. Я не разумею, чаму першакурснікі не могуць мець сваіх уласных. Я думаю, што бацька мне набудзе, а я неяк пранясу яе ў школу.

Гледзячы на незнаёмага хлопчыка, Гары прыгадаў Дадлі.

- У цябе ёсць уласная мятла? – хлопчык працягваў задаваць пытанні.

- Не, - адказаў Гары.

- А ты ўвогуле гуляеш у квідыч?

- Не, - зноў сказаў Гары, задумаўшыся, што гэта за спорт такі – квідыч.

- Я гуляю. Бацька сказаў, што гэта вялікае расчараванне, калі я не буду гуляць за сваю школу, і я згодны. Ты ведаеш, на якім факультэце будзеш?

- Не, - сказаў Гары, адчуваючы сабе з кожнай мінутай усё больш па-дурацку.

- Ну, ніхто не ведае, пакуль не пройдзе адбор. Але я ведаю. Я буду ў «Слізэрыне», там вучылася ўся нашая сям'я. Уяві толькі, што гэта такое – трапіць у «Хафлпуф», я думаю, што я б сышоў са школы, калі б трапіў туды.

- Ммм, - сказаў Гары, усёй душой жадаючы, каб ён мог сказаць нешта больш цікавае.

- О! Паглядзі на гэтага чалавека! - сказаў раптам хлопчык, кіўнуўшы ў бок вітрыны. Там стаяў Хагрыд, усміхаючыся Гары і паказваючы яму два вялікіх марозіва і тлумачачы, што не можа зайсці.

- Гэта Хагрыд, - сказаў Гары, яму было прыемна ведаць нешта, пра што хлопчык не падазраваў. - Ён працуе ў «Хогвардсе».

- О, - сказаў хлопчык. - Я чуў пра яго. Ён накшталт слугі, ці не так?

- Ён ключнік, - сказаў Гары. Ён адчуваў з кожнай секундай усё менш і менш сімпатыі да незнаёмага хлопчыка.

- Так, дакладна пра гэта я і чуў. Ён як дзікун, жыве ў хаціне на тэрыторыі школы. Час ад часу ён напіваецца, спрабуе чараваць, але сканчаецца гэта тым, што ён падпальвае сваю пасцель.

- Я думаю, што ён класны, - сказаў Гары прахалодна.

- Ты з ім? - перапытаў хлопчык, з лёгкай насмешкай. - Чаму ён з табой? Дзе твае бацькі?

- Памерлі, - сказаў Гары хутка. Ён не адчуваў у сабе магчымасцяў працягваць бяседу з гэтым хлопчыкам.

- Вох, прабач, - сказаў той, але ў яго голасе зусім не было сораму. - Але ж яны былі з нашых?

- Яны былі чараўнікамі, калі ты пра гэта.

- Я сапраўды не думаю, што яны павінны дазваляць паступаць людзям другога сорта…? Яны ж не такія, яны ніколі не ведалі пра наш шлях. Некаторыя з іх нават не чулі пра «Хогвардс» пакуль не атрымалі ліст, ўяві сабе. Я думаю, яны павінны прымаць вучняў толькі з старых чарадзейных сем'яў. Дарэчы, а як тваё прозвішча?

Але перш чым Гары паспеў адказаць, мадам Малкін сказала: «Усё зроблена, дарагі». Гары хутка саскочыў з табурэтцы, усцешаны падставе спыніць размову з хлопчыкам.

- Ну, пабачымся ў «Хогвардсе», - сказаў манерна хлопчык.

Гары прыціх пакуль еў марозіва, набытае яму Хагрыдам (шакаладна-малінавае з драблёнымі арэхамі).

- У чым справа? - спытаў Хагрыд.

- Ні ў чым, - схлусіў Гары.

Яны спыніліся, каб купіць пергамент і пёры. Гары трохі павесялеў, калі знайшоў чарніла, што мяняла колер пад час пісьма. Калі яны выйшлі з крамы, хлопчык спытаў:

- Хагрыд, а што такое квідыч?

- Чорт, Гары, я кожны раз забываюся, як мала ты ведаеш… не ведаеш пра квідыч!

- Не прымушай мяне адчуваць сабе яшчэ горш! – сказаў Гары і распавёў Хагрыду пра бледнага хлопчыка ў мадам Малкін. - І ён сказаў, што людзей з маглаўскіх



сем'яў не павінны нават дапускаць да навучання магіяй.

- Але ты-та не з сям'і маглаў. Калі б ён ведаў, з якой ты сям'і. Ён вырас на іх імёнах у чараўніцкіх казках. Ты ж бачыў, што было ў «Дзіравым катле», калі яны пазналі. Дарэчы, лепшыя з тых, каго я бачыў часцяком аказваліся з сем'яў маглаў. Магія ў іх унутры. Паглядзі, прынамсі на сваю маму. Якая розніца з ейнай сястрой…

- Дык а што такое квідыч?

- Наш спорт. Спорт чараўнікоў. Гэта як… як хакей у свеце маглаў – кожнаму падабаецца квідыч. Гуляюць у паветры на мётлах, і там ёсць чатыры мячы. Хм, даволі цяжка растлумачыць табе правілы.

- А што такое «Слізэрын» і «Хафлпуф»?

- Школьныя факультэты. Іх чатыры. Усе кажуць, што ў «Хафлпуфе» шмат тупіц… але…

- Б'юся аб заклад, я апынуся ў «Хафлпуфе», - сказаў Гары змрочна.

- Лепш там, чым у «Слізэрыне», - сказаў Хагрыд цяжка. – Усе вядзьмаркі і чараўнікі, што абралі дрэнны шлях, вучыліся ў «Слізэрыне». Ды і Сам-Ведаеш-Хто быў адтуль.

- Вол…, прабач, Сам-Ведаеш-Хто навучаўся у «Хогвардсе»?

- Шмат гадоў таму, - адказаў Хагрыд.

Яны купілі школьныя кнігі для Гары ў краме «Флорыш і Блотс». Там паўсюдна віселі і стаялі кнігі. Яны былі самага рознага памеру: быццам брук ў скураным пераплёце, з паштовую марку ў пераплёце з шоўку, кнігі, поўныя таямнічых сімвалаў, а некалькі з іх былі ўвогуле з пустымі старонкамі.

Нават Дадлі, які ніколі нічога не чытаў, быў бы шчаслівы атрымаць некаторыя з іх.

Хагрыду амаль сілком прыйшлося адцягнуць Гары ад «Праклёнаў і закляццяў» (Ачаруй сяброў і адурмань ворагаў з новымі відамі помсты: выпадзенне валасоў, ногі-жэле, заліпанне языка і іншае) прафесара Віндзіктуса Вірыдыяна.

- Я спрабаваў даведацца, які праклён накласці на Дадлі!

- Я не ка'у, што гэта не добрая ідэя, але ты не здолееш выкарыстоўваць магію ў свеце маглаў, хіба што ў асаблівых абставінах, - сказаў Хагрыд. – У любым выпадку ты пакуль не можаш накладваць сурокі, табе да гэтага вучыцца і вучыцца.

Хагрыд не дазволіў Гары купіць кацёл з золата («у спісе сказана алавяны, значыцца алавяны»). Затое яны набылі добры набор вагаў для ўзважвання



інгрыдыентаў для зелляў і складны латунны тэлескоп.

Потым яны наведалі аптэкара. Там было настолькі цікава, што гэта кампенсавала жудасны пах (сумесь тухлых яек і згнілай капусты). Бочкі з слізнякамі стаялі на падлозе, банкі з травамі, сушанымі каранямі і яркімі парашкамі выстраіліся ўздоўж сцен; пучкі пёраў, звязкі іклаў, кіпцюроў і зубоў звісалі з-пад столі.

Пакуль Хагрыд пытаў чалавека за прылаўкам пра асноўныя інгрыдыенты для зелляў Гары, хлопчык наглядзеў срэбныя рогі аднарога па 21 галеон кожны і маленькія бліскучыя чорныя вочкі жука (пяць кнатаў за шуфлік).

Пасля аптэкі Хагрыд праверыў спіс Гары яшчэ раз.

- Цяпер пойдзем налева - за палачкай. А і яшчэ я ж да гэтага часу не падарыў табе нічога на Дзень народзінаў.

Гары адчуў, што чырванее.

- Табе не абавязкова…

- Я ведаю, што магу гэтага не рабіць. Ведаеш што, падару-ка я табе жывёліну. Не жабу, жабы выйшлі з моды шмат гадоў таму, яшчэ смяяцца будуць. І… я не люблю катоў, я ад іх чыхаю. Я набуду табе саву. Усе дзеці жадаюць мець соваў, да таго ж ад іх шмат карысці, носяць пошту і ўсё такое.

Праз дваццаць хвілінаў яны выйшлі з «Савінай імперыі Айлупса», дзе было цёмна і ўвесь час чуўся шолах крылаў і міргалі яркія залатыя вочы. Гары нёс вялікую клетку, у якой спала, засунуўшы галаву пад крыло, прыгожая снежная сава. Ён не мог спыніць свае падзякі, адчуваючы сабе як прафесар Квірэл.

- Не думай пра гэта, - сказаў Хагрыд рэзка. – Не дум’ю, што ў ця’е было шмат падарункаў ад гэтых Дурсляў. Цяпер проста хадзем у апошняе месца, якое нам трэба наведаць, - крама палачак Аліvадэраў. У цябе павінна быць найлепшая палачка.

Чароўная палачка... гэта было тое, чаго Гары чакаў з сапраўдным нецярпеннем.

Апошняя крама была вузкай і патрапанай. Абшарпанымі залатымі літарамі над дзвярыма было напісана «Алівандэры. Выраб чароўных палачак з 382 г. да н.э.» Адна палачка ляжала на выцвілай фіялетавай падушцы ў пыльнай вітрыне.

Калі яны зайшлі ўнутр, аднекуль з глыбіні крамы раздаўся званок. Гэта было маленькае месца, пустое, з мэблі там быў адно вузкае крэсла, на якое адразу ўсеўся Хагрыд.



Гары адчуваў сабе дзіўна, быццам трапіў ў бібліятэку вельмі строгіх правілаў. Ён праглынуў мноства новых пытанняў, якія толькі што прыйшлі ў галаву, і глядзеў на тысячы вузкіх скрынак, акуратна расстаўленых ажно да столі.

З нейкіх прычынаў ззаду шыі паколвала. У краме было вельмі пыльна і ціха, здавалася, што цішыня і пыл вылучалі нейкую таемную магію.

- Добры дзень, - сказаў мяккі голас.

Гары падскочыў. Хагрыд, пэўна, таксама здрыгануўся, бо пачулася гучнае храбусценне, і велікан хутка ўзняўся з крэсла.

Перад імі стаяў стары, яго вялікія, светлыя вочы ззялі, як месяц скрозь змрочную краму.

- Добры дзень, - сказаў Гары нясмела.

- Ах так, - сказаў мужчына. – Так, так. Я думаў, што хутка цябе пабачу, Гары Потэр.

Гэта не было пытанне.

- У цябе вочы тваёй маці. Быццам толькі ўчора яна прыйшла сюды, каб набыць першую сваю палачку. Дзесяць з паловай цаляў, з вярбы. Асабліва добрая для зачароўвання.

Спадар Алівандэр наблізіўся да Гары. Гары хацеў бы, каб ён змаргнуў, бо ягоныя серабрыстыя вочы былі крыху жудасныя.

- Твой бацька, з другога боку, абраў палачку з чырвонага дрэва. Адзінаццаць цаляў. Падатлівая. Трохі больш магутная і выдатна падыходзіць для пераўтварэння. Я сказаў, што твой бацька падабраў палачку, але насамрэч гэта палачка абірае сабе чараўніка.

Містар Алівандэр падышоў да Гары так блізка, што быў з хлопчыкам амаль нос да носа. Гары пабачыў сваё адлюстраванне ў туманных вачах уладара крамы.

- А, вось куды…

Спадар Алівандэр дакрануўся да шнара ў выглядзе маланкі на ілбе Гары доўгімі белымі пальцамі.

- Мне вельмі шкада сказаць, што я таксама прадаў палачку, якая зрабіла гэта, - сказаў ён ціха. - Трынаццаць з паловай цаляў. Так. Магутная палачка, вельмі магутная і трапіла ў кепскія рукі. Калі б я ведаў, што гэта палачка з’явілася на свет, каб зрабіць…



Ён паківаў галавой, а затым да палягчэння Гары павярнуўся у бок Хагрыда.

- Рубеўс! Рубеўс Хагрыд! Як прыемна бачыць цябе зноў… Дуб, шаснаццаць цаляў, гнутая, ці не так?

- Сапраўды, сэр, - адказаў Хагрыд.

- Добрая палачка. Але я мяркую, яны паламалі яе напапалам, калі цябе выгналі? - сказаў раптам спадар Алівандэр.

- Эээ, так, яны гэта зрабілі, - сказаў Хагрыд, пашоргаўшы нагамі. – Я да гэтага часу захоўваю кавалкі, - радасна дадаў ён.

- Але ты не выкарыстоўваеш іх? - спытаў колка спадар Алівандэр.

- Вох не, сэр, - сказаў Хагрыд хутка. Гары заўважыў, што ён моцна схапіўся за ружовы парасон.

- Хм, - сказаў спадар Алівандэр, узнагароджваючы Хагрыда пранізлівым поглядам. - Ну, цяпер да вас, спадар Потэр. Дайце-ка мне паглядзець.

Ён дастаў з кішэні доўгую рулетку з срэбнай маркіроўкай.

- Якой рукой вы чаруеце?

- Ээээ, ну я праўша, - сказаў Гары.

- Працягні руку. Вось і ўсё, - ён абмерыў Гары ад пляча да пальцаў, ад запясця да локця, ад пляча да падлогі, ад калена на падпахі і вакол галавы.

Пакуль праводзіў гэтыя замеры, гаспадар крамы распавядаў:

- У кожнай палачцы Алівандэра ёсць ядро з магутным магічным рэчывам, спадар Потэр. Мы выкарыстоўваем поўсць аднарогаў, пер’е з хвастоў феніксаў і струны сэрцаў драконаў. Няма двух аднолькавых палачак Алівандэра, як няма двух аднолькавых аднарогаў, драконаў, Феніксаў і г.д. І, вядома, вы ніколі не атрымаеце такіх добрых вынікаў з іншай чароўнай палачкай.

Гары нечакана зразумеў, што рулетка, якая абмярала у гэты момант ягоны нос, робіць гэта сама па сабе. Сп-р Алівандэр ўжо лётаў вакол паліц, здымаючы скрынкі.

- Зроблена, - сказаў гаспадар крамы, і рулетка ўпала няроўнай кучкай на падлогу. – Так, спадар Потэр, паспрабуйце гэтую. Бяроза і струны сэрца цмока. Дзевяць цаляў. Прыемная і мяккая. Проста вазьміце і махніце.

Гары ўзяў палачку і (адчуваючы сабе поўным ёлупнем) трохі памахаў ёю вакол. Спадар Алівандэр адабраў яе амаль адразу.

- Клён і пер’е фенікса, сем цаляў. Вельмі гнуткая. Паспрабуйце.

Гары спрабаваў, але не паспеў падняць палачку, як і яе таксама вырваў у яго з рук спадар Алівандэр.

- Не, не! Вось з чорнага дрэва і з валасамі аднарога, восем з паловай цаляў, пругкая. Працягвай, працягвай, паспрабуй яе.

Гары спрабаваў. І паспрабаваў. Ён не ведаў, што спадар Алівандэр шукае для



яго. Куча паспрабаваных палачак на тонкім крэслы станавілася ўсё вышэй, але чым больш тавару Алівандэр сцягваў з паліцаў, тым шчаслівей ён, здавалася, станавіўся.

- Хітры кліент, га? Не хвалюйся, мы знойдзем ідэальны варыянт вось тут… недзе… Мне становіцца ўжо цікава. Так, чаму б і не… незвычайная камбінацыя… Востраліст і пяро Фенікса, адзінаццаць цаляў, прыемная і падатлівая.

Гары ўзяў палачку. Ён адчуў раптоўнае цяпло ў пальцах. Хлопчык падняў палачку над галавой, са свістам апусціў яе праз пыльнае паветра. Струмень чырвоных і залатых іскраў стрэліў з яе канца, як феерверк, пакідаючы плямы святла на сценах. Хагрыд закрычаў і запляскаў у ладкі. А спадар Алівандэр усклікнуў:

- Ах, брава! Так, сапраўды, вох, вельмі добра. Ну, добра, добра ... як цікава… як вельмі цікава...

Ён паклаў палачку Гары назад у скрынку і загарнуў яе ў карычневую паперу, усё яшчэ мармычучы: «Цікава ... цікава».

- Прабачце, - сказаў Гары. – Але што менавіта цікава?

Спадар Алівандэр сфакусіраваў на Гары цьмяны позірк.

- Я памятаю кожную палачку, якую прадаваў калі-небудзь у жыцці, спадар Потэр. Кожную палачку. Так здарылася, што фенікс, пяро з хваста якога ў вашай палачцы, даў іншае пяро - толькі адно. Вельмі цікава, што вы прызначаныя для гэтай палачцы, калі яе сястра пакінула вам вось гэты шнар.

Гары зглытнуў.

- Так, трынаццаць з паловай цаляў. Фью. Цікава, на самай справе, як гэтыя рэчы адбываюцца. Палачка абірае чараўніка, не забудзьцеся. Я думаю, мы павінны чакаць выбітных рэчаў ад вас, спадар Потэр… У рэшце рэшт, Той-Каго-Нельга-Называць учыняў вялікія рэчы. Жахлівыя, але вялікія.

Гары здрыгануўся. Ён не быў упэўнены, што яму вельмі спадабаўся спадар Алівандэр. Ён заплаціў за палачку сем залатых галеонаў, і Алівандэр праводзіў іх з сваёй крамы.

Ужо быў вечар, сонца вісела нізка над гарызонтам, калі Гары і Хагрыд пайшлі зваротным шляхам ўніз па Касым завулку, потым праз сцяну, праз «Дзіравы кацёл», зараз зусім пусты.



Пакуль яны ішлі, Гары наогул не размаўляў, ён нават не заўважыў, як шмат людзей глядзела на іх у метро, калі яны былі нагружаныя ўсімі гэтымі дзіўнымі і смешнымі рэчамі. Клетка з палярнай савой стаяла на каленях Гары.

Пад'ём на іншым эскалатары, у станцыі «Падзінгтон». Гары зразумеў, дзе яны, толькі калі Хагрыд паляпаў яго па плячы.

- Ёсць трохі часу, каб перакусіць перад тваім цягнікам.

Велікан набыў Гары гамбургер, і яны селі на пластыкавыя крэслы, каб пад'есці. Гары агледзеўся. Усё чамусьці выглядала так дзіўна.

- Усё нармальна, Гары? Нешта ты вельмі маўклівы, - сказаў Хагрыд.

Гары не быў упэўнены, што можа растлумачыць. У яго быў найлепшы Дзень народзінаў у жыцці, і таму ён жаваў свой гамбургер, спрабуючы знайсці словы.

- Усе думаюць, што я асаблівы, - сказаў хлопчык урэшце. – І тыя людзі ў «Дзіравым катле», прафесар Квірэл, містэр Алівандэр… Але я зусім нічога не ведаю пра магію. Як яны могуць чакаць ад мяне нейкіх выбітных рэчаў? Я знакаміты, і я не магу нават успомніць, з чаго гэта. Я не ведаю, што адбылося, калі Вол-, прабачце… я маю на ўвазе, той ноччу, калі мае бацькі памерлі.

Хагрыд перагнуўся цераз стол. За дзікай барадой і бровамі, ён усміхаўся вельмі добрай усмешкай.

- Не хвалюйся ты, Гары. Ты навучышся досыць хутка. Усе пачынаюць з навічкоў у «Хогвардсе», там табе будзе файна. Проста будзь сабой. Я ведаю, што гэта цяжка. Ты вылучаны, і гэта заўсёды цяжка. Але ў «Хогвардсе» табе будзе супер, мне было, і зараз там добра, дарэчы.

Хагрыд дапамог Гары сесці на цягнік, які адвязе яго назад да Дурсляў, потым аддаў яму канверт.

- Тв'й квіток да «Хогвардса», - сказаў ён. - Першага верасня будзь на «Кінгс Крос» – гэта ўсё ёсць на тваім білеце. Калі будуць нейкія праблемы з Дурслямі, дашлі мне ліст з савой. Яна будзе ведаць, дзе мяне знайсці… Хутка пабачымся, Гары.

Цягнік паехаў ад станцыі. Гары хацеў бачыць Хагрыда, пакуль яшчэ была такая магчымасць. Хлопчык прыўстаў і прыціснуўся носам да вакна, але міргнуў, і велікан знік.



# Частка шостая

## Падарожжа з платформы дзевяць і тры чвэрці

Апошні месяц у Дурсляў для Гары прайшоў нявесела. Праўда, Дадлі цяпер так баяўся яго, што адмаўляўся знаходзіцца з ім у адным пакоі. У той жа час цётка Пятуння і дзядзька Вернан не зачынялі Гары ў ягонай каморы, нічога не прымушалі яго рабіць, не крычалі на яго… На самай справе, яны не гаварылі з ім наогул.

Напалову ад жаху, напалову ад злосці, яны рабілі выгляд, быццам нават крэсла, калі на ім сядзеў Гары не існавала. Хоць з большага гэта было паляпшэннем адносінаў, але ў выніку праз нейкі час такія стасункі пачалі прыгнятаць.

З большага Гары сядзеў у сабе ў пакоі у кампаніі з новай савой. Ён вырашыў называць яе Букля, імя, якое ён знайшоў у кнізе па гісторыі магіі. Падручнікі аказаліся вельмі цікавымі. Ён ляжаў і чытаў іх да позняй ночы.

Букля вылятала з адкрытага акна, калі хацела. Пашанцавала, што цётка Пятуння больш не пыласосіла пакой, бо сава абавязкова прыносіла з сабой мёртвых мышэй.

Кожную ноч, перад тым, як заснуць, Гары выкрэсліваў дзень у самаробным календары, адлічваючы, колькі часу засталося да першага верасня.

У апошні дзень жніўня ён падумаў, што трэба б было пагаварыць з цёткай і дзядзькам, каб яны заўтра яго падкінулі да станцыі «Кінгс крос». Хлопчык спусціўся ў гасціную, дзе Дурслі ўсёй сям'ёй глядзелі віктарыну па тэлебачанні. Гары пакашляў, каб яны зразумелі, што ён тут, і Дадлі закрычаў і выбег з пакоя.

- Эээ, дзядзька Вернан?

Дзядзька Вернан хмыкнуў, каб паказаць, што чуе.

- Мммм, я павінны быць заўтра на «Кінгс крос», каб паехаць у «Хогвардс».

Дзядзька Вернан хмыкнуў яшчэ раз.

- Вы не маглі б мяне туды падвесці?

Хмыканне. Гары спадзяваўся, што гэта значыла «так».

- Дзякуй.

Ён амаль пайшоў наверх, калі дзядзька загаварыў.

- Забаўны спосаб дабрацца да школы чараўнікоў - цягнік. Усе магічныя дываны з'ела моль?

Гары нічога не сказаў.

- Дык, а дзе тая школа?

- Я не ведаю, - нечакана для сабе хлопчык зразумеў, што сапраўды гэтага не ведае. Ён выцягнуў з кішэні квіток, які даў яму Хагрыд.

- Я проста павінны сесці на цягнік, які адыходзіць ад платформы дзевяць і тры з чвэрцю ў 11 гадзінаў, - зачытаў Гары.

Дзядзька і цётка ўставіліся на яго.

- Якой платформы?

- Дзевяць і тры з чвэрцю.

- Не кажы лухту, - сказаў Вернан. – Няма такой платформы – дзевяць і тры з чвэрцю.

- Гэта ў маім квітку.

- Лухта, - сказаў дзядзька Вернан, - з’ехаўшыя зглузду вар’яты. Вось пабачыш. Ладна, заўтра мы адвязем цябе на «Кінгс Крос». Мы ў любым выпадку заўтра выбіраемся у Лондан, інакш я б не паехаў.

- Чаму вы збіраецеся ў Лондан? - Гары паспрабаваў падтрымаць прыязную размову.

- Адвязем Дадлі ў шпіталь! - прабурчаў дзядзька Вернан. - Трэба ж выдаліць ягоны жахлівы хвост, пакуль ён не пайшоў у «Смелтынгз».

***

Гары прачнуўся ў пяць гадзін раніцы і быў занадта ўсхваляваны і нерваваўся, каб зноў заснуць. Ён устаў і нацягнуў джынсы, бо не хацеў ісці на станцыю ў вопратцы чараўнікоў. Хлопчык збіраўся пераапрануцца ў цягніку.

У выніку ён пачаў усё пераправяраць: спіс рэчаў, патрэбных для «Хогвардса», ці надзейна зачыненая ў клетцы Букля. Потым ён доўга хадзіў з савой па пакоі, чакаючы, пакуль Дурслі ўстануць.

Праз дзве гадзіны велізарны, цяжкі куфар Гары быў засунуты ў багажнік машыны Дursляў, цётка Пятуння ўгаварыла Дадлі сесці побач з Гары, і яны паехалі.

Яны дабраліся да «Кінгс-Крос» у палову на адзінаццатую. Дзядзька Вернан перакінуў куфар Гары ў цялежку і пакаціў наперад. Гары падумаў, што гэта ўсё вельмі дзіўна для ягонага сваяка, але тут дзядзька Вернан спыніўся перад выхадам на платформы, павярнуўшыся да Гары з непрыемнай усмешкай на твары.

- Ну, хлопчык, мы тут. Платформа девять… Платформа дзесяць. Твая платформа павінна быць дзесьці пасярэдзіне, але яны, падобна, не пабудавалі яе, як думаеш?

Ён цалкам меў рацыю. Тут быў вялікі пластыкавы нумар дзевяць над адной платформай і вялікі пластыкавы нумар дзесяць – над другой. А пасярэдзіне не было нічога.

- Добрага настрою, - заявіў дзядзька Вернан з нават больш брыдкай усмешкай. Больш ён не сказаў нічога і сышоў. Гары павярнуўся і ўбачыў, як Дурслі з’язжалі. Усе трое смяяліся.

У Гары ў роце перасохла. Што ж яму рабіць далей? Яны з Букляй ужо пачалі прыцягваць цікаўныя позіркі. Трэба было ў кагосьці спытацца.

Ён спыніў ахоўніка, які праходзіў міма, але не адважыўся прыгадаць платформу дзевяць і тры чвэрці. Ахоўнік ніколі не чуў пра «Хогвардс», і калі Гары нават не змог сказаць яму, у якой частцы краіны гэта было, ён пачаў раздражняцца, быццам Гары спецыяльна прыкідваўся ёлупням.

Адчуваючы, як у душы ўздымаецца адчай, Гары запытаўся пра цягнік, які ад›язджаў у 11:00, але ахоўнік сказаў, што такога няма. У рэшце рэшт, ахоўнік пайшоў прэч, мармычучы пра змарнаваны час. Хлопчык намагаўся не панікаваць.




На вялікім гадзінніку над табло было ўжо без дзесяці адзінаццаць, значыцца, заставалася яшчэ дзесяць хвілінаў, каб знайсці цягнік на «Хогвардс». Але Гары паняцця не меў, як гэта зрабіць. Ён стаяў пасярэдзіне станцыі з куфарам, які ён ледзь мог падняць, кішэнямі, поўнымі грошаў чараўнікоў, і вялікай клеткай з савой.

Хагрыд, мабыць, забыўся сказаць яму нешта важнае пра тое, што яму трэба зрабіць. Ну тыпу, як, націснуўшы трэцюю цэглу злева, трапіць у Касы завулак. Ён раздумваў, каб дастаць палачку і пагрукаць ёй паміж платформамі дзевяць і дзесяць.

У гэты момант нейкія людзі прайшлі зусім блізка ад яго, і ён злавіў некалькі слоў з іх размовы.

- … усё забіта магламі…

Гары крутануўся на месцы. Аказалася гэта казала поўная жанчына, якая ішла з чатырма хлопчыкамі, усе з ярка рудымі валасамі. Кожны з іх штурхаў куфар, як і Гары, і ў іх была сава.

Сэрца забілася мацней. Гары штурхнуў свой вазок ўслед за імі. Яны спыніліся, а ён аказаўся гэтак жа досыць блізка ад іх, каб пачуць тое, што яны казалі.

- Якая там платформа? - запыталася маці хлопчыкаў.

- Дзевяць і тры чвэрці! – піскнула рудая маленькая дзяўчынка, якая трымала жанчыну за руку. - Мама, а мне нельга паехаць?

- Ты яшчэ маленькая, Джыні, зараз паводзь сабе ціха. Добра, Персі, ідзі першым.

Выглядала, што старэйшы хлопчык зараз пройдзе паміж платформамі дзевяць і дзесяць. Гары глядзеў, стараючыся не міргаць, каб нічога не прапусціць, але як толькі незнаёмы хлопчык дасягнуў бар›ера паміж двума платформамі, вялікі натоўп турыстаў перакрыў увесь далягляд. Гары не пабачыў нічога, пакуль не знік апошні заплечнік, а да таго моманту хлопчыка ўжо не было.

- Фрэд, ты наступны, - сказала поўная жанчына.

- Я не Фрэд, я Джордж, - сказаў хлопчык. – І гэтая жанчына называе сябе нашай маці? Кара, вы кажаце, я Джордж?

- Прабач, Джордж, мілы.

- Я проста пажартаваў, я Фрэд, - сказаў хлопчык і сышоў. Яго маці пракрычала наўздагон, каб ён паспяшаўся, і, пэўна, ён гэта зрабіў, бо праз секунду знік. Але як ён гэта зрабіў?

Цяпер трэці брат бадзёра ішоў да бар›ера, ён быў там, а потым раптам яго таксама не стала. Ад яго не засталося ні следу.

- Прабачце, - Гары падышоў да пухлай жанчыны.

- Прывітанне, дарагі, - сказала яна. – Першы раз едзеш у «Хогвардс»? Рон таксама навічок.



Яна паказала на апошняга і малодшага з сваіх сыноў. Ён быў высокі, худы і цыбаты, з вяснушкамі, вялікімі рукамі і нагамі і доўгім носам.

- Так, сказаў Гары. - Справа ў тым… справа ў тым… я не ведаю, як…

- Як патрапіць на платформу? - спытала яна ласкава, і Гары кіўнуў.

- Не хвалюйся. Усё, што ты павінны зрабіць, гэта прайсці праз бар’ер паміж платформамі дзевяць і дзесяць. Не спыняйся і не бойся, што ты стукнешся аб яго. Гэта вельмі важна. Лепей рабі гэта разбегу, калі хвалюешся. Ідзі зараз, ідзі раней за Рона.

- Ээээ, добра, - адказаў Гары.

Ён пачаў разварочваць сваю цялежку ў бок бар’ера. Сценка выглядала вельмі цвёрдай. Але Гары пайшоў на яе.

Людзі штурхалі яго на шляху да платформаў дзевяць і дзесяць. Гары пайшоў хутчэй. Зараз ён урэжацца прама ў гэты бар›ер, вось будзе бяда. Хлопчык нахіліўся наперад і пакаціў цялежку бягом. Сценка была ўсё бліжэй. Але зараз ён ужо не мог спыніцца, цялежка выйшла з-пад кантролю. Ён быў можа ў паўметра ад бар’ера… Гары заплюшчыў вочы гатовы да аварыі.

Удару не было! Ён працягваў бегчы… Гары расплюшчыў вочы. Пунсовы паравоз стаяў побач з платформай, набітай людзьмі. Знак зверху паведамляў: «Хогвардс-Экспрэс, 11:00». Гары азірнуўся назад і ўбачыў каваную арку у тым месцы, дзе былі платформы дзевяць і дзесяць. На шыльдзе над ёй было напісана: «Платформа дзевяць і тры чвэрці».




Неверагодна, але ён гэта зрабіў!

Дым ад паравоза ляцеў над галовамі людзей, якія бесперапынна балбаталі. У гэты ж час коткі ўсіх колераў блыталіся у іх паміж ног. Совы незадаволена гулі адна адной, распавядаючы нешта праз гул галасоў і скрып цяжкіх куфраў.

Першыя некалькі вагонаў былі ўжо запоўненыя вучнямі. Некаторыя з іх звешваліся з вакна, каб пагаварыць са сваімі сем›ямі, некаторыя змагаліся за месцы. Гары штурхнуў сваю каляску ўніз па платформе ў пошуках вольнага месца.

Ён мінуў круглатварага хлопчыка, які сказаў:

- Бабуля, я зноў згубіў маю жабу.

- Вох, Нэвіл, - Гары пачуў уздых старой жанчыны.

Хлопчык з дрэдамі быў акружаны невялікім натоўпам.

- Дай нам паглядзець, Лі, давай жа.

Хлопчык падняў вечка скрыні ў яго руках, і людзі вакол яго завішчалі і закрычалі, калі адтуль вылезла доўгая, валасатая нага.

Гары прабіраўся скрозь натоўп пакуль не знайшоў пустое купэ бліжэй да канца цягніка. Ён занёс клетку з Букляй ўнутр першай, а затым пачаў штурхаць і запіхваць свой куфар праз дзверы вагона. Хлопчык паспрабаваў падняць яго уверх па лесвіцы, але здолеў прыпадняць адзін канец і ў выніку двойчы ўпусціў багаж, які грымнуўся прама яму на нагу.

- Памагчы? – гэта быў адзін з рудавалосых блізнятаў, які прайшоў нядаўна праз бар’ер.

- Так, калі ласка, - задыхаўся Гары.

- Ёў, Фрэд! Ідзі сюды і дапамажы!

З дапамогай блізнятаў здаравенны куфар Гары быў, нарэшце, схаваны ў куце купэ.

- Дзякуй, - сказаў Гары, прыбраўшы потныя валасы з вачэй.

- Што гэта? - запытаўся адзін з блізнятаў раптам, паказваючы на шнар у выглядзе маланкі на ілбе Гары.

- Чорт! – сказаў іншы. – Ты…?

- Ён, - сказаў першы. – Хіба ты?

- Што? - спытаў Гары.

- Гары Потэр, - сказалі хорам яны.

- Так, ён, - адказаў Гары. - Я хачу сказаць, так, гэта я.



Два хлопчыка глядзелі на яго ва ўсе вочы, і Гары адчуў, што чырванее. Да яго аблягчэння праз адчыненыя дзверы цягніка пачуўся голас:

- Фрэд? Джордж? Вы тут?

- Ідзем, мам.

Кінуўшы апошні позірк на Гары, блізняты выскачылі з цягніка.

Гары сеў каля вакна, дзе, напалову схаваўшыся, мог назіраць за рудавалосай сям›ёй на платформе і чуць тое, што яны казалі. Іх маці толькі што дастала з кішэні насоўку.

- Рон, у цябе нешта на носе.

Малодшы хлопчык паспрабаваў ірвануць у бок, але яна схапіла яго і пачала церці кончык носа.

- Мама, адчапіся! - ён вывернуўся.

- Ааааx у мыскі Роні нешта на носіку? - сказаў адзін з блізнятаў.

- Заткніся, - сказаў Рон.

- Дзе Персі? – запыталася іх маці.

- Ужо ідзе.

Старэйшы сын акуратна прыйшоў аднекуль збоку. Ён ужо пераапрануўся ў форму «Хогвардса»: чорная мантыя лунала за ім, і Гары заўважыў бліскучы срэбраны значок на ягоных грудзях з літарай «С».



- Не магу доўга заставацца, мама, - сказаў ён. – Я пайду наперад, там у старастаў два купэ.

- О! Дык ты стараста, Персі? – спытаў адзін з блізнятаў, з вялікім здзіўленнем. - Вось сюрпрыз. Ты павінен быў сказаць нам пра гэта, мы-та паняцця не мелі.

- Пачакай, я думаю, што памятаю, як ён казаў нешта пра гэта, - сказаў другі блізнюк. - Аднойчы.

- Ці два разы.

- Хвіліну.

- Усё лета.

- Вох, змоўкніце, - сказаў Персі-стараста.

- А як так Персі атрымаў новае адзенне? – запытаўся адзін з блізнят.

- Таму што ён стараста, - сказала іх маці з захапленнем. – Так, добра, дарагі, добрай дарогі і вучобы. Дашлі мне саву, адразу, калі дабярэцеся.

Яна пацалавала Персі ў шчаку, і ён сышоў. Затым яна павярнулася да блізнятаў.

- Цяпер вы двое, у гэтым годзе вы паводзьце сабе нармальна. Калі я атрымаю яшчэ адну саву з паведамленнем, што вы ўзарвалі прыбіральню або…

- Узарвалі прыбіральню? Мы ніколі не ўзрывалі прыбіральняў.

- Выдатная ідэя, дзякуй, матуля.

- Гэта не смешна. І прыглядвайце за Ронам.

- Не хвалюйся, мыска Ронікінс будзе з намі ў бяспецы.

- Заткніся, - сказаў Рон зноў. Ён быў амаль такі высокі як блізняты, і кончык

ягонага носу ўсё яшчэ быў ружовы з-за таго, што маці пацерла яго.
- Ха, мама, што ты думаеш? Адгадай, з кім мы толькі што пазнаёміліся ў цягніку?
Гары хутка адсунуўся ад вакна, каб яны не маглі яго заўважыць.
- Ты ведаеш, хто той чорнавалосы хлопчык, які быў побач з намі на станцыі?
- Хто?
- Гары Потэр!
Гары пачуў голас маленькай дзяўчынкі.
- Вой, мам, можна мне пайсці ў цягнік і паглядзець на яго? Мама, ну калі ласка…
- Ты ўжо бачыла яго, Джыні, і бедны хлопчык не слон у заапарку, каб ты на яго таращчыла вочы. Гэта сапраўды ён, Фрэд? Як ты даведаўся?
- Запытаўся ў яго. Ну і пабачыў ягоны шнар. Ён у яго сапраўды як маланка.
- Небарака, нездарма ён быў адзін, я здзівілася. Ён быў такі ветлівы, калі спытаў, як патрапіць на платформу.
- Думаеш, ён памятае, як Самі-Ведаеце-Хто выглядаў?
Голас іх маці раптам стаў жорсткім.
- Я забараняю вам пытацца пра гэта ў яго, Фрэд. Не, не смей. Як быццам ён мае патрэбу згадкаў пра гэта ў ягоны першы дзень у школе.
- Добра, не гарачыся.
Пачуўся свісток.
- Паспяшайцеся! - сказала іх маці, і тры хлопчыка ўлезлі ў цягнік. Яны вылезлі з вакна пацалавацца на развітанне, а іх малодшая сястра заплакала.
- Не трэба, Джыні, мы вышлем вам кучу соваў.
- Мы дашлём вам крышку ад унітаза ў «Хогвардсе».
- Джордж!
- Я толькі жартую, мам.
Цягнік крануўся. Гары ўбачыў хлопчыкаў, іх маці, якая махала ім на развітанне, і сястру, якая напалову смеючыся, напалову плачучы, бегла за цягнікам, пакуль ён не набраў хуткасці. Урэшце рэшт, дзяўчынка ўпала і, лежачы, таксама пачала махаць.
Пасля павароту дзяўчынка і яе маці зніклі з далягляду. Міма праносіліся дамы мільгалі вокны. Гары адчуваў вялікі ўздым і ўзбуджэнне. Ён не ведаў, што будзе надалей, але гэта павінна было быць лепш, чым тое, што ён пакідаў ззаду.
Дзверы купэ слізганулі ўбок і адчыніліся перад і меншым з рудых хлопчыкаў.
- Тут хто-небудзь сядзіць? – запытаўся ён, паказваючы на крэсла насупраць Гары. - У астатніх купэ ўсё занята.
Гары паматаў галавой, і хлопчык сеў. Ён паглядзеў на Гары і потым хутка зірнуў у вакно, быццам і не глядзеў зусім. Гары заўважыў, што чорная плямка з ягонага носа так і не адцерлася.
- Прывітанне, Рон.
Вярнуліся блізняты.
- Слухай, мы пойдзем на сярэдзіну цягніка. Лі Джордан вязе там вялікага тарантула.
- Добра, - прамармытаў Рон.
- Гары, - сказаў другі блізнюк. – Мы не прадставіліся. Фрэд і Джордж Уізлі. І гэта

Рон, наш брат. Пабачымся пазней.

- Пакуль, - сказалі Гары і Рон. Дзверы за блізнятамі слізнулі на месца, зачыніўшыся.

- Ты сапраўды Гары Потэр? – вырвалася ў Рона.

Гары кіўнуў.

- Ой, ну, я думаў, што гэта можа быць адным з жартаў Фрэда і Джорджа, - сказаў Рон. - А ты сапраўды атрымаў… ты ведаеш…

Ён паказаў на лоб Гары.

Гары прыбраў чолку, каб паказаць шнар у форме маланкі. Рон утаропіўся на яго.

- Дык вось куды Самі-Ведаеце-Хто…

- Так, - сказаў Гары, - але я нічога не памятаю.

- Зусім нічога? - спытаў сказаў Рон нецярпліва.

- Ну, я памятаю шмат зялёнага святла, але не больш за гэта.

- Ваў, - сказаў Рон. Ён сеў і ўважліва глядзеў на Гары некалькі імгненняў, потым як быццам раптам зразумеўшы, што рабіў нешта не тое, хутка зноў перавёў позірк на вакно.

- Ці ўсё у вашай сям'і чараўнікі? - спытаў Гары, якому Рон быў гэтак жа цікавы, як Рону ён.

- Ээээ. Так, я думаю, - сказаў Рон. - Я думаю, што траюрадны брат мамы працуе бухгалтарам, але мы ніколі не гаворым пра яго.

- Такім чынам, ты ўжо, пэўна, усё ведаеш пра магію.

Уізлі, відавочна, была адна з тых старых чарадзейных сем›яў, пра якіх казаў бледны хлопчык у Касым завулку.

- Я чуў, ты жыў з маглямі, - сказаў Рон. - Якія яны?

- Жахлівыя. Не ўсе, канечне. Мае цётка, дзядзька і стрыечны брат – так. Жадаў бы я мець трох братоў-чараўнікоў.

- Пяцёх, - сказаў Рон. З нейкіх прычынаў ён стаў змрочным. - Я шосты у нашай сям'і еду ў «Хогвардс». Можна сказаць з гэтай нагоды, што ў мяне ёсць да чаго імкнуцца, каб апраўдаць рэпутацыю сям'і. Біл і Чарлі ўжо з'ехалі. Біл быў лепшым вучням школы, і Чарлі быў капітанам каманды па квідычу. Цяпер Персі стаў старастам. Фрэд і Джордж шмат хуліганяць, але ўсё роўна атрымліваюць добрыя адзнакі, і ўсе думаць, што яны вельмі смешныя.

Усе чакаюць ад мяне, што я буду рабіць усё так жа добра, як астатнія, але калі я гэта сапраўды зраблю, гэта не вялікае дасягненне, таму што яны зрабілі гэта першымі. Ты ніколі не атрымаеш нічога новага ў сям'і з пяццю братамі. У мяне старая вопратка Біла, старая палачка Чарлі і стары пацук Персі.

Рон залез за пазуху і выцягнуў тоўстага шэрага пацука, які спаў.

- Яго імя Скэберс, і ад яго ніякай карысці, ён амаль ніколі не прачынаецца. Персі атрымаў саву ад таты за тое, што стаў старастам, але пасля гэтага яны ўжо не маглі афф… Я маю на ўвазе, што я атрымаў Скэберса.

Вушы Рона сталі ружовымі. Здавалася, ён думаў, што сказаў занадта шмат, таму што зноў пачаў глядзець ў акно.

Гары не думаў, што было нешта такое ў тым, што Рон не мог дазволіць сабе саву. У рэшце рэшт, у яго ў жыцці ніколі не было грошаў, яшчэ месяц таму. Ён распавёў



Рону усё пра тое, як ён вымушаны быў насіць старую вопратку Дадлі, ніколі не атрымліваў нармальных падарункаў на дзень нараджэння. Гэта, здавалася, падняла Рону настрой.

- … і пакуль Хагрыд не забраў мяне, я не ведаў нічога пра чараўнікоў ці пра пра маіх бацькоў ці Валдэморта.

Рон застыў.

- Што? – спытаў Гары.

- Ты сказаў імя Сам-Ведаеш-Каго! - сказаў адначасова ўзрушана і ўражана Рон. - Я думаў ты будзеш апошнім, хто…

- Я не спрабую быць адважным або што-небудзь такое, прамаўляючы ягонае імя, - сказаў Гары. – Я проста ніколі не ведаў, што не павінен гэтага рабіць. Разумееш, што я маю на ўвазе? Я спрабую навучыцца… Б’юся аб заклад, - дадаў ён, сказаўшы ўслых ў першы раз нешта, што часцяком турбавала яго у апошні час, - спрачаемся, што я буду горшым у класе.

- Ты не будзеш. Прыходзіць шмат людзей з маглаўскіх сем’яў, яны вучацца даволі хутка.

Пакуль хлапцы размаўлялі, цягнік нёс іх з Лондана. Цяпер яны імчалі міма палёў поўных кароў і авечак. На нейкі час яны сціхлі, назіраючы за палямі і сцежкамі, якія праносіліся міма.

Каля 12:30 за дзвярыма з калідору пачулася гучнае грукатанне, і ўсмешлівая жанчына з ямачкамі на шчаках адчыніла купэ і сказала:

- Не жадаеце штосьці набыць?



Гары, у якога не было сняданка, ускочыў, але Рон, вушы якога зноў паружавелі, прамармытаў, што ўзяў з сабой бутэрброды. Гары выйшаў у калідор.

У Дурсляў ён ніколі не меў ніякіх грошай на цукеркі і цяпер, калі ў яго былі поўныя кішэні золата і срэбра, ён быў гатовы купіць столькі шакаладу, колькі здолее знесці.

Але ў жанчыны не было звыклага «Марсу», у ейным вазку былі Усесмачныя арэшкі Бэці Бот, жуйкі-узрывалкі, шакаладныя жабкі, гарбузовае печыва, тарты «Каўдрон», салодкія палачкі і шэраг іншых дзіўных рэчаў, якіх Гары ніколі не бачыў у жыцці. Не жадаючы прапусціць анічога, ён набыў усяго патроху і заплаціў жанчыне 11 срэбраных сіклаў і 7 бронзавых кнатаў.

Гары прыцягнуў гэта ўсё ў купэ і згрузіў на вольнае месца, атрымаўшы здзіўлены позірк Рона.

- Такі галодны?

- Вельмі, - сказаў Гары, узяўшы вялікі кавалак гарбузовага печыва.

Рон дастаў пухлы пакет і разгарнуў яго. Унутры былі чатыры бутэрброды. Ён выцягнуў адзін, адляпіў адзін ад аднаго і сказаў:

- Яна заўсёды забывае, што я не люблю саланіну.

- Давай мяняцца, - сказаў Гары, паказваючы на гарбузнае печыва.

- Табе не спадабаецца, яны сухія, - сказаў Рон. – У яе не стае часу, - дадаў ён хутка. – усё ж пяць дзяцей.

- Вой ды ладна, бяры печыва. - сказаў Гары, які ніколі не меў нічога, чым можна б было падзяліцца. Гэта было прыемнае пачуццё, сядзець з Ронам і разам спрабаваць пірагі, піражныя, і цукеркі (бутэрброды ляжалі забытыя).

- Што гэта? - спытаў Гары Рона, трымаючы ў руках пачак шакаладных жабак. – Там жа не сапраўдныя жабы?

Ён пачынаў адчуваць, што ніштo не магло здзівіць яго.

- Неее, - адказаў Рон. – Але не забудзься паглядзець, якая там унутры картка. Я так і не знайшоў Агрыпу.

- Што?

- Ну канечне, ты не ведаеш. У шакаладных жабках ёсць карткі, унутры, ну ты ведаеш, для калекцыянавання, на іх знакамітыя чараўнікі і вядзьмаркі. Я з'еў іх, пэўна, соцень пяць, але так і не знайшоў Агрыпу ці Пталемея.

Гары ўскрыў жабку і дастаў картку. На ёй быў мужчына. На носе у яго былі акуляры ў форме паўмесяца, у яго быў даўгі кручкаваты нос і сівыя валасы, барада з вусамі. Пад малюнкам было напісана: Альбус Дамблдлор.

- Аааа вось ён які, Дамблдлор! - адзначыў Гары.

- Не кажы мне, што ты ніколі не чуў пра Дамблдора! – сказаў Рон. – Можна я вазьму жабку? Спадзяюся, там будзе Агрыпа. Дзякуй.

Гары перавярнуў картку і прачытаў:



Альбус ДАМБЛДЛОР
Дзеючы дырэктар школы "Хогвардс"

На думку многіх, найвялікшы чараўнік сучаснасці. Асабліва вядомы Дамблдлор паразай цёмнага чараўніка ў Грындэвальдсе ў 1945 годзе, адкрыццём дванаццаці спосабаў выкарыстання драконавай крыві і яго работамі па алхіміі з Нікаля Фламелем.

Прафесар Дамблдлор любіць камерную музыку і гульню ў боўлінг.

Гары перавярнуў карту назад і ўбачыў, да свайго здзіўлення, што твар Дамблдлора знік.

- Ён сышоў!

- Ну, ты ж не думаў, што ён будзе тырчаць тут увесь дзень, - сказаў Рон. - Ён

яшчэ вернецца. Не, у мяне зноў Маргана, і ў мяне ёсць каля шасці картак з ёй… Табе не трэба? Заадно можаш пачаць збіраць.

Рон уставіўся на кучу шакаладных жабак, якія былі яшчэ не адчыненыя.

- Давай сам, - сказаў Гары. – Але ў маглаўскім свеце людзі на фотаздымках не рухаюцца.

- Няўжо яны...? Што, яны не рухаюцца наогул? – перапытаў Рон. - Дзіўна!

Гары ва ўсе вочы глядзеў, як Дамблдлор бачком вярнуўся у малюнак на сваёй карце і ўсміхнуўся яму. Рон быў больш зацікаўлены ў паяданні жабак, чым у разглядванні вядомых чараўнікоў і чараўніц, але Гары глядзеў толькі на іх. Неўзабаве ён пабачыў не толькі Дамблдлора і Маргану, але Хенгіста Вудкрофта, Альберыка Груніёна, Цырцею, Парацэльса і Мэрліна.

Ён, нарэшце, адарваўся ад друіда Гліёдны, якая часала нос, каб адчыніць пакунак з арэшкамі Бэці Бот.

- З гэтым трэба быць паасцярожней, - папярэдзіў Рон. – Калі яны кажуць усе смакі, ты ведаеш, яны робяць іх і са звычайным смакам шакаладу ці мармеладу, але там можна знайсці і шпінат, печань і рубец. Джордж клянецца, што аднойчы яму трапіўся арэх са смакам сопляў.

Рон ўзяў зялёны арэх у форме фасолі, паглядзеў на яго ўважліва і адкусіў кавалак.

- Бууэээээ! Бачыш, нейкія парасткі!

Яны добра бавілі час, паядаючы арэшак за арэшкам. Гары паспрабаваў са смакам тосту, какоса, запечанай фасолі, клубніцы, кары, травы, кавы, сардзінаў і быў нават настолькі адважным, каб з’есці кавалак дзіўнага шэрага арэха, які Рон катэгарычна адмовіўся чапаць. Арэх быў з перцам.

Сельская мясцовасць, якая пралятала міма вакна, станавіўся дзікай. Акуратных палёў ужо не было. Цяпер былі лясы, звілістыя рэкі і цёмна-зялёныя пагоркі.

Нехта пагрукаў, і у дзверы і ўвайшоў круглатвары хлопчык, знаёмы Гары па сцэне на платформе. Ён быў заплаканы.

- Прабачце, - сказаў ён, - але вы не бачылі жабу?

Калі яны пахісталі галовамі, ён закрычаў:

- Я згубіў яе! Яна ўвесь час збягае!

- Яна вернецца, - сказаў Гары.

- Так, - сказаў хлопчык бязрадасна. – Калі вы яе ўбачыце, скажыце…

І сышоў.

- Не ведаю, чаму ён так перажывае, - сказаў Рон. - Калі б я прынёс жабу, я б пастараўся страціць яе так хутка, як мог. Але не мне казаць, я ж прынёс Скэберса.

Пацук усё яшчэ спаў на каленях у Рона.

- Ён мог памерці, і мы б не заўважылі розніцы, - сказаў з агідай Рон. - Я спрабаваў учора пафарбаваць яго ў жоўты колер, каб зрабіць яго больш цікавым, але загавор не спрацаваў. Я пакажу цябе, глядзі…

Ён пакорпаўся ў багажы і дастаў вельмі патрапаную палачку. У некалькі месцах у яе былі сколы і драпіны і нешта белае зіхацела на канцах.

- Валасы аднарога амаль усе вылезлі. Аааа няважна.

Ён толькі падняў палачку, калі дзверы купэ слізганулі і адчыніліся зноў. Круглатвары



хлопчык вярнуўся, але на гэты раз з ім была дзяўчына. Яна была ўжо ў новай вопратцы «Хогвардса».

- Хто-небудзь бачыў жабу? Нэвіл згубіў адну, - сказала яна. Яна казала ўладным голасам, мела даўгія і густыя каштанавыя валасы і даволі вялікія пярэднія зубы.

- Мы ўжо сказалі яму, што мы яшчэ не бачылі жабу, - сказаў Рон, але дзяўчынка не слухала, яна глядзела на палачку ў ягонай руцэ.

- Ты збіраешся чараваць? Давай застанёмся паглядзім, а потым пойдзем далей шукаць.

Яна села. Рон выглядаў трохі шакаваным.

- Ээээ, ну ладна.

Ён прачысціў горла.

- Сонечны свет, рамонкі, мяккае масла, пераўтвары гэтага дурнога, тлустага пацука ў жоўтага.

Ён узмахнуў палачкай, але нічога не адбылося. Скэберс застаўся шэрым і хутка заснуў.

- Вы ўпэўнены, што гэта рэальны загавор? - спытала дзяўчына. - Быццам бы ён не вельмі-та спрацаваў, не ці так? Я спрабавала некалькі простых замоваў толькі для практыкі, і яны ўсе спрацавалі.

Ніхто ў маёй сям›і наогул не мае дачынення да магіі. Я так была здзіўленая, калі атрымала ліст з «Хогвардса», але я вельмі шчаслівая, вельмі. Я, вядома, маю на ўвазе, што гэта самая лепшая школа ў вядзьмарскім свеце, я пра гэта чула.

Я вывучыла ўсе нашы падручнікі на памяць, спадзяюся, што гэтага будзе дастаткова. Я Герміёна Грэнджэр, дарэчы, а хто ты?

Яна сказала ўсё гэта вельмі хутка на адным дыханні.

Гары паглядзеў на Рона і з палёгкай убачыў яго здзіўлены твары, значыцца не толькі ён не вывучыў усе падручнікі на памяць.

- Я Рон Уізлі, - прамармытаў Рон.

- Гары Потэр, - сказаў Гары.

- Ты на самой справе? - спытала сказала Герміёна. - Я ведаю ўсё пра цябе, вядома, я проста прачытала яшчэ некалькі дадатковых кніг. Ты ў «Сучаснай магічнай гісторыі», «Узлёце і падзенні цёмных мастацтваў» і «Вялікія чароўныя падзеі XX стагоддзя».

- Я? - сказаў ашаломлены Гары.

- Божа мой, хіба ты не ведаў? Я б даведалася пра ўсё, што магла, калі б гэта была я, - сказала Герміёна. А на які факультэт вы плануеце ісці?

Я папыталася вакол, і я спадзяюся, што траплю ў «Грыфіндор». Гэта гучыць, безумоўна, лепш за ўсё, я чула, што Дамблдлор сам яго заканчваў. Але я мяркую, «Равенкло» таксама не горшы варыянт… Ва ўсякім выпадку, нам лепш пайсці і пашукаць жабу Нэвіла. Вы двое лепш пераапранайцеся, я думаю, мы хутка ўжо прыедзем.

І яна сышла, прыхапіўшы з сабой хлопчыка, які згубіў жабу.

- На які б я факультэт не трапіў, спадзяюся, яе там не будзе, - сказаў Рон. Ён засунуў палачку назад у куфар. - Дурны загавор. Джордж распавёў мне пра яго, магу паспрачацца, што ён ведаў, што гэта безнадзейна.

- А на якім факультэце твае браты? - спытаў Гары.

- Усе ў «Грыфіндоры», - сказаў Рон і зноў пазмарчнеў. – Мама і тата былі ў ім таксама. Я не ведаю, што яны скажуць, калі мяне не прымуць туды. Я не думаю, што «Равенкло» быў бы настолькі дрэнным, але ўяві сабе, калі мяне накіруюць у «Слізэрын».

- Гэта факультэт, дзе вучыўся Вол…, я маю на ўвазе, Сам-Ведаеш-Хто?

- Ага, - сказаў Рон. Ён кінуў заплечнік на сваё сядзенне і выглядаў сумным.

- Ведаеш, я думаю, канцы вусоў Скэберса крыху святлейшыя, - сказаў Гары, спрабуючы адцягнуць думкі Рона. – Дык а што твае старэйшыя браты цяпер робяць, калі закончылі школу?

Гары было цікава, куды ідуць чараўнікі па заканчэнні вучобы.

- Чарлі ў Румыніі вывучае драконаў, а Біл ў Афрыцы робіць нешта для «Грынгатса», - сказаў Рон. - Ці чуў ты пра «Грынгатс»? Гэта было ў «Штодзённым прароку», але я не думаю, што ты яго атрымліваў, раз жыў з магламі. Нехта паспрабаваў абрабаваць сейф з самым сур’ёзным узроўнем бяспецы.

Гары ўтаропіўся на яго.

- Сапраўды? І што адбылося з рабаўнікамі?

- Ды нічога. Вось чаму гэта вялікая навіна. Іх проста не злавілі. Мой тата сказаў, што гэта павінны быў быць моцны чорны чараўнік, каб у яго атрымалася так залезці ў «Грынгатс». Але яны, кажуць, яшчэ і не знайшлі анічога. Вось што дзіўна. Канечне, кожнаму страшна, калі нешта падобнае адбываецца, адразу думаюць, што за гэтым стаіць Самі-Ведаеце-Хто.

Гары пераварыў гэтую навіну ў розуме. Ён пачынаў адчуваць калючку страху кожны раз, калі прыгадвалі Самі-Ведаеце-Хто. Хлопчык падумаў, што, магчыма, гэта ўсё было часткай ўваходжання ў чароўны свет, але раней было нашмат больш зручна казаць «Валдэрморт» і не турбавацца не пра што.

- А ты за якую каманду па квідычу хварэеш? - спытаў Рон.

- Эээ, ды я і не ведаю ніводнай, - прызнаўся Гары.

- Як! - Рон выглядаў агарошаным. – Вох, чакай, гэта ж найлепшая гульня ў свеце.

Ён пусціўся ў тлумачэнні, распавядаючы пра чатыры мяча і пазіцыі сямі гульцоў, апісваючы вядомыя гульні, на якіх ён быў са сваімі братамі, і мётлы, якія ён хацеў бы купіць, калі б былі грошы. Ён як раз расказваў Гары пра найбольш цікавыя месцы адной гульні, калі дзверы купэ слізганулі яшчэ раз, але ў гэты раз гэта быў не Нэвіл хлопчык-без жабы ці Герміёна Грэнджэр.

Увайшлі тры хлопчыка, і Гары пазнаў сярэдняга з іх адразу: гэта быў бледны хлопчык з крамы мантыяў мадам Малкін. Ён глядзеў на Гары з значна большай цікавасцю, чым у Касым завулку.

- Гэта праўда? – фанабэрыста спытаў ён. – Увесь цягнік кажа, што ў гэтым купэ едзе Гары Потэр. Дык гэта ты, ці што?

- Так, - сказаў Гары.

Ён паглядзеў на іншых хлопчыкаў. Яны абодва былі вялікія і выглядалі надзвычай злоснымі. Стоячы з абодвух бакоў ад бледнага хлопчыка, яны былі падобныя на ягоных целаахоўнікаў.

- О, гэта Крэб і Гойл, - сказаў бесклапотна бледны хлопчык, заўважаючы позірк Гары. - А мяне клічуць Малфой, Драко Малфой.

Рон закашляўся, за чым хаваўся смяшок. Драко Малфой паглядзеў на яго.

- Думаеш, маё імя смешнае? Паміж іншым, можаш не прадстаўляцца. Мой бацька распавёў мне ўсё: Уізлі маюць рудыя валасы, вяснушкі, і больш дзяцей, чым яны могуць сабе дазволіць.

Ён павярнуўся да Гары.

- Ты хутка пазнаёмішся з некаторымі чарадзейскімі сем’ямі, значна лепшымі,чым астатнія, Потэр. Ты не захочаш сябраваць з людзьмі нізкага сорту. Я магу дапамагчы табе ў гэтым.

Ён працягнуў руку, але Гары не ўзяў яе.

- Я думаю, я сам магу адрозніць нізкасортных людзей, дзякуй, - сказаў ён халодна.

Драко Малфой не пачырванеў, але ружовае адценне з’явілася на ягоных бледных шчаках.

- Я б быў асцярожным на тваім месцы, Потэр, - сказаў ён павольна. – Інакш пойдзеш па такой жа дарожцы, што і твае бацькі. Яны не ведалі, што будзе добра для іх. Будзеце вадзіцца з такім смеццем як Уізлі ці Хагрыд, і гэта адаб’ецца і на цябе.

Гары і Рон усталі.

- Скажы гэта зноў, - сказаў Рон, яго твар стаў такі чырвоны, як яго валасы.

- О, вы збіраецеся нас пабіць? - Малфой ўсміхнуўся.

- Калі ты не правалішь адсюль, - сказаў Гары, больш смела, чым ён адчуваў. Крэйб і Гойл былі нашмат больш яго ці Рона.

- Але мы пакуль не хочам сыходзіць, так, хлопцы? Мы з’елі ўсю нашую ежу, а ў вас, гляджу, яе яшчэ засталося шмат.

Гойл пацягнуўся да шакаладнай жабкі каля Рона, Рон выскачыў наперад, але перш, чым ён паспеў дакрануцца да Гойла, той жудасна закрычаў.

З ягонага пальца звісаў пацук Скэберс, ён моцна пракусіў яго вострымі зубамі. Крэб і Малфой адступілі, Гойл кружыў, спрабуючы скінуць Скэберса, адначасова падвываючы. Калі пацук нарэшце паляцеў і ударыўся аб шкло, усе трое адразу зніклі. Магчыма, яны думалі, што яшчэ больш пацукоў хаваюцца сярод ласункаў, ці, можа, пачулі шум крокаў, таму што секундай пазней увайшла Герміёна Грэнджэр.

- Што тут адбываецца? - спытала яна, паглядзеўшы на прысмакі, раскіданыя па ўсёй падлозе, і Рона, які паднімаў з падлогі Скэберса за хвост.

- Я думаю, што ён у накаўце, - сказаў Рон Гары. Ён прыгледзеўся да Скэберса. – Не, не магу паверыць, ён зноў спіць.

Так яно і было: пацук мірна сапеў.

- Вы сустракаліся раней з Малфоем?

Гары распавёў пра сустрэчу ў Касым завулку.

- Я чуў пра яго сям'ю, - сказаў Рон змрочна. - Яны быліаднымі з першых, хто вярнуўся на наш бок пасля таго, як Самі-Ведаеце-Хто знік. Сказалі, што яны былі зачараваныя. Але мой бацька не паверыў. Ён кажа, што бацьку Драка не патрэбныя апраўдання, каб перайсці на цёмны бок.

Ён павярнуўся да Герміёны.

- Ці можам мы дапамагчы табе чым-небудзь?

- Табе лепш паспяшацца і пераапрануцца ў форму, я толькі што была наперадзе цягніка, запыталася праваднікa, і ён сказаў, што мы амаль прыехалі. Вы ж не біліся? Вы трапіце ў бяду да таго, як мы нават даедзем!

- Скэберс біўся, а не мы, - сказаў Рон пахмурна. – Можа, ты сыдзеш, пакуль мы пераапранаемся?

- Усё ў парадку, я прыйшла сюды, таму што людзі ў іншых месцах сябе зусім падзіцячаму, бегаюць уверх і ўніз па калідорах, - сказала Герміёна з пагардай у голасе. - А ў цябе бруд на носе, дарэчы, ведаеш?

Рон паглядзеў услед дзяўчынцы. А Гары зірнуў у акно, там цямнела. Ён бачыў горы і лясы пад цёмна-фіялетавым небам. Цягнік падаецца, запавольваў хаду.

Ён і Рон знялі курткі і выцягнулі доўгія чорныя мантыі. Рону ягоная была трохі караткаватая, з-пад яе былі бачныя красоўкі.

Голас рэхам пранёсся па цягніку: «Мы прыбываем у «Хогвардс» праз пяць хвілінаў. Калі ласка, пакіньце багаж у купэ, яго даставяць у школу асобна».

Гары так нерваваўся, што ягоны страўнік сабраўся ў тугі камяк, і Рон, як ён заўважыў, пабляднеў пад вяснушкамі. Яны распіхалі ў кішэні апошнія цукеркі і далучыліся да натоўпу у калідоры.

Цягнік зусім замарудзіўся і, нарэшце, спыніўся. Пасажыры піхаліся, спрабуючы, хутчэй прабіцца да дзвярэй. Нарэшце хлопчыкі выйшлі на малюсенькую, цёмную платформу. Гары дрыжаў ад халоднага начнога паветра. Потым аднекуль узнікла святло, лямпы віселі, падскокваючы, недзе высока над галавамі, Гары пачуў знаёмы голас:

- П'ршакласнікі! П'ршакласнікі! Сюды! Гары, усё ў парадку?

Вялікі валасаты твар Хагрыда ўсміхаўся над морам галоваў.

- Д'вайце, ідзіце за мной. Яшчэ п'ршакласнікі ёсць? Збірайцеся ўсе тут! П'ршакласнікі, за мной!

Саслізгваючы і спатыкаючыся, яны кудысьці спускаліся ўслед за Хагрыдам па нечым, што выглядала як крутая, вузкая сцежка. Было вельмі цёмна, Гары падумаў, што па абодвум бакам ад іх, пэўна, былі тоўстыя дрэвы. Ніхто асабліва не размаўляў. Нэвіл, хлопчык, які губляў сваю жабу, некалькі разоў пашморгаў носам.

- Вы ўсе хутка пабачыце 'ершы раз «Хогвардс»... праз секунду, - сказаў Хагрыд праз плячо, - вось абыдзіце тут.

Пачулася гучнае: «Ооооо!»

Вузкая сцяжынка нечакана вывела іх да вялікага чорнага возера. А на тым беразе возера, на вяршыні высокай горы, стаяў вялізны замак з шматлікім вежамі, яго вокны адлюстроўвалі зорнае неба.

- Не больш за чатыры чалавекі ў лодку! - заявіў Хагрыд, паказваючы на цэлую кучу лодак, што стаялі ў вадзе каля самага берага. Гары і Рон залезлі ў лодку ўслед за Нэвілам і Герміёнай.



- Усе расселіся? - крыкнуў Хагрыд, які быў у лодцы адзін. – Тады – наперад!

Зграйка маленькіх лодак адначасна рушыла, яны быццам бы слізгацелі па паверхні возера, якое было такое ж гладкае, як шкло. Усе маўчалі, гледзячы на вялікі замак. Ён усё больш узвышаўся над імі, калі яны падплывалі бліжэй і бліжэй да скалы.

- Галовы ўніз! - пракрычаў Хагрыд, калі першыя лодкі дасягнулі скалы. Яны прыгнуліся, і маленькія лодкі пранеслі іх праз заслону плюшчу, які хаваў шырокую адтуліну ў скале. Далей яны праплылі цёмны тунэль, які, здавалася, ішоў прама пад замкам, пакуль не дасягнулі падземнай гавані, дзе першакласнікі павылазілі з лодак на камяні і гальку.

- Хэй, вы там! Чыя жаба? – спытаў Хагрыд, які правяраў лодкі, пасля таго, як дзеці з іх вылезлі.

- Трэвар! - усклікнуў Нэвіл радасна, працягваючы рукі.

Потым яны ўсе пралезлі праз праход у скале, імкнучыся не губляць лямпу Хагрыда, і выйшлі нарэшце на гладкую, вільготную траву прама ў цені замка.

Яны падняліся па каменных прыступках і стоўпіліся вакол велізарных дубовых дзвярэй.

- Усе тут? Ніхто больш не забыўся на сваю жабу?

Хагрыд падняў гіганцкі кулак і пагрукаў тры разы ў дзверы замку.



# Частка сёмая

# Капялюш-размеркавальнік

Дзверы адразу расчыніліся. Высокая, чарнявая ведзьма ў ізумрудна-зялёнай вопратцы стаяла на парозе. У яе быў вельмі суровы твар. Першая думка ў Гары была пра тое, што лепей не сварыцца з гэтай дамай.

- Пе'шаклашкі, прафесар МакГонагал, - сказаў Хагрыд.

- Дзякуй, Хагрыд. Я забіраю іх.

Яна адчыніла дзверы шырэй. Хол быў настолькі вялікі, што можна было зацягнуць у яго цэлы дом Дурсляў. Каменныя сцены асвятляліся запаленымі паходнямі, як у «Грынгатсе». Столь была занадта высокай, каб яе разгледзіць, а наверх вяла пышная мармуровая лесвіца.

Яны рушылі ўслед за прафесарам МакГонагал па брукаванай падлозе. Гары чуў шум сотняў галасоў за дзвярыма справа.

- Астатнія вучні павінны быць ужо тут, - сказала прафесар МакГонагал, але паказала першакласнікам на маленькую, пустую камору побач з залай. Яны запоўнілі яе цалкам, стаўшы бліжэй адзін да аднаго, нервова азіраючыся.



- Сардэчна запрашаем у «Хогвардс», - заявіла прафесар МакГонагал. – Пір, прысвечаны новаму вучэбнаму году, пачнецца ў бліжэйшыя хвіліны, але перш чым вы зоймеце свае месцы ў Вялікай Залі, вы павінны атрымаць прызначэнні па факультэтах.

Адбор – гэта вельмі важная цырымонія, таму што пакуль вы тут, у «Хогвардсе», ваш факультэт будзе нешта накшталт вашай сям›і. Вы будзеце вучыцца з вашым факультэтам, спаць у спальні факультэта, праводзіць вольны час у агульным пакоі факультэта.

У нас ёсць чатыры факультэты: "Грыфіндор", "Хафлпуф", "Ровенкло" і "Слізэрын". Кожны факультэт мае сваю вялікую гісторыю і у кожным вучацца і вучыліся выбітныя чараўнікі і вядзьмаркі.

Пакуль вы ў «Хогвардсе», усе вашыя перамогі дапамогуць вашаму факультэту зарабіць балы, усе правалы – згубіць. У канцы года факультэт, набраўшы максімальную колькасць балаў, атрымае кубак, вялікую ўзнагароду. Я спадзяюся, кожны з вас стане гонарам свайго факультэта.

Цырымонія адбору будзе праходзіць праз некалькі хвілін перад усёй школай. Я прапаную вам не марнаваць часу і пакуль вы тут чакаеце, прывесці сабе ў парадак.

Яе вочы затрымаліся на імгненне на мантыі Нэвіла, замацаванай пад левым вухам, і на пляме на носе Рона. Гары нервова спрабаваў прыгладзіць свае валасы.

- Я вярнуся, калі мы будзем гатовыя вас прыняць, - сказала прафесар МакГонагал. - Калі ласка, пачакайце спакойна.

Яна выйшла. Гары зглытнуў.

- А як нас падзеляць па факультэтах? – спытаў ён у Рона.

- Пэўна, нейкі тэст. Фрэд сказаў, што гэта моцна балюча, але я думаю, што ён жартуе.

Сэрца ў Гары ўпала. Тэст? Перад усёй школай? Але ён жа не ведае пра гэтую магію анічога, што ён будзе рабіць на гэтай праверцы? Ён не чакаў, што іх будуць правяраць адразу па прыездзе.

Хлопчык з трывогай паглядзеў вакол і ўбачыў, што ўсе астатнія таксама баяліся. Усе маўчалі, акрамя Герміёны Грэнджэр, канечне, якая шаптала вельмі хутка пра ўсё загаворы, якія яна вывучыла, і цікавілася, які ж ёй спатрэбіцца. Гары стараўся не слухаць яе.

Ён ніколі так не нерваваўся, ніколі, нават калі ён павінен быў аднесці са школы дадому запіску для Дурсляў, у якой было сказана, што ён нейкім чынам пафарбаваў у сіні парык свайго настаўніка. Гары не спускаў вачэй з дзвярэй. У любую секунду прафесар МакГонагал вернецца і павядзе яго на пагібель.

Потым нешта адбылося, што прымусіла яго падскочыць у паветры на добрых паўметры. Некалькі чалавек за ім закрычалі.

- Што?

Гары ахнуў. Гэтак жа людзі вакол яго. Каля дваццаці зданяў толькі што з›явіліся прама з задняй сцяны. Жамчужна-белыя і трохі празрыстыя, яны слізгалі па пакоі размаўлялі адзін з адным, амаль не цікавіліся першакласнікамі. Яны, здавалася, спрачаліся. Здань, якая была падобная на тлустага маленькага манаха, сказала: «Прабачце і забудзьце, я кажу, мы павінны даць яму другі шанец"

- Мой дарагі брат, хіба мы не далі Піўзу ўсе шанцы, што ён заслугоўвае? Ён псуе нам рэпутацыю, і вы ведаеце, ён не зусім нават прывід… А што вы ўсе тут робіце?

Прывід, які быў апрануты ў каўнер і трыко, раптам заўважыў першакурснікаў.

Ніхто не адказаў.

- Новыя студэнты! - сказаў тоўсты Манах, усміхаючыся ва ўсім. – Перад адборам, я думаю?





Некалькі чалавек моўчкі кіўнулі.

- Спадзяюся ўбачыць вас у «Хафлпуфе»! - сказаў манах. – Гэта мой стары факультэт.

- Так, зараз ідзіце, - сказаў рэзкі голас. – Цырымонія адбору зараз пачнецца.

Прафесар МакГонагал вярнулася. Адзін за другім прывіды сплылі праз процілеглую сцяну.

- Пастройцеся ў лінію, - сказала прафесар першакурснікам, - і ідзіце за мной.

Адчуваючы сабе дзіўна, быццам ногі наліліся свінцом, Гары стаў за хлопчыкам з валасамі пясочнага колеру, а Рон стаў ззаду яго. Яны ўсе выйшлі з пакоя, прайшлі праз двайныя дзверы і яны апынуліся ў Вялікай зале.

Гары ніколі нават не мог уявіць сабе такое дзіўнае і цудоўнае месца. Зала была асветленая тысячамі і тысячамі свечак, якія плавалі ў паветры над чатырма доўгімі сталамі, за якімі сядзелі астатнія студэнты.

На сталах стаялі бліскучыя залатыя талеркі і кубкі. У верхняй частцы залы стаяў яшчэ адзін доўгі стол, за якім сядзелі настаўнікі.

Прафесар МакГонагал прывяла і пашыхтавала першакласнікаў такім чынам, каб яны сталі ў лінію перад іншымі студэнтамі, а выкладчыкі апынуліся ў іх за спінамі. Сотні людзей глядзелі на іх, выглядаючы ў святле мігатлівых свечак як бледныя ліхтарыкі. Тут і там паміж студэнтамі лёталі прывіды колеру цьмянага срэбра.

Каб не быць увесь час пад позіркамі, Гары паглядзеў уверх і ўбачыў, што аксаміцістая чорная столь усеяна зоркамі. Ён пачуў настойлівы шэпт Герміёны: «Яе зачаравалі, каб яна была падобная на неба. Я чытала пра гэта ў «Гісторыі Хогвардса»».

Было цяжка паверыць, што столь была там наогул, а не Вялікая зала знаходзілася пад адкрытым небам.

Гары хутка апусціў позірк, каб пабачыць, што прафесар МакГонагал моўчкі ставіць чацвераногае крэсла перад першакласнікамі. На верхнюю частку крэсла яна паклала яўна чароўны капялюш. Гэты капялюш быў шыты-перазашыты, зношаны і вельмі брудны. Цётка Пятуння не дазволіла б яго занесці ў дом.

Можа быць, яны павінны былі паспрабаваць дастаць труса з гэтага капелюша? Думкі Гары дзіка лёталі ў галаве. Здавалася, што падобнае было і з усімі у залі. Прынамсі ўсе ўтаропіліся прама на капялюш, і Гары глядзеў на яго таксама.

На працягу некалькіх секунд панавала цішыня. Затым капялюш тарганууся. Каля краёў адчынілася шырокая, як рот, дзірка, і капялюш заспяваў:

*Вы думаеце, што я непрыгожы?*
*Але падумайце яшчэ раз.*
*Я з’ем сам сабе,*
*калі вы адшукаеце*
*Разумнейшага за мяне.*

*Шукайце сярод чорных кацялкоў,*
*Цыліндраў гладкіх і высокіх,*
*Але я шапка для адбору вучняў у «Хогвардсе»,*
*І я лепш за ўсіх гэта раблю.*

*Няма таемных думак у вашай галаве,*
*Тых, што капялюш-адборшчык не пачуе,*
*Дык апранайце ж мяне, і я скажу,*
*Дзе вы вучыцца будзеце.*



*Вы трапіце ў «Грыфіндор»,*
*Калі адважныя да глыбіні душы,*
*І праз стагоддзі будуць песні пець*
*Пра вашу смеласць і адвагу.*

*Вучыцца будзеце ў «Хафлпуфе»,*
*Калі галоўнае для вас -*
*Справядлівасць, вернасць,*
*І не баіцеся вы цяжкай працы.*

*А можа ўсё ж у «Равенкло»?*
*Калі гатовыя вы нагалаву ўсяму паставіць розум,*
*Калі для вас галоўнае - дасціпнасць і навука,*
*Заўсёды адшукаеце сабе там занятак.*

*Ці, можа быць, у «Слізэрыне»*
*Вы знойдзеце сапраўдных сяброў?*
*Калі гатовыя хітрасцю вы карыстацца,*
*Каб мэты дасягнуць.*

*Ну дык давайце, апранайце! Не бойцеся!*
*Вы ў надзейных руках*
*(Хоць у мяне іх і няма)*
*Затое думаць я ўмею!*




Уся зала ўзарвалася апладысментамі, калі капялюш скончыў песню. А ён пакланіўся кожнаму з чатырох сталоў, а потым перастаў рухацца, чакаючы.

- Такім чынам, мы павінны проста прымераць капялюш! - прашаптаў Рон Гары. - Я заб'ю Фрэда, ён распавядаў пра барацьбу з тролям!

Гары слаба ўсміхнуўся. Так, прымерка капелюша была значна лепшым за тое, каб зрабіць заклён, але ён не пашкадаваў, калі б пры гэтым не было столькі гледачоў. Капялюш, здавалася, патрабуе даволі шмат. А Гары не адчуваў сябе ні адважным, ні кемлівым, ні чалавекам з хуткім розумам. Хіба што капялюш можа падабраць факультэт для тых, каго цягне ванітаваць ад страха, вось гэта было б для яго.

Прафесар МакГонагал выйшла наперад, трымаючы доўгі скрутак пергаменту.

- Калі я назаву ваша імя, вы апранаеце капялюш і сядаеце на крэсла для адбору, - сказала яна. – Абат Хана!

Ружоватварая дзяўчынка са светлымі коскамі выйшла з лініі, апранула капялюш, які зваліўся прама на вочы, і села. Секундная паўза…

- «Хафлпуф»! - крыкнуў капялюш.

Стол справа ўзрадваўся і запляскаў у ладкі, а Хана пайшла сядаць да іх. Гары ўбачыў, як здань Тлусты брат весела ёй памахаў.

- Боўнс, С'юзэн!

- «Хафлпуф»! - крыкнуў капялюш зноў, і С'юзэн хутка адышла і села побач з Ханай.

- Бут, Тэры!

- «Равенкло»!

На гэты раз пляскаў у ладкі другі стол злева, некалькі «равенклоўцаў» усталі, каб пацiснуць руку Тэры, калі ён далучыўся да іх.

Браклехурст Мэндзі таксама пайшла ў «Ровенкло», але Браўн Лавендэр была першай у «Грыфіндоры», і самы крайні стол злева выбухнуў «ура». Гары чуў, як браты-блізняты Рона гучна кракаюць.

Балстроўд Мілцэнт - пайшоў да «Слізэрына». Магчыма, праз тое, што Гары чуў пра «Слізэрын», але цяпер усе студэнты гэтага факультэта падаваліся яму вельмі непрыемнымі людзьмі.

Гары пачаў адчуваць сабе хворым. Ён успомніў, як яго абіралі, калі дзяліліся на каманды ў старой школе. Яго заўсёды абіралі апошнім і не таму, што ён кепска гуляў, проста ніхто не хацеў паказаць Дадлі, што ён ім падабаўся.

- Флінч-Флетчэй Джастын!

- «Хафлпуф»!

Гары заўважаў, што часам капялюш крычаў пра факультэт адразу, а ў іншых

выпадках трэба быў некаторы час, каб прыняць рашэнне. «Фініган, Сімус», светлавалосы хлопчык, які стаяў у лініі побач з Гары, сядзеў на крэсле амаль цэлую хвіліну, перш чым капялюш абвясціў для яго «Грыфіндор».

- Грэнджэр, Герміёна!

Герміёна амаль пабегла да крэсла і нецярпліва нацягнула на галаву капялюш.

- «Грыфіндор»! - крыкнуў капялюш. Рон застагнаў.

Жудасная думка ўразіла Гары, як усе жудасныя думкі яна прыйшла, калі чалавек моцна нерваваўся. Што, калі для яго не знойдзецца ніякага факультэта? Ён будзе проста сядзець з капелюшом на вачах цэлую вечнасць, пакуль прафесар МакГонагал не здыме яго з галавы і не скажа, што гэта была памылка, і яму лепш вярнуцца на цягнік…

Калі прафесар паклікала Нэвіла Лонгботама, хлопчыка, які губляў сваю жабу, ён упаў на шляху да крэсла. Капялюш доўга вырашаў з Нэвілам. Калі ён, нарэшце, закрычаў: «Грыфіндор», Нэвіл пабег, забыўшыся яго зняць. Яму давялося вяртацца назад пад выбухі смеху, каб перадаць капялюш «МакДугал Мораг».

Малфой вырваўся наперад, як толькі назвалі ягонае імя, ды і жаданне ягонае споўнілася амаль адразу: капялюш ледзь дакрануўся да яго галавы і закрычаў: «Слізэрын!»

Малфой вярнуўся, каб далучыцца да сваіх сяброў Крэба і Гойла, выглядаючы цалкам задаволеным самім сабой.

Не так шмат людзей засталося. «Мун», «Нот», «Паркінсан», а затым пара дзяўчынак-двайнят «Паціл» і «Паціл», потым «Перкс, Салі-Эн» і, нарэшце, «Потэр, Гары».

Калі Гары выступіў наперад, лёгкае шапаценне раптам ўспыхнула, як маленькія агеньчыкі ва ўсім зале.

- Потэр, яна сказала?

- Гары Потэр?

Апошняе, што ўбачыў Гары перад тым, як капялюш ўпаў на вочы, была зала, поўная людзей, якія выцягваліся, каб лепей яго разгледзіць. Наступную секунду ён глядзеў на чорныя ўнутранасці капелюша. Ён чакаў.

- Хммм, - сказаў тонкі голас у ягоным вуху. – Складана, вельмі складана. Шмат мужнасці, я бачу. Нямала розуму таксама. Ёсць талент і дабрыня, ды і вялікая смага, каб праявіць сабе, вось зараз што цікава… Дык куды ж мне цябе даслаць?



Гары схапіўся за краі крэсла і падумаў: «Толькі не “Слізэрын”, толькі не “Слізэрын”».

- Не «Слізэрын», га? - сказаў ціхі голас. - Ты ўпэўнены? Ты мог бы быць вялікім, ты ведаеш, гэта ўсё тут, у тваёй галаве, і «Слізэрын» дапаможа табе на шляху да велічы. Няма ніякіх сумневаў, што не? Ну, калі ты ўпэўнены, найлепшы выбар – «Грыфіндор»!

Гары зразумеў, што апошняе слова капялюш пракрычаў на ўсю залу. Ён зняў чароўную шапку і няўпэўнена пайшоў да стала «Грыфіндора». Ён адчуваў такую моцную палёгку ад таго, што яго ўсё ж абралі і не ў «Слізэрын», што амаль не заўважыў гучнае «ўра» ў свой гонар.

Стараста Персі ўстаў і энергічна паціснуў яму руку, у той час як блізняты Уізлі закрычалі: «Мы атрымалі Потэра! Мы атрымалі Потэра!» Гары сеў насупраць прывіду ў панталонах і жабо, якога бачыў раней. Прывід паляпаў яго па руцэ, падарыўшы Гары жудаснае пачуццё, быццам руку толькі акунулі ў вядро з ледзяной вадой.

Цяпер хлопчыку быў добра бачны высокі стол, за якім сядзелі настаўнікі. З бліжэйшага канца ад яго сядзеў Хагрыд, які паказаў яму вялікія пальцы. Гары усміхнуўся ў адказ.

У цэнтры, у вялікім залатым крэсле сядзеў Альбус Дамблдлор. Гары адразу пазнаў яго па картачцы з шакаладнай жабцы. Срэбраныя валасы дырэктара свяціліся так жа ярка, як здані.

Гары ўбачыў таксама прафесара Квірэла, нервовага маладога чалавека з «Дзіравага катла». Ён быў апрануты вельмі своеасабліва, у вялікі фіялетавы туррбан.

І цяпер засталіся толькі тры чалавекі, каб разабраць іх па факультэтах. «Томас, Дзін», - чорны хлопчык нават вышэй, чым Рон, далучыўся Гары за сталом «Грыфіндора». «Тарпін, Ліза» - стала навучэнкай «Равенкло». Потым настала чарга Рона, ён быў бледна-зялёны да гэтага часу. Гары скрыжаваў пальцы пад сталом і секундай пазней капялюш закрычаў: «Грыфіндор!»

Гары пляскаў гучней за астатніх, калі Рон паваліўся на крэсла побач з ім.

- Малайчына, Рон, выдатна, - сказаў Персі Уізлі ўрачыста.

«Забіні, Блэйз», які пайшоў у «Слізэрын», завяршыў адбор першакласнікаў. Прафесар МакГонагал зматала скрутак і знесла капялюш прэч.

Гары апусціў позірк на залатую талерку перад ім. Ён толькі зараз зразумеў, наколькі галодны. Гарбузовае печыва, падавалася, было даедзенае стагоддзі таму.

Альбус Дамблдлор падняўся. Ён глядзеў на ўсіх і прама-такі ззяў, рукі шырока раскрыліся, як быццам нічога не магло яму спадабалася больш, чым убачыць іх усіх.

- Сардэчна запрашаем, - сказаў ён. - Сардэчна запрашаем у новы вучэбны год у «Хогвардсе»! Перш чым мы пачнём наш пір, я хацеў бы сказаць некалькі слоў. А вось і яны: Дурань! Плакса! Дзіўны! Шчыпок! Дзякуй!

Ён зноў сеў. Усе апладзіравалі і віталі. Гары не ведаў, смяяцца ці не.

- Ён трохі збрэндзіў? – спытаў ён у Персі ніякавата.

- Звар’яцеў? - перапытаў Персі задуменна. – Ён геній! Найлепшы чараўнік у свеце! Але ён сапраўды трохі вар’ят, так. Бульбы, Гары?

Рот Гары прыадчыніўся. Талеркі перад ім цяпер былі заваленыя ежай. Ён ніколі не бачыў так шмат рэчаў, якія любіў есці, на адным стале: ростбіф, смажаную

курыцу, свіныя і барановыя адбіўныя, сасіскі, бекон і стэйкі, бульбу адварную і смажаную, бульбу-фры, ёркшырскія пудынгі, гарох, моркву, соусы, кетчуп і па незразумелай прычыне мятныя ледзяшы.

Дурслі ніколі не галадалі, ды і Гары таксама, але яму ніколі не дазвалялі есці столькі, колькі яму хацелася. Дадлі заўсёды забіраў усё, што Гары сапраўды хацеў, нават калі потым ад гэтага ванітаваў. Гары зваліў на сваю талерку усяго патроху са стала акрамя смакталак і пачаў есці. Усё было смачна.

- Гэта сапраўды выглядае добра, - сказаў прывід ў жабо з сумам назіраючы, як Гары змяншае свой стэйк,

- Вы не можаце?

- Я не еў ужо каля чатырохсот гадоў, - сказаў прывід. – Мне, канечне, гэта і не трэба, але я сумую па адчуваннях. Я яшчэ не прадставіўся? Сэр Нікалас дэ Мімзі-Парпінгтон да вашых паслугаў. Існую ў вежы факультэта «Грыфіндора».

- Я ведаю, хто вы! – сказаў нечакана Рон. – Мае браты распавядалі мне пра вас! Вы Амаль безгаловы Нік!

- Я б хацеў, каб вы называлі мяне сэр Нікалас дэ Мімзі, - пачаў халодна прывід, але пясочнавалосы Сімус Фініган перабіў:

- Амаль Безгаловы? А гэта як? Як можна быць амаль безгаловым?

Сэр Нікалас выглядаў вельмі раздражнёным, як быццам іх размова не ішла так, як ён хацеў.

- Ды вось так, - сказаў ён з раздражненнем. Ён схапіў сабе за левае вуха і пацягнуў, ягоная галава хіснулася і адвалілася ад ягонай шыі і ўпала на плячо, быццам была на вяровачцы. Нехта, відавочна, спрабаваў абезгаловіць яго, але не зрабіў гэтага належным чынам.

Задаволена гледзячы на іх ашаломленыя твары, Амаль Безгаловы Нік вярнуў на месца галаву, кашлянуў і сказаў:

- Так! Новыя «грыфіндорцы», я спадзяюся, што вы збіраецеся дапамагчы нам перамагчы чэмпіянат факультэтаў у гэтым годзе? «Грыфіндор» ніколі так доўга не заставаўся без перамогі. «Слізэрынцы» атрымлівалі кубак шэсць гадоў запар! Прывід «Слізэрына» Крывавы Барон становіцца амаль невыносным.

Гары паглядзеў на стол «Слізэрына» і ўбачыў, што там сядзела жудасная здань, гледзячы на ўсё пустымі вачыма. Худы твар і адзенне былі заляпаныя прывіднай срэбнай крывёю. Прывід усеўся быў побач з Малфоем які, як пабачыў Гары з задавальненнем, быў не надта задаволены такім суседам.

- А чаго гэта ён увесь у крыві? – запытаўся Сімус з цікаўнасцю.

- Я ніколі не запытваўся, - адказаў далікатна Нік.

Калі кожны з'еў столькі, колькі мог, рэшткі ежы зніклі з талерак, пакінуўшы іх такімі ж бліскучымі, як раней. Момантам пазней з›явіліся дэсерты. Марозіва на любы густ, якое толькі можна ўявіць, яблычныя пірагі, пірагі з патакай, шакаладныя эклеры, пончыкі з варэннем, дражэ, клубніцы, жэле, рысавы пудынг...

Калі Гары аб'ядаўся патачным пірагом, пачалася размова пра сем›і.

- Я палова на палову, - сказаў Сімус. – У мяне тата магл. Мама не казала яму, што была вядзьмаркай, пакуль яны не пажаніліся. Для яго быў трохі непрыемны шок.

Усе рассмяяліся.

- А што пра цябе, Нэвіл? - запытаўся Рон.

- Ну, мая бабуля выгадавала мяне, і яна ведзьма, - сказаў Нэвіл, - але сям'я думала, што я магл цэлую вечнасць. Мой стрыечны дзядуля Алгі ўвесь час спрабаваў прымусіць мяне пачараваць, нават спіхнуў мяне з канца пірса Блэкпул адзін раз. Я ледзь не патануў. Але нічога не адбывалася. Пакуль мне не споўнілася восем гадоў.

Стрыечны дзядуля Алгі прыйшоў да нас на абед, узяў мяне за ногі і вывесіў з вакна другога паверха ўверх нагамі. А тут мая стрыечная бабуля Энід прапанавала яму мерэнгі, і ён выпадкова выпусціў мяне з рук...

Але я не зламаў сабе рукі і ногі, а падскочыў, праляцеў усё, нават сад і трапіў на дарогу. Яны ўсе былі вельмі ўсцешаныя. Ба плакала, была такая шчаслівая. Вам трэба было бачыць іх твары, калі мяне ўзялі сюды, яны ўсё думалі, што ў мяне не хопіць магічнай сілы. Стрыечны дзядуля Алгі быў так задаволены, што купіў мне жабу.

Гары павярнуўся ў іншы бок, там Персі Уізлі і Герміёна размаўлялі пра заняткі.

- Я спадзяюся, адразу пачнуцца сур›ёзныя заняткі. Ёсць так шмат цікавага, хочацца ўсяму гэтаму навучыцца. Асабліва падаецца цікавай трансфігурацыя, ператвараць нешта ў іншае. Зразумела, што гэта павінна быць вельмі цяжка.

- Вы пачнеце з малога, навучыцеся з запалкі рабіць іголку і ўсё такое.

Гары, адчуваючы, як цяпло і сон разліваюцца па целе, зноў паглядзеў на вялікі стол. Хагрыд піў вялікімі глыткамі нешта са свайго кубка. Прафесар МакГонагал размаўляла з прафесарам Дамблдлорам. Прафесар Квірэл у сваім недарэчным турбане, размаўляў з выкладчыкам з тлустымі чорнымі валасамі, кручкаватым носам і хваравітай скурай.



Гэта адбылося вельмі нечакана. Гарбаносы настаўнік паглядзеў міма Квірэла прама ў вочы Гары - і востры, гарачы стрэл балюча ўдарыў праз шнар на лбе Гары.

- Вой! - Гары пляснуў рукой па галаве.

- Што такое? - спытаў Персі.

- Н-нічога.

Боль прайшла так жа хутка, як прыйшла. Больш складана было прыбраць адчуванне, якое засталося пасля позірку настаўніка - адчуванне, што Гары яму наогул не падабаецца.

- А хто гэта размаўляе з прафесарам Квірэлам? - спытаў ён Персі.

- О, ты ведаеш ужо Квірэла? Не дзіўна, што ён глядзіць так нервова, бо размаўляе з прафесар Снэйпам. Ён выкладае зёлкаварэнне, але ўсе ведаюць, што ён меціць на месца Квірэла. Снэйп ведае вельмі шмат пра Цёмныя мастацтвы.

Гары назіраў за Снэйпам некаторы час, але той ужо не глядзеў на яго.

Нарэшце, дэсерты таксама зніклі, і прафесар Дамблдлор падняўся зноў. Зала заціхла.

- Эхум! Проста цяпер проста некалькі слоў, калі мы ўсё з'елі і выпілі. У мяне ёсць некалькі правілаў, якія я б хацеў нагадаць перад стартам вучэбнага года.

Першакурснікам варта ведаць, што лес вакол замка забаронены для наведвання ўсімі вучнямі. І некаторым з нашых старэйшых вучняў таксама не мяшала бы памятаць пра гэта.

Бліскучыя вочы Дамблдлора кароткім позіркам спыніліся прама на блізнятах Уізлі.

- Мяне таксама прасілі нагадаць наглядчык спадар Філч, што чараваць паміж заняткамі ў калідорах забаронена.

Выпрабаванні па квідычу будуць праводзіць на працягу другога тыдня пасля пачатку заняткаў. Любы, каму цікава гуляць за каманду свайго факультэта, павінны звязацца з мадам Хуч.

І, нарэшце, я павінен вам сказаць, што ў гэтым годзе,правая частка калідора на чацвёртым паверсе знаходзіцца пад забаронай для ўсіх, хто не жадае памерці вельмі пакутлівай смерцю.

Гары рассмяяўся, але ён быў адным з нямногіх, хто так зрабіў.

- Ён што сур'ёзна? – шэптам запытаўся ён у Персі.

- Павінен, - сказаў Персі, пахмурна паглядзеўшы на Дамблдлора. - Гэта дзіўна, таму што ён звычайна тлумачыць нам прычыну кожнай забароны. Напрыклад, лес - поўны небяспечных звяроў, усе пра гэта ведаюць. Я думаю, што ён прынамсі павінны паразмаўляць са старастамі.

- А зараз, перад тым, як ісці спаць, давайце заспяваем песню школы! – закрычаў Дамблдлор. Гары заўважыў, што ўсмешкі іншых настаўнікаў сталі нацягнутымі.

Дырэктар сваёй палачкай даў маленькую пстрычку, быццам спрабаваў змахнуць з яе кончыка муху, і доўгая залатая стужка вылецела з яе. Высока над сталамі яна вырасла і, выгінаючыся як змяя, ператварылася ў словы.

- Усе спяваюць на сваю любімую мелодыю, - сказаў Дамблдлор, - давайце!

*«Хогвардс», «Хогвардс», хогі-вогі «Хогвардс»,*
*Навучы нас, калі ласка,*
*Хай мы старыя і лысыя*
*Ці маладыя з абадранымі каленкамі,*

*Начынка ў нашых галовах усё ж магла б зрабіць*
*Нейкія цікавыя рэчы,*
*Але пакуль што там пуста і гуляе вецер,*
*Лятаюць мёртвыя мухі і пыл.*

*Дык навучы нас тым рэчам, што варта ведаць,*
*Вярні тое, што мы забыліся,*
*Проста зрабі ўсё магчымае, а мы - астатняе,*
*І ачысцім мозг ад усякага гнілля.*



Кожны канчаў песню ў розны час. У канцы толькі блізняты Уізлі спявалі ў адзіноце пад нейкі вельмі павольны пахавальны марш. Дамблдлор апошнія некалькі радкоў дырыжыраваў ім сваёй палачкай, і калі яны скончылі, ён быў адным з тых, хто пляскаў у далоні гучней за ўсіх.

- Ах, музыка, - сказаў ён, выціраючы вочы. – Большая магія, чым мы тут робім! Ну і цяпер спаць. Брысь!

Першакласнікі «Грыфіндора» пайшлі за Персі праз шумны натоўп з Вялікай залы па мармуровай лесвіцы.

Ногі Гары зноў сталі свінцовымі, але на гэты раз толькі таму, што ён стаміўся і наеўся. Хлопчык быў такі сонны, што нават не здзіўляўся, што людзі ў партрэтах, якія віселі ў калідорах шапталіся і паказвалі на вучняў пальцамі ці што два разы Персі правёў іх праз дзверы, схаваныя за прыхаванымі панэлямі і габеленамі.

Яны падняліся яшчэ вышэй, пазяхаючы і ледзь цягнучы ногі. Гары ўжо было цікава, як далёка ім яшчэ ісці, калі яны нечакана спыніліся.

У паветры перад імі вісеў пучок трасцін, і як толькі Персі зрабіў крок да яго, яны пачалі падаць зверху.

- Піўз, - шапнуў Персі першакласнікам. – Палтэргейст, - ён сказаў гучней. – Піўз – пакажыся!

Адказам стаў гучны, грубы гук, быццам паветра выпусцілі з балона.

- Ты хочаш, каб я пайшоў да Крывавага Барона?

Раздаўся воплеск, і з'явіўся маленькі чалавек са злымі, цёмнымі вочкамі і шырокім ротам. Ён плаваў у паветры са скрыжаванымі нагамі, трымаючы ў руках кучу кіёў.

- Вооох! - сказаў ён, зло рагочачы. – Першакласкі! Будзе весела!

Ён раптам наляцеў на іх. Усе яны нырнулі.

- Ідзі прэч, Піўз, або Барон даведаецца пра гэта! - раўнуў Персі.

Піўз высунуў язык і знік, скінуўшы палкі на галаву Нэвілу. Яны чулі, як ён улятаў прэч, бразгачы на хаду рыцарскімі даспехамі.

- Трымайцеся падалей ад Піўза, - засцярог Персі, калі яны пайшлі далей. - Крывавы Барон адзіны, хто можа кантраляваць яго, ён нават не слухае нас, старастаў. Ну вось мы і прыйшлі.

У самым канцы калідора вісеў партрэт вельмі тоўстай жанчыны ў ружовай шаўковай сукенцы.

- Пароль? – спытала яна.

- Капут драконіс, - сказаў Персі, і партрэт хіснуўся наперад, адчыняючы круглую адтуліну ў сцяне. Усе яны пралезлі праз яе – Нэвілу спатрэбілася дапамога




- і апынуліся ў агульным пакоі «Грыфіндора» - утульным, круглым, поўным мяккіх крэслаў.

Персі накіраваў дзяўчынак у адны дзверы ў іх спальню, а хлопчыкаў - у іншыя. У верхняй частцы вінтавой лесвіцы – а яны, відавочна, былі ў адной з вежаў - яны знайшлі ложкі, іх было пяць пад цёмна-чырвонымі аксамітнымі балдахінамі. Ложкі ўжо былі засланыя і разабраныя. Занадта стомленыя, каб шмат казаць, яны нацягнулі піжамы і забраліся пад коўдры.

- Выдатная была ежа, праўда? - прамармытаў Рон Гары праз балдахін. - Адчапіся, Скэберс! Ён жуе маю прасціну.

Гары збіраўся спытаць Рона, ці няма ў яго торта з мяккай патакай, але амаль адразу заснуў.

***

Магчыма, Гары з›еў занадта шмат, таму што ён бачыў вельмі дзіўныя сны. Ён быў апрануты ў турбан прафесара Квірэла, які працягваў гаварыць яму, што ён павінны быў ісці ў «Слізэрын», таму што гэта быў ягоны лёс.

Гары сказаў турбану, што ён не жадае быць у «Слізэрыне», а ён станавіўся ўсё цяжэй і цяжэй, хлопчык паспрабаваў зняць яго, але той зрабіўся больш жорсткім і балючым.

У сне акрамя таго быў Малфой, які смяяўся над тым, як ён змагаўся з турбанам. Потым Малфой ператварыўся ў гарбаносага настаўніка Снэйпа, пакуль ягоны смех не стаў высокім і халодным.

Выбухнула зялёнае святло, і Гары прачнуўся спатнелы і ўстрывожаны.

Але хлопчык перавярнуўся на іншы бок і зноў заснуў, а калі прачнуўся на наступны дзень не памятаў сноў наогул.



# Частка восьмая

# Майстар зелляў

Там, паглядзіце.

- Дзе?

- Побач з высокім хлопчыкам з рудымі валасамі.

- У акулярах?

- Вы бачылі яго твар?

- Вы бачылі яго шнар?

Шэпт суправаджаў Гары з таго моманту, ён сышоў са спальні на наступны дзень. Вучні, які пастроіліся перад класамі, уставалі на дыбачкі, каб паглядзець на яго або пераходзілі ў канец чаргі, каб зноў прайсці міма. Гары яны перашкаджалі, бо ён спрабаваў засяродзіцца на пошуку шляху да класу.

У «Хогвардсе» былі 142 лесвіцы: шырокія, крутыя, вузкія, з нечаканымі паваротамі, а некаторыя вялі кудысьці толькі па пятніцах, іншыя нечакана знікалі на паўдарогі так, што прыходзілася скакаць.

Потым былі дзверы, якія не адчыняліся, пакуль ветліва ў іх не запытаешся ці не паказычаш іх у нейкім патрэбным месцы. А яшчэ дзверы, якія насамрэч былі сценамі, проста вельмі добра прыкідваліся.

Таксама вельмі цяжка было ўспомніць, дзе што знаходзілася, таму што ўсё, здавалася, увесь час перасоўвалася. Людзі у партрэтах сыходзілі ў госці, наведвалі адзін аднаго. Гары не быў упэўнены, што даспехі таксама не сыходзілі пагуляць.

Прывіды толькі ўскладнялі сітуацыю. Хлопчык быў непрыемна ўражаны, калі адзін з іх слізгаў раптам праз дзверы, якія ён спрабаваў адчыніць.

Амаль Безгаловы Нік заўсёды быў шчаслівы, каб паказаць, куды ісці новым «грыфіндорцам».



Але Піўз-палтэргейст кожны раз, калі яго сустракалі перад самым званком на ўрок, рабіў непрыемнасцяў болей, чым дзве замкнёных дзверы і лесвіца з сакрэтам. Ён мог скінуць на галаву карзіну для смецця, выцягнуць дыван з-пад ног, закідаць крэйдай або падкрасціся ззаду нябачным, схапіць за нос з віскам: «Злавіў твой насішча!»

Нават горш, чым Піўз, калі гэта было магчыма, быў наглядчык, Аргус Філч. Гары і Рон патрапілі на ягоны кепскі настрой у першую ж раніцу. Філч знайшоў іх калі яны спрабавалі прарвацца ў дзверы, якія,

да няшчасця, былі ўваходам у забаронены калідор на чацвёртым паверсе. Ён не паверыў, што яны згубіліся, быў упэўнены, што яны спрабавалі ўварвацца знарок, і пагражаў замкнуць іх у падзямеллі. Іх выратаваў прафесар Квірэл, які праходзіў міма.

У Філча таксама была котка, місіс Норыс, худая, шаравата-карычневая істота з вытарашчанымі, падобнымі на лямпы, вачыма, прыкладна як і ў самога Філча. Яна самастойна патрулявала калідоры. Адно парушанае правіла ў яе на вачах, нават калі вы проста паставілі нагу на забароненую лінію, яна адразу бегла да Філча, які, сапучы, з›яўляўся праз дзве секунды.

Філч ведаў сакрэтныя праходы ў школе лепш, чым хто-небудзь (акрамя хіба блізнятаў Уізлі) і з'яўляўся раптоўна, як здань. Усе студэнты ненавідзелі яго і марылі даць Місіс Норыс добрага штурхаля.

А потым, калі вам удалося знайсці клас, пачыналіся заняткі. Магія – гэта было нашмат болей, чым проста махаць палачкай і казаць некалькі смешных словаў.

Яны павінны былі вывучаць начное неба праз тэлескоп кожную сераду апоўначы, каб даведацца пра імёны розных зорак і вывучыць рух планет.



Тройчы на тыдзень яны хадзілі ў цяпліцы за замкам для вывучэння траналогіі з маленькай каржакаватай ведзьмай прафесарам Спроўт. Там яны навучыліся клапаціцца пра дзіўныя расліны і грыбы і высветлілі, для чаго яны выкарыстоўваюцца.

Лягчэй за ўсё вучыць было самы сумны прадмет - гісторыю магіі, якую выкладаў прывід. Прафесар Бінс быў вельмі стары, аднойчы ён проста заснуў перад камінам у настаўніцкай і на наступную раніцу з'явіўся на заняткі ўжо без цела. Бінс бубніў і бубніў, а дзеці машынальна запісвалі імёны і даты, блытаючы Эметыка Эвіла з Урыкам Одбалам.

Прафесар Флітвік, настаўнік закляццяў, быў дробненькі чараўнік, які быў вымушаны стаяць на стосе кнігаў, каб яго было бачна над пісьмовым сталом. На першым уроку для першакласнікаў ён правёў пайменную пераклічку і калі дасягнуў імені Гары, выдаў ўзбуджаны піск і зваліўся пад стол.

Прафесар МакГонагал была зусім іншая. Гары цалкам меў рацыю, калі падумаў, што гэта была не тая настаўніца, з якой можна было спрачацца. Строгая і разумная, яна задала тон навучання адразу, калі яны прыйшлі на першы занятак.

- Трансфігурацыя з'яўляецца адной з самых складаных і небяспечных відаў магіі, якую вы будзеце вывучаць у «Хогвардсе», - сказала яна. – Любы, хто будзе хуліганіць у маім класе, сыдзе і не вернецца. Я вас папярэдзіла.

Потым яна пераўтварыла свой стол у свінню і назад. Яны былі моцна ўражаныя і не маглі дачакацца, каб пачаць рабіць нешта такое ж. Але неўзабаве дзеці зразумелі, што яны яшчэ вельмі доўга не будуць пераўтвараць мэблю ў жывёлаў.

Пасля таго, як яны запісалі шмат складаных формулаў, кожны з іх атрымаў запалку, каб паспрабаваць ператварыць яе ў іголку. Да канца ўроку толькі Герміёна Грэнджэр трохі змяніла сваю запалку, прафесар МакГонагал паказала класу, якой яна стала срэбранай з завостранымі канцом і адарыла Герміёну крайне рэдкай для строгага прафесара ўсмешкай.

Кожны з класа чакаў заняткаў па абароне ад цёмных мастацтваў, але ўрокі Квірэла былі падобныя на жарт. У аўдыторыі моцна пахла часнаком. Як казалі, гэта павінна было напужаць вампіра, якога прафесар сустрэў у Румыніі і баяўся яго вяртання. Ён распавёў вучням, што ягоны турбан яму падарыў афрыканскі прынц у знак падзякі за вызваленне ад надакучлівага зомбі. Але ніхто асабліва не паверыў у гэтую гісторыю.

Калі ж Сімус Фініган нецярпліва пачаў запытвацца, як Квірэл ваяваў з зомбі, прафесар паружавеў і пачаў распавядаць пра надвор›е. Акрамя таго, яны заўважылі, што вакол турбана вісеў дзіўны пах. Блізняты Уізлі сцвярджалі, што ён таксама поўны часнаку, каб Квірэл быў абаронены, куды б не пайшоў.

Гары быў вельмі рады даведацца, што ён не адставаў на занятках ад усіх іншых. Многія дзеці прыехалі з маглаўскіх сем›яў і падобна яму паняцця не мелі, што яны былі ведзьмамі і ведзьмакамі. А вучыць даводзілася так шмат, што і такія таварышы як Рон не мелі вялікай форы.

***

Пятніца была важным днём для Гары і Рона. Яны ні разу не згубіліся, калі ішлі ўніз, у вялікі хол, каб трапіць на сняданне.

- Што ў нас сёння? – спытаў Гары ў Рона, пасыпаючы цукрам сваю кашу.

- Два урокі зеллярварэння з «слізэрынцамі», - сказаў Рон. – Выкладчык – Снэйп, дэкан «Слізэрына». Кажуць, ён заўсёды падтрымлівае сваіх, мы зможам даведацца, ці праўда гэта.



- Хацеў бы я, каб МакГонагал дапамагала так нам, - сказаў Гары. Прафесар МакГонагал была дэканам «Грыфіндора», але гэта не перашкодзіла ёй напярэдадні задаць ім велізарную кучу хатняй працы.

Адразу пасля таго, як яны ўселіся, даставілі пошту. Гары ўжо прызвычаіўся да гэтага. Але ў першую раніцу ён быў моцна ўражаны, калі каля сотні соваў раптам уляцелі ў вялікую залу падчас сняданку. Птушкі кружылі над сталамі, пакуль не бачылі сваіх гаспадароў, яны апускалі ім лісты і пакункі на калені.

Да гэтага часу Букля нічога не прыносіла Гары. Часам яна прыляцела ў пакусвала яго вуха і з'ядала кавалачак тосту перад тым, як паляцець у савоўню адпачываць з іншымі школьнымі совамі. Сёння раніцай, аднак, яна спікіравала ўніз паміж мармеладам і цукарніцай і кінула цыдулку прама Гары ў талерку.

Хлопчык адразу разарваў канверт. Унутры былі вельмі неахайныя крамзолі.

*Паважаны Гары,*

*Я ведаю, другая палова пятніцы ў цябе вольная. Ты не хацеў бы прыйсці і выпіць кубак гарбаты са мной каля трох?*

*Я хачу пачуць ўсё аб тваім першым тыдні ў школе. Дашлі адказ зваротна з Букляй.*

*Хагрыд*

Гары пазычыў пяро ў Рона, каб надрапаць на кавалку паперы: «Так, калі ласка, ўбачымся пазней», - і аддаў яе Букле.

Гарбата з Хагрыдам была вельмі дарэчы, бо інакш урок зельляварэння падаўся б яшчэ горшым. А ён і так быў самым кепскім з таго, што здаралася з Гары да гэтага часу ў «Хогварсе».

На банкеце, прысвечаным пачатку навучальнага году, Гары быў упэўнены, што прафесар Снэйп не любіў яго. Да канца першага ўрока зельляварэння ён зразумеў, што памыляўся. Снэйпу не проста не падабаўся Гары, ён яго ненавідзеў.

Заняткі па зельляварэнню праходзілі ўнізе ў адным з падзямелляў. Там было значна халадней, чым зверху, і даволі непрыемна, да таго ж там яшчэ былі і расстаўленыя ўздоўж сценаў банкі з заспіртаванымі жывёламі.

Снэйп, як і Флітвік, пачаў урок з пайменнай пераклічкі класа, і як Флітвік спыніўся на імені Гары.

- Ах, таак, - сказаў ён мякка, - Гары Потэр - наша новая... знакамітасць.

Драко Малфой і яго сябры Крэб і Гойл захіхікалі ў кулачкі. Снэйп скончыў называць імёны і паглядзеў на клас. Яго вочы былі чорнымі, як у Хагрыда, але ў іх не было цяпла веліканa, яны былі халодныя і пустыя, быццам цёмныя тунэлі.

- Вы тут, каб даведацца пра тонкую навуку і дакладнае мастацтва - зельляварэнне, - пачаў ён. Ён казаў ледзь не шэптам, але яны лавілі кожнае слова - як прафесар МакГонагал, Снэйп валодаў увагай класа без высілкаў. – Паколькі тут няма дурнога махання палачкай, многія з вас наўрад ці палічаць гэта магіяй. Я не чакаю, што вы сапраўды зразумееце прыгажосць ціха кіпячага зелля з мігатлівай дымкай, тонкай сілай вадкасці, якое, трапляючы ў чалавечыя вены, чаруе розум і ловіць у пастку пачуцці…

Я магу навучыць вас, як прыгатаваць бутэльку славы, зварыць храбрасць, спыніць смерць, калі вы не вялікая куча ёлупняў, якіх звычайна прыходзіцца вучыць.

Поўная цішыня павісла ў класе пад час гэтай маленькай прамовы. Гары і Рон абмяняліся поглядамі з паднятымі бровамі. А Герміёна Грэнджэр сядзела на краі свайго месца, гатовая адчайна пачаць даказваць, што яна не ёлупень.




- Потэр! - сказаў Снэйп раптоўна. - Што я атрымаю, калі я дадам парашок кораня златакветніка да настою палыну?

Сухі корань да настою чаго? Гары зірнуў на Рона, які, здавалася, тупіў, як ён сам, а вось рука Герміёны выстраліла ў паветра.

- Я не ведаю, сэр, - сказаў Гары.

Вусны Снэйпа скрывіліся ў насмешцы.

- Ту-ту, на ўроку слава, відавочна, не ўсё.

Ён праігнараваў руку Герміёны.

- Давайце паспрабуем яшчэ раз. Потэр, дзе б вы шукалі, калі б я сказаў вам знайсці мяне безаар?

Герміёна выцягнула руку высока ў паветра, калі так пойдзе далей, яна выскачыць з свайго месца. Але Гары не меў ніякага ўяўлення аб тым, што такое безаар. Ён стараўся не глядзець на Малфоя, Крэба і Гойла, якія трэсліся ад рогату.

- Я не ведаю, сэр.

- Эх, Потэр, думаю, вы не адкрывалі кнігу да прыезду?

Гары прымусіў сябе вытрымаць позірк халодных вачэй. Ён праглядаў кнігі яшчэ ў Дурсляў, але ці сапраўды Снэйп чакаў, што ён памятае ўсё, што напісана ў «Тысячы магічных траваў і грыбоў»?

Снэйп як і раней не звяртаў увагі на дрыжачую руку Герміёны.

- Якая розніца, Потэр, паміж сінім борцам і сінім башмачком?

Пры гэтых словах Герміёна ўстала, быццам спрабавала дастаць рукой да самай столі падзямелля.

- Я не ведаю, - сказаў Гары спакойна. - Я думаю, Герміёна ведае, чаму б вам не паспрабаваць запытацца ў яе?

Некалькі чалавек засмяяліся, Гары злавіў погляд Сімуса, які падміргнуў яму. Снэйп, аднак, не быў задаволены.

- Сядзь, - адрэзаў ён Герміёне. - Для вас, Потэр, я распавяду: златакветнік і палын робяць соннае зелле настолькі магутным, што яны вядомыя як «глыток жывой смерці». Безаар – гэта камень з казінага страўніка, і ён выратоўвае вас ад самых страшных атрутаў. Што ж тычыцца башмачка і борца, то гэтыя расліны таксама вядомыя пад назвай аканітаў. Ну што? Чаму вы ўсе гэта не запісваеце?

Ва аўдыторыі запанавалі скрып пер’я і шорах пергаменту. У гэты час Снэйп сказаў:

- Мінус адзін бал «Грыфіндор», дзякуючы вам, Потэр.

З працягам зелляварэння сітуацыя для «грыфіндорцаў» не палепшылася. Снэйп падзяліў іх усіх на пары і даў заданне на змешванне простага зелля для лячэння нарываў. Ён прайшоўся па ўсяму класу у сваёй доўгай чорнай мантыі, гледзячы, як



яны ўзважвалі сушаную крапіву і тоўчаныя іклы змяі, крытыкуючы амаль усіх, акрамя Малфоя, які яму, здавалася, спадабаўся.

Снэйп прапанаваў усім паглядзець на ідэальны спосаб Малфоя зварыць рагатых смоўжняў, калі аблокі кіслотнага зялёнага дыму з гучным шыпеннем запоўнілі падзямелле. Нэвілу нейкім чынам удалося расплавіць кацёл Сімуса, і іх зелле сачылася па каменнай падлозе, прапальваючы дзіркі ў абутку вучняў.

Праз некалькі секундаў ўвесь клас стаяў на крэслах, а Нэвіл, на якога трапіла зелля, калі кацёл паваліўся, стагнаў ад болю, а па ягоных руках і нагах хутка распаўсюджваліся вялікія чырвоныя фурункулы.

- Хлопчык-ідыёт! - гыркнуў Снэйп, ачышчаючы падлогу ад разлітага зелля адным узмахам палачкай. - Я мяркую, вы дадалі іголкі дзікабраза перад тым, як зняць кацёл з агню?

Нэвіл захныкаў, фурункулы пачалі з›яўляцца ў яго на носе.

- Адвядзіце яго ў бальнічнае крыло, - Снэйп кіўнуў Сімусу. Затым ён крутануўся да Гары і Рона, якія працавалі побач з Нэвілам. - А вы, Потэр, чаму вы не сказалі яму? Думалі, што будзеце выглядаць добра на ягоным фоне? Гэта яшчэ адзін бал, страчаны для «Грыфіндора».

Гэта было так несправядліва, што Гары адкрыў рот, каб запярэчыць. Але Рон штурхнуў яго за катлом.

- Не спрачайся з ім, - прамармытаў ён. - Я чуў, Снэйп можа быць жудасным. «Грыфіндор» можа згубіць і дзясятак балаў.

***

Калі яны выходзілі з падзямелля праз гадзіну, Гары абдумваў усё і зусім упаў духам. Праз яго «Грыфіндор» згубіў два балы ў першы ж тыдзень. Чаму Снэйп ненавідзець яго так моцна?

- Не клапаціся, - сказаў Рон, - Снэйп заўсёды пазбаўляе балаў за Фрэда і Джорджа. Ці магу я пайсці на сустрэчу з Хагрыдам з табой?

У 14:55 яны выйшлі з замка і пайшлі вакол яго. Хагрыд жыў ў маленькім драўляным доміку на краі Забароненага лесу. На дзвярах ягонай хаты віселі арбалет і пару галёшаў.

Калі Гары пастукаў яны пачулі апантанае драпанне знутры і лай, які рабіўся



гучней і гучней. Потым пачуўся голас Хагрыда: «Назад, Ікол, назад!»

У трохі прыадчыненых дзвярах з'явіўся вялікі валасаты твар Хагрыда.

- Заходзьце, - сказаў ён. - Назад, Ікол.

Ён упусціў іх, трымаючы за ашыйнік велізарнага чорнага нямецкага дога.

Унутры быў толькі адзін пакой. Вяндліна і фазаны віселі пад столлю, медны чайнік кіпеў на адкрытым агні, а ў куце стаяў масіўны ложак, засланы коўдрай.

- Адчувайця с'бе як дома, - сказаў Хагрыд, адпускаючы Ікла, які кінуўся прама на Рона і пачаў лізаць хлопчыку вушы. Як і Хагрыд, Ікол, відавочна, быў не такі страшны, як выглядаў.

- Гэта Рон, - сказаў Гары Хагрыду, пакуль велікан наліваў кіпень у вялікі імбрык і клаў на талерку каменна-цвёрдыя піражкі.

- Яшчэ адзін Уізлі, га? – спытаў Хагрыд, зірнуўшы на вяснушкі Рона. Я правёў палову жыцця, выл'ўліваючы з забароненага лесу тваіх братоў.

Піражкі былі бясформеннымі кавалкамі з разынкамі, аб іх можна было зламаць зубы, але Гары і Рон рабілі выгляд, што атрымліваюць асалоду, пакуль распавядалі Хагрыду усё пра свае першыя ўрокі. Ікол паклаў галаву на калені Гары і абслініў усю ягоную форму.

Гары і Рон былі ўсцешаны пачуць заўвагу Хагрыда пра Філча, які прама назваў наглядчыка старым ёлупнем.

- Вось было б прыкольна пазнаёміць ягоную кошку, місіс Норыс, з Іклам. Ведаеце, кожны раз, калі я іду па школе, яна рушыць услед за мной усюды? Не магу пазбавіцца ад яе: Філч яўна прыставіў яе да мяне.

Гары расказаў Хагрыду аб ўроку Снэйпа. Хагрыд, як і Рон, параіў Гары не турбавацца пра гэта, бо наўрад ці Снэйп любіў кагосьці з студэнтаў.

- Але ён, здаецца, сапраўды ненавідзіць мяне.

- Глупства! - сказаў Хагрыд. – З чаго б гэта?

Але Гары не мог не заўважыць, што велікан адвёў позірк, калі сказаў гэта.

- Як эээ твой брат Чарлі? - спытаў Хагрыд у Рона. - Я моцна любіў яго, ён добра ладзіў з жывёламі.

Гары задумаўся, чаму Хагрыд змяніў тэму размовы. Пакуль Рон апавядаў лесніку пра працу Чарлі з драконамі, Гары ўзяў ліст паперы, які ляжаў на стале пад імбрыкам. Гэта была выразка з «Штодзённага Прарока».



## Апошнія навіны пра спробу ўзлому «Грынгатса»

***Працягваецца расследаванне пра ўзлом сейфа ў «Грынгатсе» 31 ліпеня. Шырока распаўсюджана меркаванне, што гэта было справай рук невядомых цёмных чараўнікоў або ведзьмаў.***

Гобліны «Грынгатса» настойваюць, што нічога не было скрадзена. Узломшчыкі пракраліся ў сейф, гаспадар якога забраў з ячэйкі ўсё трохі раней у той жа дзень.

«Але мы не скажам вам, што там было, так што не совайце свой нос не ў свае справы», - сказаў прэс-гоблін з «Грынгатса» сёння ў другой палове дня.

Гары ўспомніў, як Рон казаў яму ў цягніку, што нехта спрабаваў абрабаваць «Грынгатс», але не прыгадаў калі.

- Хагрыд! - сказаў Гары, - а што аграбленне «Грынгатса» адбылося ў дзень майго нараджэння? Гэта, магчыма, адбывалася у той час, калі мы былі там!

Не было ніякіх сумневаў: Хагрыд адвёў вочы на гэты раз. Ён хмыкнуў і прапанаваў хлопчыку яшчэ адзін каменны піражок.

Гары прачытаў газетную выразку яшчэ раз. З ячэйкі, якую спрабавалі абрабаваць, гаспадар забраў усё раней у той жа дзень. Хагрыд падчысціў сейф семсот трынаццаць, калі можна назваць «падчысціў», калі ён забраў брудны маленькі пакет. А, можа, гэта было як раз тое, што шукалі злодзеі?

***

Калі Гары і Рон вярнуўся ў замак на абед, іхнія кішэні былі напоўненыя каменнымі піражкамі, ад якіх яны так і не здолелі адмовіцца. Гары думаў, што ні адзін з урокаў не даў яму столькі прычынаў для пытанняў, чым гарбата з Хагрыдам.

Ці сапраўды ключнік вельмі своечасова забраў пакет? Дзе ён цяпер? І ці ведае Хагрыд нешта пра пра Снэйпа, пра што не хацеў казаць Гары?



# Частка дзевятая

# Паўночная дуэль

Гары ніколі не верыў, што сустрэне хлопчыка, якога будзе ненавідзець больш, чым Дадлі. Але гэта было да сустрэчы з Драко Малфоем. Праўда ў першакласнікаў «грыфіндорцаў» з «слізэрынцамі» агульным было толькі зелляварэнне, таму яны з Малфоем асабліва не сустракаліся.

Прынамсі, да таго, як у агульным пакоі «Грыфіндора» не з›явілася абвестка, якая прымусіла іх усіх застагнаць: урокі палётаў пачнуцца ў чацвер, і «Грыфіндор» з «Слізэрынам» будуць вучыцца разам.

- Нармальна, - сказаў Гары змрочна. - Проста тое, што я заўсёды хацеў. Каб паказаць сабе дурнем на мятле прама перад Малфоем.

Хлопчык больш за ўсё на свеце чакаў, каб навучыцца лятаць.

- Не факт, што ты сабе пакажаш дурнем, - сказаў разважна Рон. - У любым выпадку, я ведаю, Малфой заўсёды распавядае пра тое, як добра ён гуляе ў квідыч, але я ўпэўнены, што гэта проста размовы.

Малфой, сапраўды, шмат казаў пра палёты. Ён гучна скардзіўся на тое, што першакласнікі не гуляюць у камандах па квідычу, і расказваў доўгія, выхвальныя гісторыі, якія заўсёды заканчваліся ягонымі ўцёкамі ад маглаў на верталётах.

Ён быў не адзін такой: Сімус Фініган казаў, што правёў большую частку свайго дзяцінства ў палётах вакол вёскі на сваёй мятле. Нават Рон усім, хто быў гатовы слухаць, распавядаў пра той выпадак, калі як ён ледзь не сутыкнуўся з дэльтапланам на старой мятле Чарлі.

Усе дзеці з сем›яў чараўнікоў увесь час казалі аб квідычу. Рон ўжо завязаў вялікую спрэчку з Дзінам Томасам, які жыў з імі ў пакоі і падзяліўся сваімі думкамі пра футбол. Рон не разумеў, што было цікавага ў гульні з адным мячом, дзе нельга было лятаць.

Гары злавіў Рона за падштурхоўваннем гульцоў з каманды Заходняга Хэма па футболе на плакаце Дзіна. Уізлі хацеў прымусіць іх рухацца.

Нэвіл ніколі ў жыцці не лятаў, таму што бабуля ніколі не давала яму шансу нават пабыць побач з мятлой. Пра сабе Гары думаў, што яна мела рацыю, таму што Нэвіл умудраўся трапляць у надзвычайную колькасць непрыемнасцяў нават калі ягоныя дзве нагі цвёрда стаялі на зямлі.

Герміёна Грэнджэр амаль так жа нервавалася аб палётах, як Нэвіл. Гэта было нешта, дзе завучванне з кніжкі не дапамагло б – з такім яна яшчэ не сутыкалася. За сняданкам у чацвер яна сыпала тупымі парадамі, якія прачытала ў бібліятэчнай кнізе «Квідыч скрозь стагоддзі».

Нэвіл слухаў кожнае яе слова, адчайна маючы патрэбу ва ўсім, што можа дапамагчы яму ўтрымацца на мятле. Але ўсім астатнім было вельмі прыемна, калі лекцыя Герміёны была перапыненая поштай.

Гары не прыйшло ніводнага ліста пасля нататкі ад Хагрыда. Але Малфою,

канечне ж, звесткі з дому прыходзілі. Пугач Малфоя заўсёды прыносіў яму пакеты ласункаў, які ён зларадна адчыняў за сталом «Слізэрына».

Сіпуха прынесла Нэвілу невялікі пакет ад ягонай бабулі. Ён ўсхвалявана адчыніў яго і паказаў ім даволі вялікі шкляны шар, які, здавалася, быў поўны белага дыму.

- Гэта ўспаміналка! - растлумачыў хлопчык. – Ба ведае, што я забываюся на розныя рэчы, а гэтая штука падкажа, калі вы нешта забыліся зрабіць. Паслухайце, вы моцна яе трымаеце, а калі яна становіцца чырвонай... ой…

Ягоны твар стаў разгубленым, таму што ўспаміналка раптам стала пунсовай,

- Ты забыўся сёе-тое….

Нэвіл спрабаваў прыгадаць, што  ж ён забыўся зрабіць, калі Драко Малфой, які праходзіў міма стала «Грыфіндора», выхапіў успаміналку з ягоных рук.

Гары і Рон ускочылі. У розуме яны даўно спадзяваліся, што ўзнікне нейкая прычына, каб пабіцца з Малфоем, але прафесар МакГонагал, якая магла адшукаць непрыемнасці хутчэй, чым любы настаўнік у школе, з’явілася ў імгненне вока.

- Што адбываецца?

- Малфой забраў маю ўспаміналку, прафесар.

Спахмурнеўшы, Малфой хутка кінуў успаміналку назад на стол.

- Проста глядзеў, - сказаў ён і сышоў разам з Крэбам і Гойлам.

***

У 15.30, у той жа дзень, Гары, Рон і іншыя «грыфіндорцы» паспяшаліся ўніз па прыступках да галоўнага ўвахода, каб накіравацца на свой першы лётны ўрок.

Гэта быў ясны, свежы дзень, і трава пружыніла пад нагамі, калі яны спускаліся па пакатаму схілу на гладкі, роўны газон на супрацьлеглым баку ад узлеску Забароненага лесу, чые дрэвы змрочна качаліся на адлегласці.

«Слізэрынцы» былі ўжо там, і там жа былі дваццаць мётлаў, які ляжалі акуратнымі лініямі на зямлі. Гары чуў, як Фрэд і Джордж Уізлі скардзіліся на школьныя мётлы, кажучы, што некаторыя з іх пачыналі вібрыраваць, калі залятаалі занадта высока, ці заўсёдыляталі трохі лявей.

Прыйшла іх настаўніца, мадам Хуч. У яе былі кароткія, сівыя валасы і жоўтыя вочы, як у коршака.

- Ну, і чаго вы ўсе чакаеце? – гыркнула яна. - Усе на мётлы. Давайце, паспяшайцеся.

Гары зірнуў на сваю мятлу. Яму дастаўся стары, патрапаны венік з вылезшымі пад дзіўнымі вугламі галінкамі.

- Трымайце правую руку над мятлой, - заявіла мадам Хуч, - і скажыце: «Уверх!»

- УВЕРХ! – закрычалі ўсе.

Мятла Гары адразу скокнула ў руку, але ён быў адзін з нешматлікіх вучняў, у каго гэта атрымалася. Венік Герміёны Грэнджэр проста перавярнуўся на зямлі, а ў Нэвіла не ссунуўся ні на міліметр. Можа быць, мётлы, як коні, разумелі, калі вы баяліся, падумаў Гары. Вось у Нэвіла дрогнуў голас, і адразу стала зразумела, што ён хоча, каб ягоныя ногі засталіся на зямлі.

Потым мадам Хуч паказала, як сядаць на мятлу, каб не саслізваць з яе канца і прайшла па шэрагах, змяняючы іх захопы. Гары і Рон былі ў захапленні, калі

прафесар сказала Малфою, што ён рабіў гэта няправільна на працягу многіх гадоў.

- Цяпер, калі свісну, вы з сілай стартуеце з зямлі, - сказала мадам Хуч. - Трымайце мётлы ўстойліва. Уздыміцеся на метр, і спускайцеся, ледзь-ледзь нахіляючыся наперад. Па майму свістку – тры-два…

Але Нэвіл, нервовы ад боязі застацца на зямлі, адштурхнуўся ад зямлі, як толькі свісток дакрануўся да вуснаў мадам Хуч.

- Вярніся, хлопчык! - закрычала яна, але Нэвіл падымаўся вертыкальна ўверх, як корак, вылецеўшы з бутэлькі… шэсць метраў… дзесяць. Гары бачыў яго страшна белы твар, як ён паглядзеў уніз на зямлю і пачаў бокам саслізгваць з мятлы…

Бух! Глухі стук і непрыемны трэск. А Нэвіл бясформеннай кучай ляжаў тварам уніз на траве. Яго мятла па-ранейшаму падымалася ўсё вышэй і вышэй і лянiва пачала дрэйфаваць у бок Забароненага лесу і схавалася з выгляду.

Мадам Хуч схілілася над Нэвілам, яе твар быў такі ж белы, як у яго.

- Зламаў запясце, - пачуў Гары. - Давай, хлопчык, паднімайся, усё ў парадку.

Яна павярнулася да астатніх вучняў.

- Ніхто з вас не павінен рухацца, пакуль я вяду гэтага хлопчыка ў бальнічнае крыло! Вы пакінеце гэтыя венікі, дзе яны знаходзяцца, ці будзеце адлічаны з «Хогвардса» да таго, як паспееце сказаць: «квідыч». Давай, дарагі.

Нэвіл з заплаканым тварам, трымаючы сабе за запясце, закульгаў з мадам Хуч, якая абняла яго.

Як толькі яны адышлі па-за межы чутнасці, Малфой зарагатаў.

- Вы бачылі яго твар, гэтага пельменя?

Іншыя «слізэрынцы» падхапілі.

- Заткніся, Малфой, - адрэзала Парваці Пацiл.

- Вох, ты абараняеш Лонгботама? - запыталася Пансі Паркінсан, суровая дзяўчына з «Слізэрына». - Ніколі не думала, што табе падабаюцца тлусценькія плаксы, Парваці.

- Глядзіце! - сказаў Малфой, кідаючыся наперад і ухапіўшы нешта з травы. - Гэта тая дурная штука, якую Лонгботаму даслала ягоная бабка.

Успаміналка зазіхацела на сонцы, калі ён падняў яе.



- Дай, яе сюды, Малфой, сказаў Гары спакойна. Усе змоўклі.

Малфой гадка ўсміхнуўся.

- Я думаю, што пакіну яе недзе, дзе Лонгботам адразу знойдзе яе. Як наконт пакласці яе на дрэва?

- Давай успаміналку сюды! – закрычаў Гары, але Малфой ускочыў на мятлу і ўзляцеў. Ён не хлусіў, ён сапраўды добра лятаў.

Калі ягоная мятла была недзе на ўзроўні верхніх галін дуба ён паклікаў:




- Ідзі і вазьмі гэта, Потэр!

Гары схапіў сваю мятлу.

- Не! – закрычала Герміёна Грэнджэр. – Мадам Хуч сказала нам не рухацца! Праз цябе у нас будуць непрыемнасці.

Гары не звярнуў увагі. Кроў грукала ў вушах. Ён усеўся на мятле і нагамі з сілай адпіхнуўся ад зямлі - уверх, уверх - ён узляцеў, вецер ускудлаціў ягоныя валасы і падхапіў мантыю.

У парыве радасці ён зразумеў, што знайшоў тое, што ён мог зрабіць і без навучання. Гэта было лёгка, гэта было выдатна! Ён пацягнуў мятлу яшчэ трохі ўверх, каб падняцца яшчэ вышэй, і пачуў крыкі і ўздыхі дзяўчынак з зямлі і вокліч Рона.

Ён рэзка развярнуў мятлу і аказаўся твар да твару з Малфоем. Той выглядаў ашаломленым.

- Давай яе сюды, пракрычаў Гары, - ці я скіну цябе з мятлы!

- Ах так? - сказаў Малфой, спрабуючы за насмешкай схаваць занепакоенасць.

Нейкім чынам Гары ўжо ведаў, як што трэба рабіць. Ён нахіліўся і схапіў мятлу моцна ў абедзве рукі і паляцеў у бок Малфоя хутка-хутка, стрэліў як дзіда. Малфой з цяжкасцю паспеў адляцець у бок. Гары зрабіў рэзкі паварот вакол і выраўняў мятлу. Частка гледачоў знізу запляскалі ў далоні.

- Няма Крэба і Гойла, каб выратаваць шыю, Малфой? - запытаўся Гары.

Тая ж думка, здавалася, з'явілася і ў Малфоя.

- Злаві яго цяпер, калі зможаш! - крыкнуў ён і кінуў шкляны шар высока ў паветра, а сам ірвануў зваротна да зямлі.

Быццам у запаволеным руху Гары бачыў, як успаміналка паднялася ў паветра і затым пачала падаць. Ён нахіліўся наперад і даслаў сваю мятлу рэзка ўніз. У наступную секунду хлопчык набіраў хуткасць у крутым піке ў гонцы за шарам.

Вецер свістаў у вушах, змяшаўшыся з крыкамі людзей-гледачоў. Ён працягнуў руку – у метры ад зямлі злавіў успаміналку як раз своечасова, каб выраўняць мятлу. Ён мякка прызямліся на траву з шарам, заціснутым у кулаку.

- ГАРЫ ПОТЭР!

Яго сэрца ўпала хутчэй, чым ён толькі што ляцеў на мятле. Да яго бегла прафесар МакГонагал. Ён падняўся на ногі, дрыжачы.

- Ніколі, за ўвесь час маёй працы ў «Хогвардсе»…

Прафесар МакГонагал амаль згубіла мову ад шоку, а яе акуляры бліснулі вельмі сур'ёзна.

- Як ты смееў… ты ж мог зламаць шыю.

- Гэта была не яго віна, прафесар.

- Маўчыце, міс Паціл.

- Але Малфой...

- Дастаткова, містэр Уізлі. Потэр, ідзіце за мной. Зараз жа.

Гары заўважыў урачыстыя твары Малфоя, Крэба і Гойла, калі ён панура пайшоў за прафесарам МакГонагал. Прафесар ішла хуткай хадой да замка. Яго цяпер адлічаць, ён проста ведаў гэта. Ён хацеў сказаць што-небудзь, каб абараніць сябе, але, здавалася, згубіў мову.

Прафесар МакГонагал ішла наперад, нават не гледзячы на хлопчыка. Яму давялося бегчы трушком, каб не адставаць. У выніку ён гэта зрабіў. Не прайшло і двух тыдняў. Самае большае праз дзесяць хвілінаў ён пойдзе ўпакоўваць валізкі. Што скажуць Дурслі, калі ён будзе стаяць у іх па дзвярыма?

Падымаючыся па прыступках цэнтральнага ўваходу, па мармуровай лесвіцы, прафесар МакГонагал так і не сказала яму ні слова. Яна рашуча маршыравала па калідорах, рыўком адчыняючы перад сабой дзверы, а Гары рыссю бег ззаду. Можа быць, яна вяла яго да Дамблдлора. Ён падумаў пра Хагрыда, якога хаця і выгналі але дазволілі застацца пры школе ключнікам. Магчыма, ён мог бы быць памочнікам у Хагрыда...

Страўнік хлопчыка скруціла, калі ён уявіў, як будзе назіраць за тым, як Рон і іншыя становяцца чараўнікамі, а ён будзе ахоўваць торбу Хагрыда.

Прафесар МакГонагал спынілася перад нейкім класам. Яна адчыніла дзверы і прасунула галаву ўнутр.

- Прабачце, прафесар Флітвік. Магу я забраць Вуда на хвілінку?

«Вуд?» - падумаў Гары разгублена. Што за Вуд, і як яна збіраецца выкарыстоўваць яго для пакарання?

Але Вуд аказаўся хлапцом плотнага целаскладу, пэўна, з пятага курсу. Ён выйшаў ад прафесара Флітвіка трохі разгубленым.

- Ідзіце за мной, вы двое, - сказала прафесар МакГонагал, і яны рушылі па калідоры. Вуд з цікаўнасцю глядзеў на Гары.

- Сюды.

Прафесар завяла іх у пусты клас. Там быў толькі Піўз, які быў заняты распісваннем непрыстойнымі словамі школьнай дошкі.

- Вон, Піўз! - раўкнула яна. Піўз кінуў крэйду ў сметніцу, якая гучна ляснула, і ўляцеў з праклёнамі. Прафесар МакГонагал зачыніла за ім дзверы і павярнулася да хлопчыкаў.

- Потэр, гэта Олівер Вуд. Вуд, я знайшла вам шукальніка.

Выраз твару Вуда змяніўся са здзіўлення на захапленне.

- Вы гэта сур’ёзна, прафесар?

- Абсалютна, - сказала МакГонагал суха. – У хлопчыка - талент. Я ніколі не бачыла нічога падобнага. Вы ж былі першы раз на мятле, Потэр?

Гары моўчкі кіўнуў. Ён не меў аніякага паняцця, што адбываецца, але не падобна, што яго выганяюць. Хлопчык зноў пачаў адчуваць свае ногі.

- Ён злавіў гэтую штуку, спусціўшыся з 30 метраў, - сказала прафесар Вуду. – І ні драпінкі. Нават Чарлі Уізлі не змог бы такога зрабіць.

Вуд цяпер выглядаў, быццам усе яго мары спраўдзіліся адразу.

- Калі-небудзь бачыў гульню ў квідыч, Потэр? - спытаў ён усхвалявана.

- Вуд – капітан каманды «Грыфіндора», - патлумачыла прафесар МакГонагал.

- У яго і фігура, якая трэба для шукальніка, - сказаў Вуд, абыходзячы вакол і аглядаючы Гары. - Лёгкі – хуткі… Мы павінны адшукаць яму годную мятлу. Я бы сказаў, прафесар, што патрэбны «Німбус 2000» або «КлінСвіп-7».

- Я пагавару з прафесарам Дамблдлорам і паглядзім, ці можна абысці правіла пра забарону гуляць у камандзе для першакурснікаў. Бачыць Бог, у гэтым годзе

мы павінны лепш гуляць, чым у мінулым. У апошнім матчы мы ганебна прайгралі «Слізэрыну», і я не магла глядзець у твар Северусу Снэйпу тыднямі…

Прафесар МакГонагал строга паглядзела праз акуляры на Гары.

- Я хачу пачуць, што вы старанна трэніруецеся, Потэр, ці я магу змяніць сваё меркаванне пра пакаранне для вас.

Потым яна нечакана ўсміхнулася.

- Твой бацька ганарыўся б табой, - сказала яна. – Ён быў проста выключным гульцом у квідыч.

***

- Ты жартуеш?!

Быў час абеду. Гары толькі закончыў распавядаць Рону пра тое, што здарылася, калі ён сышоў з пляцоўцы з прафесарам МакГонагал. Рон набіў рот стэйкам і пірагом, але забыўся жаваць, так захапіла яго гісторыя.

- Шукальнік? – спытаўся ён. – Але першакурснікі ніколі… ты, пэўна, будзеш самым маладым гульцом за факультэт за апошнія…

- Сто год, - дадаў Гары, адкусваючы велічэзны кавалак пірага. Ён адчуваў дзікі голад пасля перажыванняў гэтага дня. – Вуд сказаў мне.

Рон быў в такім захапленні, што глядзеў ва ўсе вочы на Гары.

- Я пачну трэніравацца на наступным тыдні, - сказаў Гары. – Толькі не кажы нікому. Вуд хоча захаваць гэта ў сакрэце.

Фрэд і Джордж Уізлі зайшлі ў залю, пабачылі Гары і падышлі да яго.

- А ты малойца, - сказалі яны ціхімі галасамі. -  Вуд сказаў нам. Мы таксама ў камандзе. Адбіваючыя.

- Я скажу вам, мы абавязкова выіграем кубак па квідычу ў гэтым годзе, - сказаў Фрэд. – Мы не выігрывалі з таго часу, як наш брат Чарлі закончыў школу, але ў гэтым годзе ў нас падбіраецца найкруцейшая каманда. Ты павінны добра гуляць, Гары, Вуд падскакваў на месцы, калі распавядаў нам пра цябе.

- Ладна, мы павінны ісці, - дадаў Джордж. - Лі Джордан заявіў, што знайшоў новы сакрэтны выхад са школы.

- Б'юся аб заклад, гэта за статуяй Грэгары Смармі, якую мы знайшлі ў першы тыдзень. Усё, пабачымся.

Не паспелі Фрэд and Джордж сысці, як аднекуль з'явіўся Малфой, якога суправаджалі Крэб і Гойл.

- Апошні абед, Потэр? Калі твой цягнік да маглаў?

- Ты вярнуў сабе сваю храбрасць, калі вярнуўся на зямлю, і твае маленькія сябры з табой, - сказаў Гары халодна. Канечне, нічога маленькага ў Крэйбе і Гойле не было, але Высокі стол быў поўны настаўнікаў, і ніхто з сяброў Малфоя не мог зрабіць нічога акрамя як скрывіцца.

- Я гатовы разабрацца з табой у любы момант, - сказаў нечакана Малфой. – Сёння ноччу, калі жадаеш. Дуэль чараўнікоў. Толькі палачкі, ніякага фізічнага кантакту. Што ты глядзіш? Упершыню пачуў пра дуэль чараўнікоў?

- Канечне, ён чуў, - заявіў Рон. – Я яго секундант, хто твой?

Малфой паглядзеў на Крэба і Гойла, параўноўваючы іх.

- Крэб, - сказаў ён. – У поўнач, о’кей? Мы сустрэнемся ў залі трафеяў, яна заўсёды адчыненая.

Калі Малфой сышоў, Рон і Гары паглядзелі адзін на аднаго.

- Што за дуэль чараўнікоў? – спытаў Гары. – І што значыць, што ты мой секундант?

- Хм, секундант забірае цябе дадому, калі ты загінеш пад час дуэлі, - сказаў Рон спакойна, адкусваючы кавалак халоднага пірага.

Ён хутка паглядзеў на твар сябра.

- Але людзі паміраюць толькі на сапраўдных дуэлях, разумееш? Паміж сапраўднымі чараўнікамі. А ты і Малфой хіба што іскры адзін на аднаго нашлеце. Ніхто з вас не ведае магію дастаткова, каб нанесці нейкую шкоду. Магу паспрачацца, ён увогуле чакаў, што ты адмовішся.

- І што будзе, калі я ўмахну палачкай, і нічога не адбудзецца?

- Узмахнеш ёй яшчэ раз і трэснеш яму па носе, - сказаў Рон.

- Прабачце.

Абодва паднялі галовы. Гэта была Герміёна Грэнджер.

- Можа чалавек спакойна даесці свой пірог? – спытаў Рон.

Герміёна праігнаравала яго і размаўляла выключна з Гары.

- Я выпадкова падслухала, што вы з Малфоем гаварылі…

- Магу паспрачацца, ты гэта спецыяльна, - прабурчаў Рон.

- І ты не павінны хадзіць па школе пасярод ночы, падумай колькі балаў згубіць «Грыфіндор», калі цябе зловяць. А цябе абавязкова зловяць. Гэта вельмі эгаістычны ўчынак.

- І гэта не твае справы, - адказаў Гары.

- Паакууль, - дадаў Рон.

***

«У любым выпадку гэта не назавеш файным завяршэннем дня», - думаў Гары значна пазней, калі ён ужо ляжаў у сваім ложку і слухаў, як засыпаюць Дзін і Сімус. (Нэвіл яшчэ не вярнуўся з бальнічнага крыла).

Рон увесь вечар займаўся тым, што даваў яму парады. Напрыклад: «Калі ён паспрабуе наслаць на цябе праклён, ты лепей ухіліся, таму што я не памятаю, як гэта заблакаваць».

Было вельмі верагодна, што іх зловяць Філч ці місіс Норыс, і Гары адчуваў, што ён выпрабоўвае сваю ўдачу, парушаючы другое школьнае правіла за дзень. З іншага боку, у яго з’явіцца шанец пераадоліць Малфоя, чый ухмыляючыйся твар стаяў перад вачым. Такі шанец ён не можа упусціць.

- Палова на дванаццатую, - прашаптаў Рон прыдушана. – Нам лепей выбірацца.

Яны апранулі на піжамы халаты, схапілі палачкі і на дыбачках выйшлі з спальні, прайшлі па вінтавой лесвіцы ў агульны пакой «Грыфіндора». Некалькі дроў тлелі ў каміне, пакідаючы па ўсім пакоі чорныя цені.

Яны амаль дайшлі да партрэта, калі пачуўся голас з крэсла каля іх:



- Я не магу паверыць, што ты робіш гэта, Гары.

Загарэлася лямпа. Гэта была Герміёна Грэнджэр, апранутая ў ружовы халат і начную сарочку.

- Ты! – сказаў гнеўна Рон. – Ідзі спі!

- Я амаль не расказала пра ўсё твайму брату. – сказала Герміёна. – Персі, ён староста, ён мог бы спыніць усё гэта.

Гары не мог паверыць, што нехта на свеце можа настолькі нахабна соваць нос у чужыя справы.

- Хадзем, - сказаў ён Рону. Хлопчык прыбраў партрэт Тлустай Ледзі і пралез праз дзірку ў калідор.

Але Герміёна не збіралася так лёгка здавацца. Яна палезла за Ронам у праход, шыпячы як раззлаваная гуска.

- Вы зусім не думаеце пра «Грыфіндор», толькі пра сабе. Я не хачу, каб «Слізэрын» выіграў кубак, а вы пагубляеце ўсе балы, якія я атрымала ад прафесара МакГонагал за заклёны па трансфігурацыі.

- Ідзі адсюль.

- Вельмі добра, але вы прыгадаеце гэта, калі заўтра будзеце ехаць на цягніку дадому.

Але працяг яны так і не пачулі. Герміёна павярнулася, каб вярнуцца ў пакой «Грыфіндора», але знайшла толькі пусты партрэт Тлустай Ледзі. Тая сыйшла да кагосьці ў госці, і ў Герміёны цяпер проста не было магчымасці вярнуцца ў вежу факультэта.

- І што мне цяпер рабіць? – спытала яна разгублена.

- Гэта твае праблемы, - сказаў Рон. – Мы павінны ісці, праз цябе мы спознімся.

Яны нават не паспелі дайсці да канца калідора, калі Герміёна нагнала іх.

- Я іду з вамі, - заявіла дзяўчынка.

- Ты не ідзеш.

- Ты думаеш, я буду стаяць і чакаць, пакуль мяне Філч зловіць? А калі ён знойдзе нас траіх, я скажу яму праўду пра тое, што спрабавала вас спыніць, а вы пацвердзіце.

- Ну і нахабная ж ты, - гучна сказаў Рон.

- Заткніцеся вы, абодва! – сказаў Гары гучным шэптам. – Я нешта чую.

Гэта было нешта накшталт сапення.

- Місіс Норыс? - выдыхнуў Рон, хаваючыся ў цені каля сцяны.

Гэта не была місіс Норыс. Гэта быў Нэвіл. Ён ляжаў на падлозе і спаў, звярнуўшыся абаранкам, але хутка прачнуўся, калі тройца падышла бліжэй.

- Дзякуй Богу, вы знайшлі мяне! Я прабыў тут каля чатырох гадзінаў, не мог узгадаць новы пароль, каб дабрацца да ложку.

- Цішэй, Нэвіл. Пароль «свінячы пятачок», але гэта табе зараз не дапаможа, бо Тлустая дама сышла кудысьці.



- Як твая рука? – спытаў Гары.

- Файна, - сказаў Нэвіл, паказваючы яе. – Мадам Помфры адрамантавала мяне за хвіліну.

- Добра. Так, Нэвіл, мы павінны ісці, пабачымся пазней.

- Не пакідайце мяне! – сказаў Нэвіл, ускокваючы на ногі. – Я не хачу заставацца тут адзін, Крывавы Барон ужо двойчы міма праходзіў.

Рон паглядзеў на свой гадзіннік і потым з абурэннем на Герміёну і Нэвіла.

- Калі праз вас нас зловяць, я не супакоюся, пакуль не вывучу праклён прывідаў, пра які нам распавядаў Квірэл і выкарыстаю яго на вас.

Герміёна адчыніла рот, збіраючыся нешта сказаць пра тое, як выкарыстоўваць праклён прывідаў, але Гары прашыпеў ёй, каб яна заціхла, і пацягнуў іх па калідоры.

Яны на дыбачках несліся па калідорах, размаляваных на квадраты святлом поўні праз высокія вокны. За кожным паваротам Гары быў гатовы прыпусціць бягом ад Філча ці місіс Норыс, але ім пакуль шанцавала. Скачкамі яны ўзбеглі на другі паверх і аказаліся ў пакоі трафеяў.

Малфой і Крэб яшчэ не прыйшлі. Хрустальныя каробкі з трафеямі блішчалі у святле месяца. Кубкі, шчыты, талеркі і статуі адлівалі ў цемры срэбрам і золатам. Дзеці ціснуліся да сценаў. Гары дастаў сваю палачку на выпадак, калі Малфой убяжыць у пакой і пачне адразу чараваць. Хвіліны цяклі вельмі павольна.

- Ён спазняецца, можа быць, забаяўся, - прашаптаў Рон.



Шум у суседнім пакоі прымусіў іх ускочыць. Гары толькі-толькі падняў сваю палачку, калі пачуў чыйсьці голас і гэта быў не Малфой.

- Прынюхайся вакол, мая салодкая, яны могуць хавацца ў куце.

Гэта быў Філч, які размаўляў з місіс Норыс. У жаху Гары пачаў вар›яцкі махаць рукамі, каб тройца, якая трымалася за ім, хутчэй бегла. Яны моўчкі накіраваліся да дзвярэй, падалей ад голаса Філча. Нэвіл толькі паспеў забегчы за вугал, калі яны пачулі, што Філч увайшоў у пакой з трафеямі.

- Яны тут дзе-небудзь, - пачулі дзеці ягонае мармытанне, - верагодна, хаваюцца.

- Сюды! – бязгучна пракрычаў Гары і, крадучыся, яны пачалі спускацца па доўгай галерэі, поўнай даспехаў. Па сапенню было чуваць, што Філч набліжаецца. Нэвіл раптам выпусціў напалоханы піск і пусціўся бегчы, спатыкнуўся, схапіў Рона за талію, і яны разам упалі прама на даспехі.

Ляску і грукату было дастаткова, каб абудзіць ўвесь замак.

- БЯЖЫМ! – закрычаў Гары, і ўся чацвёрка пабегла ўніз галерэі, не азіраючыся назад, каб паглядзець ці ёсць там Філч.

Яны вывярнулі з дзвярэй і паскакалі галопам з аднаго калідора ў другі. Гары бег спачатку без якога-небудзь паняцця, дзе яны і куды бягуць. Яны прарваліся праз нейкі габелен і апынуліся ў схаваным праходзе, прамчаліся ўздоўж яго і выйшлі каля свайго класа па заклёнах, які, як яны ведалі, быў даволі далёка ад пакоя з трафеямі.

- Я думаю, мы адарваліся, - Гары задыхаўся, прыхінуўшыся да халоднай сцяны і выціраючы лоб. Нэвіл сагнуўся, хрыпеў і пырскаў слінай.

- Я казала вам! – выдыхнула Герміёна, прыклаўшы рукі да грудзей, - Я казала!

- Мы павінны вярнуцца ў вежу “Грыфіндора» - сказаў Рон, - і найхутчэй.

- Малфой падставіў цябе, - сказала Герміёна Гары. – Ты, спадзяюся, ужо гэта зразумеў. Ён і не збіраўся сустракацца з табой, а Філч ведаў, што нехта будзе ў пакоі трафеяў. Гэта яўна Малфой папярэдзіў яго.

Гары падумаў, што яна, магчыма, мае рацыю, але не збіраўся казаць ёй пра гэта.

- Хадзем.

Аказалася, што гэта не так проста. Яны не зрабілі і дзесяці крокаў, калі дзвярная ручка задрыжала і з бліжэйшага класа нехта вылецеў прама да іх.

Гэта быў Піўз. Ён адразу заўважыў кампанію і выдаў крык захаплення.

- Заткніся, Піўз… ну калі ласка. А тое нас выганяць.

Піўз захіхікаў.

- Гуляеце па начах, персаклаські? Тутуту. Ай-ай-ай, вас жа зловяць.

- Не, калі ты дазволіш нам сысці. Піўз, калі ласка.

- Я павінны сказаць Філчу, павінны, - сказаў Піўз самым высакародным голасам, але яго вочы небяспечна блішчалі. – Гэта для вашага ж дабрабыту, разумееце.

- Сыдзі з дарогі! – закрычаў Рон, замахваючыся на Піўза, і гэта была ягоная вялікая памылка.

- СТУДЭНТЫ НЕ Ў ЛОЖКАХ! – завапіў Піўз. – СТУДЭНТЫ ШВЭНДАЮЦЦА ПА ШКОЛЕ Ў ЗАЧАРАВАНЫМ КАЛІДОРЫ!

Прыгнуўшыся і праскачыўшы пад Піўзам, усе чацвёра дзяцей пабеглі, быццам іх жыцці залежылі ад хуткасці. Але калі яны дабеглі да канца калідора, там аказаліся зачыненыя дзверы.

- Ну ўсё! – застагнаў Рон, ад безвыходнасці грукнуўшы ў дзверы. – Мы спякліся! Гэта канец.

Яны пачулі тупат, Філч бег так хутка як мог на крыкі Піўза.

- О! Ну вось яшчэ, - раздражнена сказала Герміёна. Яна выхапіла палачку Гары, грукнула ёй па замку і прашаптала: - Алахамора!

Замок шчоўкнуў і дзверы адчыніліся. Яны праціснуліся ў шчыліну і хутка зачынілі дзверы, прыціснуўшыся да іх вушамі.

- Куды яны пайшлі, Піўз? – пачуўся голас Філча. – Хутка скажы мне.

- Скажы: «Калі ласка».

- Не раздражняй мяне, Піўз. Кажы, куды яны пайшлі?

- Не скажу нічога, пакуль не скажаш калі ласка, - сказаў Піўз нараспеў сваім непрыемным скрыпучым голасам.

- Добра, калі ласка.

- Нічога! Ха-ха-ха. Сказаў табе, што я не скажу нічога, пакуль ты не скажаш калі ласка! Хаха. Хаааа!

І яны пачулі, як Піўз улятае са свістам, а Філч наўздагон сварыцца на яго.

- Ён думае, што гэтыя дзверы зачыненыя, - прашаптаў Гары. – Я думаю, мы ў бяспецы. Нэвіл, адчапіся!




Гары звярнуў увагу, што Нэвіл апошнюю хвіліну тузае яго за рукаў халата.

- Што?

Гары развярнуўся і пабачыў вельмі дакладна «што». Момант ён быў упэўнены, што трапіў у начны кашмар, ужо занадта шмат падзей адбыліся за такі кароткі час.

Яны не былі ў пакоі, як хлопчык падумаў спачатку. Яны знаходзіліся ў калідоры. Забароненым калідоры на чацвёртым паверсе. І цяпер яны ведалі, чаму калідор быў забаронены.

Гары, Рон, Герміёна і Нэвіл глядзелі прама ў вочы жахлівага сабакі. Сабакі, які запоўніў ўсю прастору паміж столлю і падлогай. У яго было тры галавы. Тры пары шалёных вачэй. Тры носа, якія паторгваліся, прынюхваючыся да іх. Тры пасткі,



сліна з якіх сцякала па жаўтлявых іклах.

Сабака не рухаўся, але ўсе шэсць вачэй глядзелі на іх. Гары ведаў, што адзіная прычына, па якой яны не былі мёртвымі ў тым, што іх раптоўнае з›яўленне заспела жывёліну знянацку. Але можна было адразу беспамылкова зразумець,што значыць яе грамавы рык.

Гары намацаў дзвярную ручку - паміж Філчам і смерцю, ён абраў Філча.

Дзверы адчыніліся, і спінамі наперад чацвёрка выпала з Забароненага калідора. Гары з сілай зачыніў за імі дзверы, і яны пабеглі, амаль паляцелі па калідоры. Філч, пэўна, вырашыў пашукаць іх у іншым месцы, таму што яны так і не сустрэлі яго па дарозе.

Але яны не асабліва клапаціліся пра наглядальшчыка: усё, што ім хацелася - гэта адбегчы так далёка ад страшнага сабакі, як гэта было магчыма. Дзеці не спыніліся, пакуль не ўткнуліся ў партрэт Тлустай Дамы на сёмым паверсе.

- Дзе ж вы ўсе былі? - спытала яна, гледзячы на іх расхістаныя халаты і замучаныя потныя твары.

- Усё роўна. Не важна. Свінячы пятачок, свінячы пятачок, - цяжка дыхаючы, прагаварыў Гары, і партрэт хіснуўся наперад. Яны ўскараскаліся ў агульны пакой і паваліліся, дрыжачы, у крэслы.

Даволі працяглы час усе маўчалі. Нэвіл дык увогуле выглядаў, быццам праглынуў язык і ніколі не загаварыць зноў.

- Пра што яны думаюць, захоўваючы такія рэчы пад замком у школе? - сказаў нарэшце Рон. – А гэтай жа жывёліне яшчэ патрэбна і размінацца недзе.

Разам з дыханнем да Герміёны вярнуўся яе дрэнны настрой.

- Вы зусім не выкарыстоўвайце вочы, ці не так? – раздражнена пацікавілася дзяўчынка. - Хіба вы не бачылі, на чым стаяў той сабака?

- На падлозе? – выказаў здагадку Гары. – Я не глядзеў на ягоныя лапы, быў моцна заняты з ягонымі галовамі.

- Не, не на падлозе. Ён стаяў на люку. Відавочна, нешта ахоўваў.

Яна ўстала, гледзячы на іх.

- Спадзяюся, вы задаволеныя. Мы маглі б усе быць забітыя ці яшчэ горш - выключаныя з «Хогвардса». Зараз, калі вы не супраць, я пайду спаць.

Рон глядзеў ёй услед, разявіўшы рот.

- Не, мы не супраць, - сказаў ён. - Можна падумаць, што мы сілай цягнулі яе з сабой.

Але Герміёна дала Гары яшчэ адну здагадку, пра якую ён задумаўся, калі вярнуўся ў ложак. Сабака ахоўваў нешта… Як там сказаў Хагрыд? «Грынгатс» быў самым бяспечным месцам ў свеце для таго, каб нешта схаваць, за выключэннем, магчыма, «Хогвардса».

Здаецца, Гары даведаўся, дзе шукаць брудны маленькі пакет са сховішча 713.



# Частка дзясятая

# Хэлоўін

Малфой не мог паверыць сваім вачам, калі сустрэў на наступны дзень Гары і Рона, стомленых, але вясёлых. Сапраўды, наступнай раніцай Гары і Рону ўжо здавалася, што сустрэча з трохгаловым сабакам – выдатная прыгода, і яны вельмі жадалі знайсці яшчэ нешта такое ж.

Тым часам, Гары распавёў Рону пра пакет, які, здавалася, перанеслі з «Грынгатсу» ў «Хогвардс», і яны змарнавалі шмат часу, прыдумваючы, чаму можа спатрэбіцца такая ахова.

- Гэта альбо сапраўды каштоўнае або сапраўды небяспечнае, - сказаў Рон.

- Ці тое і іншае, - сказаў Гары.

Але пакуль што ўсё, што яны сапраўды ведалі аб загадкавым аб›екце, было тое, што ён быў каля двух цаляў у даўжыню. І аніякіх шансаў без падказак адгадаць, што гэта, у іх не было.

Ні Нэвіл, ні Герміёна не паказалі ні найменшага інтарэсу да таго, што ляжала пад сабакам і люкам. Нэвіл, напрыклад, клапаціўся аб тым, каб ніколі больш не падыходзіць да сабакі.

А Герміёна зусім адмаўлялася гаварыць з Гары і Рон, але яна была такая ганарліўка і ўсёзнайка, што яны пабачылі ў гэтым дадатковы плюс.

Хлопчыкі на самай справе хацелі толькі аднаго: адпомсціць Малфою, і да іх вялікага захаплення такі шанец прыбыў у пошце прыкладна праз тыдзень.

***

З раніцы, калі совы як звычайна хлынулі ў Вялікую залу, усеагульную ўвагу атрымала доўгая, тонкая скрынка, якую неслі адразу шэсць буйных соваў. Гары было

цікава, што там ляжыць, не менш за астатніх. Ён быў уражаны, калі совы даляцелі да яго, і невядомая рэч упала прама перад ім, скінуўшы ягоны бекон на падлогу.

Не паспелі яны адляцець, як іншая сава выскачыла аднекуль збоку і скінула ліст зверху на пасылку.

Гары першым чынам адкрыў ліст, і гэта было выдатнае рашэнне, бо там было напісана:

*Не адчыняй пасылку за сталом!*

*Унутры – новы «Німбус 2000», але я не хачу, каб усе ведалі, што ў цябе ёсць мятла, бо ўсе першакурснікі таксама захочуць мець свае мётлы. Олівер Вуд сустрэне цябе сёння ўвечары на полі для квідычу ў 19:00 на вашай першай трэніроўцы.*

*Прафесар МакГонагал*

Гары з цяжкасцю хаваў радасць, калі ён перадаў запіску сябру, каб той таксама яе прачытаў.

- «Німбус 2000»! – застагнаў Рон з зайздрасцю. - Я ніколі нават кранаў ніводнай.

Яны хутка сышлі з Вялікай залі, жадаючы аднаго: разгарнуць пасылку з мятлой у сваім пакоі. Але пасярод вестыбюля ім перакрылі дарогу Крэб і Гойл. Малфой выхапіў пакет у Гары і памацаў яго.

- Гэта мятла, - сказаў ён, кідаючы яго назад Гары з сумессю зайздрасці і злосці. – Гэта табе так не пройдзе. Першакласнікам забаронена мець мётлы.

Рон не мог стрымацца.

- Гэта не якая-небудзь старая мятла, - сказаў ён, - Гэта «Німбус 2000». Як ты там сказаў? У цябе дома «Камета 260»?

Рон усміхнуўся Гары.

- «Каметы» выглядаюць някепска, але зусім не той узровень.



- Што ты пра гэта ведаеш, Уізлі? Ты не можаш дазволіць сабе і палову ручкі ад яе, - агрызнуўся Малфой. - Я мяркую, што ты і твае браты былі вымушаныя шмат гадоў эканоміць, каб набываць яе па пруціку.

Перш чым Рон паспеў адказаць, прафесар Флітвік з›явіўся каля локця Малфоя.

- Не спрачаецеся, я спадзяюся, хлопцы? - прапішчаў ён.

- Потэру даслалі мятлу, прафесар, - сказаў Малфой хутка.

- Так, так, менавіта так, - сказаў прафесар Флітвік, ззяючы ўсмешкай на ўвесь твар. - Прафесар МакГонагал распавяла мне ўсё пра асаблівыя абставіны, Потэр. І якая ж гэта мадэль?



- «Німбус 2000», сэр, - сказаў Гары, змагаючыся са смехам, калі пабачыў выраз непаразумення і жаху, які з'явіўся на твары Малфоя. – І я магу падзякаваць Малфою за тое, што ў мяне ёсць гэтая мятла.

Гары і Рон пайшлі ўверх, стрымліваючы рогат, Малфой выглядаў адначасова раз'юшаным і разгубленым.

- Гэта ж праўда, - Гары хмыкнуў, калі яны дабеглі да верху мармуровай лесвіцы, - Калі б ён не скраў у Нэвіла ўспаміналку, я не быў бы ў камандзе…

- Я так разумею, што вы цяпер думаеце, што гэта ўзнагарода за парушэнне правілаў? - пачуўся злосны голас трохі ззаду ад іх. Герміёна тупала ўверх па лесвіцы, незадаволена гледзячы на пакет у руцэ Гары.

- Я думаў, ты з намі не размаўляеш? - нагадаў Гары.

- Так, так і не спыняйся, - заявіў Рон. – Гэта для нас вельмі прыемна.

Герміёна рушыла прэч з задраным носам.

Гары было вельмі цяжка засяродзіцца на уроках у гэты дзень. Думкамі ён быў ці то ў сваім пакоі, дзе яго новая мятла ляжала пад ложкам, або на полі для квідычу на трэніроўцы.

Ён хутка праглынуў вячэру, не заўважаючы, што еў, а затым кінуўся наверх з Ронам, каб нарэшце разгарнуць «Німбус 2000».

- Нічога сабе, - уздыхнуў Рон, калі мятла вываліся з пакунку на ложак Гары.

Нават Гары, які нічога не ведаў аб розных мётлах, думаў, што ягоная выглядала выдатна. Гладкая і бліскучая, з ручкай з чырвонага дрэва, з доўгім акуратным хвастом з прамымі галінкамі і залатым надпісам «Німбус 2000» зверху.

***

Каля 19.00 Гары сышоў з замку і адправіўся ў прыцемках на поле да квідычу. Ён ніколі не быў раней на такім стадыёне. Сотні месцаў знаходзіліся на узвышэннях вакол поля, так што гледачы былі дастаткова высока, каб бачыць гульню ў паветры. З абодвух канцоў поля былі па тры залатых шаста з кольцамі зверху. Яны нагадалі Гары пластыкавыя палачкі для мыльных бурбалак у маглаў. За выключэннем таго, што гэтыя былі вышынёй больш за 30 метраў.

Вельмі хацелася палятаць. Гары не стаў чакаць Вуда, ускочыў на мятлу і стартаваў. Якія пачуцці - ён праляцеў праз, а затым паскорыўся - і зусім нізка над полем. «Німбус 2000» была такая, як ён марыў, адказваючы на яго самыя лёгкія дотыкі.

- Гэй, Потэр, спускайся!

Прыйшоў Олівер Вуд. Ён нёс вялікую драўляную скрыню. Гары прызямліўся побач з ім.

- Супер! – сказаў Вуд, і ягоныя вочы зіхацелі. – Я бачу, што МакГонагал мела на ўвазе… ты на самой справе талент. Я проста хачу сёння вечарам навучыць цябе правілам. Потым ты далучышся да каманды і будзеш трэніравацца тры разы на тыдзень.

Ён адчыніў скрыню. Унутры былі чатыры шары рознага памеру.

- Пачнем, - сказаў Вуд. – Вельмі лёгка зразумець, як гуляць у квідыч, нават калі гэта не значыць, што будзе лёгка гуляць. З кожнага боку гуляюць сем гульцоў. Тры з іх - загоншчыкі.

- Тры загоншчыкі, - паўтарыў Гары, а Вуд дастаў ярка-чырвоны шар памерам з футбольны мяч.

- Гэты шар называецца квафл, - палумачыў Вуд. – Загоншчыкі перадкідваюцца квафлам і спрабуюць пракінуць яго праз адзін з абручоў, каб забіць гол. За кожны гол квафла каманда атрымлівае дзесяць балаў. Усё зразумела?



- Лаўцы кідаюць квафл і закідваюць яго ў абручы, каб выйграць, - зноў паўтарыў Гары. – Гэта што, накшталт баскетболу на мётлах з шасці кошыкамі?

- Які такі баскетбол? - спытаў Вуд з цікаўнасцю.

- Аніякі, - сказаў Гары хутка.

- На кожным баку ёсць яшчэ па аднаму абаронцу. Я ў камандзе «Грыфіндора» – абаронца. Я павінен лётаць вакол нашых абручоў і не даваць закінуць іншай камандзе.

- Тры загоншчыкі, адзін абаронца, - сказаў Гары, які быў поўны рашучасці запомніць усё гэта. - І яны гуляюць з квафлам. Добра, а што робяць гэтыя? - ён паказаў на тры мячы, якія засталіся ў скрынцы.

- Я зараз пакажу, - сказаў Вуд. – Вазьмі гэты.

Ён уручыў Гары маленькую палку, якая трохі нагадвала кароткую бейсбольную біту.

- Я збіраюся паказаць табе, што робяць бладжэры, - патлумачыў Вуд. - Гэтыя два - бладжэры.

Ён паказаў, Гары два аднолькавыя шары, вугальна-чорныя, трохі меншыя, чым чырвоны квафл. Гары заўважыў, што яны, здавалася, нацягнулі рамяні, што трымалі іх у скрынцы.

- Адыдзі, - папярэдзіў Вуд. Ён нахіліўся і вызваліў адзін з бладжэраў.

Чорны шар нечакана падняўся высока ў паветра, а потым кінуўся прама ў твар Гары. Гары замахнуўся на яго з бітай, каб выратаваць свой нос, які папросту мог быць паламаны, і паслаў мяч зігзагам далёка ў паветра. Ён праляцеў над ягонай галавой, а потым стрэліў у Вуда, які нырнуў пад мячом і здолеў злавіць яго, зваліўшы на зямлю.

- Бачыш? - Вуд задыхаўся, засоўваючы бладжэр назад у скрыню і замацоўваючы яго. – Бладжэры лятаюць вакол, спрабуючы скінуць гульцоў з іх мётлаў. Менавіта таму ў нас ёсць па два адбіваючых у кожнай камандзе. У нас гэта блізняты Уізлі, яны бароняць нашыя спіны ад бладжэраў і спрабуюць выбіць гульцоў іншай каманды. Думаю, ты ўсё зразумеў?

- Тры загоншчыкі спрабуюць закінуць гол квафлам. Абаронца – ахоўвае кольцы. Адбіваючыя ратуюць каманду ад бладжэраў, - пералічыў Гары.

- Вельмі добра, - пахваліў Вуд.

- Ээээ. А бладжэры нікога яшчэ не забілі? – запытаўся Гары.

- У «Хогвардсе» нікога. У нас было пара зламаных скіўіцаў, але нічога горш, за гэта. Цяпер апошні член каманды – шукальнік. Гэта ты. Табе не прыйдзецца турбавацца пра квафл або бладжэры.

- Пакуль яны не праломяць мне галаву?

- Не хвалюйся, Уізлі больш чым падыходзяць на ролі адбіваючых. Я маю на ўвазе, што яны як пара бладжэраў у выглядзе людзей.

Вуд палез у скрыню і дастаў чацвёрты і апошні мяч. Побач з квафлам і баджэрамі зусім малюсенькі, памерам з вялікі грэцкі арэх. Ён быў ярка-залаты з маленькімі срэбранымі крыламі.

- Гэта, - сказаў Вуд, - залаты снітч. Найбольш важны мяч. Яго вельмі цяжка злавіць, таму што гэта ён вельмі хуткі і амаль нябачны. І праца шукальніка ў тым, каб злавіць яго. Ты павінны лётаць паміж загоншчыкамі, адбіваючымі, бладжэрамі і квафлам, каб атрымаць яго раней за шукальніка іншай каманды. Насамрэч, перамога ў шмат чым залежыць ад шукальніка, таму што злоўлены снітч дае камандзе дадатковыя 150 балаў, і яна амаль заўсёды перамагае.

Вось чаму шукальнік такі важны. Гульня ў квідыч канчаецца, толькі калі снітч злоўлены. А інакш матч можа зацягнуцца на цэлую вечнасць. Я думаю, што рэкорд пакуль - тры месяцы, у выніку камандам давялося выпусціць на поле запасных, каб гульцы маглі паспаць. Ну, вось і ўсё. Пытайся пра што заўгодна.

Гары пачасаў галаву. Ён ужо зразумеў, што ён павінны зрабіць, засталося зразумець як.

- Мы пакуль не будзем трэніравацца з снітчам, - сказаў Вуд, старанна зачыняючы скрыню. – Тут занадта цёмна, так нядоўга яго і страціць. Давай паспрабуем з некалькімі такімі.

Ён дастаў з кішэні пакунак звычайных мячоў для гольфа, і праз некалькі хвілін ён і Гары былі ў паветры. Вуд кідаў мячыкі так моцна, як толькі мог, а Гары павінны быў іх злавіць.

Гары не прапусціў ніводнага, і Вуд быў у захапленні. Праз паўгадзіны стала так цёмна, што яны не маглі працягваць.

- У гэтым годзе на кубку па квідычу будуць нашыя імёны, - сказаў радасна Вуд, калі яны пляліся назад да замка. - Я не здзіўлюся, калі ты будзеш гуляць лепш, чым Чарлі Уізлі, а ён мог бы гуляць за зборную Англіі, калі б не пачаў працаваць з драконамі.

***

Магчыма, час праляцеў так хутка таму, што цяпер Гары быў моцна заняты: трэніроўкі па квідычу тры разы на тыдзень, хатнія заданні і заняткі – але хлопчык не мог паверыць, што ўжо вучыцца ў «Хогвардсе» два месяцы. Ён адчуваў сабе ў замку як дома, нават больш дома, чым калі-небудзь на Прайвэт Драйв.

Урокі таксама станавіліся ўсё больш і больш цікавымі пасля таго, як яны засвоілі асновы.

Раніцай перад Хэлоўінам дзеці прачнуліся пад смачны пах запечанага гарбуза, які разносіўся па калідорах. Больш за тое, прафесар Флітвік абвясціў на занятку па левітацыі, што ён думае, што першакурснікі ўжо гатовы да таго, каб пачаць прымушаць рэчы лятаць. Гэтага чакаў увесь клас з самага пачатку заняткаў, ад таго моманту, як прафесар прымусіў лятаць па аўдыторыі жабу Нэвіла.

Прафесар Флітвік падзяліў клас на пары да практыкі. Партнёрам Гары быў Сімус Фініган (якое аблягчэнне, што Нэвілу так і не ўдалося злавіць яго погляд!). Але Рону дасталася для працы Герміёна Грэнджэр. Было цяжка сказаць, хто з іх абодвух больш ад гэтага злаваўся.

Герміёна не размаўляла з хлопчыкамі з дня, калі Гары атрымаў мятлу.

- Не забывайцеся на тыя рухі запясцем, якія мы трэніравалі! - піскнуў прафесар Флітвік са сваёй звычайнай вяршыні стоса кніг. – Рэзкі ўзмах рукой са свістам і пстрычка, памятайце, свіст і пстрычка. І вымаўляйце словы заклёну правільна, гэта вельмі важна таксама. Ніколі не забывайце пра выпадак, як майстар Баруфіо, які сказаў «с» замест «е», апынуўся на падлозе, а ягоных грудзях стаяў бык.

Як аказалася, гэта было вельмі складана. Гары і Сімус рабілі і свіст, і пстрычку, але пяро, якое павінна было уляцець да столі, нерухома ляжала на стале. Сімус так разнерваваўся, што ткнуў у пёрка сваёй палачкай і падпаліў яго. Гары давялося тушыць агонь капелюшом.

Рону за суседнім сталом шанцавала не болей.

- Вінгардыўм левіоса! - крычаў ён, махаючы доўгімі рукамі, як млын.

- Ты кажаш гэта няправільна, - пачуў Гары строгі голас Герміёны. – Трэба казаць Він-гар-дыюм Леві-о-са, каб «гар» было даўгое і прыгожае.



- Вось і зрабі гэта сама, калі такая разумная! – прашыпеў Рон.

Герміёна закасала рукавы сукенкі, махнула палачкай, і сказала:

- Вінгардыюм Левіоса!

Яе пёрка адразу ж паднялася з стала і ўляцела прыкладна на метр з хвосцікам над галовамі вучняў.

- Вох, атрымалася! – закрычаў прафесар Флітвік і запляскаў у ладкі. – Усе паглядзіце, міс Грэнджэр зрабіла гэта!

Рон быў у вельмі дрэнным настроі да канца ўроку.

- Не дзіва, што ніхто не сядзіць з ёй, - сказаў ён Гары, як толькі яны прабіліся ў перапоўнены калідор, - гэта не дзяўчынка, а кашмар, вось сам Бог сведка.

Нарэшце, яны выбраліся з натоўпу. Нечакана нехта ўрэзаўся ў Гары збоку,



хлопчык паглядзеў на перашкоду. Гэта была Герміёна. Гары мімаходам убачыў яе твар і быў здзіўлены, калі заўважыў, што яна была ў слязах.

- Я думаю, што яна чула, што ты сказаў.

- Ну і што? - спытаў Рон, але выглядаў ён трохі збянтэжаным. - Яна павінна была заўважыць, што ў яе няма сяброў.

Герміёна не прыйшла на наступны урок, яе ўвогуле ніхто не бачыў усю другую палову дня. Па дарозе да Вялікай залі на святкаванне Хэлоўіна Гары і Рон пачулі, як Парваці Паціл казала сяброўцы, што Лаванда бачыла, як Герміёна плакала ў прыбіральні і прасіла, каб яе пакінулі ў спакоі.

Ад гэтых навінаў Рон стаў выглядаць яшчэ больш збянтэжаным, але праз секунду, яны ўжо ўвайшлі ў Вялікую Залю, поўную ўпрыгожанняў да Дня ўсіх Святых, і хлапцы і думаць забыліся пра Герміёну.

Тысячы жывых кажаноў пырхалі ля сценаў і столі, яшчэ больш віселі над сталамі чорнымі нізкімі аблокамі, ад чаго свечкі ў гарбузах трапяталі. Як і на банкеце з нагоды пачатку навучальнага году на сталах стаялі залатыя талеркі, на якіх нечакана з’явіліся самыя неверагодныя стравы.

Гары як раз накладваў на талерку печаную бульбу, калі у Вялікую залю хутка забег прафесар Квірэл, ягоны турбан вісеў коса, а на твары застыў выраз жаху. Кожны бачыў, як ён дайшоў да прафесара Дамблдлора, знясілена абапёрся на стол перад ім і прахрыпеў:

- Троль - у падзямеллі! Думаў, што вы павінны ведаць.

І зваліўся на падлогу, згубіўшы прытомнасць.

Пачалася паніка. Спатрэбілася некалькі фіялетавых успышак і выбухаў палачкі прафесара Дамблдлор, каб усталявалася цішыня.

- Старасты! – загрымеў прафесар на ўсю залю. – Зараз жа вядзіце свае факультэты назад у інтэрнаты!

Персі быў у сваёй стыхіі.

- Ідзіце за мной! Трымайцеся разам, першакурснікі! Не варта баяцца троля, калі вы слухаецеся мяне! Ідзіце адразу за мной, зараз жа. Стройцеся, першакласнікі! Раступіцеся, я стараста!

- Як у замак мог трапіць троль? - спытаўся Гары, калі яны падымаліся па лесвіцы.

- Не пытайся ў мяне, яны, як я чуў, па-сапраўднаму дурныя, - сказаў Рон. - Можа быць, Піўз пажартаваў на Хэлоўін?

Хлопчыкі мінулі розныя групы людзей, якія спяшаліся ў розныя бакі. Калі яны пракладвалі свой шлях праз натоўп заблытаных “хафлпуфсцаў”, Гары раптам схапіў Рона за руку.

- Я проста падумаў… Герміёна.

- А што з ёй?

- Яна не ведае, пра троля.

Рон закусіў губу.

- Ну, добра, - рашуча сказаў ён. - Але Персі лепш бы нас не бачыць.

Прыгнуўшыся, яны нырнулі ў самы натоўп «хафлпуфцаў», і пайшлі ў супрацьлеглы бок ад таго кірунку, куды ішлі ўсе, прабеглі па пустым калідоры і панесліся ў бок дзявочай прыбіральні. Хлопчыкі толькі павярнулі за вугал, калі пачулі хуткія крокі за сваімі спінамі.

- Персі! - прашыпеў Рон, зацягнуўшы Гары за вялікага каменнага грыфона.

Выглядаючы з-за скульптуры хлопчыкі аднак пабачылі не старасту «Грыфіндора», а Снэйпа. Ён прайшоў па калідоры і знік з вачэй.

- Што ён робіць? - спытаў Гары шэптам. - Чаму ён не ўнізе, у падзямеллі з астатнімі настаўнікамі?

- Паняцця не маю.

Так ціха, як гэта магчыма, хлопчыкі пракраліся ўслед за Снэйпам па наступным калідоры, чуючы ягоныя крокі.

- Ён пайшоў на чацверты паверх, - сказаў Гары, але Рон падняў руку, спыняючы яго.

- Ты адчуваеш пах?

Гары ўцягнуў паветра і моцны смурод дасягнуў ягонага носу, сумесь старых шкарпэтак і непрыбранага грамадскага туалета.

Пасля яны пачулі гэта - нізкае рохканне і гулкае тупатанне гіганцкіх ног. Рон паказаў рукой у канец калідора - адтуль нешта велізарнае рухалася на іх. Яны схаваліся ў цень і назіралі за тым, як ГЭТА выходзіць на заліты святлом месяца кавалак калідора.

Гэта было жудаснае відовішча. Троль быў вышынёй у чатыры метры, з блякла шэрай скурай. Ягоная постаць нагадвала валун, на вяршыні якога размясцілася невялікая лысая галава, вельмі падобная на какос. У троля былі кароткія тоўстыя ногі, як ствалы дрэў з плоскімі, каржакаватымі нагамі.

Ад яго як і раней ішоў проста неверагодна жахлівы пах. З сабой троль нёс велізарную драўляную дубіну, якая цягнулася за ім па падлозе, бо ў яго былі занадта даўгія рукі.

Троль спыніўся каля суседніх дзвярэй і зазірнуў унутр. Ягоныя доўгія вушы застылі, паказваючы, што ён нешта вельмі напружана думаў у сваім маленькім розуме. Надумаўшы, пачварына павольна паплялася ў пакой.

- Ключ застаўся ў замку, - прамармытаў Гары. - Мы маглі б зачыніць яго там.

- Добрая ідэя, - адказаў Рон нервова.

Бачком-бачком хлапцы падкраліся да адчыненых дзвярэй. У іх перасохла ў ратах, яны толькі маліліся, каб троль не выйшаў з пакоя. Адным вялікім скачком у Гары атрымалася захапіць ключ, пляснуць дзвярыма і зачыніць іх.

- Ура!

Акрыленыя перамогай, яны пабеглі назад па калідоры, але паспелі дабегчы да вугла, як пачулі тое, што прымусіла іх сэрцы спыніцца. Гучны дзявочы крык, які ішоў з таго пакоя, дзе яны толькі што зачынілі троля.




- О, не, - сказаў Рон, бледны як Крывавы Барон.

- Гэта прыбіральня для дзяўчынак! - ахнуў Гары.

- Герміёна! – сказалі яны разам.

Гэта было апошняе, што хлопчыкі хацелі зрабіць, але які ў іх быў выбар? Зірнуўшы вакол, яны кінуліся назад да дзвярэй і, павярнулі ключ (праз ахапіўшую іх паніку ім



спатрэбілася некалькі рыўкоў). Гары адчыніў дзверы, і яны ўбеглі ўнутр.

Герміёна Грэнджэр прыціскалася да супрацьлеглай сцяны, выглядаючы так, быццам яшчэ трохі і згубіць прытомнасць. Троль наступаў на яе, збіваючы на сваім шляху ракавіны.

- Адцягні яго ўвагу! – сказаў адчайна Гары Рону, а сам, падхапіўшы кран, які валяўся на падлозе, кінуў яго так моцна, як толькі мог, у сцяну.

Троль спыніўся ў метры ад Герміёны. Ён нязграбна круціў галавой, глупа міргаў, спрабуючы зразумець, ад чаго шум. Нарэшце ягоныя маленькія вочы убачылі Гары. Ён павагаўся, затым развярнуўся да хлопчыка, падымаючы сваю дубіну.

- Гэй, дурань! - крыкнуў Рон з іншага боку прыбіральні і кінуў металічную трубу ў троля. Пачвара нават не заўважыла ўдару кавалка жалеза ў плячо, але выдатна пачула крык, таму зноў спынілася, павярнуўшы сваю пысу на гэты раз да Рона. Гэта дала час Гары, каб аббегчы вакол троля.

- Давай, бяжы, бяжы! - крыкнуў Гары Герміене, спрабуючы адцягнуць яе да дзверэй, але дзяўчынка ўсё яшчэ ўціскалася ў сцяну, раззявіўшы рот ад жаху.

Крыкі і рэха выводзілі троля з сабе. Ён зароў зноў і накіраваўся да Рона, які быў да яго бліжэй за астатніх, і не было ніякага спосабу ўцячы.

Гары тое зрабіў вельмі смелую і адначасова вельмі неразумную рэч: ён скокнуў і з разбегу павіс на тролі, ухапіўшыся ззаду за ягоную шыю. Троль не мог адчуць вагі Гары, але нават тролі заўважаць, калі яму ў нос піхаюць нейкую палку.

Калі хлопчык скокнуў, палачка была ў ягоных руках, і яна зайшла прама ў адну з ноздраў троля.

Енчычы ад болю, троль скруціўся і замахаў дубінай, а Гары, ратуючы сваё жыццё, ні на секунду не адпускаў шыі. У любы момант троль мог скінуць хлопчыка ці трапіць па ім дубінай.

Герміёна спаўзла на падлогу ад жаху, Рон выцягнуў сваю палачку. Ён не ведаў, што рабіць і выгукнуў першы загавор, які яму прыйшоў у галаву: «Вінгардыўм левіоса!»

Дубіна вылецела раптам з рук троля, паднялася высока-высока ў паветра, павольна павярнулася і з жудасным трэскам упала на галаву гаспадара. Троль патупаў на месцы, а потым упаў наперад пысай. Ад удару тушы аб падлогу здрыганулася ўсё навокал.

Гары падняўся на ногі. Ён дрыжаў і задыхаўся. Рон так і стаяў з паднятай палачкай, гледзячы на тое, што ён зрабіў.

Герміёна была першай, хто загаварыў.

- Ён памёр?

- Я так не думаю, - сказаў Гары, - я думаю, ён проста ў накаўце.

Ён нагнуўся і выцягнуў сваю палачку з носа троля. Яна была пакрыта нейкай сліззю, падобнай на засохлы шэры клей.

- Фууу. Соплі троля.

Гары акуратна выцер палачку аб штаны пачвары.

Хлопанне дзвярэй і гучныя крокі прымусілі тройцу паглядзець у бок выхаду. Яны не разумелі, колькі шуму нарабілі, але, пэўна, нехта ўнізе пачуў удары і роў троля. Праз імгненне у прыбіральню ўварвалася прафесар МакГонагал, за ёй вельмі хутка ўвайшоў Снэйп, Квірэл быў апошнім. Квірэл зірнуў на троля, заскуголіў і хутка сеў прама на ўнітаз, трымаючыся за сэрца.

Снэйп нахіліўся да троля. Прафесар МакГонагал глядзела на хлопчыкаў. Гары ніколі не бачыў яе настолькі раззлаванай. У яе нават вусны пабялелі. Надзея атрымаць за перамогу пяцьдзясят балаў для «Грыфіндора» хутка знікла з розуму Гары.

- Што ж вы сабе думалі? – спытала прафесар МакГонагал з халоднай лютасцю ў голасе.

Гары паглядзеў на Рона, які ўсё яшчэ стаяў з заціснутай у руцэ палачкай.

- Вам пашанцавала, што вас не забілі. Чаму вы не ў сваім інтэрнаце?

Снэйп хутка і пранізліва паглядзеў на Гары. Гары ўтаропіўся ў падлогу. Ён хацеў бы, каб Рон апусціў нарэшце палачку.

Нечакана з ценю прагучаў ціхі голас.

- Калі ласка, прафесар МакГонагал. Яны шукалі мяне.

- Міс Грэнджэр?!

У Герміёны нарэшце атрымалася цвёрда стаць на ногі.

- Я пайшла шукаць троля, таму што я… я думала, што змагу справіцца з ім сама. Вы ведаеце, я чытала пра іх.

Рон выпусціў палачку. Герміёна Грэнджэр хлусіць прама ў вочы настаўніку?

- Калі б яны не знайшлі мяне, я была б ужо мёртвай. Гары заскочыў на троля і засунуў яму палачку ў нос, а Рон зачараваў ягоную дубіну і збіў яго ёй. У іх не было часу пайсці і паклікаць на дапамогу. Калі яны прыйшлі, ён збіраўся забіць мяне.



Гары і Рон стараўся выглядаць так, быццам гэтая гісторыя не была для іх навіной.

- Што ж, у гэтым выпадку, - сказала прафесар МакГонагал, гледзячы на ўсіх траіх. - Міс Грэнджэр, дурненькая вы дзяўчынка, як вам магло прыйсці ў галаву, што вы можаце справіцца з горным тролям?

Герміёна апусціла галаву. Гары згубіў мову. Герміёна была апошнім чалавекам, які б стаў рабіць нешта супраць правілаў, і вось яна прыкідвалася, каб выручыць іх з бяды. Гэта як калі б Снэйп раптам пачаў раздаваць прысмакі.

- Міс Грэнджэр, за гэта «Грыфіндор» пазбавіцца пяці балаў, - сказала МакГонагал. - Я вельмі расчараваная ў вас. Калі вы не пацярпелі, вам лепш выйсці ў вежу «Грыфіндора». Студэнты заканчваюць свята са сваімі факультэтамі.

Герміёна сышла.

Прафесар МакГонагал павярнулася да Гары і Рона.

- Я, як і раней, сцвярджаю, што вам пашанцавала, не шмат хто з першакурснікаў мог бы справіцца з дарослым горным тролем. Кожны з вас выйграў пяць балаў для «Грыфіндора». Прафесар Дамблдлор будзе праінфармаваны пра гэта. Вы можаце ісці.

Яны паспяшаліся сысці з месца бою і маўчалі, пакуль не падняліся на два паверхі ўверх. Гэта было вялікай палёгкай сысці падалей ад паху тролю, не кажучы ўжо пра ўсё астатняе.

- Мы павінны былі атрымаць больш, чым дзесяць балаў, - прабурчаў Рон.

- Пяць, маеш на ўвазе, яны ж забралі пяць ў Герміёны.

- З яе боку было добра выцягнуць нас з праблемаў, - прызнаўся Рон. – Уяві сабе, мы зрабілі гэта, каб яе выратаваць.

- Яна магла б і не трапіць у гэтую сітуацыю, калі б мы яе не зачынілі, - нагадаў Гары.

Яны дайшлі да партрэта Тлустай Дамы.

- Свінячы пятачок, - сказалі хлопчыкі хорам і ўвайшлі.

Агульны пакой быў цалкам забіты людзьмі. Усе шумелі і аб›ядаліся прысмакамі, дасланымі наверх. Герміёна, аднак, стаяла адна ў дзвярах і чакала іх. Завісла нязручная паўза. Потым, не глядзячы адзін на аднаго, яны сказалі:

- Дзякуй, - і паспяшаліся за ежай.

Але з гэтага моманту Герміёна Грэнджэр стала іх сяброўкай. Ёсць некаторыя рэчы, перажыўшы якія разам, немагчыма не стаць сапраўднымі сябрамі, і змаганне з трохметровым тролем было адной з такіх.



# Частка адзінаццатая

## Квідыч

Упачатку лістапада надвор’е стала сапраўды халодным. Горы вакол школы змянілі колер на шэры з ледзяным адлівам і нават паверхня азёраў нагадвала колерам астуджаную сталь. Кожную раніцу зямля пакрывалася інеем.

З верхніх паверхаў можна было ўбачыць Хагрыда, які размарожваў мётлы на полі для квідычу. Ён быў апрануты ў доўгае паліто з кратовага меху, футравыя пальчаткі і велізарныя скураныя боты.




Пачаўся сезон квідычу. У суботу, Гары будзе гуляць свой першы матч пасля тыдняў трэніровак: «Грыфіндор» супраць «Слізэрына». Калі «Грыфіндор» выйграе, яны перасунуцца на другое месца ў чэмпіянаце факультэтаў.

Наўрад ці нехта паспеў пабачыць, як Гары гуляе, таму што Вуд вырашыў, што ён - гэта іх сакрэтная зброя, якую трэба трымаць у таямніцы. Але навіны пра тое, што

першакласніка ўзялі шукальнікам нейкім чынам прасачыліся. Гары не ведаў, хто горш - людзі, якія казалі яму, што ён будзе бліскучым гульцом, ці людзі, якія казалі, што збіраюцца бегаць за ім па полі, трымаючы матрац, каб злавіць яго, калі ён зваліцца з мятлы.

Гары сапраўды пашанцавала з такім сябрам, як Герміёна. Ён не ведаў, як бы справіўся без яе з ўсімі гэтымі хатнімі заданні без яе, улічваючы дадатковыя трэніроўкі па квідычу, якія даволі часта прызначаў Вуд. Яна таксама прыцягнула яму «Квідыч скрозь стагоддзі», кніга аказалася вельмі цікавай.

Напрыклад, Гары даведаўся, што існуе семсот відаў парушэнняў ў квідычы, і што ўсе з іх былі зарэгістраваныя падчас фіналу Кубка свету ў 1473. А таксама, што шукальнік, як правіла, маленькі і хуткі гулец, і менавіта з імі часцей за ўсё здараліся аварыі і непрыемнасці. А таксама што пад час гульні людзі рэдка загінаюць, але ў кнізе быў апісаны выпадак, калі знік суддзя, якога адшукалі праз некалькі месяцаў у пустыні Сахара.

Герміёна стала крыху больш спакойнай да парушэнняў школьных правілаў, пасля таго, як Гары і Рон выратавалі яе ад горнага троля. Так што адносіны з дзяўчынкай сталі значна больш прыемнымі.

***



Напярэдадні першага матчу па квідычу ў Гары тройца пад час перапынку выйшла на замерзлы двор. Герміёна насуперак забароне зрабіла для іх ярка-сіні агонь, які можна было насіць з сабой у слоіку з-пад варэння.

Яны як раз грэліся каля агню, калі у двары з’явіўся Снэйп. Гары адразу заўважыў, што прафесар кульгае. Гары, Рон і Герміёна падышлі бліжэй адзін да аднаго, каб закрыць агонь ад позірку Снэйпа, у іх не было сумневаў, што тое, што яны рабілі, было забаронена. Нажаль, той заўважыў іх вінаватыя твары і закульгаў да іх. Снэйп не бачыў агню, але ён, здавалася, шукаў прычыну, каб зрабіць ім вымову.

- Што гэта ў вас, Потэр?

Гары паказаў яму «Квідыч скрозь стагоддзі».

- Бібліятэчныя кнігі нельга выносіць за межы школы, - сказаў Снэйп. - Дай яе мне. Мінус пяць балаў «Грыфіндору».

- Ён проста прыдумаў гэта правіла, да? – злосна прамармытаў Гары, калі Снэйп пайшоў прэч. - Цікава, што гэта з ягонай нагой?

- Не ведаю, але я спадзяюся, што гэта сапраўды балюча, - сказаў Рон горка.

***

У агульным пакоі «Грыфіндора» ў гэты вечар было вельмі шумна. Гары, Рон і Герміёна уселіся побач з вакном. Герміёна правярала хатняе заданне хлопчыкаў па заклёнах. Яна ніколі б не дала ім спісаць («Як вы тады навучыцеся?»), але пад час праверкі яны ў любым выпадку атрымлівалі правільныя адказы.

Гары непакоіўся. Ён хацеў атрымаць назад «Квідыч скрозь стагоддзі», каб пачытаць і больш не нервавацца пра заўтрашні дзень.

Чаму ён павінен баяцца Снэйпа? Устаючы, ён сказаў Рону і Герміёне, што збіраецца запытацца ў прафесара, калі той верне яму кнігу.

- Лепш я, чым ты, - сказалі яны разам, але Гары прыйшла ў галаву думка, што Снэйп не зможа яму адмовіць у прысутнасці іншых настаўнікаў.

Ён дабраўся да настаўніцкай і пагрукаў. Ніхто не адказаў. Ён пагрукаў яшчэ раз. Нічога.

Можа быць, Снэйп пакінуў кнігу там? Варта было праверыць. Ён штурхнуў дзверы, яны прыадчыніліся, Гары зазірнуў ўнутр – і пабачыў жудасную сцэну.

Унутры былі толькі Снэйп і Філч. Снэйп падняў сваю мантыю вышэй за калені. Адна з яго ног была акрываўленая са страшэннай ранай. Філч працягнуў яму бінт.

- Паганая звяруга, - сказаў Снэйп. – Як можна прасачыць за ўсімі трыма галовамі адначасна?

Гары паспрабаваў зачыніць дзверы ціха, але…

- ПОТЭР!

Калі ён павярнуўся, то пабачыў твар Снэйпа, скажоны лютасцю. Прафесар хутка апусціў мантыю, схаваўшы ногі. Гары зглынуў.

- Я проста падумаў… я… магчыма, вы звернеце маю кнігу назад.

- Пайшоў прэч! ВОН!

Гары сышоў, падазраючы, што Снэйп зараз зніме яшчэ пару балаў у «Грыфіндора». Хлопчык пабег наверх.

- Ну што забраў кнігу? - спытаў Рон ў Гары, калі той далучыўся да іх. – Эй! У чым справа?

Ціхім шэптам, Гары расказаў сябрам, што бачыў.

- Вы ведаеце, што гэта значыць? - ён скончыў цяжка дыхаючы. - Ён спрабаваў на Хэлоўін забраць тое, што ахоўвае трохгаловы сабака! Вось куды ён ішоў, калі мы ўбачылі яго. Ён быў там пасля таго, як спрабаваў прайсці ахову! І я магу паспрачацца на сваю мятлу, што Снэйп выпусціў троля, каб адцягнуць увагу!

Герміёна паглядзела шырока расплюшчанымі вачыма.

- Не, ён не стаў бы, - сказала яна. – Ён, канечне, не вельмі прыемны чалавек, але ён не стаў бы красці тое, што Дамблдлор спрабуе захаваць.

- Шчыра кажучы, я падазраю, што ты, Герміёна, думаеш, што ўсе настаўнікі святыя або што-небудзь у гэтым родзе, - агрызнуўся Рон. - Я згодны з Гары. Я не ведаю нічога пра мінулае Снэйпа. Але што здарылася пасля? Што ахоўвае гэты сабака?

Гары лёг спаць з галавой, у якой гудзела тое ж пытанне. Побач гучна хроп Нэвіл.

Але і без гэтага Гары б не змог спаць. Ён спрабаваў спустошыць свой розум, яму ж трэба выспацца перад сваім першым матчам па квідычу. Хаця б некалькі гадзінаў. Але перад ягонымі вачыма стаяў выраз твару Снэйпа, калі Гары пабачыў яго нагу. На гэта было цяжка забыцца.

***

Наступная раніца была вельмі светлай і халоднай. Вялікая зала была напоўненая смачным пахам смажаных сасісак і вясёлай балбатнёй. Усе з нецярпеннем чакалі добрага матчу па квідычу.

- Ты павінны паесці.

- Я нічога не хачу.

- Хаця б адзін тост, - настойвала Герміёна.

- Я не хачу есці.

Гары адчуваў сябе жудасна. Кожную секунду ён думаў пра тое, што праз гадзіну ён быў будзе гуляць на полі.

- Гары, табе патрэбныя ўсе твае сілы, - сказаў Сімус Фініган. – Шукальнікаў вечна піхаюць і б’юць гульцы каманды-супернікаў.

- Дзякуй, Сімус, - сказаў Гары, назіраючы, як той вылівае кучу кетчупа на сасіскі.

***

У 11:00 ўся школа, здавалася, расселася вакол поля для квідыча. У многіх студэнтаў былі біноклі. Месцы знаходзіліся высока ў паветры, але бывала, што з іх было цяжка разгледзіць тое, што адбываецца на полі.



Да Рона і Герміёны далучыліся Нэвіл, Сімус і фанат футбольнага клубу «Вэст Хэм» Дзін. Яны расселіся на добрыя месцы ў верхнім шэрагу.

У сакрэце ад Гары яны зрабілі вялікі плакат на некалькіх папсаваных прасцінах. «Потэра ў прэзідэнты!» - напісалі яны, а Дзін, які добра маляваў, дадаў пад словамі вялікага льва, эмблему факультэта «Грыфіндор». Потым Герміена выканала хітры заклён, так што словы пачалі пераліватцца рознымі колерамі.



Тым часам, у распранальні Гары і астатняя частка каманды ўжо амаль апранулі сваю пунсовую форму. («Слізэрын» будзе гуляць у зялёнай.)

Вуд кашлянуў, спыніўшы маўчанне.

- Добра, хлапцы, - сказаў ён.

- І дзяўчыны, - дадала едка Анджэліна Джонсан.

- І дзяўчыны, - пагадзіўся Вуд. – Ну дык вось яно. Наспела...

- Настаў вялікі дзень, - сказаў Фрэд Уізлі.

- Той, якога мы ўсе чакалі, - дадаў Джордж.

- Мы ведаем прамову Олівера на памяць, - сказаў Фрэд Гары – Ён тое ж казаў у мінулым годзе.

- Заткніся, вы двое, - сказаў Вуд. – Мы сабралі лепшую каманду, якую меў «Грыфіндор» за апошнія гады. Мы ідзем, каб перамагчы. Я гэта ведаю.

Ён паглядзеў на іх усіх, як бы кажучы: «Нехта яшчэ будзе нешта казаць?»

- Правільна. Час прыйшоў. Удачы, усім нам.

Гары пайшоў з распранальні ўслед за Фрэдам і Джорджам і, спадзяючыся, што ногі яго не падвядуць, выйшаў на поле пад гучныя апладысменты.

Мадам Хуч была суддзём. Яна стаяла з мятлой у руцэ ў сярэдзіне поля і чакала абедзве каманды.

- Я чакаю ад вас добрай сумленнай гульні, ад усіх вас, - сказала Хуч, калі яны сабраліся вакол яе.

Гары заўважыў, што яна, здавалася, зрабіла асаблівы націск, калі паглядзела на капітана каманды «Слізэрына» шасцікурсніка Маркуса Флінта. Гары падумаў, што гледзячы па знешнасці, у Флінта ёсць кроў троля. Краем вока ён убачыў трапяткі банер у вышыні з надпісам «Потэра ў прэзідэнты». Сэрца хлопчыка прапусціла ўдар, але цяпер ён адчуваў сябе больш смелым.

- Бярыце вашы мётлы, калі ласка.

Гары ўлез на свой «Німбус-2000».

Мадам Хуч гучна свіснула ў срэбны свісток.

Пятнаццаць мётлаў падняліся высока-высока ў паветра. Іх больш нічога не стрымлівала.



- І квафл адразу бярэ Анджэліна Джонсан з «Грыфіндора» - выдатны загоншчык. І, дарэчы, вельмі прывабная дзяўчына…

- Джордан!

- Прашу прабачэння, прафесар.

Сябар блізнятаў Уізлі Лі Джордан каментаваў матч. З ім разам за гульнёй уважліва сачыла прафесар МакГонагал.

- Яна праслізнула ўздоўж трыбунаў і перадала пас Алісіі Спінэт. Добрая знаходка Олівера Вуда, у мінулым годзе яна гуляла толькі ў рэзерве. Мяч уляцеў назад Джонсану і… о не, «слізэрынцы» перахапілі квафл. Капітан «Слізэрына» Маркус Флінт атрымаў квафл і сыходзіць у адрыў. Флінт ляціць як арол, ён хоча дабрацца да… Яго спыняе абаронца «Грыфіндора» Вуд.

«Грыфіндорцы» перахапілі квафл. Гэта загоншчык Кэці Бэл нырнула пад Флінта, праляцела да краю поля… Вох… Гэта павінна быць балюча, яе ўдарыў у спіну бладжэр. А квафл зноў забіраюць «слізэрынцы». Гэта Адрыян Пусэй, які хутчэй паляцеў да кольцаў, але быў спынены другім бладжэрам, які запусціў Фрэд ці Джордж Уізлі. Не ведаю, хто з іх, але, безумоўна, добрыя адбіваючыя.

Так ці інакш, а Джонсан усё яшчэ валодае квафлам. Наперадзе ў яе чыстае поле. Яна ідзе… ляціць як птушка. Абыходзіць бладжэры. Кальцо ўжо блізка. Давай цяпер, Анджэліна… Абаронца Блетчэй прапусціў яе… «Грыфіндорцы» забіваюць гол!

Крыкі «Ура Грыфіндор» запоўнілі халоднае паветра, іх перыядычна перакрывалі лямант і стогны з боку трыбунаў «слізэрынцаў».

- Пасуньцеся, вызваліце мне трохі месца.

- Хагрыд!

Рон і Герміёна селі зусім побач адзін да другога, каб даць велікану месца побач з імі.

- Я спачатку сачыў за гульнёй са сваёй хаты, - сказаў Хагрыд, пагладжваючы вялікі бінокль на шыі. – Але потым вырашыў, што гэта не тое ж самае, як хварэць за каманду на стадыёне. Пакуль ніякіх прыкметаў снітча, га?

- Не, - сказаў Рон. – У Гары пакуль не было асаблівых шансаў зрабіць нешта.

- Трымаецца падалей ад непрыемнасцяў, думаю, гэта ўжо штосьці, - сказаў Хагрыд, падняўшы бінокль і ўважліва разглядваючы плямку ў небе, якая і была Гары.

Гары парыў над полем, прыжмурваючыся, каб адшукаць прыкметы снітча. Гэта была частка плана на гульню, складзенага Вудам.

- Трымайся падалей ад гульні, пакуль не ўбачыш снітч, - сказаў Вуд. - Мы не хочам, каб на цябе напалі да таго, як ты зробіш сваю справу.

Калі Анджэліна забіла, ад радасці Гары зрабіў пару кругоў над полем. Але потым ён зноў стаў аглядацца вакол у пошуках снітча. Нечакана ён пабачыў пробліск золата, але гэта было толькі адлюстраванне ад аднаго з наручных гадзіннікаў блізнятаў Уізлі. Адзін з бладжэраў вырашыў перапыніць шлях Гары, нагадваючы больш гарматнае ядро, чым мяч, але хлопчык ухіліўся і перадаў яго Фрэду Уізлі, які паляцеў за мячом.

- Усё нармальна, Гары? – пракрычаў Уізлі пакуль адбіваў бладжэр у бок Маркуса Флінта.

- Мячом валодае «Слізэрын», - сказаў Лі Джордан. – Загоншчык Пусей… два бладжэра… два Уізлі і загоншчык Бэл хутка ляцяць у бок… Пачакайце… пачакайце… Падаецца, што гэта снітч?

Гоман прабег па натоўпе, калі Адрыян Пусей не ўтрымаў кваффл, таксама заняты пошукамі праз плячо выбліску золату. Нешта маленькае і неверагодна хуткае прасвісцела міма ягонага левага вуха.



Гары ўбачыў. Хвалючыся і ў вялікай спешцы ён нырнуў уніз за палоскай золата. Лавец «Слізэрына» Тэрэнс Хігс таксама пабачыў гэта. Нос да носу яны імчаліся да снітча. Усё астатнія гульцы, здавалася, забыліся, што яны павінны рабіць, так як проста віселі ў паветры і глядзелі.

Гары быў хутчэй Хігса. Ён ясна бачыў маленькі круглы мяч з трапяткімі крыламі наперадзе. Хлопчык набраў яшчэ хуткасці.

Блам! Абураны роў рэхам пайшоў ад трыбунаў «грыфіндорцаў». Маркус Флінт спецыяльна заблакаваў Гары, мятла Гары закруцілася, і хлопчыку давялося ўчапіцца ў яе, ратуючы сваё сваё жыццё.

- Парушэнне! – закрычалі «грыфіндорцы».

Мадам Хуч пра нешта злосна паразмаўляла з Флінтам, а затым аддала камандзе «Грыфіндора» вольны мяч. Але пад час гэтай блытаніны залаты снітч знік.

Унізе на трыбунах Дзін Томас закрычаў:

- Выдаліце яго, суддзя! Чырвоная картка!

- Пра што ты, Дзін? - спытаўся Рон.

- Чырвоная картка! - сказаў Дзін зло. - У футболе, калі **б табе** паказалі чырвоную картку, ты б адразу быў выдалены з поля!

- Але гэта не футбол, Дзін, - нагадаў Рон.

Хагрыд, аднак, быў на баку Томаса.

- Яны павінны памяняць правілы. Флінт мог скінуць Гары з мятлы.

Лі Джордану было вельмі цяжка прытрымлівацца нейтралітэту.

- Дык вось… пасля гэтага ідавочнага і агіднага падману…

- Джордан! - прабурчала прафесар МакГонагал.

- Я хачу сказаць, пасля гэтага адкрытага і агіднага парушэння…

- Джордан, я вас папярэджваю…

- Добра, добра. Флінт ледзь не забівае лаўца «Грыфіндора». Гэта, канечне, можа здарыцца з кожным. Спінэр выконвае штрафны ўдар… Які спыняе галкіпер «Слізэрына». Нічога страшнага. Гульня працягваецца. «Грыфіндор» па-ранейшаму валодае мячом.

Гэта пачалося, калі Гары ўхіліўся ад іншага бладжера, які прайшоў небяспечна блізка ад яго галавы. Яго мятла дала раптоўны, высокі скачок. Секунду хлопчык думаў, што зараз упадзе. Ён моцна ўчапіўся за мятлу абедзвюма рукамі і нагамі. Ён ніколі не адчуваў нічога падобнага.

Потым гэта здарылася зноў. Быццам мятла спрабавала пярэчыць яму. Але «Німбус 2000» звычайна не скідваў раптоўна сваіх вершнікаў. Гары паспрабаваў павярнуць назад да кольцаў «Грыфіндора». Ён напалову вырашыў папрасіць Вуда аб›явіць тайм-аўт.

І тут ён зразумеў, што ягоная мятла ўжо была цалкам па-за яго кантролем. Хлопчык не мог нават павярнуць яе. Ён не мог кіраваць ёй зусім. Яна насіла Гары зігзагамі праз паветра, потым зрабіла шмат гвалтоўных рухаў, якія амаль скінулі яго.

Лі працягваў каментаваць.

- Мячом валодае «Слізэрын». Флінт з квафлам праходзіць Спінэт, праходзіць Бэла… Прама ў нос Флінту ўдарыў бладжер, спадзяюся, што ён зламаў нос. Я толькі жартую, прафесар. «Слізэрынцы» забіваюць… ааа нее…

«Слізэрынцы» падбадзёрвалі сваю каманду. Здавалася, ніхто не заўважыў, што ў Гары былі праблемы з мятлой. Яна ўнасіла яго ўсё вышэй, падалей ад гульні.

- Не ведаю, што Гары думае і што ён робіць, - прамармытаў Хагрыд. Ён сачыў за вар'яцкім палётам праз бінокль. – Калі б я ведаў яго горш, сказаў бы, што ён страціў кантроль над мятлой… але ён не можа…

Раптам і астатнія гледачы пачалі паказваць на Гары. Яго мятла пачала круціцца, і ён толькі паспяваў трымацца за яе. Потым увесь натоўп ахнуў. Мятла выдала дзікі рывок, і хлопчык зваліўся. Ён цяпер боўтаўся, трымаючыся за дрэўка адной рукой.

- Што-небудзь здарылася з ім, калі Флінт заблакаваў яго? - прашаптаў Сімус.

- Не можа быць, - сказаў Хагрыд, яго голас дрыжаў. – Не можа нічога перашкодзіць кіраваць мятлой, акрамя магутнай цёмнай магіі. Не так лёгка гэта зрабіць такое з «Німбусам 2000».

Пры гэтых словах Герміёна адабрала бінокль у Хагрыда, але замест таго, каб глядзець на Гары, яна ліхаманкава пачала шукаць нешта ў натоўпе.

- Што ты робіш? - прастагнаў пашырэўшы Рон.

- Я ведала гэта, - ахнула Герміена. – Паглядзі на Снэйпа.

Рон схапіў бінокль. Прафесар сядзеў у сярэдзіне трыбуны, прама насупраць іх. Ён не адрываў вачэй ад Гары і мармытаў нешта нячутнае сабе пад нос.

- Ён робіць нешта… заклінае мятлу, - сказала Герміёна.

- Што ж нам рабіць?

- Пакіньце яго мне.

Перад тым, як Рон сказаў хаця б слова, Герміёна знікла. Рон вярнуўся да разглядвання ў бінокль Гары. Яго мятла так моцна вібрыравала, што для хлопчыка было амаль нерэальна доўга на ёй пратрымацца.

Увесь натоўп у жаху назіраў, як Уізлі ўзяцелі, каб паспрабаваць перацягнуць Гары на адну з сваіх мётлаў. Але выніку гэта не дала: кожны раз, калі яны падляталі бліжэй, мятла скакала яшчэ вышэй. У выніку блізняты знізіліся і кружылі пад Гары, відавочна, спадзяючыся злавіць яго, калі ён упадзе.

Пакуль ніхто не заўважыў, Маркус Флінт схапіў квафл і забіў пяць разоў запар.

- Давай жа, Герміёна, - прамармытаў Рон.

Герміёна прабівалася наперад, каб аказацца там, дзе сядзеў Снэйп. Цяпер яна бегла па шэрагу за ім. Яна нават не спынілася, каб сказаць «Прабачце», калі пхнула выпадкова прафесара Квірэла, і ён стукнуўся галавой аб крэсла ў наступным шэрагу.




Калі дзяўчынка дабегла да Снэйпа, яна прысела, выцягнула сваю палачку і прашаптала пару добра падабраных слоў. Ярка-сіняе полымя выстраліла з яе палачкі на падол мантыі Снэйпа.

Прайшло паўхвіліны пакуль Снэйп зразумеў, што ён гарыць. Раптоўны крык падказаў дзяўчынцы, што яна зрабіла сваю справу. Маленькі сіні агеньчык скокнуў з прафесара у слоічак, а потым у кішэню. А Герміёна ўжо ўскараскалася назад па шэрагу крэслаў. Снэйп ніколі не даведаецца, што здарылася.



Гэтага было дастаткова. Высока ў паветры Гары раптам атрымаў магчымасць ускараскацца назад на мятлу.

- Нэвіл, ты можаш паглядзець! – сказаў Рон. Нэвіл рыдаў у пінжак Хагрыда апошнія пяць хвілін.

Гары імчаўся да зямлі. Усе заўважылі, што ягоная рука прыціснутая да рота, быццам ён вось-вось званітуе. Ён прызямліўся на карачкі, закашляўся, і нешта залатое выплюнуў у руку.

- У мяне ёсць снітч! – закрычаў Гары, махаючы мячыкам над галавой.

Гульня скончылася ў поўнай разгубленасці.

***

- Ён не злавіў, ён ледзь не праглынуў яго, - праз 12 хвілінаў пасля завяршэння гульні Флінт ўсё яшчэ выў. Але гэта ўжо не мела аніякага значэння.

Гары не парушыў ніводнага правіла, і Лі Джордан радасна пракрычаў вынік: «Грыфіндор» выйграў 170:60.

Герой матчу - Гары – нічога гэтага не чуў: ён піў моцную гарбату ў хаціне Хагрыда з Ронам і Герміёнай.

- Гэта быў Снэйп, - узбуджана тлумачыў Рон, - Герміёна і я бачылі яго. Ён заклінаў тваю мятлу, нешта мармытаў і не спускаў з цябе вачэй.

- Фігня, - сказаў Хагрыд, які не заўважыў нічога з таго, што адбылося з імі на трыбунах. – З чаго б гэта Снэйпу зрабіць нешта такое?

Гары, Рон і Герміёна паглядзелі адзін на аднаго, не ведаючы, што сказаць. Гары вырашыў усё расказаць як ёсць.

- Я даведаўся сёе-тое пра яго, - сказаў ён Хагрыду. - Ён паспрабаваў прайсці міма трохгаловага сабакі на Хэлоўін. Сабака ўкусіў яго. І мы думаем, што прафесар спрабаваў скрасці тое, што сабака ахоўваў.

Хагрыд выраніў імбрык.

- Як, вы ведаеце пра Пушка?

- Пушка?

- Так, ён мой, купіў яго у грэцкага хлапчука, з якім пазнаёміўся ў пабе год таму. Я пазычыў яго Дамблдлора для аховы.

- І? – спытаў нецярпліва Гары.

- Усё, не пытайцеся болей, - сказаў Хагрыд груба. - Гэта зусім сакрэтна.

- Але Снэйп спрабуе выкрасці гэта.

- Ды лухта гэта, - сказаў Хагрыд. – Снэйп – выкладчык у «Хогвардсе». Ён не зрабіў бы нічога падобнага.

- Дык чаму ж ён спрабаваў забіць Гары? - усклікнула Герміёна.

Падзеі, якія здарыліся сёння, безумоўна, змянілі яе меркаванне пра Снэйпа.

- Я ведаю, што значыць чараваць, Хагрыд. Я чытала ўсё пра гэта! Ты павінен

увесь час глядзець на аб’ект, а Снэйп нават зусім не міргаў, я бачыла гэта.

- Я ж кажу, вы памыляецеся, - сказаў Хагрыд горача. - Я не ведаю, што там было ў Гары з мятлой, але Снэйп не стаў бы спрабаваць забіць студэнта! Зараз, паслухайце мяне, усе трое, вы залазіце ў рэчы, у якіх не разбіраецеся. Гэта небяспечна. Забудзьцеся пра сабаку, пра тое, што ён ахоўвае, усё гэта тычыцца толькі прафесара Дамблдлора і Нікаля Фламеля.

- Ага! - сказаў Гары, - значыцца тут замешаны нейкі Нікаля Фламель!

Хагрыд быў відавочна злы на сябе.



# Частка дванаццатая

# Люстэрка мараў

Набліжаліся Каляды. Аднойчы раніцай, у сярэдзіне снежня, «Хогвардс» прачнуўся, каб знайсці пад вокнамі некалькі футаў белага пухнатага снегу. Азёры прамерзлі. А блізняты Уізлі былі пакараныя за тое, што зачаравалі некалькі снежак так, што яны лягалі вакол Квірэла, спрабуючы збіць ягоны турбан.

Некалькіх соваў, якім удалося прабіцца да замку праз навальніцы і непагоду, давялося адкормліваць і адаграваць Хагрыду, каб яны змаглі паляцець зноў.

Усе не маглі дачакацца святаў. У той час, як у агульным пакоі «Грыфіндора» і Вялікай залі ў камінах раўло гарачае полымя, у калідорах ад скразнякаў было вельмі халодна, і моцны вецер грымеў вокнамі ў класах.

Горш за ўсё былі заняткі ў прафесара Снэйпа ўнізе ў падзямеллі, дзе пры кожным уздыху перад вучнямі з’яўляліся клубы пару, і яны ўвесь час укутваліся ў цёплыя мантыі.

- Мне так шкада, - сказаў Драко Малфой на адным з урокаў па зелляварэнню. – Усіх тых людзей, якія застануцца ў «Хогвардсе» на Каляды, таму, што іх не чакаюць дома.

Ён глядзеў прама на Гары, калі казаў гэта. Крэб і Гойл ўсміхнуліся. Гары, які вымяраў парашок з пазваночніка рыбы-льва, не звярнуў на іх увагі.

Малфой стаў яшчэ больш непрыемным пасля матчу па квідычу. Незадаволены



тым, што «слізэрынцы» прайгралі, ён стала адпускаў жарты наконт таго, што ў наступны раз у каманду шукальнікам возьмуць жабу, бо ў яе рот шырэйшы. Потым ён зразумеў, што ніхто не смяяўся, бо ўсе былі моцна ўражаныя тым, што Гары ўдалося застацца на звар'яцелай мятле. Тады Малфой, зайздросны і злы, вярнуўся да кпінаў Гары наконт адсутнасці сям'і.

Гары і праўда не збіраўся на Прайвет Драйв на Каляды. Калі тыдзень таму прыйшла прафесар МакГонагал, каб скласці спіс студэнтаў, якія застануцца ў школе на вакацыі, Гары падпісаўся адразу. Ён зусім не шкадаваў сабе з гэтай нагоды: гэта, верагодна, будуць лепшыя Каляды за ўсё ягонае жыццё. Рон і яго браты засталіся таксама, бо містар і місіс Уізлі збіраліся наведаць Чарлі ў Румыніі.

Калі яны выйшлі з падзямелля пасля занятку па зелляварэнню, яны пабачылі вялікую елку, якая перакрывала калідор наперадзе. Пад ёй тырчалі дзве велізарныя нагі, і нехта гучна пыхцеў. Хлопчыкі зразумелі, што дрэва цягне Хагрыд.

- Прывітанне, Хагрыд, можа, дапамагчы? - спытаў Рон, рукамі разграбаючы яловыя лапы.

- Не, я... усё ў парадку, дзякуй, Рон.

- Не маглі б вы сысці з дарогі? - пачулі ўсе халодны голас Малфоя. – Ты хочаш падзарабіць, Уізлі? Спадзяешся пасля школы застацца тут ляснікам? Я думаю хаціна Хагрыда павінна падацца табе палацам у параўнанні з тым, дзе жыве ваша сям'я.

Рон кінуўся да Малфой у той жа момант, калі Снэйп падышоў да лесвіцы.

- УІЗЛІ!

Рон адпусціў мантыю Малфоя.

- Ён невінаваты, прафесар Снэйп, - сказаў Хагрыд, высунуўшы велізарны валасаты твар з-за дрэва. - Малфой кпіў з яго сям'і.




- Як бы там ні было, бойкі супраць правілаў «Хогвардса», Хагрыд, - сказаў лісліва Снэйп. – Мінус пяць балаў «Грыфіндору», Уізлі, і будзь удзячны, што не больш. Праходзьце, усе вы.

Малфой, Крэб і Гойл штурхнулі елку, насыпаўшы іголак, і, ухмыляючыся, сышлі.

- Я яго яшчэ дастану, - сказаў Рон, скрыгочучы зубамі, ў спіну Малфой, - Прыйдзе дзень.

- Ненавіджу іх абодвух, - сказаў Гары, - і Малфоя, і Снэйпа.

- Эй, вы там павесялей, абодва. Каляды амаль надышлі, - сказаў Хагрыд. – Ведаеце што, хадзем лепей у Вялікую залю, там вельмі прыгожа.

Такім чынам, тройца пайшла за Хагрыдам і ягоным дрэвам у Вялікую залю, дзе прафесары МакГонагал і Флітвік займаліся каляднымі ўпрыгожаннямі.

- Ах, Хагрыд, апошняе дрэва - пакладзі яго ў дальні кут, можаш?

Зала ўражвала. Гірлянды вастралісту і амялы віселі на ўсіх сценах, а яшчэ ў пакоі стаялі не менш за дванаццаць высокіх елак, некаторыя з маленькімі зіготкімі ледзякамі, некаторыя з сотнямі бліскучых свечак.

- Колькі дзён эээ засталося да вашых вакацыяў? – запытаўся Хагрыд.

- Толькі адзін, - сказала Герміёна. - І гэта нагадвае мне, Гары, Рон, што ў нас засталося паўгадзіны да абеду, а ў гэты час мы павінны быць у бібліятэцы.

- Так, маеш рацыю, - сказаў Рон, з цяжкасцю адводзячы вочы ад прафесара Флітвіка, які выпускаў з сваёй палачкі залатыя бурбалкі і вешаў іх на новую елку.

- Бібліятэка? - сказаў ім услед Хагрыд. – Перад святамі? Невялікі перабор з вучобай, хіба не?

- Гэта не для заняткаў, - сказаў яму весела Гары. - З таго часу, як ты прыгадаў Нікаля Фламеля, мы спрабуем высветліць, хто ён такі.

- Вы што…? – у Хагрыда нават сківіца адвісла. – Паслухайце, я эээ ўжо сказаў вам… кіньце дурное. Гэта не ваша справа тое, што ахоўʼае сабака.

- Мы проста жадаем ведаць, хто такі Нікаля Фламель увогуле, - сказала Герміёна.

- Канечне, калі ты не хочаш распавесці нам і вырашыць гэтую праблему, - дадаў Гары. – Падобна, што мы праглядзелі ўжо сотню кніг, але так і не знайшлі яго. Проста дай нам падказку. Я ж памятаю, што недзе чытаў пра яго.

- Я не скажу нічога, - рэзка адказаў велікан.

- Тады самі знойдзем, - сказаў Рон, і яны пасяшаліся ў бібліятэку, пакінуўшы Хагрыда незадаволеным.

***

Яны сапраўды шукалі кнігу, дзе было б імя Фламеля, з тых часоў, як Хагрыд прагаварыўся. Таму што як інакш яны даведаюцца, што Снэйп спрабаваў выкрасці?

Бяда ў тым, што было цяжка нешта адшукаць, не ведаючы, з чаго пачынаць. Ніхто з дзяцей не падазраваў, што Фламель такое зрабіў, каб трапіць ў кнігу. Ён не быў сярод Вялікіх чараўнікоў XX стагоддзя, не было яго і ў Знакамітых магічных імёнах нашага часу ці сярод важных сучасных магічных адкрыццяў і вядомых навукоўцаў магіі.

І, канечне, справе не дапамагала тое, што бібліятэка была велізарнай: дзясяткі тысячаў кніг, тысячы паліц, сотні вузкіх шэрагаў.

Герміёна дастала спіс прадметаў і назваў, якія яна сама сабе выпісала, і пачала пошук. У той жа час Рон пачаў даставаць кнігі ў выпадковым парадку, ідучы па паліцах знізу ўверх.

Гары блукаў па забароненым раздзеле. Ён падумваў, што Фламель можа быць недзе ў гэтых кніжках. Нажаль, каб чытаць гэтыя кніжкі, трэба было мець пісьмовы дазвол ад кагосьці з настаўнікаў. Гары добра ведаў, што такую запіску яму не атрымаць. У гэтых кнігах была інфармацыя пра магутную чорную магію, па іх у «Хогвардзе» ніколі не выкладалі. Іх чыталі толькі студэнты старэйшых курсаў, якія абралі спецыялізацыю па абароне ад цёмных мастацтваў.



- Што ты шукаеш, хлопчык?

- Нічога, - сказаў Гары.

Бібліятэкар мадам Пінс махнула на яго пылавіком з пёрак.

- Лепей-ка ідзі адсюль. Зараз жа!

Шкадуючы, што хутка не прыдумаў нейкую гісторыю, Гары

сышоў з бібліятэкі. Яны з Ронам і Герміенай ужо дамовіліся, што лепш не будуць запытвацца ў мадам Пінс пра Фламеля. Яна, безумоўна, ведае правільны адказ, але яны не маглі рызыкаваць, што чуткі пра пошукі дойдуць да Снэйпа.

Гары чакаў у калідоры, каб даведацца, ці знайшлі нешта астатнія, але асаблівых надзеяў у яго не было. Тройца бавіла час у бібліятэцы ўжо два тыдні, кожны момант, які выдаваўся паміж заняткамі і было нядзіўна, што нічога не знайшлі. Што ім на самой справе было трэба, дык гэты прыемны доўгі пошук без мадам Пінс, якая дыхала ім у патыліцы.

Праз пяць хвілін Рон і Герміёна далучыліся да яго, адмоўна паматаўшы галовамі. Яны сышлі на абед.

- Вы ж не спыняйце пошукаў, пакуль мяне не будзе, - сказала Герміёна. – І дашліце мне саву, калі нешта знойдзеце.

- А, можа, ты запытаешся ў сваіх бацькоў? - сказаў Рон. – Я думаю, гэта бяспечна.

- Вельмі бяспечна, бо яны абодва – стаматолагі, - адказала Герміёна.

***

Як толькі пачаліся вакацыі, у Рона і Гары з’явілася занадта шмат часу для думак пра Фламеля. У інтэрнаце нікога не засталося, ды і агульны пакой быў значна больш пустым, чым звычайна. Хлопцы пакарысталіся гэтым, каб заняць добрыя крэслы ля коміна.

Рон і Гары сядзелі так гадзінамі і елі ўсё, што атрымлівалася накалоць на даўгі відэлец і падсмажыць на агні – хлеб, ангельскія булачкі, зефір. Яны абмяркоўвалі, як можна дабіцца таго, каб выгналі Малфой. Пра гэта так весела было паразмаўляць, нават калі спосабы былі зусім нерэальныя.



Рон пачаў вучыць Гары гульне ў чароўныя шахматы. Яны былі амаль такія, як у маглаў, за выключэннем таго, што былі жывымі. Ад гэтага ўсё вельмі нагадвала сапраўдную бітву.

Набор Рона быў вельмі стары і пашарпаны. Як і ўсё астатняе, чым ён валодаў, гэта ўжо калісьці належала камусьці іншаму ў ягонай сям›я – на гэты раз яго дзеду. Тым не менш, старыя фігуркі смела змагаліся на дошцы. Рон ведаў іх так добра, што без праблемаў прымушаў рабіць тое, што трэба.

Гары гуляў шахматнымі фігурамі, якія пазычыў яму Сімус Фініган, і яны не давяралі яму. Ён быў не вельмі добры гулец, акрамя таго, яны ўвесь час крычалі розныя парады, якія канчаткова яго заблыталі.

- Не дасылай мяне туды, ты хіба не бачыш каня саперніка? Дашлі лепей вось таго, мы можам спакойна дазволіць сабе ім ахвяраваць.

***

Напярэдадні Калядаў Гары лёг спаць з нецярпеннем чакаючы наступнага дня. Хлопчык думаў пра святочныя прысмакі і заўтрашнюю весялосць, але ні пра якія падарункі. Аднак, калі ён прачнуўся рана-раніцай, першае, што ён убачыў, была невялікая куча пакетаў і каробак у нагах ложка.

- Шчаслівых Калядаў, - сказаў Рон сонна. Гары выбраўся з ложка і апрануў халат.

- Табе таксама, - адказаў Гары. – Ты толькі паглядзі на гэта! У мяне ёсць некалькі падарункаў!

- А што ты чакаў, рэпу? – сказаў Рон, махнуўшы ў бок сваёй кучы, якая была нашмат большая, чым у Гары.

Гары ўзяў верхні падарунак. Ён быў загорнуты ў тоўстую карычневую паперу, і на ім было надрапана: «Гары ад Хагрыда». Унутры была груба выразаная драўляная флейта. Хагрыд, відавочна, зрабіў яе сам. Гары паспрабаваў падзьмуць і вырашыў, што гучыць гэта трохі падобна на вуханне савы.

Другі, вельмі невялікі пакунак утрымліваў запіску.

*Мы атрымалі тваё паведамленне і прыклалі твой калядны падарунак. Ад дзядзькі Вернана і цёткі Пятуніі.*

Да нататкі прыкладалася манетка ў 50 пенсаў, прыклееная скотчам.

- Цудоўна, - сказаў Гары.

Рон быў зачараваны 50 пенсамі.

- Дзіўна! – сказаў ён у захапленні. – Дзіўная форма. Гэта грошы?

- Ты можаш пакінуць іх сабе, - сказаў Гары, пасмяяўшыся радасці Рона. – Хагрыд і мае цётка і дзядзька…. Але хто тады паслаў гэты?

- Я думаю, што ведаю, хто даслаў вось гэты, - сказаў Рон, крыху паварочваючы ружаваты пухлы падарунак. - Мая мама. Я сказаў ёй, што ты не чакаў падарункаў… і о, не, - прастагнаў ён, - яна зрабіла табе фірмовы швэдар Уізлі.

Гары разарваў упакоўку і знайшоў там тоўсты, ручной вязкі смарагдава-зялёны швэдар і вялікую скрынку самаробнай выпечкі.

- Кожны год яна робіць для нас швэдары, - сказаў Рон, разгортваючы сваю ўпакоўку, - і мой - заўсёды цёмна-бардовы.

- Гэта вельмі міла з яе боку, - сказаў Гары, спрабуючы выпечку, якая была вельмі смачнай.

У наступным падарунку таксама ляжалі цукеркі. Вялікую скрынку шакаладных жаб даслала Герміёна.

Застаўся апошняя пасылка. Гары падняў яе і павагаў. Падарунак быў вельмі лёгкі. Ён разгарнуў яго.Нешта вельмі лёгкая, серабрыста-шэрае, цякучае сазлізнула на падлогу, дзе сабралася невялікай бліскучай кучкай. Рон ахнуў.

- Я чуў пра такія, - сказаў ён шэптам, ураніўшы скрынку усесмачнага дражэ, якую ён атрымаў ад Герміёны. - Калі гэта тое, што я думаю, то гэта вельмі рэдкая і каштоўная рэч.

- Што гэта?

Гары сабраў бліскучую, серабрыстую тканіну з падлогі. Яна была дзіўная навобмацак, быццам у матэрыял была дададзена вады.

- Гэта мантыя-невідзімка, - сказаў Рон, з выразам страху на твары. – Я ўпэўнены, што гэта яна. Паспрабуй апрануць.

Гары накінуў бліскучую мантыю на плечы, і Рон ускрыкнуў.

- Гэта яна! Паглядзі!

Гары паглядзеў на свае ногі, але яны зніклі. Ён кінуўся да люстэрка. Там было яго адлюстраванне, але ад яго засталася толькі галава, якая вісела ў паветры, а цела было цалкам нябачным. Ён нацягнуў капюшон на галаву і знік зусім.



- Паглядзі туды! – сказаў раптоўна Рон. - З гэтага выпала нататка!

Гары зняў мантыю і схапіў ліст паперы. Нататка была напісаная вузкім вытанчаным падчаркам, якога хлопчык раней ніколі не бачыў.

*Твой бацька пакінуў гэта мне перад тым, як памёр. Надышоў час вярнуць гэта табе. Выкарыстай яе належным чынам. Вясёлых Калядаў.*

Подпісу не было.

Гары ўтаропіўся на запіску. Рон любаваўся манціяй.

- Я б усё аддаў за адну такую, - сказаў ён. - Усё. Што гэта ўсё значыць?

- Нічога, - адказаў Гары. Ён адчуваў сябе вельмі дзіўна. Хто даслаў мантыю? Ці сапраўды гэта калісьці належала яго бацьку?

Перш чым ён паспеў нешта яшчэ сказаць ці падумаць, дзверы спальні расчыніліся, і ў пакой уваліліся Фрэд і Джордж Уізлі. Гары хутка схаваў мантыю. Ён не хацеў распавядаць пра яе камусьці яшчэ.

- Вясёлых Калядаў!

- Гэй, глядзі на Гары, у яго таксама ёсць швэдар Уізлі!

Фрэд і Джордж былі апранутыя ў сінія швэдары, на адным з іх была вялікая літара «Ф», на другім – «Д».

- Швэдар Гары выглядае лепш, чым нашы, - сказаў Фрэд, трымаючы швэдар Гары. - Яна, відавочна, больш стараецца для тых, хто не член сям'і.

- Ты чаго свой не апрануў, Рон? – патрабавальна спытаў Джордж. - Давай, улазь у свой, ён мілы і цёплы.

- Я ненавіджу бардовы, - застагнаў у адказ Рон, але неахвотна падняў швэдар над галавой, апранаючы яго.

- На вашых швэдарах няма літараў! - углядзеўся Джордж. - Я думаю, што яна ўпэўненая, што ўжо вы не забываецеся на свае імёны. Але мы не дурні - мы ведаем, што мы завемся Джрэд і Фордж.

- Чаго гэта ў вас тут так шумна?

Персі Уізлі прасунуў галаву ў дзверы і незадаволена на іх паглядзеў. Ён, відавочна, таксама займаўся разбіраннем падарункаў, так як таксама трымаў у руцэ складзены швэдар.

Фрэд выхапіў падарунак.

- «С» для старасты! Апранай яго, Персі, давай, мы ўсё апранулі нашы, нават у Гары ёсць адзін.

- Я не хачу, - сказаў Персі густа пачырванеўшы, але блізняты паднялі швэдар над ягонай галавой, прымушаючы яго апрануць. Цяпер акуляры заўсёды акуратнага старасты Уізлі сядзелі крыва.

- І ты не будзеш сядзець з старастамі сёння, - безапеляцыйна заявіў Джордж. - Каляды - гэта сямейнае свята.

Яны, падскокваючы, вывелі Персі з пакоя, ягоныя рукі былі прыціснутыя да бакоў швэдарам.

***



У Гары ніколі ў жыцці не было такой каляднай вячэры. Сто штук тлустай, смажанай індычкі, горы смажанай і варанай бульбы, талеркі з сардэлькамі, міскі з масленым гарохам, срэбраныя лодкі з густым, смачнай падліўкай і журавінавым соусам і горы чароўных крэкераў, якія былі раскладзеныя на стале праз кожныя некалькі метраў.

Гэты фантастычна ўпрыгожаны стол быў зусім не падобны на тое, што звычайна рабілі Дурслі. Падумаць толькі, яны ўпрыгожвалі калядныя стравы маленькімі пластыкавымі цацкамі і папяровымі парасонікамі.

Гары разам з Фрэдам разламалі чароўны крэкер, і той не проста трэснуў, але выбухнуў як гармата, з яго вылецела воблака сіняга дыму, якое паглынула іх усіх, а знутры вылецела фуражка контр-адмірала і некалькі жывых белых мышэй.

За Высокім сталом сядзеў Дамблдлор, які змяніў звычайны завостраны капялюш чараўніка на шапку з кветак. Прафесар весела пасмейваўся над жартам прафесара Флітвіка.

За індычкай ішлі гарачыя пудынгі. Персі ледзь не зламаў свой зуб аб срэбраны сікл, запечаны ў ягоным кавалку. Гары паглядзеў на Хагрыда, той усё чырванеў і чырванеў, бо спрабаваў усё новыя келіхі віна. У выніку велікан чмокнуў прафесара МакГонагал у шчаку, якая, да здзіўлення Гары, не раззлавалася, а захіхікала і пачырванела. Яе капялюш пры гэтым з’ехаў на бок.

Калі Гары нарэшце ўстаў з-за стала, ён набраў кучу смачных рэчаў: акрамя выбуховых крэкераў хлопчык узяў пакет балёнікаў, якія мала таго што свяцяцца дык яшчэ і ніколі не лопаюцца, набор Вырасці-Сабе-Кучу-Барадавак-Сам і яго уласны новы набор чароўных шахматаў.

Белыя мышы кудысьці зніклі, і ў Гары было непрыемнае адчуванне, што яны ў рэшце-рэшт трапяць да місіс Норыс на калядную вячэру.

***

Гары і Уізлі правялі другую палову дня, зладзіўшы на вуліцы снежную баталію. Затым замерзлыя, мокрыя і запыхаючыся яны ўляцелі ў агульны пакой “Грыфіндора”, дзе Гары паспрабаваў свае новыя шахматы, эфектна прадуўшы Рону. Ён падазраваў, што не згуляў бы так кепска, калі б Персі не так настойліва спрабаваў яму дапамагчы.

Пасля ежы – індычкі, бутэрбродаў, пампушак, бісквіту і каляднага торта - кожны адчуваў сябе занадта сытым і сонным, каб нешта такое асаблівае рабіць перад сном. Таму Рон і Гары сядзелі і глядзелі пагоню Персі за Фрэдам і Джорджам па ўсёй вежы “Грыфіндора”. Старэйшы Уізлі гнаўся за блізнятамі, бо тыя скралі ягоны значык старасты.

Гэта былі лепшыя Каляды Гары. Але нешта ў глыбіні яго грызла ўвесь дзень. Толькі калі ён залез у ложак, то змог дадумаць думку пра гэта. Гэта было пра мантыю-невідзімку і таго, хто даслаў яе.

Рон аб’еўся індычкай і пірагом, таму не было нічога дзіўнага ў тым, што ён заснуў адразу, як толькі лёг. Гары звесіўся з свайго ложка і выцягнуў мантыю з-пад яе.

Яго бацькі… гэта было ў яго бацькі. Ён узяў мантыю ў рукі - больш гладкая, чым шоўк, лёгкая, як паветра. Выкарыстай яе правільна, было сказана ў нататцы.

Гары зразумеў, што павінен паспрабаваць мантыю прама цяпер. Ён выслізнуў з ложку і загарнуўся ў мантыю-невідзімку. Гледзячы на ногі, ён бачыў толькі святло месяца і цені. Гэта было вельмі дзіўнае адчуванне.

Выкарыстоўвай яе правільна.

Раптам Гары адчуў поўную свабоду. Увесь «Хогвардс» быў адкрыты для яго ў гэтай мантыі. Хваляванне затапіла яго, пакуль ён стаяў у цемры і цішыні спальні. Ён можа быць дзе заўгодна, у любым месцы, і Філч ніколі не даведаецца.

Рон хмыкнуў у сне. А можа, абудзіць яго? Але нешта стрымала Гары – усё ж мантыя ягонага бацькі – ён адчуў, што на гэты раз - у першы раз – ён хоча пакарыстацца гэтым у адзіноце.

Ён выпаўз з інтэрната, спусціўшыся уніз па лесвіцы праз гасціную, і вылез у калідор праз адтуліну за партрэтам.

- Хто там? – спытала сонна Тлустая Дама. Гары нічога не сказаў. Ён ужо хутка ішоў па калідоры.

Куды б пайсці? Хлопчык спыніўся, каб падумаць. Ягонае сэрца моцна білася. А потым у галаву прыйшла ідэя: ён пойдзе ў забароненую секцыю ў бібліятэцы. Тады ён зможа чытаць столькі, колькі захоча, да таго часу, пакуль не даведаецца, хто такі Фламель. Гары пайшоў па калідоры, як мага больш шчыльна заварочваючыся ў мантыю-невідзімку.




У бібліятэцы было зусім цёмна. Гары запаліў лямпу, каб бачыць шлях паміж шэрагаў кніжных шафаў. З боку ўсё выглядала, быццам лямпа сама плыла ў паветры. І хаця Гары цвёрда ведаў, што гэта ён нёс ліхтар у сваёй руцэ, гэтае відовішча прымусіла яго здрыгануцца.

Ён меў рацыю, калі думаў, што забароненая секцыя знаходзілася ў задняй частцы бібліятэкі. Зрабіўшы асцярожны крок за вяроўку, якая аддзяляла гэтыя кнігі ад астатніх, хлопчык падняў лямпу, каб пачытаць назвы.

Яны амаль нічога яму не сказалі. Іх запыленыя, выцвілыя залатыя літары былі напісаныя на мовах, якіх Гары не разумеў. Некаторыя з кніг не мелі назвы наогул. На адной з кніг была цёмная пляма, якая выглядала жудасна, нагадваючы кроў.

Валасы на патыліцы Гары сталі дыбам. Можа быць, гэта яму падавалася, можа, і не, але ад кніг ішоў слабы шэпт, быццам яны ведалі, што ён зайшоў туды, куды не трэба.

Але трэба было з чагосьці пачынаць. Гары асцярожна паставіў лампу на падлогу. Ён паглядзеў уздоўж ніжняй паліцы. На вочы яму трапіўся вялікі чорны з срэбрам том. Не без цяжкасці Гары выцягнуў кніжку і, паклаўшы на калена, адкрыў.

Пранізлівы крык парушыў цішыню бібліятэкі – кніга крычала! Гары хутка зачыніў яе, але крык працягваўся на адной і той жа пранізлівай, аглушальнай ноце. Ён зрабіў крок назад і нязграбна перакуліў лямпу, якая ў імгненне патухла. У сэрцы паднялася паніка, асабліва калі ён пачуў крокі з боку калідора.

Хутка запхнуўшы крыклівую кнігу на паліцу, Гары пабег да выхаду. У дзвярах ён пабачыў Філча. Філч белымі, дзікімі вачыма глядзеў прама праз яго. Гары нырнуў пад працягнутай рукой і пабег па калідоры. Крыкі кнігі ўсё яшчэ звінелі ў яго ў вушах.

Гары ледзь паспеў затармазіць перад вялізнымі даспехамі. Ён быў так заняты пабегам з бібліятэкі, што не звяртаў увагі, куды бяжыць. А зараз увогуле, магчыма, праз цемру не мог зразумець, дзе апынуўся. Ён ведаў адны даспехі, непадалёк ад кухні, але зараз ён па ідэі быў пяццю паверхамі вышэй.

- Вы папрасілі прыходзіць непасрэдна да вас, прафесар, калі нехта блукае па начах. Дык вось нехта забраўся у Забаронены раздзел бібліятэкі, - пачуў Гары голас Філча.

Кроў адліла ад твару Гары. Відавочна, Філч павінны быў ведаць нейкі таемны ход, бо ягоны мяккі, ліслівы голас зараз гучаў значна бліжэй. Да свайго жаху хлопчык зразумеў, што наглядальшчыку адказвае Снэйп.

- У забароненым раздзеле… Ну,яны не маглі сысці далёка. Мы іх зловім.

Гары замер на месцы, калі Філч і Снэйп выйшлі з-за вугла спераду. Вядома, яны не маглі яго пабачыць, але гэта быў вузкі калідор. Калі яны падыдуць бліжэй, то відавочна на яго наткнуцца. Мантыя-невідзімка не перашкаджала яму быць такім жа цвёрдым, як і раней.

Ён пачаў адступаць назад так ціха, як мог. Злева ад яго былі прыадчыненыя дзверы. Гэта была адзіная надзея. Гары праціснуўся ў шчыліну, затрымаўшы дыханне, стараючыся не ссунуць дзверы, і ў яго атрымалася патрапіць унутр нейкага памяшкання, каб ніхто нічога не заўважыў.

Снэйп з Філчам прайшлі міма. Гары прыхінуўся да сцяны, глыбока дыхаючы, прыслухоўваючыся да крокаў, якія знікалі ў далечыні. Гэта было блізка, вельмі блізка. Ён выратаваўся за некалькі секунд да таго, як быў бы знойдзены.

Пакой выглядаў быццам клас, дзе даўно не было заняткаў. Цёмныя постаці сталоў і крэслаў чарнелі ля сцяны, яны былі састаўленыя адзін на адзін, у куце стаяла перагорнутая сметніца. А каля супрацьлеглай сцяны стаяла нешта зусім тут недарэчнае, быццам нехта паставіў гэтую рэч тут толькі з адной мэтай: схаваць ад чужых вачэй.

Гэта было цудоўнае люстэрка з багата упрыгожанай золатам рамай, высокае, да самой столі, якое стаяла на дзвюх кіпцюрастых лапах. Зверху быў інкруставаны надпіс: «Эрайзэд стра эхру оўт юбэ калфру ойт он вохсі».

Адчуваючы, што ягоная паніка знікае, бо Філча і Снэйпа зусім не было чутна, Гары падыйшоў бліжэй да люстэрка, жадаючы паглядзець на сябе, але адлюстраванне чамусьці не з’явілася. Тады, зрабіўшы крок, хлопчык апынуўся прама перад люстэркам.

Яму давялося заціснуць рукамі рот, каб не закрычаць. Гары хуценька адвярнуўся ад люстэрка. Ягонае сэрца білася значна хутчэй, чым тады, калі крычала кніга. Бо Гары бачыў у люстэрку не толькі сабе, але і цэлы натоўп людзей за сабой.

Аднак пакой быў пусты. Дыхаючы вельмі хутка, ён зноў павольна павярнуўся да люстэрка.

Там быў ён, белы і напалоханы, а ззаду стаялі па меншай меры яшчэ дзесяць чалавек. Гары азірнуўся праз плячо, але там, як і раней, нікога не было. Ці ўсе яны таксама нябачныя? Ці, можа, ён апынуўся ў пакоі, поўным нябачных людзей, і гэта была хітрасць люстэрка ў тым, што яно іх паказала?

Ён паглядзеў у люстэрка зноў. Жанчына, якая стала прама за ягоным



адлюстраваннем усміхалася і махала рукой. Ён пацягнуўся з надзеяй дакрануцца да яе рукі, але намацаў ззаду толькі паветра. Калі яна б сапраўды была тут, ён бы абавязкова да яе дацягнуўся, яна ж стаялі так блізка, але нікога не было – значыцца, яна і астатнія існавалі толькі ў люстэрку.

Яна была вельмі прыемнай жанчынай з цёмна-рудымі валасамі. І яе вочы… яе вочы прама як ў мяне, падумаў Гары, трохі прыблізіўшыся да шкла. Светла-зялёныя, абсалютна такой жа формы як у яго. Потым хлопчык заўважыў, што яна плакала, ўсміхалася, але у той жа момант плакала.

Высокі, хударлявы, чорнавалосы мужчына стаяў побач з ёй, абняўшы яе. Ён насіў акуляры, і ягоныя валасы былі моцна растрапаныя, стаялі тарчма на патыліцы, як і ў Гары.

Цяпер Гары быў так блізка ад люстэрка, што ягоны нос амаль не дакрануўся да носа свайго адлюстравання.

- Мама? – прашаптаў ён. – Тата?

Яны проста глядзелі на яго і ўсміхаліся. Павольна Гары разглядзеў твары іншых людзей ў люстэрку і пабачыў іншыя пары зялёных вачэй, як у яго, іншыя насы, падобныя на ягоны, нават у маленькага старэнькага дзядка, у якога былі вострыя каленкі як і ў Гары. Хлопчык глядзеў на сваю сям'ю ўпершыню ў жыцці.

Потэры ўсміхаліся і махалі рукамі Гары, а ён утаропіўся ў іх, шчыльна наблізіўшыся да люстэрка, быццам спадзяючыся праваліцца ў яго і апынуцца сярод сваякоў. Унутры ў яго завязаўся вузел болю, які напалову складаўся з радасці, а напалову з жахлівага суму.

Колькі ён там прастаяў, Гары не ведаў. Адлюстраванне не знікала, і ён глядзеў і глядзеў, пакуль аддалены шум не вярнуў яго да рэчаіснасці. Трэба было вярнуцца ў спальню. Ён адвёў позірк ад твару маці, прашаптаўшы:

- Я вярнуся, - і выбег з пакоя.

***

- Ты павінны быў мяне разбудзіць, - сказаў Рон пахмурна.

- Ты можаш пайсці гэтай ноччу. Я пайду ізноў і хачу паказаць табе люстэрка.

- Я хацеў бы ўбачыць тваіх маму і тату, - дадаў Рон горача.

- І я хачу пабачыць усю тваю сям'ю, усіх Уізлі, ты здолееш паказаць мне ўсіх сваіх братоў і ўвогуле ўсіх.

- Ты і так можаш убачыць іх, - заявіў Рон. – Проста прыязджай да мяне ў госці гэтым летам. Акрамя таго, магчыма люстэрка паказвае толькі мёртвых людзей. Але, нажаль, мы не прасунуліся ў пошуках Фламеля… Вазьмі хаця б бекону ці чаго яшчэ. Чаму ты нічога не еш?

Гары не мог есці. Ён пабачыў сваіх бацькоў і зноў павінны быў пабачыць іх сёння ноччу. Ён ужо амаль забыўся на Фламеля. Гэта цяпер не выглядала такім ужо важным. Каму цікава, што ахоўвае трохгаловы сабака? Ды і нават, калі Снэйп гэта скрадзе, ці не ўсё роўна?

- З табой усё нармальна? – спытаўся Рон. – Ты неяк дзіўна выглядаеш.

***



Чаго Гары баяўся больш за ўсё, дык гэта не знайсці ў другі раз пакой, дзе стаяла люстэрка. Калі ў мантыю загарнуліся яны з Ронам разам, яны ішлі нашмат больш павольна, чым ён мінулай ноччу. Хлопчыкі паспрабавалі прасачыць шлях Гары ад бібліятэкі, споўдаючыся па цемры каля гадзіны.

- Я замерз, - паскардзіўся Рон. – Давай забудземся на ўсё і пойдзем назад.

- Не! – зашыпеў Гары. – Я ведаю, гэта недзе тут побач.

Яны мінулі высокага прывіда, які плыў у супрацьлеглым кірунку, але больш ніхто на вочы не трапляўся. Прыкладна ў той момант, як Рон пачаў стагнаць, што ягоныя пяткі адвальваюцца ад холаду, Гары заўважыў знаёмыя па мінулай ночы даспехі.

- Гэта тут! Прама тут! Ура!

Яны пхнулі дзверы, і яны адчыніліся. Гары выблытаўся з мантыі-неведзімкі і падбег да люстэрка.

Яны былі там. Ягоная мама і тата заззялі пры ягоным з’яўленні.

- Бачыш? – прашаптаў Гары.

- Я нічога не бачу.

- Глядзі! Глядзі тут усе яны... усе…

- Я бачу толькі цябе.

- Паглядзі ўважліва, ідзі, стань на маё месца.

Гары адступіў убок, але калі Рон стаў перад люстэркам, ён не бачыў сваёй сям’і, толькі Рона ў байкавай піжаме.

Рон замер на месцы.

- Паглядзі на мяне! – сказаў ён нечакана.

- Ты бачыш сваю сям’ю вакол сабе?

- Не. Я адзін. Але я іншы. Я выглядаю старэйшым, і я лепшы вучань школы!

- Што?

- Я… у мяне значык, які насіў Біл, і я трымаю кубак школы і кубак па квідычу. Таксама я капітан каманды па квідычу.

Рон адарваў позірк ад гэтага фантастычнага відовішча і з азартам паглядзеў на Гары.

- Думаеш, люстэрка паказвае будучыню?

- Як гэта можа быць? Уся мая сям’я памерла. Дай мне яшчэ раз паглядзець.

- У цябе ўжо была такая магчымасць мінулай ноччу. Дай мне яшчэ трохі часу.

- Ты проста трымаеш кубак па квідычу. Што ў гэтым цікавага? Я хачу пабачыць сваіх бацькоў.

- Не піхайся!

Аддалены шум у калідоры паклаў канец іх спрэчцы. Хлопцы і не разумелі, наколькі гучна яны размаўлялі.

- Хутка!

Рон толькі паспеў нацягнуць на іх мантыю, як яны пабачылі вочы-светлячкі місіс Норыс, а потым і яна сама зайшла ў дзверы. Рон і Гары стаялі зусім побач і абодва думалі пра адно: мантыя працуе і для катоў? Пасля імгнення, якое падалося ім вечнасцю, яна развярнулася і сышла.

- Гэта небяспечна. Яна магла пайсці за Філчам. Магу паспрачацца, яна чула нас. Хадзем, - Рон пацягнуў Гары з пакоя з люстэркам.

***

Наступнай раніцай снег яшчэ не растаў.

- Не хочаш пагуляць у шахматы? – запытаўся Рон.

- Не.

- Можа сходзім у госці да Хагрыда?

- Не, ты ідзі…

- Я ведаю, пра што ты думаеш, Гары. Пра люстэрка. Не трэба туды зноў ісці ноччу.

- Чаму?

- Я думаю… у мяне кепскія прадчуванні наконт гэтага. І ўвогуле, ты ходзіш вельмі блізка ад небяспецы. Філч, Снэйп і місіс Норыс - вакол. Што, калі яны не змогуць цябе пабачыць, але наткнуцца на цябе? Што, калі ты сам саб'еш нешта?

- Ты кажаш зусім як Герміёна.

- Я сур'ёзна, Гары. Не ідзі.

Але ў Гары ў галаве круцілася толькі адна думка: вярнуцца да люстэрка, і Рон не мог яго спыніць.

***

У трэцюю ноч Гары знайшоў шлях нашмат хутчэй. Ён ішоў так хутка, што рабіў больш шуму, чым гэта было разумна. Але не сустрэў на сваім шляху аніводнага чалавека.

І там былі ягоныя мама і тата, якія зноў яму ўсміхаліся, і адна з бабуляў шчасліва ківала. Гары ўсеўся на падлогу перад люстэркам. Не было нічога такога, што магло б перашкодзіць яму правесці ноч са сваёй сям'ёй. Увогуле нічога.

Акрамя…

- Так ты вярнуўся зноў, Гары?

Гары адчуў, як усё ўнутры яго заледзянела. Ён азірнуўся. На парце каля сцяны сядзеў ніхто іншы як Альбус Дамблдор. Гары, пэўна, проста мінуў яго, так хацеў трапіць да люстэрка.

- Я не заўважыў вас, сэр.

- Дзіва дзіўнае, наколькі нядальнабачным робіць цябе нябачнасць, - заявіў Дамблдор, і Гары аджыў, пабачыўшы, што ён пасміхаецца.

- Так, - сказаў Дамблдор, саскочыўшы з парты, каб усесціся на падлогу побач з Гары, - Ты, як сотні да цябе, адкрыў для сабе прывабнасць Люстэрка мараў.

- Я не ведаў, што яно так называецца, сэр.




- Але я ўпэўнены, што ты зразумеў, што яно паказвае?

- Гэта… ну… яно паказвала мне маю сям'ю.

- І яно паказала твайму сябру Рону яго самога лепшым вучням школы.

- Адкуль вы ведаеце?

- Мне не патрэбна мантыя, каб стаць нябачным, - сказаў Дамблдор асцярожна. – Цяпер ты можаш сказаць, што Люстэрка мараў паказвае?

Гары пахістаў галавой.

- Дазволь мне патлумачыць, - працягнуў прафесар. –

Найшчаслівы чалавек на свеце зможа выкарыстаць Люстэрка мараў як звычайнае люстэрка. Ён паглядзіць у яго і пабачыць сабе. Разумееш?

Гары думаў. Потым сказаў павольна:

- Яно паказвае тое, што мы жадаем… усё тое, што жадаем атрымаць.

- І так, і не, - сказаў Дамблдлор ціха. – Яно паказвае не больш і не менш - самае глыбокае, самае прыхаванае жаданне твайго сэрца. Ты, хлопчык, які ніколі не ведаў сваёй сям'і, бачыш іх вакол сабе. Рональд Уізлі, які заўсёды быў у цені сваіх братоў, бачыць сабе аднаго, найлепшым сярод іншых.

Аднак, гэтае люстэрка не дае нам ні ведаў, ні праўды. Шматлікія людзі знішчылі сваю будучыню перад гэтым люстэркам ці звар'яцелі ад таго, не разумеючы, што з таго, што яны бачылі рэальна.

- Люстэрка перавязуць у новае месца заўтра, Гары, і я прашу цябе не шукаць яго зноў. Калі ты выпадкова сустрэнеш яго, цяпер ты будзеш падрыхтаваны. Не варта спыняцца толькі на марах і забывацца на рэальнае жыццё. А цяпер чаму б цябе не апрануць мантыю-невідзімку і не пайсці спаць?

Гары падняўся.

- Сэр… прафесар Дамблдлор? Магу я запытацца ў вас пра нешта?

- Відавочна, да таго ж ты ўжо зрабіў гэта, - засмяяўся Дамблдлор. – Але ты можаш задаць мне яшчэ адно пытанне.

- Што вы бачыце, калі глядзіцеся ў гэтае люстэрка?

- Я? Я бачу сабе, а ў руках у мяне пара тоўстых ваўняных шкарпэтак.

Гары застыў.

- Шкарпэтак заўсёды не хапае, - сказаў Дамблдлор. – Прыходзяць новыя каляды, але ніхто не падарыў мне ніводнай пары. Людзі настойліва дораць мне кнігі.

Толькі калі Гары вярнуўся ў ложак, яму стукнула ў галаву, што Дамблдлор мог сказаў яму не ўсю праўду. Але потым хлопчык, скінуўшы Скэберса з падушкі, вырашыў, што пытанне было занадта асабістым.



# Частка трынаццатая

# Нікаля Фламель

Дамблдлор пераканаў Гары больш не шукаць люстэрка мараў, і астаткі калядных канікулаў мантыя-невідзімка заставалася на дне сумкі. Гары жадаў бы забыцца на тое, што ён бачыў у люстэрку, але не мог.

Ён пачаў бачыць кашмары. Зноў і зноў ён сніў сваіх бацькоў, якія знікалі ва ўспышцы зялёнага святла, у той час як нехта рагатаў высокім голасам.

- Як бачыш, Дамблдлор быў правы, што люстэрка можа пашкодзіць твой розум, - заявіў Рон, калі Гары распавёў яму пра свае сны.

Герміёна, якая вярнулася за дзень да пачатку заняткаў, глядзела на сітуацыю па-іншаму. Яна разрывалася паміж жахам ад ідэі Гары гуляць па школе тры ночы запар («А калі Філч злавіў бы цябе!») і расчараваннем, што ён так і не знайшоў ніякай інфармацыі пра Нікаля Фламеля.

Яны амаль згубілі надзею адшукаць Фламеля ў бібліятэчных кнігах, але Гары быў упэўнены, што раней дзесьці бачыў гэтае імя.

***

Пачалася першая чвэрць. Сябры вярнуліся да прагляду кніжак за дзесяць мінут пад час перапынку. Гары праводзіў там нават меней часу, бо пачаліся і трэніроўкі па квідычу.

Вуд працаваў з камандай больш настойліва, чым раней. Нават позні дождж не мог зломіць ягоны дух. Уізлі заяўлялі, што Вуд стаў проста немагчымым. Але Гары быў на баку капітана. Калі яны выйграюць наступны матч супраць «Хафлпуфа», то ўпершыню за апошнія сем год абыдуць «Слізэрын» у чэмпіянаце факультэтаў.

Да таго ж, аказалася, што Гары бачыў меней кашмараў, калі стамляўся на трэніроўцы.

Потым, пад час адной асабліва мокрай і каламутнай трэніроўкі Вуд прынёс для каманды трохі кепскіх навінаў. Ён быў вельмі раззлаваны на Уізлі, якія наляталі адзін на аднаго, робячы выгляд, што вось-вось зваляцца з мётлаў.

- Хопіць балавацца! – закрычаў ён. – Гэта як раз тое, праз што мы і прайграем гульню! Снэйп будзе судзіць гэты матч і будзе шукаць любую дробязь, каб забраць балы ў «Грыфіндора»!

Пры гэтых словах Джордж Уізлі сапраўды зваліўся з мятлы.

- Снэйп будзе суддзём? – выплюнуў ён бруд, які набраўся ў рот пры падзенні. – Калі ён раней судзіў матч па квідычу? Ён не будзе справядлівым, калі мы пачнём выйграваць у «Слізэрына».

Астатнія гульцы прызямліліся побач з Джорджам, каб таксама паскардзіцца.

- Гэта не мая віна, - адказаў Вуд. – Цяпер мы павінны адгуляць чыста, каб у Снэйпа не было нагоды нас пакараць.

Усё гэта вельмі добра, падумаў Гары, але ў яго ёсць і іншая прычына не жадаць, каб Снэйп бадзяўся побач з ім пад час гульні ў квідыч…

Большая частка каманды як звычайна затрымалася ў распранальні, каб паразмаўляць. Але Гары адразу накіраваўся ў агульны пакой «Грыфіндора», дзе знайшоў Рона і Герміёну, якія гулялі ў шахматы. Шахматы – гэта тая гульня, у якую Герміёна часцяком прайгравала. Хлапцы, паміж сабой вырашылі, што ёй гэта вельмі карысна.

- Пачакай секунду, - сказаў Рон, калі Гары ўсеўся каля яго. – Я павінны сканцэнтравацца, - тут ён заўважыў выраз твару сябра. – Што з табой здарылася? Ты выглядаеш жахліва.

Перайшоўшы на шэпт, каб ніхто не пачуў, Гары расказаў сябрам пра раптоўнае, жаданне Снэйпа быць суддзём у квідычы.

- Не гуляй, - адразу заявіла Герміёна.

- Скажы, што ты захварэў, - дадаў Рон.

- Прыкінься, што зламаў нагу, - развіла думку Герміёна.

- Сапраўды зламі нагу, - прапанаваў Рон.

- Я не магу, - адказаў Гары. – Няма запаснога шукальніка. Калі я не выйду, «Грыфіндор» увогуле не здолее гуляць.

У гэты момант у агульны пакой уваліўся Нэвіл. Як ён пралез праз уваход за партрэтам заставалася загадкай, бо з першага погляду было зразумела, што ягоныя ногі былі склееныя праклёнам Склей-Ногі. Яму давялося скакаць як аднаногаму алавянаму салдаціку ўсю дарогу да вежы «Грыфіндора».

Усе пачалі смяяцца, акрамя Герміёны, якая ускочыла і выканала расчаравала хлапца. Ногі Нэвіла адскочылі ў розныя бакі, і ён падняўся.

- Што здарылася? – запыталася ў Герміёна, усаджваючы яго побач з Гары і Ронам.

- Малфой, - сказаў Нэвіл дрыготкім голасам. – Я сустрэў яго каля бібліятэцы. Ён сказаў, што як раз шукаў кагосьці, каб патрэніравацца.

- Ідзі да прафесара МакГонагал! – заклікала Герміёна. – Распавядзі ёй!

Нэвіл пачасаў галаву.

- Я не хачу больш праблемаў, - прабубніў ён.

- Ты павінны супрацьстаяць ім, Нэвіл! - сказаў Рон. – Яны так могуць выкарыстоўваць усіх мінакоў, але можна ўвогуле спрасціць ім задачу і класціся перад імі.

- Няма неабходнасці нагадваць мне, што я недастаткова смелы, каб быць у «Грыфіндоры», Малфой ужо зрабіў гэта, - сказаў Нэвіл прыдушаным голасам.

Гары памацаў кішэню сваёй мантыі і дастаў адтуль шакаладную жабку, апошнюю з каробкі, якую даслала Герміёна на Каляды. Ён аддаў яе Нэвілу, які выглядаў так, быццам зараз заплача.

- Ты смялей за Малфоя ў дванаццаць разоў, - сказаў Гары. - Адборны капялюш накіраваў цябе ў «Грыфіндор», ці не так? І дзе Малфой? У мярзотным «Слізэрыне».

Вусны Нэвіла скалаліся ў слабую ўсмешку, калі ён распакаваў жабку.

- Дзякуй, Гары... Я думаю, я пайду спаць. Не хочаш забраць картку? Я ведаю, ты іх збіраеш.

Калі Нэвіл сышоў, Гары паглядзеў на картку знакамітага чараўніка.

- Зноў Дамблдлор, - сказаў ён. – Ён быў першы, каго я…

Ён застыў, перагарнуў картку і ўтаропіўся на адваротны бок карткі. Потым паглядзеў на Рона і Герміёну.

- Я знайшоў яго! – прашаптаў Гары. – Я знайшоў Фламеля! Я ж казаў, што бачыў яго недзе. Я чытаў гэта ў цягніку па дарозе ў «Хогвардс». Слухайце:

*«Асабліва вядомы Дамблдлор паразай цёмнага чараўніка ў Грындэвальдсе ў 1945 годзе, адкрыццём дванаццаці спосабаў выкарыстання драконава крыві і яго работамі па алхіміі з Нікаля Фламелем».*

Герміёна ускочыла. Яна выглядала настолькі ўсхваляванай, быццам атрымала сшытак з адзнакамі за першае хатняе заданне.

- Стойце тут! – заявіла яна і кінулася ў дзявочую спальню. Гары і Рон ледзь паспелі абмяняцца зацікаўленымі позіркамі, як яна ўжо вярнулася з вялікай старой кнігай у руках.

- Я ніколі не думала, што трэба шукаць гэта тут! – прашаптала яна азартна. – Я ўзяла гэта ў бібліятэцы каля двух тыдняў таму для лёгкага чытання.

- Лёгкага? – перапытаў Рон, але Герміёна шыкнула на яго і пачала нешта шукаць, хутка перагортваючы старонкі і мармычучы нешта пад нос.

Нарэшце яна знайшла.

- Я ведала! Я ведала!

- Цяпер нам ужо можна размаўляць? – сварліва запытаўся Рон. Герміёна яго не заўважыла.

- Нікаля Фламель, - прачытала яна драматычна. – адзіны вядомы сёння майстра, якому ўдалося здабыць філасофскі камень!

Гэта не стварыла таго эфекту, на які яна разлічвала.

- А што гэта? – запыталіся Гары і Рон.

- О, канечне, вы ж двое гэтага не чыталі. Глядзіце… чытайце. Вось тут.

Яна штурхнула кніжку ім, і Гары з Ронам прачыталі:

*«Сярэднявечныя алхімікі-вучоныя імкнуліся зрабіць філасофскі камень, легендарнае рэчыва дзіўнай сілай. Камень змяняў любы метал у золата. Акрамя таго, з яго можна было зрабіць Эліксір жыцця, які рабіў таго, хто яго вып'е, бессмяротным.*

*За стагоддзі было шмат заяваў аб стварэнні філасофскага каменя, але адзіны такі камень, існуючы ў нашыя часы, належыць містару Нікаля Фламелю, знакамітаму алхіміку і аматару оперы. Містэр Фламель, які адзначыў свой 665 дзень народзінаў у мінулым годзе, жыве як пустэльнік у Дэване ў кампаніі са сваёй жонкай Перэнелі (658 год)».*

- Бачыце? – запыталася Герміёна, калі хлопчыкі дачыталі. – Сабака ахоўвае філасофскі камень Фламеля! Магу паспрачацца, ён папрасіў Дамблдлора захаваць камень таму, што яны сябры, і ён ведаў, што нехта жадае скрасці камень з «Грынгатса»!

- Камень, які робіць золата і з ім ты ніколі не памрэш! – сказаў Гары. – Не дзіўна, што Снэйп хоча здабыць яго. Кожны б пажадаў атрымаць такі.

- І не дзіўна, што мы не маглі знайсці Фламеля ў падручніку «Найноўшых дасягненняў у чараўніцтве», - сказаў Рон. – Ён увогуле ненайноўшы і несучасны, калі яму ўжо 665 год, хіба не?

***

Наступным ранкам на занятках па абароне супраць цёмных мастацтваў, на якім яны перапісвалі розныя варыянты лячэння ад укусу пераваратня, Гары і Рон усё яшчэ спрачаліся, што яны будуць рабіць з філасофскім камнем, калі яго знойдуць.

Гэта працягвалася да таго часу, пакуль Рон не заявіў, што набыў бы сваю каманду па квідычу. Тады Гары адразу прыгадаў пра судзейства Снэйпа пад час набліжаючагася матчу.

- Я збіраюся згуляць, - сказаў ён Рону і Герміёне. – Калі я не выйду, «слізэрынцы» будуць думаць, што я баюся твару Снэйпа. Я пакажу ім… гэта сапраўды сатрэ з іх твараў усмешкі… калі мы выйграем.

- Пакуль мы не збяром рэшткі цябе з поля, - адказала Герміёна.

***

Чым меней часу заставалася да гульні, тым больш нервовым станавіўся Гары, не глядзячы на тое, што ён казаў Рону і Герміёне. Астатнія гульцы таксама хваляваліся. Ідэя перамагчы «Слізэрын» у чэмпіянаце факультэтаў была класнай, але ніхто не мог зрабіць гэта сем гадоў, і як жа гэта атрымаецца ў іх? Ды яшчэ з такім прадузятым суддзём?

Гары не ведаў, намроіў ён сабе гэта, ці не, але яму падавалася, што Снэйп паўсюдна за ім хадзіў. Хоча заспець знянацку?

Зелляварэнне ператварылася ў пакуты: Снэйп паводзіў сабе з Гары проста жахліва. Мог прафесар здагадацца, што яны знайшлі інфармацыю пра філасофскі камень? Але як? Часам Гары здавалася, што Снэйп можа чытаць думкі.

***

Калі наступным днём сябры жадалі Гары ўдачы перад дзвярыма распранальні, ён адчуваў, што насамрэч Рон і Герміёна думалі пра тое, ці пабачаць яшчэ яго жывым. Гэта таксама не дадавала ўпэўненасці. Гары з цяжкасцю выслухаў пранікнёную прамову Вуда, нацягнуў форму для квідыча і схапіў свой «Німбус-2000».

Рон і Герміёна, між тым, знайшлі месцы на трыбунах побач з Нэвілам, які не мог зразумець, чаму яны такія пахмурныя і заклапочаныя і прынеслі свае палачкі на гульню. Гары не ведаў, але Рон і Герміёна таямніча развучвалі заклён Склей-ногі. Ідэю падаў Малфой, скарыстаўшы яго на Нэвіле, цяпер сябры рыхтаваліся выкарыстаць яго для Снэйпа, калі толькі заўважаць, што прафесар збіраецца нанесці Гары шкоду.

- Не забудзься, трэба сказаць менавіта Лакамотар Морціс, - прашаптала Герміёна, калі ў Рона ледзь не выслізнула з рукава палачка.

- Я ведаю, - буркнуў Рон. – Не пераймайся.

У гэты час у распранальні Вуд адазваў Гары ў бок.

- Я не цісну на цябе, Потэр, але нам ніколі так важна не было злавіць снітч. Закончы гульню раней, чым Снэйп дапаможа «Хафлпуфу» выйграць.

- Там уся школа сабралася! - закрычаў Фрэд Уізлі, выглядваючы ў дзверы. – Нават, уяві, сам Дамблдлор прыйшоў паглядзець!

Сэрца Гары зрабіла кульбіт.

- Дамблдлор? – перапытаў ён, высунуўшыся з дзвярэй, каб быць упэўненым. Фрэд казаў чыстую праўду. Немагчыма было памыліцца і не пазнаць гэтую сівую бараду.

Гары засмяяўся з палёгкай, ён быў у бяспецы. У Снэйпа проста няма магчымасці нашкодзіць, яму, калі Дамблдлор тут.

Канечне, менавіта таму Снэйп выглядаў такім раззлаваным, калі каманды выйшлі на поле. Гэта адзначыў і Рон.

- Я ніколі не бачыў, каб Снэйп выглядаў такім, - сказаў ён Герміёне. – Паглядзі, яны… вой!

Нехта ткнуў Рона ў патыліцу. Гэта быў Малфой.

- Вой, прабач, Уізлі, не бачыў, што ты тут.

Малфой шырока ухмыльнуўся Крэбу і Гойлу.

- Раздумваеце, як доўга на гэты раз затрымаецца Потэр на сваёй мятле? Нехта жадае паспрачацца? Як наконт цябе, Уізлі?

Рон не адказаў. Снэйп як раз узнагародзіў «Хафлпуф» пенальці, так як Джордж Уізлі кінуў бладжэр у яго. Герміёна, якая скрыжавала ўсе свае пальцы, прыжмурыўшыся пільна глядзела на Гары. А Потэр у гэты час кружыў па полю як ястраб, выглядаючы снітч.

- Ты ведаеш, як яны абіраюць гульцоў у каманду «Грыфіндора»? – спытаўся Малфой гучна праз пару хвілінаў, як толькі Снэйп увогуле без прычынаў падарыў «Хафлпуфу» яшчэ адно пенальці. – Бяруць людзей, якіх шкада. Глядзі, гэты Потэр, у якога няма бацькоў, потым там яшчэ Уізлі, у якіх няма грошаў. Ты таксама павінны быць у камандзе, Лонгботам, у цябе няма мазгоў.

Нэвіл стаў ярка-чырвоным, але павярнуў твар да Малфоя.

- Я каштую дванаццаці такіх як ты, Малфой, - сказаў ён запінаючыся.

Малфой, Крэб і Гойл ажно завылі ад смеху, але Рон, не дазваляючы сабе адвесці вачэй да гульні, сказаў:

- Пакажы яму, Нэвіл.

- Лонгботам, калі твае мазгі былі б золатам, ты б быў бяднейшым за Уізлі, што тут яшчэ казаць.

Нервы Рона ад непакою за Гары былі нацягнутыя як струны.

- Я папярэдзіў цябе, Малфой… яшчэ адно слова…

- Рон! - сказала Герміёна нечакана. – Гары…

- Што? Дзе?

Гары неспадзявана пачаў ашаламляльны спуск, які выклікаў уздыхі і крыкі ў натоўпу. Герміёна устала, у хваляванні прыкрыла рукамі рот, пакуль Гары быццам куля ляцеў у накірунку зямлі.



- Радуйся, Уізлі, Потэр, відавочна, заўважыў манетку на зямлі, - заявіў Малфой.

Рон ускочыў. Да таго, як Малфой зразумеў, што здарылася, Рон ужо сядзеў на ім, скінуўшы яго на зямлю. Нэвіл задумаўся, потым пералез праз спінку сядзення, каб дапамагчы.

- Давай жа, Гары! – закрычала Герміёна, яна падскочыла на сядзенні, калі пабачыла, што Гары нясецца прама на Снэйпа. Яна яшчэ не заўважыла, як б'юцца Малфой і Рон, крыкаў, лямант і віхру кулакоў Нэвіла, Крэба і Гойла.

А ў паветры Снэйп развярнуў сваю мятлу, каб пабачыць, што чырвонае пранеслася міма яго, абмінуўшы на лічаныя міліметры. У наступную секунду Гары дастаў нешта знізу, ён пераможна ўскінуў руку з заціснутым снітчам.

Трыбуны застылі. Гэта быў рэкорд, ніхто да гэтага часу не лавіў снітч так хутка.

- Рон! Рон! Дзе ты? Гульня скончылася! Гары перамог! Мы перамаглі! «Грыфіндор» – першы! - закрычала Герміёна, танцуючы і падскокваючы на сваім сядзенні. Потым яна палезла абдымаць Парваці Паціл, якая сядзела спераду.



Гары саскочыў з мятлы. Ён не мог паверыць. Ён зрабіў гэта! Гульня скончана, яна ледзь доўжылася пяць хвілінаў…

Ён пабачыў, як «грыфіндорцы» саскаквалі на поле, непадалёк ад Снэйпа, які стаяў з белым тварам і падціснутымі вуснамі. Потым Гары адчуў руку на плячы і павярнуўся да ўсмешлівага твару Дамблдлора.

- Зроблена, - сказаў дырэктар ціха, каб пачуў толькі Гары. – Прыемна бачыць цябе не затлумленым думкамі пра люстэрка. Выдатна!

Снэйп горка сплюнуў на зямлю.

***

Гары сышоў з распранальні адзін і трохі раней, каб паставіць свой «Німбус-2000» на стаянку для мётлаў. Ён адчуваў сабе такім шчаслівым! Ён сапраўды зрабіў нешта, каб ганарыцца гэтым, ніхто не мог цяпер сказаць, што за ім толькі знакамітае імя.

Вячэрняе паветра ніколі не было такім салодкім. Гары гуляў па вільготнай траве, пракручваючы ў галаве падзеі апошняй гадзіны. Усё было ў шчаслівым тумане:

«грыфіндорцы» паднялі яго і неслі на плячах, Рон і Герміёна непадалёк скакалі ад радасці. Рон паміж апладысментамі выціраў кроў, якая цякла з носу.

Гары дайшоў да сарая для мётлаў. Ён прыхіліўся да драўляных дзвярэй і паглядзеў уверх, на «Хогвардс» з вокнамі, якія свяціліся чырвоным ў прамянях захаду. «Грыфіндор» перамог! Ён зрабіў гэта, ён паказаў Снэйпу...

І гаворачы пра Снэйпа...

Хударлявая фігура ішла хутка ўніз ад замку. Відавочна, чалавек не жадаў, каб яго пабачылі, ён ішоў так хутка, як мог ў накірунку Забароненага лесу.

Перамога імгненна вылецела з галавы Гары. Хлопчык пазнаў фігуру, па кульгавай паходцы. Снэйп краўся да лесу, пакуль усе вячэралі. Што ён збіраўся рабіць?

Гары ускочыў на «Німбус-2000» і ўзляцеў. Слізгануўшы над замкам, ён пабачыў, як Снэйп забег у лес. І Гары за ім.

Кроны дрэваў былі такімі густымі, а дрэвы раслі так блізка, што хлопчык не бачыў, куды пайшоў Снэйп. Ён наразаў колы над лесам, усё ніжэй і ніжэй, амаль дакранаючыся мятлой верхавінаў. Тут Гары пачуў галасы. Ён слізгануў у іх кірунку і бясшумна прызямліўся на высокі бук.

Ён асцярожна злез на дрэва, прыціснуўшыся да ствала, трымаючы мятлу і спрабуючы разглядзець праз лісце людзей. Знізу, у цені дрэваў стаяў Снэйп, але ён быў не адзін. З ім быў Квірэл. Гары не мог разгледзець твару выкладчыка барацьбы з цёмнай магіяй, але ён заікаўся яшчэ болей, чым звычайна.

Гары напружыў слых, каб пачуць усё, што яны казалі.

- Нннне ведаю, чаму вы пажадалі ссссустрэцца менавіта ў гггэтым мммесцы, Северус...

- Я думаю, гэта захавае нашу тайну, - адказаў Снэйп, ягоны голас быў проста ледзяным. – Думаю, студэнтам не абавязкова ведаць пра філасофскі камень.

Гары нахіліўся ніжэй. Квірэл нешта прамармытаў. Снэйп перарваў яго.

- Вы ўжо даведаліся, як абмінуць звера Хагрыда?

- Ал-л-ле ж Северус, я…

- Вы не пажадаеце бачыць мяне сярод вашых ворагаў, Квірэл, - сказаў Снэйп, робячы крок да свайго суразмоўцы.

- Я-я-я не разумею, што вы хочаце…

- Вы вельмі добра разумееце, што я маю на ўвазе.

Гучна вухнула сава, ад нечаканасці Гары ледзь не зваліўся. Ён выраўняўся як раз, каб пачуць, як Снэйп сказаў:

- Ваш маленькі фокус-покус. Я чакаю.

- Аааале… я нее…

- Вельмі добра, - адрэзаў Снэйп. – У нас хутка будзе іншая маленькая размова, пакуль жа ў вас ёсць час падумаць і вырашыць, на чыім вы баку.

Ён зноў накінуў капюшон на галаву і пайшоў прэч. Ужо амаль сцямнела, але Гары бачыў Квірэла, які стаяў ашаломлена і нерухома.

***

- Гары, дзе ты быў? – піскнула Герміёна.

- Мы выйгралі! Ты перамог! Мы перамаглі! – закрычаў Рон, паляпаўшы Гары па спіне. – І я паставіў Малфою сіняк, а Нэвіл спрабаваў справіцца з Крэбам і Гойлам сам-насам! Ён усё яшчэ ў непрытомнасці, але мадам Помфці сказала, што з ім усё будзе добра. А ён кажа, што яшчэ пакажа «слізэрынцам»!

Усе чакаюць цябе у агульным пакоі, у нас там вечарынка. Фрэд і Джордж сцягнулі з кухні нейкія піроржныя і іншых прысмакаў.

- Няважна, што там зараз, - сказаў Гары ціха. – Давайце знойдзем пусты пакой, і вы самі пачуеце…

Ён упэўніўся, што Піўза няма ў пакоі, перад тым як зачыніў за імі дзверы. Потым распавёў сябрам, што бачыў і чуў.

- У выніку аказваецца, што мы былі правы. Гэта філасофскі камень, і Снэйп хоча прымусіць Квірэла дапамагчы скрасці яго. Ён запытваўся, як прайсці міма Пушка, а яшчэ пра нейкія фокусы, магчыма, праход ахоўваюць і нейкія чары. І Квірэл, напэўна, наклаў нейкі заклён супраць цёмных чараў.

- Атрымліваецца, што камень – у бяспецы, пакуль Квірэл не паддасца Снэйпу? – запыталася ўсхвалявана Герміёна.

- Значыцца, толькі да наступнага аўторку, - заявіў Рон.



# Раздзел чатырнаццаты

# Норберт – нарвежскі цмок

Квірэл, як бы там не было, аказаўся больш смелым, чым яны думалі. За тыдні, якія прайшлі, ён стаў выглядаць блядней і танчэй, але пры гэтым яўна не здаваўся.

Кожны раз, калі яны праходзілі міма калідора на чацвертым паверсе, Гары, Рон і Герміёна прыцiскалі вушы да дзвярэй, каб праверыць, што Пушок усё яшчэ рыкае ўнутры.

Снэйп знаходзіўся ў сваім звычайным кепскім настроі, што таксама значыла, што камень быў у бяспецы. Кожны раз, калі Гары мінаў Квірэла гэтымі днямі, ён усміхаўся яму самай падбадзёрваючай усмешкай, а Рон пачынаў выгаворваць тым, хто смяяўся над заіканнем прафесара.

Герміёна, аднак, трымала ў галаве не толькі філасофскі камень. Яна пачала складаць нейкія графікі вучобы і размалёўваць іх рознымі колерамі. Хлапцы не пярэчылі б ёй, але яна прапанавала ім рабіць тое ж.



- Герміёна, да іспытаў - яшчэ сто год.

- Дзесяць тыдняў, - хутка адказала Герміёна. – Гэта не стагоддзі, гэта як секунда для Нікаля Фламеля.

- Але нам не шэсцьсот гадоў, - нагадаў ёй Рон. – У любым выпадку, што табе-та вучыць, калі ты ўсё ведаеш на дзясяткі?

- Што мне вучыць? Ты звар'яцеў? Ты разумееш, што мы павінны здаць гэтыя іспыты, каб працягваць вучыцца ў наступным годзе? Яны вельмі важныя! Мне трэба было пачаць рыхтавацца ўжо месяц таму… а цяпер нават не ведаю, што ў мяне атрымаецца.

Нажаль, настаўнікі думалі прыкладна так жа як і Герміёна. Яны задавалі так шмат хатняга задання, што велікодныя вакацыі і блізка не былі такімі файнымі, як калядныя. Было цяжкавата адпачыць з Герміёнай, якая увесь час практыкавалася ў дванаццаці спосабах выкарыстання крыві цмока ці адпрацоўвала рухі чароўнай палачкай.

Стогнучы і пазяхаючы, Гары і Рон большасць вольнага часу праводзілі з ёй разам у бібліятэцы, спрабуючы разабрацца ў дадатковай працы.

- Я ніколі не запомні гэта, - Рон адкінуўся на спінку крэсла і кінуў пяро, утаропіўшыся з нудой у вакно бібліятэцы. Гэта быў першы сапраўды файны дзень гэтым месяцам. Неба было чысцютка блакітным, і ў паветры адчуваўся надыход прадчуванне лета.

Гары, які як раз шукаў артыкул аб бадзяне ў «Тысячы магічных траваў і грыбоў» не адрываўся ад кніжкі, пакуль не пачуў, як Рон сказаў:

- Хагрыд! Што ты робіш у бібліятэцы?

Хагрыд выйшаў з-за паліц, хаваючы нешта за спінай. Ён выглядаў тут зусім не да месца у сваім кратовым кажуху.



- Тольк паглядзі, - сказаў ён няўпэўненым голасам. – А што вы тут згубілі?

Ён раптам падазрона на іх паглядзеў.

- Няўжо да гэтага ч'су шукаеце інфармацыю пра Нікаля Фламеля?

- Вой, ды мы ўсё ўжо знайшлі стагоддзі таму, - сказаў пранікнёна Рон. – І мы ведаем, што сабака ахоўвае. Гэта ж філасофскі ка…

- Шшшшшшш! - Хагрыд хутка агледзеўся, каб паглядзець, ці не падслухоўвае іх хто. – Нельга балбатаць пра гэта, няўжо не зразумела?

- Ёсць некалькі рэчаў, пра якія мы хочам запытацца ў цябе, гэта факт, - сказаў Гары, - напрыклад, хто яшчэ, акрамя Пушка, ахоўвае камень.

- Шшшшшшш, - зноў сказаў Хагрыд. – Слухайце, прыходзьце да мяне пазней. Я не абяцаю расказаць вам шмат, разуме'це, але не балбачыце тут пра гэта, навучэнц ўвогуле не павінны ведаць. Шчэ вырашаць, што я вам р'с'павёў.

- Добра, пабачымся пазней, - сказаў Гары.

Хагрыд сышоў.

- Што ён хаваў за спінай? – запыталася задуменна Герміёна.

- Думаеш, гэта было нешта пра камень?

- Пайду-ка я, гляну, у якой секцыі ён быў, - сказаў Рон, які быў усцешаны заняцца нечым акрамя вучобы. Ён вярнуўся праз хвіліну з стопкай кніг у руках і заваліў імі ўвесь стол.

- Драконы! – прашаптаў ён. - Хагрыд шукаў інфармацыю пра драконаў! Паглядзіце сюды: «Асаблівасці цмокаў Вялікабрытаніі і Ірландыі», «З яйка да пекла», «Даведнік драконазнаўцы».

- Хагрыд заўсёды хацеў дракона,  ён казаў мне пра гэта ў першы раз, калі мы сустрэліся, - адзначыў Гары.

- Але гэта незаконна, - сказаў Рон. – Развядзенне цмокаў было абвешчанае па-за законам Вядзьмарскай канвенцыяй 1709 года, кожны пра гэта ведае. Было б цяжка прымусіць маглаў не заўважаць нас, калі б мы трымалі драконаў на заднім двары. Ды і ў прынцыпе, гэта небяспечна, немагчыма прыручыць дракона. Ты пабачыш апёкі Чарлі, калі мы злятаем да яго ў Румынію.

- І што ў Брытаніі зусім няма драконаў? – запытаўся Гары.

- Канечне, ёсць, - адказаў Рон. – Звычайны зялёны валійскі і гебрыдыянскі чорны. Міністэрству магіі прыходзіцца старанна працаваць, каб схаваць іх, скажу я вам. Прыходзіцца лавіць маглаў, якія іх бачылі, і мяняць ім памяць.

- Дык што ж задумаў Хагрыд? - перапытала Герміёна.

***

Калі сябры пагрукаліся ў дзверы ключніка гадзінай пазней, то іх здзівіла тое,



што вокны былі шчыльна завешаныя. Хагрыд спытаўся:

- Хто там? – перад тым, як дазволіць ім зайсці, і потым хуценька зачыніў дзверы.

Унутры было вельмі душна і горача. На вуліцы стаяў цёплы дзень, а ў Хагрыда ў коміне палаў агонь. Ключнік зрабіў ім гарбаты і прапанаваў бутэрброды з нейкім падазроным мясам, але ад іх дзеці адмовіліся.

- Ну, пра што жадалі с’пытацца?

- Так, - адказаў Гары. Не было прычынаў хадзіць вакол. – Мы хацелі б пачуць ад цябе аповяд, што або хто акрамя Пушка абараняе Філасофскі камень.

Хагрыд спахмурнеў.

- К’нечне, я не магу нічога сказаць, - заявіў ён. – Па-першае, я і сам нічога не ведаю. Па-другое, вы і так ведаеце ўжо болей, чым я мог бы вам сказаць. Тый камень тут у добрых руках. Яго ледзь не скралі з «Грынгатса», гэта вы і самі ведаеце. Але дзяўбні мяне варона, як вы здагадаліся пра Пушка?

- Вой, кінь, Хагрыд, ты можаш не хацець распавядаць нам, але насамрэч ведаеш усё, што адбываецца тут у наваколлі, - сказала Герміёна салодкім голасам.

Барада Хагрыда хіснулася, ён пасміхнуўся ў вусы.

- Мы толькі хочам ведаць, хто накладаў ахову і нічога болей, - працягнула Герміёна. – Нам цікава, каму Дамблдлор верыў так жа, як табе.

Хагрыд трохі надзьмуўся ад гонару. Гары і Рон усміхнуліся.

- Так… я не… думаю, што зашк’дзіць тое, што я распавяду вам… Ладна, глядзіце. Ён узяў Пушка ў мяне… потым настаўнікі н’клалі нейкія чары… Прафесары Спроўт, Флітвік, МакГонагал, - ён загінаў пальцы пад час пераліку. - Прафесар Квірэл і сам Дамблдлор, канечне, нешта там з’абіў. Так, чакайце, я на кагосьці забыўся… Вох, канечне, прафесар Снэйп.

- Снэйп?!

- Так, вы ж не д’маеце пра яго кепска да гэтага часу? Глядзіце, Снэйп дапамог абараніць камень, ён не збіраецца яго скрасці.

Гары ведаў, што Рон і Герміёна думаюць пра тое ж, што і ён. Калі Снэйп быў сярод чараўнікоў, якія абаранялі камень, гэта было проста зразумець, як абмінуць абарону астатніх. Ён, магчыма, ужо і прайшоў яе, магчыма за выключэннем квірэлаўскіх чараў ды Пушка.

- Ты адзіны, хто ведае, як можна прайсці міма Пушка, Хагрыд? – запытаўся Гары з трывогай. – І ты нікому гэта не расказваў, спадзяюся? Нікому, нават настаўнікам?

- Ніводная жывая душа не ведае, акрамя мяне і Дамблдлора, - сказаў Хагрыд ганарліва.

- Ну гэта ўжо нешта, - прамармытаў Гары астатнім. - Хагрыд, можна мы адчынім вакно? Я зараз зваруся.



- Не, нельга, Гары, прабач.

Гары заўважыў позірк, кінуты Хагрыдам, на агонь. Хлопчык паглядзеў туды ж.

- Хагрыд, што гэта?

Але ўжо здагадаўся, што гэта было. У самым цэнтры агню, пад чайнікам ляжала вялікае, чорнае яйка.

- Ах, - толькі і сказаў Хагрыд, нервова кіўнуўшы. – Гэта эээ…

- Дзе ты гэта ўзяў, Хагрыд? - запытаўся Рон, асцярожна падыходзячы да агню, каб разгледзіць яйка бліжэй. – Гэта павінна было каштаваць табе вяяялікіх грошаў.

- Я яго выйграў, - заявіў Хагрыд. – Мінулай ноччу. Я пайшоў у вёску, каб прапусціць пару келіхаў і ўвязаўся ў г'льню ў карты з незнаёмцам. Думаю, ён быў шчаслівы пазбавіцца ад яйка.

- Але што ты будзеш рабіць, калі ён вылупіцца? - запыталася Герміёна.

- Ну, я пачытаў т'охі, - адказаў Хагрыд, дастаючы вялікую кніжку з-пад падушкі. – Узяў яе ў бібліятэцы. «Развядзенне драконаў для задавальнення і прыбытку» – яна трохі састарэла, канечне. Але там ёсць усё.

Там напісана, што яйка трэба трымаць ў агні, бо іх маці дыхаюць на іх полымя. «Калі яно праклюнецца, карміце яго сумессю курынай крыві з б'эндзі кожныя паўгадзіны». І паглядзіце тут: як апазнаваць розныя яйкі. У нас тут Нарвежскі рыджбэк. Яны рэдкія.

Ляснічы выглядаў шчаслівым, але Герміёна спахмурнела.

- Хагрыд, ты жывеш у драўляным доме!

Але Хагрыд не слухаў. Весела напяваючы, ён распальваў агонь.

***

Цяпер сябрам дадаліся новыя турботы: як бы хто не даведаўся, што ў Хагрыда ў хаце жыве нелегальны цмок.

- Цікава, як гэта жыць спакойна і мірна? – уздыхнуў Рон, у чарговы вечар, калі яны зноў сядзелі за хатнім заданнем.

Герміёна пачала рабіць графікі вучобы для Гары і Рона, ад чаго хлопцы моцна злаваліся.

***

Аднойчы пад час снядання Букля прынесла Гары яшчэ адну запіску ад Хагрыда. Ён напісаў толькі адно слова: «Праклёўваецца».

Рон адразу ж пажадаў прагуляць травазнаўства і пайсці прама ў хату да ляснічага. Герміёна і чуць гэтага не хацела.



- Герміёна, як ты думаеш, калі ў наступны раз нам выпадзе паназіраць за нараджэннем цмока?

- Мы пойдзем на заняткі, бо трапім у бяду. І гэта яшчэ нічога ў параўнанні, калі пойдзем і нехта даведаецца, хто ёсць у доме Хагрыда.

- Замаўчыце! – прашаптаў Гары.

Малфой быў толькі за метр ад сяброў і спыніўся, каб падслухаць. Як шмат ён пачуў? Гары не спадабаўся выраз твару Малфоя.

Рон і Герміёна спрачаліся ўсю дарогу на травазнаўства, і, ў рэшце рэшт, Герміёна згадзілася збегаць да Хагрыда на наступным вялікім ранішнім перапынку.

Калі зазваніў званок, тройца кінула інструменты і панеслася да ўскрайку лесу. Хагрыд прывітаў іх, ён расчырванеўся і выглядаў задаволеным.

- Ужо амаль, - ён завёў сяброў унутр.

Яйка ляжала на стале. Па ім ішлі глыбокія трэшчыны. Нешта рухалася ўнутры, адтуль даносіўся смешны мышыны піск.



Яны схапілі крэслы і ўселіся вакол стала, стаіўшы дыханне.

Зноў пачулася скрабенне, і яйка раскалолася. Цмочанё выпаўзла на стол. Толькі з вялікай нацяжкай можна было назваць яго прыемнай істотай. Гары падумаў, што маленькае драканё нагадвае яму скамечаны чорны парасон. Яго крылы глядзеліся велічэзнымі ў параўнанні з целам, даўгой мордай з шырокімі ноздрамі,



рожкамі і лупатымі аранжавымі вачыма.

Драканё чыхнула. Пару іскрынак вылецела з ягонага носа.

- Ну хіба ён не прыгажун? – прамурлыкаў Хагрыд. Ён дакрануўся да маленькага цмока, спрабуючы пагладзіць яго па галаве. У адказ нованароджаная пачварка цапнула яго за пальцы вельмі вострымі зубамі.

- Добраславенне! Глядзіце, ён пазнаў сваю мамку! – заявіў Хагрыд.

- Хагрыд, - спытала Герміёна, - як хутка растуць нарвежскія рыджбэкі?

Хагрыд толькі збіраўся адказаць, калі нечакана пабялеў і кінуўся да вакна.

- Што здарылася?

- Нехта падглядваў скрозь фіранкі. Дзіцё… і яно пабегла назад у школу.

Гары скокнуў да дзвярэй і зірнуў з іх. Нават на адлегласці ён не мог памыліцца. Малфой бачыў дракона.

***

Нешта ва ўсмешачцы, якую Малфой хаваў на працягу наступнага тыдню прымушала Гары, Рона і Герміёну нерvavацца. Яны праводзілі большасць свайго вольнага часу ў цёмнай хаце Хагрыда, спрабуючы давесці яму, што цмока нельга пакінуць.



- Адпусці яго, - настойліва ўпэўніваў Гары. – Дай яму волю.

- Я не магу, - адказваў Хагрыд. – Ён такі маленькі. Ён памрэ.

Яны паглядзелі на цмока. За тыдзень ён вырас утрая большым. З ягонага носу віліся струменьчыкі дыму. Хагрыд нават закінуў абавязкі ляснічага, бо ўвесь час быў заняты з драконам. На падлозе хаты валяліся пустыя бутэлькі ад брэндзі ўперамешку з курынымі перкамі.

- Я вырашыў назваць яго Норбертам, - заявіў Хагрыд, паглядзеўшы на дракона затуманенымі вачыма. – Ён сапраўды ведае мяне, паглядзіце. Норберт! Норберт! Дзе мамачка?

- Ды ў яго дах знесла, - прашаптаў Рон на вуха Гары.

- Хагрыд, - сказаў Гары павольна. – дай два тыдні, і Норберт перарасце



твой дом. А Малфой можа пайсці да Дамблдлора ў любы момант.

Хагрыд прыкусіў губу.

- Я… я не магу пакінуць яго назаўсёды, але не я не магу зара' узяць і выкінуць яго. Я не магу.

Гары раптоўна павярнуўся да Рона.

- Чарлі, - сказаў ён.

- Ты таксама звар'яцеў, - заявіў Рон. – Я Рон, памятаеш?

- Не, той Чарлі, што твой брат. У Румыніі. Вывучае цмокаў. Мы можам даслаць Норберта да яго. Чарлі можа падгадаваць яго і потым адпусціць яго на волю!

- Супер ідэя! – адрэагаваў Рон. – Ты як, Хагрыд?

У рэшце рэшт Хагрыд згадзіўся, што яны могуць даслаць саву, каб даведацца, што пра гэта думае сам Чарлі.

***

Наступны тыдзень цягнуўся, здавалася б, вечнасць. Ноч серады заспела Герміёну і Гары ў агульным пакоі ў той час, калі ўсе астатнія даўно разышліся па спальнях.

Гадзіннік на сцяне толькі што прабіў апоўначы, калі партрэт, які ахоўвае вежу, рэзка адчыніўся. Быццам ніадкуль з'явіўся Рон, сцягваючы мантыю-невідзімку. Увесь гэты час ён быў у Хагрыда, дапапамагаў яму карміць Норберта, які цяпер з лёгкасцю мог злопаць скрыню мёртвых пацукоў.

- Ён укусіў мяне! – паказаў Рон ім сваю руку, якая была зам атаная акрываўленай хусткай. – Я з тыдзень не здолею трымаць у руцэ пяро. Я ж казаў, што драконы – найжахлівейшыя істоты, якіх я калі-небудзь сустракаў.

Дарэчы, Хагрыд працягвае думаць, што ягоны маленькі цмок – гэта белы пухнаты трусік. Калі ён укусіў мяне, ён адчытаў мяне, навошта я напужаў маленькага, а калі я сыходзіў, ён спяваў яму калыханку.

Нехта асцярожна пагрукаў ў цёмнае вакно.

- Гэта Букля! - сказаў Гары, які адчыніў вакно і ўпусціў яе ўнутр. – І яна прынесла адказ Чарлі!

Тройца схіліла галовы, каб разабраць пасланне.

*Дарагі Рон,*

*Як ты? Дзякуй за ліст, я буду шчаслівы ўзяць Нарвежскага рыджбэка, але не так і проста даслаць яго да мяне. Я думаю найлепш будзе, калі вы дашлеце яго з сябрамі, якія прыедуць наведаць мяне на наступным*

*тыдні. Праблема ў тым, як бы яны не трапіліся на ўвозе нелегальнага дракона.*

*Ты можаш прывесці рыджбэка на самую высокую вежу апоўначы ў суботу? Яны сустрэнуць вас там і забяруць яго, пакуль будзе цёмна.*

*Адкажы так хутка, як зможаш.*

*Цалую,*
*Чарлі*

Яны паглядзелі адзін на другога.

- Мы возьмем мантыю-невідзімку, - прапанаваў Гары. – Гэта не павінна быць ўжо так складана. Я думаю, яна дастаткова вялікая, каб накрыць двух нас і Норберта.

Прыкметай таго, як ім цяжка даўся апошні тыдзень было тое, што і Рон, і Герміёна згадзіліся з ім. Гатовыя былі на ўсё, каб пазбавіцца ад Норберта і… Малфоя.

Але былі і свае перашкоды. На наступную раніцу параненая рука Рона стала ў два разы болей за нармальныя памеры. Ён не ведаў, як так акуратная падысці да мадам Помфры. А калі яна распазнае ўкус дракона? Пасля абеду ў яго ўжо не было выбару. Месца укусу пачало зелянець. Выглядала, што іклы Норберта былі атрутнымі.

Гары і Герміёна прыбеглі ў бальнічнае крыло ў канцы дня і знайшлі Рона ў жахлівым стане ў ложку.

- Справа не толькі ў руцэ, - прашаптаў ён. – хаця яна так баліць, што з’яўляецца адчуванне, што зараз адваліцца. Малфой сказаў мадам Помфры, што хоча пазычыць у мяне кнігу, яна дазволіла яму зайсці, і ён добра пасмяяўся з мяне.

Ён пакуль стрымаўся, але пагражае расказаць ёй, хто мяне ўкусіў. Я-та ёй сказаў, што гэта быў сабака, але не думаю, што яна мне паверыла. Не трэба было мне біць яго на тым матчы па квідычу, ён яўна помсціць.

Гары і Герміёна паспрабавалі супакоіць Рона.

- Гэта ўсё хутка скончыцца, апоўначы ў суботу, - сказала Герміёна, але гэта зусім не супакоіла Рона. Наадварот ён застыў, і яго кінула ў пот.

- Апоўначы ў суботу! – сказаў ён ахрыплым голасам. – О не, не … не. Я прыгадаў ліст Чарлі быў у кніжцы, якую забраў Малфой. Ён даведаецца, як мы плануем адправіць Норберта.

У Гары і Герміёны не было шансу нічога адказаць, бо зайшла мадам Помфры і сказала, каб яны сыходзілі, бо Рону трэба паспаць.

***

- Занадта позна мяняць план, - сказаў Гары Герміёне. – У нас няма часу даслаць да Чарлі другую саву, і гэта можа быць наш адзіны шанец адправіць Норберта. Мы рызыкнём. І ў нас ёсць мантыя-невідзімка, Малфой не ведае пра яе.

Калі яны падышлі да хаты Хагрыда, то знайшлі Ікла, які сядзеў на вуліцы з перавязаным хвастом. Сам ляснічы размаўляў з імі праз адчыненае вакно.

- Я не магу вас упусціць, - задыхаючыся, сказаў ён. – У Норберта зараз складаны этап. Нічога, я ўсё трымаю пад кантролем.

Калі яны распавялі яму пра ліст Чарлі, ягоныя вочы напоўніліся слязамі, хаця, магчыма, гэта было таму, што Норберт толькі што ўкусіў яго за нагу.

- Аргх! Са мной усё добра, ён толькі схапіў мой бацінак… г’ляецца. Ён жа толькі дзіцё.

Гэтае дзіцё адразу ж стукнула хвастом па сцяне, прымусіўшы вокны задрыжаць. Гары і Герміёна накіраваліся ў замак, адчуваючы, што субота не прыйдзе так хутка, як хацелася б.

Яны б пачалі шкадаваць Хагрыда, што прыйшоў яму час развітвацца з Норбертам, калі б не так турбаваліся, як гэта ўсё правярнуць.

***



Была вельмі цёмная ноч, неба было зацягнутае хмарамі. Гары і Герміёна трохі спазніліся да Хагрыда, бо чакалі, пакуль Піўз сыдзе з хола, дзе захоплена гуляў у тэніс з бліжэйшай сценкай.

Хагрыд падрыхтаваў Норберта ў дарогу: упакаваў у вялікую скрыню.

- У я’о там шм’т пацукоў і трохі брэндзі, - сказаў ён прыдушаным голасам. – Ах… я яшчэ ўпакаваў ягонага любімага мішку.

У каробкі нешта затрашчала, і Гары вырашыў, што мядзведніку толькі што адарвалі галаву.

- Пакуль-пакуль, Норберт! - Хагрыд рыдаў, пакуль Гары і Герміёна укрывалі каробку і сабе мантыяй-невідзімкай. – Мамачка ніколі цябе не забудзе!

Як дзеці дацягнулі гэтую каробку на замка, яны і самі не зразумелі. Поўнач заспела іх, калі яны неслі цяжкога Норберта ўверх па мармуровай лесвіцы ў холе і потым па цёмных калідорах. Потым зноў уверх па іншай лесвіцы, потым па другой… Нават тое, што яны абралі самы кароткі шлях, нядаўна знойдзены Гары, не палепшыў сітуацыю.

- Амаль на месцы! – сказаў Гары, калі пабачыў, што яны дайшлі да калідора, які вёў да найвышэйшай вежы.

Нешта раптоўна мільганула спераду, і яны ледзь не кінулі скрыню з драканём. Забыўшыся, што яны нябачныя, Гары і Герміёна схаваліся ў цені, спрабуючы разгледзіць абрысы двух людзей прыкладна ў трох метрах ад іх.

Запалілася лампа.

Прафесар МакГонагал у клятчастым халаце і з сетачкай на валасах трымала Малфоя за вуха.

- Парушэнне! – крыкнула яна. – І мінус дваццаць балаў «Слізэрыну»! Швэндаецца тут пасярэдзіне ночы, ды як ты толькі пасмеў!…



- Вы не разумееце, прафесар. Гары Потэр прыйдзе, у яго ёсць цмок!

- Што за лухта! Як ты можаш так ілгаць?! Хадзем, я пакажу цябе прафесару Снэйпу!

Пасля гэтага ўсяго крутая вінтавая лесвіца на верхавіну вежы падалася дзецям самай лёгкай справай. Толькі дабраўшыся да верху, яны нарэшце знялі мантыю-невідзімку, і набралі поўныя грудзі халоднага начнога паветра.

Герміёна станчыла абсалютна вар'яцкі танец.

- Малфоя злавілі! Я зараз спяю!

- Не трэба, - параіў Гары.



Пасмейваючыся над Малфоям, сябры чакалі. Норберт тым часам шалеў ўнутры сваёй скрыні. Праз дзесяць хвілінаў чатыры мятлы вынырнулі з цемры.

Сябры Чарлі былі вельмі вясёлымі. Яны паказалі Гары і Герміёне штуку, якую збудавалі, каб несці Норберта паміж сабой, потым яны замацавалі цмочанё ў гэтай збруі.

Гары і Герміёна сказалі: «Дзякуй!» - і памахалі на развітанне.

У рэшце рэшт Норбет улятаў… улятаў…

Яны ў імгненне вока саслізнулі ўніз па спіральнай лесвіцы. Дзецям падавалася, што ягоныя сэрцы і галовы сталі такімі лёгкімі пасля паспяховага адлёту драканя. Ніякіх цмокаў, Малфой – пакараны, што магло сапсаваць іх радасць?

Адказ на гэта чакаў іх на апошняй прыступцы лесвіцы. Калі яны выйшлі ў калідор з цемры раптам намаляваўся твар Філча.

- Так, так, так, - прашаптаў ён. – У кагосьці – вялікія праблемы.

Сябры забыліся на мантыю-невідзімку на вяршыні вежы.



# Частка пятнаццатая

# Забаронены лес

Ёсць рэчы, горш за якія нічога быць не можа.

Філч адвёў іх у пакой прафесара МакГонагал на першым паверсе. Там Гары і Герміёна сядзелі і моўчкі чакалі сваёй долі. Герміёна дрыжала.

Прабачэнні, алібі і дзікія гісторыі-тлумачэнні адна за адной прыходзілі ў галаву Гары, але кожная была слабей за папярэднюю. Гэтым разам ён не бачыў, як можна выблытацца з гэтай сітуацыі. Яны загнаныя ў вугал. Як увогуле можна было настолькі дурнымі, каб забыцца мантыю на вежы?

Не было ніякай прычыны, каб прафесар МакГонагал магла б прыняць за тлумачэнне, чаму яны хадзілі па школе глыбокай ноччу, не кажучы ўжо пра наведванне найвышэйшай астранамічнай вежы, якая была пад забаронай для вучняў (калі там не было заняткаў).

Дадаць да гэтага Норберта, мантыю-невідзімку, і ўжо можна пакаваць чамаданы.

Ці можа быць нешта горш? Але Гары памыляўся. Калі прафесар МакГонагал з’явілася ў пакоі, яна з сабой вяла Нэвіла.

- Гары! – вырвалася ў Нэвіла, у той жа момант яны пабачылі двух іншых. – Я спрабаваў цябе знайсці, каб папярэдзіць. Я чуў, як Малфой сказаў, што збіраецца злавіць цябе… Ён сказаў, што ў цябе ёсць дра…

Гары пакачаў галавой, каб Нэвіл змоўк, але гэта пабачыла прафесар МакГонагал. Яна выглядала так, быццам зараз пыхне на іх траіх агнём, як Норберт.

- Я не магу паверыць, што ў гэтым замешаны нехта з вас. Містар Філч сказаў, што вы былі на астранамічнай вежы. Зараз ужо гадзіна ночы. Будзьце ласкавы, патлумачце.



Гэта было ўпершыню, калі Герміёна не ведала, што адказаць на пытанне настаўніка. Яна ўтаропілася на свае тапкі, і застыла як статуя.

- Я думаю, што ў мяне ёсць добрая ідэя пра тое, што вы рабілі, - сказала прафесар. – Не трэба быць геніям, каб прыйсці да гэтай думкі. Вы скармілі Драко Малфою нейкую байку пра дракона, каб ён трапіў у непрыемнасці. Я ўжо злавіла яго. Я спадзяюся, вы зараз думаеце, як смешна, што Лонгботам таксама пачуў гэтую гісторыю і паверыў у яе?

Гары злавіў позірк Нэвіла і паспрабаваў растлумачыць без словаў, што гэта не праўда. Але той выглядаў ашаломленым і пакрыўджаным. Бедны, нязграбны

Нэвіл. Гары ведаў, чаго яму каштавала гэтая начная прагулка.

- Мне агідна, - сказала прафесар МакГонагал. – Чатыры студэнты не ў ложках у адну ноч! Я ніколі не чула пра нешта такое! Вы, міс Грэнджэр, я думала, у вас больш розуму. Што тычыцца вас, містэр Потэр, я думала «Грыфіндор» значыць для вас болей.

Вы, усе трое, будзеце пакараныя. Так, і вы таксама містар Лонгботам, нічога не прабачае вас за прагулкі па школе па начах. Асабліва ў гэтыя дні, калі так небяспечна. Гэта будзе каштаваць «Грыфіндору» 50 балаў.

- Пяцьдзясят? – ускрыкнуў Гары. Пасля такога яны згубяць сваё лідарства ў чэмпіянаце факультэтаў, якое атрымалі пасля перамогі ў матчы па квідычы.

- Пяцьдзясят балаў за кожнага, - сказала прафесар МакГонагал, цяжка ўздыхнуўшы.

- Прафесар, калі ласка…

- Вы не можаце…

- Не кажыце мне, што я магу і што не магу, Потэр. Цяпер ідзіце ў спальні, усе вы. Мне ніколі яшчэ не было так сорамна за студэнтаў «Грыфіндора».

Згубіць 150 балаў. Гэта перасуне «Грыфіндор» на апошняе месца. У адну ноч яны зруйнавалі ўсе шансы свайго факультэта на перамогу ў чэмпіянаце. Гары адчуваў сабе так, быццам нехта стукнуў яго у жывот. Як яны маглі зрабіць столькі шкоды?

Гары не спаў усю ноч. Ён чуў, як Нэвіл рыдаў у сваю падушку. Гары не мог нічога сказаць, каб супакоіць яго. Хлопчык ведаў, што Нэвіл, як і ён сам, баяўся таго часу, як узыдзе сонца. Што будзе, калі астатнія «грыфіндорцы» даведаюцца пра тое, што яны нарабілі?



Па першае, «грыфіндорцы» пайшлі да вялікага пясочнага гадзінніка, які паказваў колькасць балаў факультэтаў, наступнай раніцай і падумалі, што памыліліся. Як гэта можа быць, каб за ноч зніклі 150 балаў?

Потым гісторыя пачала распаўсюджвацца: Гары Потэр, знакаміты Гары Потэр, іх герой двух гульняў у Квідыч, стаў прычынай згубы ўсіх гэтых балаў, ён і яшчэ парачка іншых глупых першаклашак.

З самага папулярнага вучня ў школе Гары ў імгненне стаў самым ненавісным. Нават Нават «равенклоўцы» і «хафлпуфцы» адвярнуліся ад іх, бо яны вельмі жадалі пабачыць, як «Слізэрын» згубіць кубак факультэтаў.

Паўсюдна, дзе праходзіў Гары, людзі абмяркоўвалі яго і нават не намагаліся казаць цішэй, каб не абразіць яго. «Слізэрынцы», з іншага боку, калі ён ішоў міма, суправаджалі яго апладысментамі і свістам.



- Дзякуй, Потэр, мы табе абавязаныя!

Толькі Рон застаўся з ім.



- Яны на ўсё забудуцца праз пару тыдняў. Фрэд і Джордж згубілі кучу балаў «Грыфіндора», але людзі ўсё роўна іх любяць.

- Яны ж яшчэ ніколі не гублялі адразу 150 балаў? – запытаўся няшчасны Гары.

- Ну… па праўдзе, не, - прызнаў Рон.

Ужо было запозна выправіць тую шкоду, што яны нанеслі, але Гары пакляўся сабе больш не лезці не ў свае справы. Хопіць гэтых шпіёнскіх гульняў. Ён адчуваў такі сорам, што накіраваўся да Вуда і сказаў, што яму трэба сысці з каманды.

- Сысці? – загрымеў Олівер. – Думаеш, гэта добрая ідэя? Ды як мы вернем сабе балы акрамя як перамогай у квідыч?

Але нават квідыч згубіў сваю прыязнасць. Ніхто ў камандзе не размаўляў з Гары на трэніроўцы, а калі даводзілася звяртацца да яго, то яны называлі яго проста «шукальнік».

Герміёна і Нэвіл таксама пакутавалі. У іх не было столькі праблемаў, як у Гары, бо яны не былі настолькі вядомымі, але з імі таксама ніхто не размаўляў. Герміёна больш не прыцягвала да сабе ўвагу ў класе, апускала галаву і працавала ў цішыні.

Гары ужо амаль радаваўся таму, што набліжаліся іспыты. Гэтая вучоба адцягвала ўвагу ад ягоных няшчасцяў. Ён, Рон і Герміёна трымаліся разам і заседжваліся за кніжкамі да глыбкай ночы, спрабуючы запомніць інгрыдыенты складаных зелляў, вывучыць прывароты і любоўныя загаворы, даты магічных адкрыццяў і паўстанняў гоблінаў…

***

Прыкладна за тыдзень да іспытаў рашэнне Гары нікуды не ўмешвацца атрымала нечаканае выпрабаванне. Ідучы з бібліятэкі пасля абеду, ён нечакана паслухаў чыйсьці шэпт з класа наперадзе. Калі хлопчык падышоў бліжэй, ён пачуў голас Квірэла.

- Не… не… не! Не трэба больш, калі ласка.



Гэта гучала так, быццам нехта пагражаў прафесару. Гары падышоў бліжэй.

- Добра… добра, - пачуў ён стогны Квірэла.

У наступную секунду прафесар выбег з класа, папраўляючы свой турбан. Ён быў збялелы і выглядаў быццам зараз заплача. Прафесар хутка сышоў, не заўважыўшы хлопчыка. Гары пачакаў, пакуль сціхне гук ягоных крокаў, потым зазірнуў у класны пакой. Там было пуста, але дзверы з іншага боку пакоя былі прыадчыненыя.

Гары быў на паўдарогі да таго, каб праверыць, ці не было там каго. А потым узгадаў, што абяццаў сам сабе і спыніўся.

У любым выпадку ён мог паспрачацца на дванаццаць філасофскіх камянёў, што Снэйп толькі што выйшаў з класа і ўдзельнічаў у той размове, што чуў Гары. Падобна, што Снэйп зрабіў новую спробу, а Квірэл выглядаў, быццам ужо зараз гатовы здацца.

Гары вярнуўся ў бібліятэку, дзе Герміёна правярала Рона па астраноміі. Гары распавёў ім, што чуў.

- Снэйп-такі гэта зрабіў! - сказаў Рон. – Калі Квірэл сказаў яму, як разбурыць ягоны заклён супраць цёмных сілаў…

- Яшчэ ёсць Пушок, прыгадай, - зазначыла Герміёна.

- Можа, Снэйп знайшоў як абысці сабаку без пытанняў да Хагрыда, - сказаў Рон, гледзячы на тысячы кніг у наваколлі. – Магу паспрачацца, тут недзе ёсць кніжка, якая расказвае табе, як абвесці вакол пальца вялікага трохгаловага сабаку. Што будзем рабіць, Гары?

Святло прыгодаў запаліла аганёк у вачах Рона, але Герміёна апярэдзіла Гары з адказам.

- Пойдзем да Дамблдлора. Гэта тое, што мы павінны былі зрабіць сто гадоў таму. Калі мы зноў паспрабуем нешта зрабіць самі па сабе, то нас дакладна выганяць.

- Але ў нас няма доказаў! – сказаў Гары. – Квірэл занадта напужаны, каб падтрымаць нас. Снэйп як і ў Хэлоўін заявіць, што нічога пра гэта не ведае. Каму, ты думаеш, павераць нам ці яму?

Гэта ўвогуле не сакрэт, што мы ненавідзім Снэйпа, і Дамблдлор падумае, што мы гэта зрабілі дзеля звальнення настаўніка. Філч не будзе нам дапамагаць, нават калі б ягонае жыццё залежыла ад гэтага, ён жа сябруе з Снэйпам і думае, што чым больш выганяць вучняў, тым лепей.

І не забывайся, што мы тыпу не ведаем ні пра камень, ні пра Пушка. Гэта ўсё запатрабуе шмат тлумачэнняў.

Герміёна выглядала пераканананай, але не Рон.

- Калі мы толькі трохі зоймемся гэтай справай…

- Не, - сказаў рашуча Гары, - мы ўжо даволі назаймаліся.

Ён разгарнуў перад сабой мапу Юпітэра і пачаў вучыць назвы ягоныя спадарожнікі.

***

Наступным ранкам, пад час сняданку, Гары Герміёна і Нэвіл атрымалі аднолькавыя запіскі.

*Вашае пакаранне адбудзецца сёння ў 23 гадзінаў. Містэр Філч будзе чакаць вас у вестыбюлі.*

*Прафесар МакГонагал*

Гары зусім забыўся на тое, што яго чакала пакаранне за гэтым скандалам праз

згубленыя балы. Ён амаль чакаў, што Герміёна паскардзіцца, што згубіць цэлую ноч вучобы, але яна нічога сказала. Як і ён, яна адчувала, што яны заслужылі тое, што атрымалі.

У 23 гадзіны яны развіталіся з Ронам у агульным пакоі і пайшлі з Нэвілам у вестыбюль. Філч ужо быў там. Як і Малфой. Гары забыўся і на тое, што Драко таксама быў пакараны.

- Ідзіце за мной, - сказаў Філч, асвятляючы ім шлях, пакуль выводзіў іх з замка. – Магу паспрачацца, вы цяпер двойчы падумаеце перад тым, як парушаць школьныя правілы. О, да, калі вы запытаецеся мяне, то найлепшыя настаўнікі – гэта цяжкая праца і боль.

Шкада, што старыя пакаранні адмяняюць… Напрыклад, падвешванне за запясці пад столлю на некалькі дзён. Я трымаю кайданы ў сваім кабінеце на ўсялякі выпадак добра змазанымі, можа, спатрэбяцца. Добра, выходзьце і не думайце збегчы, для вас жа будзе горш.




Яны хутка ішлі па цёмнай зямлі. Нэвіл усхліпваў. Гары раздумваў, якое ж пакаранне ім дадуць. Гэта павінна быць нешта сапраўды страшнае, інакш Філч не быў бы такім задаволеным.

На небе ярка ззяў месяц, але праз яго раз-пораз праляталі хмары, пагружаючы наваколле ў цемру. Наперадзе Гары пабачыў асветленыя вокны хаты Хагрыда. Потым яны пачулі далёкі крык.

- Гэта ты, Філч? Хутчэй, даўно час распачынаць!

Гары палягчала, калі яны будуць працаваць з Хагрыдам, тады гэта не будзе такім ужо жахлівым. Хлапечыя думкі, пэўна, адлюстраваліся на ягоным твары, бо Філч заявіў:

- Ты думаеш, што атрымаеш задавальненне ад прагулкі з гэтым дурнем? Добра, падумай яшчэ раз, хлопец, вы пойдзеце ў Забаронены лес. І я моцна здзіўлюся, калі ты прыйдзеш адтуль цэлым.

Пасля гэтага Нэвіл ціха застагнаў, а Малфой застыў на дарозе.

- Лес? – паўтарыў Драко, і ягоны голас гучаў зусім не так халодна як звычайна. – Мы не можам ісці туды ноччу. Там усе гэтыя пачвары… пераватні-ваўкалакі, як я чуў.

Нэвіл схапіўся за рукаў мантыі Гары і шумна зглытнуў.

- Гэта твае праблемы, хіба не? – заявіў Філч, ягоны голас дрыжаў ад радасці. – Трэба было думаць пра пярэваратняў да таго, як парушаць школьныя правілы.

Хагрыд выйшаў да з цемры. Ікл ішоў з ім. Ляснічы нёс вялікі арбалет, а на ягоным плячы вісеў калчан са стрэламі.

- Ну нарэшце, - сказаў ён. – Я ч'каў вас ужо паўгадзіны. Усё нармальна, Гары, Герміёна?

- Я б не быў да іх такім дружалюбным, Хагрыд, - сказаў Філч халодна. – Яны тут для пакарання.

- Вось чаму вы спазніліся? - перапытаў Хагрыд, спахмурнеўшы. – Запужваў іх хех? А цяпер можаш валіць. Я забяру іх адсюль.

- Я вярнуся на досвітку, - сказаў Філч, - каб забраць тое, што ад іх засталося. – дадаў ён злобна, пасля гэтага развярнуўся і пайшоў у бок замка. Ягоная лампа падскаквала ў цемры.

Малфой павярнуўся да Хагрыда.

- Я не пайду ў гэты лес, - сказаў ён, і Гары з таемным задавальненнем заўважыў страх у ягоным голасе.

- Хехе, пойдзеш, калі хочаш вярнуцца ў «Хогвардс», - сказаў Хагрыд. – Але набедакурыў, дык цяпер трэба за гэта расплачвацца.

- Але гэта справа слуг, а не вучняў. Я думаў, мы будзем перапісваць нешта. Калі мой бацька даведаецца, ён…

Хагрыд гыркнуў:

- Перапісваць! Што ў гэтым карыснага? Ці ты будзеш карысным, ці вылеціш са школы. Калі ты думаеш, што твой бацька будзе шчаслівы бачыць цябе, калі цябе выганяць… то ідзі адсюль. Пайшоў.

Малфой не рухаўся. Ён злосна глядзеў на Хагрыд, але потым апусціў вочы.

- Добра, цяпер, - сказаў Хагрыд. – цяпер слухайце ўважліва, бо гэта небяспечна тое, што мы будзем рабіць сёння ноччу, і я не хачу дарма рызыкаваць. Ідзіце за мной.

Ён падвёў іх да ўскрайку лесу. Высока трымаючы лампу, ён паказаў на вузкую, пятляючую сцежку, якая гублялася сярод цёмных дрэваў. Лёгкі ветрык варушыў іх валасы, калі яны ўглядваліся ў чашчу.



- Паглядзіце сюды, - сказаў Хагрыд, - бачыце святло на зямлі? Шрэбранае? Гэта кроў аднарога. Нехта параніў яго, і гэта ўжо другі раз за тыдзень. Я знайшоў аднаго мёртвага мінулай серадой. Але мы паспрабуем знайсці гэтага небараку, каб дапамагчы яму.

- І што нам рабіць, калі забойца аднарогаў знойдзе нас першымі? - запытаўся Малфой не ў стане стрымаць страх у голасе.

- У лесе не жыве ніхто, хто мог бы пашкодзіць вам, калі побач я і Клык, - сказаў Хагрыд. – І трымайцеся сцежцы. Так, зараз дзелімся на дзве частцы і ідзём у розных накірунках. Там паўсюдна кроў, яе павінна быць вельмі многа.

- Я хачу Ікла, - хутка заявіў Малфой, глянуўшы на вялікія зубы сабакі.

- Добра, але я цябе папярэджу, што ён баязлівец, - адказаў Хагрыд. – Тады я,

Гары і Герміёна ідзём у адзін бок. Драко, Нэвіл і Ікл – у іншы. Калі нехта з нас знойдзе аднарога, тады выпускаем зялёныя іскры, добра?

Вазьміце свае чароўныя палачкі і патрэніруйцеся прама зараз. Ага, правільна. Калі нехта трапіць у бяду, дасылайце тады чырвоныя іскры, і мы прыйдзем і знойдзем вас. Будзьце асцярожным. Хадзем.

Лес быў цёмным і ціхім. Па маленькай сцежцы яны дайшлі да развілцы, дзе Гары, Герміёна і Хагрыд пайшлі ўлева, а Малфой, Нэвіл і Ікл - направа.

Яны ішлі ў поўнай цішыні, углядаючыся ў зямлю. Раз-пораз святло месяца асвятляла серабрыста-сінюю кроў на апалых лістах.

Гары заўважыў, што Хагрыд выглядаў вельмі заклапочаным.

- Ці можа пярэварацень забіць аднарога?

- Не так хутка, - сказаў Хагрыд. – Гэта не так і проста – забіць аднарога, яны моцныя магічныя істоты. Я да гэтага часу не ведаў нікога, хто б мог нашкодзіць аднарогу.

Яны прайшлі міма імшыстага пню. Гары чуў, што недзе зусім побач бяжыць вада. Тут і там былі плямы крыві аднарога.



- З табой усё добра, Герміёна? - прашаптаў Хагрыд. – Не хвалюйся, ён не мог сысці далёка гэты падлюка, і мы зловім яго… АДЫЙДЗІЦЕ ЗА ДРЭВА!

Хагрыд схапіў Гары і Герміёну і спіхнуў іх з сцежкі за вялікі дуб. Ляснічы таксама выцягнуў стралу і ўставіў яе ў арбалет, гатовы страляць. Усе трое прыслухоўваліся. Нешта паблізу слізгацела па апалым лісце: чулася, быццам па зямлі цягнецца мантыя.

Хагрыд прыжмурыўшыся глядзеў на цёмную дарожку, але праз некалькі секундаў гук знік.

- Я ведаў гэта, - сказаў ён пахмурна. – Гэта тое, што тут не павінна быць.

- Пярэварацень? – запытаўся Гары.

- Гэта значыцца не пярэварацень, не аднарог, ніхто, - сказаў Хагрыд змрочна. – Ладна, хадзем за мной, але будзьце асцярожнымі.

Яны пайшлі больш павольна, прыслухоўваючыся да самага ціхага гуку. Нечакана зусім блізка спераду нешта дакладна пасунулася.

- Хто тут? – крыкнуў Хагрыд. – Пакажыся, я ўзброены!

На адкрытае месца выскачыў мужчына ці, можа, конь? Зверху гэта быў мужчына з рудымі валасамі і барадой, але знізу – конь з бліскучым карычневым целам і даўгім рудаватым хвастом. У Гары і Герміёны адваліліся сківіцы.

- А, гэта ты, Ронан, - сказаў Хагрыд расслабляючы. – Як ты, дружа?

Ён пайшоў да кентаўра з працягнутай рукой.

- Добры вечар і табе, Хагрыд, - сказаў Ронан. У яго быў глыбокі сумны голас. –



Ты збіраўся застрэліць мяне?

- Сам разумееш, Ронан, немагчыма быць занадта асцярожным, - адзначыў Хагрыд, паляпаўшы па арбалету. – Нехта вельмі нядобры ходзіць па гэтым лесе. А гэта, дарэчы, Гары Потэр і Герміёна Грэнджэр. Вучацца ў нашай школе. А гэта Ронан. Ён кентаўр.

- Мы зразумелі, - сказала Герміёна слабым голасам.

- Добры вечар, - сказаў Ронан. – У школе значыць? І чаму вас там навучылі?

- Эммм

- Усяму патрошку, - сказала Герміёна сарамліва.

- Патрошку. Гэта ўжо нешта, - уздыхнуў Ронаn. Ён азірнуўся і паглядзеў на неба. – Марс - сёння ноччу асабліва яркі.

- Даа, - сказаў Хагрыд таксама зірнуўшы ўверх. – Слухай, я ўсцешаны цябе пабачыць, але мы павінны ісці. Нехта раніў аднарога. Ты нічога не бачыў?

Ронан адразу не адказаў. Ён, не міргаючы глядзеў уверх, потым зноў уздыхнуў.

- Нявінныя заўсёды становяцца першымі ахвярамі, - сказаў ён. – Так было стагоддзі таму, так гэта і цяпер.

- Ага, - пацвердзіў Хагрыд, - але можа ты ўсё ж бачыў нешта, Ронан? Нешта незвычайнае?

- Марс – сёння вельмі яркі, - паўтарыў Ронан, у той час, пакуль Хагрыд нецярпліва за ім назіраў. – Незвычайна яркі.

- Угу, але я м’ў на ўвазе нешта пабліжэй да зямлі, - сказаў Хагрыд. – Значыцца, не заўважыў нічога дзіўнага?

Зноў Ронан памаўчаў імгненне перад адказам. У рэшце, ён сказаў:

- Лес хавае шмат сакрэтаў.

Рух дрэваў за Ронанам прымусіў Хагрыда зноў падняць свой арбалет, але гэта быў яшчэ адзін кентаўр, чорнагаловы, вараны і больш вялікі, чым Ронан.

- Прывітанне, Бэйн, - сказаў ключнік. – Усё добра?

- Добры вечар, Хагрыд, я спадзяюся, і ты ў парадку?

- Ды някепска. Глядзі, я толькі што запытаўся ў Ронана ці не бачыў чаго дзіўнага ў апошні час? Там аднарог паранены, ты нічога пра гэта не ведаеш?

Бэйн падышоў і стаў побач з Ронанам. Ён паглядзеў уверх.

- Марс – вельмі яркі сёння, - сказаў ён проста.

- Ужо ў курсе, - сказаў Хагрыд рэзка. – Ладна, калі неш’ пабачыш, скажы мне, добра? Мы пойдзем.

Гары і Герміёна пайшлі за ім з паляны, углядаючыся ў постаці Ронана і Бэйна, пакуль дрэвы канчаткова не закрылі іх.

- Ніколі, - сказаў Хагрыд раздражнёна, - не атрымаеш прамы адказ ад кентаўра. Чортавыя зоралікі. Не цікавяцца нічым бліжэй за месяц.

- А тут іх шмат? – запыталася Герміёна.

- Не так і шмат… Трымаюцца сваіх, і заўсёды прыйдуць, калі трэба паразмаўляць. У іх глыбокі розум, у гэных кентаўраў… яны ведаюць такія штукі… але шмат чаго не кажуць.

- Думаеш, гэта кентаўра мы чулі раней? – спытаў Гары.

- Хіба гэта быў стук капытоў? Не, калі ты мяне запытаешся, думаю, шуршаў забойца аднарогаў. Ніколі не чуў да таго такіх гукаў.

Яны ішлі праз густы цёмны лес. Гары кідаў нервовыя позіркі праз плячо, у яго было адчуванне, што за імі сочаць. Было вельмі прыемна ведаць, што побач ідзе Хагрыд з ягоным арбалетам. Яны толькі павярнулі, як Герміёна схапіла Хагрыда за руку.

- Хагрыд! Глядзі! Чырвоныя іскры! Нэвіл і Драко трапілі ў бяду!

- Вы двое, чакайце тут! - крыкнуў Хагрыд. – Заставайцеся на сцежцы, я вярнуся за вамі!

Яны чулі, як ён прадзіраецца праз зараслі, стаялі і глядзелі адзін на аднаго. Было вельмі страшна. Цяпер быў чутны толькі шолах лісця вакол іх.

- Іх жа не паранілі? – прашаптала Герміёна.

- Я не хвалююся за Малфоя, але калі нешта здарылася з Нэвілам... Гэта перш за ўсё нашая віна, што ён тут апынуўся.

Хвіліны цягнуліся ледзь-ледзь. Іх слых абвастрыўся. Гары здавалася, што яны чуюць кожны ўздых ветру, кожную зламаную галінку. Што там адбываецца? Дзе астатнія?

У рэшце, гучнае храбусценне паказала на тое, што Хагрыд вяртаецца. З ім былі Малфой, Нэвіл і Ікл. Хагрыд ажно дыміўся і ледзь стрымліваўся. Як аказалася, Малфой, ішоў за Нэвілам і, вырашыўшы над ім пажартаваць, схапіў яго ззаду. Нэвіл спужаўся і даў умоўны знак з чырвоных іскраў.

- Цяпер пасля вашых стрэлаў добра будзе, калі мы каго зловім. Так, ладна. Мы мяняем групы. Нэвіл, ты застаешся са мной і Герміёнай, Гары, ты ідзеш з Іклам і гэтым ідыётам. – заявіў Хагрыд і дадаў шэптам для Гары. – Прабач, але цябе яму будзе цяжэй напалохаць, а трэба скончыць справу.

У выніку Гары пайшоў у самы гушчар з Малфоем і Іклам. Яны ішлі блізу паўгадзіны, усё паглыбляючыся ў лес, пакуль сцежка стала амаль зусім не заўважнай, так шчыльна абступілі яе дрэвы.

А вось крыві, на думку Гары, стала болей. Тут і там было шмат пырскаў на дрэвах, быццам бяднячка кідаўся вакол сцежцы ад болю. За старажытным дубам Гары пабачыў прагаліну.



- Паглядзі, - прамармытаў ён, спыніўшы рукой Малфоя.

Нешта ярка-белае і бліскучае ляжала на зямлі. Ціха-ціха хлапцы падышлі бліжэй.

Гэта дакладна быў аднарог, і ён быў мёртвы. Гары ніколі не бачыў такой прыгожай і адначасова сумнай істоты. Ягоныя даўгія стройныя ногі былі раскіданыя па зямлі, а жамчужна-белая грыва рассыпалася на цёмным лісцю.

Гары паспеў зрабіць адзін крок у бок цела, калі слізгаценне прымусіла яго застыць на месцы. Кусты на іншым краі паляны заварушыліся…

Потым з ценю з'явілася постаць, якая была закутаная ў плашч. Яна паўзла па зямлі быццам звер, які праследуе здабычу. Гары, Малфой і Ікл застылі. Фігура дайшла да аднарога, апусціла галаву над ранай жывёлы і пачала піць ягоную кроў.

- Аааааааааааааа!

Малфой выдаў жахлівы крык і ўцёк, а за ім Ікл. Невядомы павярнуў галаву ў іх бок і паглядзеў у вочы Гары. Кроў аднарога крапала з ягонага твару. Ён хутка ўскочыў на ногі і пабег да Гары, які не мог паварушыцца ад жаху.

Жудасны боль, якога ён да гэтага ніколі не адчуваў, працяў галаву хлопчыка. Быццам ягоны шнар гарэў агнём. Напалову аслеплы ён пахіснуўся. Гары пачуў гук капытоў, нешта пераскочыла яго і адштурхнула постаць.

Боль быў настолькі моцным, што Гары ўпаў на калені. Гэта працягвалася хвіліну, можа дзве.

Калі ён апрытомнеў, фігуры больш не было. Над ім стаяў кентаўр, але не Ронан або Бэйн. Гэты выглядаў маладзейшым, быў бландзінам з залацістым целам.

- З табой усё добра? – запытаўся ён, калі дапамог Гары падняцца.

- Так, дзякуй вам. Што гэта было?

Кентаўр не адказаў. У яго былі дзіўныя блакітныя вочы, як светлыя сапфіры. Ён уважліва паглядзеў на Гары, ягоныя вочы спыніліся на шнары на ілбе хлопчыка.

- Ты Потэр, - сказаў ён. – Табе лепей вярнуцца да Хагрыда. У лесе зараз небяспечна, асабліва для цябе. Ты здатны ехаць? Так будзе хутчэй.

- Мяне клічуць Фірэнз, - дадаў ён, калі стаў на калені, каб Гары мог ускараскацца на ягоную спіну.

Нечакана з іншага боку прагаліны пачуўся стук капытоў. Ронан і Бэйн скакалі галопам сярод дрэваў, яны задыхаліся, іх бакі былі мокрымі ад поту.

- Фірэнз! – загрымеў Бэйн. – Што ты робіш? Ты пасадзіў сабе на спіну чалавека! У цябе няма сораму? Можа, ты мул?

- Вы ўяўляеце хто гэта? – спытаў Фірэнз. – Гэты хлопчык – Потэр. Чым хутчэй ён сыдзе з гэтага лесу, тым лепей.



- Што ты распавёў яму? - пракрычаў Бэйн. – Памятай, Фірэнз, мы пакляліся не супрацьпастаўляць сабе нябёсам. Хіба мы не бачылі гэтага ўсяго ў руху планет?

Ронан нервова тупаў на месцы.

- Я ўпэўнены, што Фірэнз жадаў зрабіць лепш, - сказаў ён пахмурна.

У гневе Бэйн убрыкнуў.

- Найлепей! Чым гэта абернецца для нас? Кентаўры, завязаныя на тое, што было прадрачона! Гэта не нашая справа бегаць як бяздомныя аслы ў нашым лесе!

Фірэнз ад гневу нечакана стаў на дыбкі. Гары давялося схапіцца за ягоныя плечы, каб не зваліцца.

- Ты не бачыш аднарога? – зароў Фірэнз. – Ты не разумееш, чаму яго забілі? Ці планеты не адкрылі табе гэты сакрэт? Супраць таго, што тоіцца ў гэтым лесе, я павінны быць з людзьмі.

І Фірэнз паскакаў прэч разам з Гары, які трымаўся за яго так моцна як мог. Бэйн і Ронан засталіся ззаду.

Хлопчык увогуле нічога не разумеў.

- Чаму Бэйн быў так раззлаваны? – спытаў ён. – І ад чаго ты мяне выратаваў?

Фірэнз суцішыў бег і перайшоў на хаду, папярэдзіўшы Гары берагчы галаву ад нізка вісячых галінаў. Але так і не адказаў на пытанне хлопчыка.

Яны ехалі сярод дрэваў у цішы так доўга, што Гары падумаў, што Фірэнз ужо нічога яму не скажа. Яны прадзіраліся праз асабліва шчыльны гушчар, калі кентаўр нечакана спыніўся.

- Гары Потэр, ты ведаеш для чаго выкарыстоўваецца кроў аднарога?

- Не, - адказаў той, здзіўлены пытаннем. – Для зелляў мы выкарыстоўвалі хіба што толькі рогі і валасы з хваста.

- Гэта таму што гэта найжахлівейшая рэч – забойства аднарога, - адказаў Фірэнз. – Толькі той, каму няма што губляць, можа здзейсніць такое злачынства. Кроў аднарога можа адрадзіць цябе, калі ты на валасок ад смерці. Але за гэта прыйдзецца заплаціць жахлівы кошт. Аднарог - настолькі чыстая і безабаронная істота, што з таго часу, як ягоная кроў дакранецца да вуснаў забойцы, ён будзе жыць праклятым паўжыццём.

Гары ўставіўся на патыліцу Фірэнза, якая ў святле месяца стала сярэбранай.

- Але, хто ў такім адчаі? – пацікавіўся ён уголас. – Калі ты будзеш навекі пракляты, то хіба смерць не лепей?

- Так, - згадзіўся Фірэнз, - але не тады, калі трэба пратрымацца дастаткова доўга, каб выпіць яшчэ нешта: тое, што верне усю тваю сілу і дасць вечнае жыццё. Містар Потэр, вы ведаеце, што схавана ў вашай школе?

- Філасофскі камень! Канечне, гэта ж эліксір жыцця! Але я ўсё роўна не разумею, хто…

- Няўжо ты не можаш ўзгадаць нікога, хто чакаў шмат год, каб вярнуць сваю сілу, чапляўся за жыццё, чакаючы свайго шансу?

І раптам быццам жалезны кулак сціснуў сэрца Гары. У шолаху дрэваў ён зноў пачуў голас Хагрыда, які казаў яму ў ноч, калі яны сустрэліся: «Некаторыя кажуць, што ён памёр. Калі запытаеце мяне, дык гэта лухта. Не ведаю, ці засталося ў ім дастаткова чалавечага, каб памерці».

- Ты маеш на ўвазе, - прахрыпеў Гары, - што Вал…

- Гары! Гары, з табой усё добра?

Герміёна бегла да іх па сцежцы, за ёй, запыхаўшыся, ішоў Хагрыд.

- Усё добра, - сказаў Гары, цьмяна разумеючы, што кажа. – Аднарог загінуў, Хагрыд, ён на паляне.

- Тут я вас пакіну, - прамармытаў Фірэнз да таго, як Хагрыд заспяшаўся да аднарога. – Цяпер ты ў бяспецы.

Гары саслізнуў з ягонай спіны.

- Удачы, Гары Потэр, - дадаў Фірэнз. – Бывала так, што знакі планетаў былі

прачытаныя няправільна нават кентаўрамі. Прынамсі, я спадзяюся, што гэта адзін з тых разоў.

Ён павярнуўся і паскакаў у гушчар, пакідаючы дрыжачага Гары за сабой.

***

Рон заснуў, чакаючы іх вяртання, ў цёмным агульным пакоі. Ён нешта крычаў пра парушэнні ў квідычы, калі Гары пабудзіў яго. У лічаныя секунды ён цалкам прачнуўся, калі Гары і Герміёна пачалі распавядаць яму, што здарылася ў лесе.

Гары не мог сядзець на месцы. Ён падскакваў перад агнём, яго да гэтага часу трэсла.

- Снэйп жадаў захапіць камень для Валдэрморта... а Валдэрморт чакае яго ў лесе… а ўвесь гэты час мы думалі, што Снэйп проста хоча разбагацець…

- Не называй яго па імені! – напалохана прашаптаў Рон, быццам Валдэрморт мог пачуць яго.

Гары не слухаў.

- Фірэнз выратаваў мяне, але ён не павінны быў гэта рабіць… Бэйн быў моцна злы… ён казаў пра тое, што планеты ўжо прадказалі, што павінна здарыцца… Пэўна, паказалі, што Валдэрморт вярнуўся… Бэйн думае, Фірэнз павінны быў дазволіць Валдэрморту забіць мяне… Я думаю, што менавіта гэта яму паведамілі зоркі.

- Ды спынішся ты называць яго па імені? – прашыпеў Рон.

- Застаецца дачакацца, пакуль Снэйп скрадзе камень, - ліхаманкава працягваў Гары. - потым Валдэрморт здолее прыйсці і забіць мяне… Я думаю, Бэйн будзе задаволены.

Герміёна выглядала вельмі перапалоханай, але знайшла словы суцяшэння.

- Гары, Дамблдлор – гэта адзін, каго Той-Чыё-Імя-Нельга называць баяўся, і пакуль ён тут, Сам-Ведаеш-Хто не дакранецца да цябе. Акрамя таго, хіба ўсё, што кажуць кентаўры - праўда? Гэта гучыць як варажба, а прафесар МакГонагал заўсёды казала, што гэта вельмі недакладны від магіі.

Неба зусім пасвятлела, калі яны скончылі размову. Тройца накіравалася ў ложкі апустошанымі з асіплымі галасамі. Але начныя сюрпрызы на гэтым не скончыліся.

Калі Гары адкінуў коўдру, ён знайшоў пад ёй мантыю-невідзімку. Да яе была прышпіленая запіска: «На ўсялякі выпадак».



# Частка шаснаццатая

# Праз люк

Пасля Гары так і не здолеў узгадаць, як ён здаў іспыты, калі ўвесь час жыў у страху і ў любы момант чакаў таго, што ў клас ўварвецца Валдэрморт. Але дні ішлі, а Пушок, усё яшчэ жывы і здаровы, сядзеў за зачыненымі дзвярыма.

Класы, у якіх яны здавалі пісьмовыя іспыты, былі асабліва вялікія, гарачыя і душныя. Акрамя таго, дзеля гэтай справы ім выдалі новыя пёры, зачараваныя ад падману.

Акрамя пісьмовых давялося здаваць практычныя іспыты. Прафесар Флітвік выклікаў іх па аднаму ў клас, каб пабачыць, ці здолеюць яны прымусіць ананас танцаваць на стале.




Прафесар МакГонагал назірала за пераўтварэннем мышкі ў табакерку. Балы налічваліся за тое, наколькі табакерка атрымалася вытанчанай і прыгожай, але здымаліся, калі ў яе заставаліся вусы ці хвост.

Снэйп прымусіў іх панервавацца, дыхаючы ў патыліцы, калі яны спрабавалі ўзгадаць, як зварыць зелле забыцця.

Гары адчуваў сабе не найлепшым чынам, спрабуючы не заўважаць сталы боль у ілбе, які працягваўся з памятнага паходу ў Забаронены лес. Нэвіл думаў, што Гары проста пераненрваваўся перад іспытамі, але праўда была ў тым, што Гары прачынаўся кожную ноч ад старых кашмараў, толькі цяпер стала яшчэ горш, бо там прысутнічаў невядомы, з чыйго твару крапала кроў.

Рон і Герміёна не бачылі ў адрозненне ад яго прычынаў для непакою пра камень. Магчыма, гэта было таму што яны не бачылі ў лесе таго, што бачыў Гары, а, можа, у іх не было шнару, які гарэў на ілбе. Ідэя пра вяртанне Валдэрморта ў цэлым пужала іх, але ён не сніўся ім, і яны былі занадта занятыя іспытамі, каб мець часу на хваляванні пра намеры Снэйпа ці нешта такое.

Нарэшце надышоў самы апошні іспыт – Гісторыя магіі. Гадзіну яны адказвалі на пытанні пра старых вар'ятаў-чараўнікоў, якія вынайшлі сама-заварваюшчыяся катлы. Адразу пасля гэтага яны будуць вольныя! Вольныя на цэлы файны тыдзень да таго, як будуць абвешчаныя вынікі іспытаў.



Калі прывід прафесара Бінса сказаў ім пакласці пёры і скруціць пергаменты, Гары разам з астатнімі вучнямі пракрычаў гучнае: «Ура!»

- Гэта нашмат прасцей, чым я думала, - сказала Герміёна, калі яны далучыліся да натоўпу, што выбег з замка на сонечную пляцоўку перад школай. – Не давялося вучыць 1637 Кодэкс паводзінаў пярэваратняў ці пра паўстанне Эльфрыка Нецярплівага.

Герміёне заўсёды падабалася паўтараць тое, што было на іспыце па ягоным заканчэнні. Але Рон сказаў, што яму ад гэтага будзе блага, таму яны проста пайшлі да возера і ўладкаваліся пад дрэвам.

Блізняты Уізлі і Лі Джордан казыталі шчупальцы гіганцкага кальмара, які грэўся на мелкаводдзі.

- Не трэба больш вучыць, - задаволена прамовіў Рон, выцягнуўшыся на траве. – Ты мог бы выглядаць больш шчаслівым, Гары, у нас ёсць тыдзень перад тым, як мы даведаемся, наколькі добра здаліся. Няма сэнсу турбавацца.

Гары пацёр лоб.

- Шнар усё яшчэ баліць, - сказаў ён злосна. – Гэта і раней бывала, але ніколі так часта.

- Схадзі да мадам Помфры, - спачувальна прапанавала Герміёна.

- Я не хворы, - сказаў Гары. – Я думаю гэта папярэджанне… пра нешта страшнае…

Рона не магчыма было прымусіць думаць пра нешта сур›ёзнае, было занадта горача.

- Гары, расслабся, Герміёна - права, камень у бяспецы, пакуль Дамблдлор

непадалёк. У любым выпадку ў нас ніколі не было доказаў таго, што Снэйп знайшоў, як абмінуць Пушка. У мінулы раз ён амаль не застаўся без нагі, наўрад ці, ён паспрабуе яшчэ раз. І хутчэй Нэвіл згуляе ў квідыч за Англію, чым Хагрыд падвядзе Дамблдлора.

Гары паківаў, але не мог адкінуць адчуванне, што ён на нешта забыўся, на нешта важнае. Калі ён гэта паспрабаваў растлумачыць, Герміёна сказала:

- Гэта ўсё іспыты. Я прачнулася мінулай ноччу і амаль ужо кінулася паўтараць па канспектах перамяшчэнне, як узгадала, што мы яго ўжо здалі.

Гары быў амаль упэўнены, што гэтыя пачуцці не маюць нічога агульнага з вучобай. Ён паглядзеў на саву, якая ляцела ў бок школы па чыстым сінім небе і несла ў дзюбе ліст. Хагрыд быў адзіным, хто дасылаў яму лісты.

Хагрыд ніколі не здрадзіць Дамблдлору. Хагрыд нікому ніколі не казаў, як падмануць Пушка... ніколі... але…

Гары нечакана ўскочыў.

- Куды гэта ты сабраўся? – спытаў сонна Рон.

- Я толькі што падумаў пра нешта, - адказаў Гары. Ён збялеў. – Я павінны пайсці і паразмаўляць з Хагрыдам прама зараз.

- Чаму? – задыхалася Герміёна, якая бегла за ім, каб не адставаць.

- Ты не думаеш, што гэта трохі дзіўна, - сказаў Гары, забягаючы на ўзгорак па траве, - што тое, што Хагрыд хацеў больш за ўсё ў жыцці – дракона - незнаёмец прыцягнуў яму ў кішэні? Як шмат людзей швэндаюцца навокал і цягаюць з сабой яйка цмока, тым болей, што гэта забаронена магічнымі законамі? Удача знайшла Хагрыда? Чаму я раней не здагадаўся?

- Пра што ты кажаш? – спытаўся Рон, але Гары, які бег у бок лесу, не адказаў.

Хагрыд сядзеў у крэсле на вуліцы, ён падвярнуў штаніны і рукавы і лушчыў гарох у вялікую міску.

- Прывітанне, - сказаў ён, усміхаючыся. – Адздаваліся? Зайшлі выпіць ‘арбаткі?

- Так, калі ласка, - сказаў Рон, але Гары абарваў яго.

- Не, мы па справе, Хагрыд. Я хачу запытацца ў цябе нешта. Ты памятаеш тую ноч, калі выйграў Норберта? Не было нічога дзіўнага у тым, з кім ты гуляў у карты?

- Не ведаю, - сказаў Хагрыд хутка, - ён не зняў мантыю.

Ён ашаломлена глядзеў на тройцу і падняў бровы.

- Гэта не так ужо і незвычайна. У «Вялікай бочцы» - гэта паб у вёсцы - бродзіць куча дзівакоў. Можа, ён прадае драконаў, напрыклад. Я ніколі не бачыў ягонага твару, ён не здымаў капюшон.

Гары плюхнуўся на зямлю побач з міскай гароху.

- Пра што вы размаўлялі з ім, Хагрыд? Ці ўзгадвалі хаця б словам «Хогвардс»?

- Трэба падумаць, - сказаў Хагрыд і нахмурыў лоб, спрабуючы прыгадаць. – Так… ён запытаўся, што я раблю і я с’заў яму, што я ляснічы і ключнік тут… Ён запытаўся яшчэ пра р’зныя істоты, якія мяне цікавяць… я яму распавяў, што заўсёды хацеў мець цмока. Потым… я не магу прыгадаць гэта так жа добра, бо мы пілі…

Хехе… Потым ён сказаў, што ў яго ёсць яйка дракона, і мы можам згуляць на яго ў карты, калі я ўпэўнены, што спраўлюся з ім, бо не хацеў аддаваць яго ў кепскія рукі. Ну… і я сказаў, што пасля Пушка любы цмок – гэта проста…



- А ён… ён цікавіўся Пушком? – запытаўся Гары, спрабуючы суцішыць голас.

- Нууу… зрэшты, так. Але як шмат трохгаловых сабакаў ты ведаеш, нават калі і ў «Хогвардсе»? Ну вось, я сказаў яму, што Пушок яшчэ той ахламон, але я вось напрыклад, заўсёды ведаю, як яго супакоіць: трэба ўсяго толькі трохі музыкі, і ён адразу засынае.

Раптам Хагрыд жахнуўся.

- Я не збіраўся казаць гэта! – выпаліў ён. – Забудзьце! Вам ясна? Гэй, вы куды?

***

Гары, Рон і Герміёна не размаўлялі паміж сабой пакуль не спыніліся ў галоўным вестыбюлі школы, які выглядаў вельмі халодным і шэрым пасля сонца на вуліцы.

- Прыйдзецца ісці да Дамблдлора, - сказаў Гары. - Хагрыд сказаў незнаёмцу, як прайсці міма Пушка, а пад капюшонам мог хавацца і Снэйп, і нават Валдэрморт. Гэта было проста, пасля таго, як Хагрыда напаілі. Я толькі спадзяюся, што прафесар паверыць нам. Фірэнз можа пацвердзіць, калі Бэйн не спыніць яго. Дзе тут кабінет дырэктара?

Яны паглядзелі навокал, быццам спадзяваліся пабачыць стрэлачкі, якія б паказвалі ім правільны кірунак. Дзеці ніколі не задумваліся, дзе Дамблдлор жыве і не ведалі, у каго запытацца.

- Мы зараз павінны, - пачаў Гары, але яго нечакана перарваў голас, які прагучаў на ўвесь вестыбюль.

- Што вы, трое, тут робіце?

Гэта была прафесар МакГонагал, якая несла вялікі стос кніжак.

- Мы хочам пабачыць прафесара Дамблдлора, - сказала Герміёна, больш смелая, чым думалі Гары і Рон.

- Пабачыць прафесара Дамблдлора? – перапытала МакГонагал быццам гэта было вельмі дзіўна. – Навошта?

Гары зглытнуў. І што цяпер?

- Гэта тайна, - сказаў ён, але лепей бы ён гэтага не рабіў, бо прафесар МакГонагал адразу напраглася.

- Прафесар Дамблдлор сышоў дзесяць хвілінаў таму, - сказала яна халодна. – Ён атрымаў тэрміновую саву з Міністэрства магіі і адразу ўляцеў у Лондан.

- Ён уляцеў? – перапытаў Гары ліхаманкава. – Зараз?

- Прафесар Дамблдлор – знакаміты чараўнік, Потэр, у яго шмат абавязкаў.

- Але гэта важна!

- Важнейшае за Міністэрства магіі, Потэр?

- Разумееце, прафесар, - сказаў Гары, адкінуўшы асцярожнасць, – гэта пра філасофскі камень…

Гэта было не тое, чаго чакала прафесар МакГонагал. Кнігі, якія яна трымала, пасыпаліся ў яе з рук, але яна не падабрала іх.

- Як вы даведаліся? – пралапатала яна.

- Прафесар, я думаю… я ведаю, што Сн… што нехта збіраецца скрасці камень. Я хачу паразмаўляць пра гэта з прафесарам Дамблдлорам.

Яна паглядзела са змешаным выразам шоку і падазрэння.

- Прафесар Дамблдлор вернецца толькі заўтра, - сказала яна ўрэшце. – Я не ведаю, як вы даведаліся пра камень, але будзьце ўпэўненыя, што ніхто не зможа яго скрасці. Ён занадта добра абаронены.

- Але прафесар…

- Потэр, я ведаю, пра што кажу, - дадала прафесар МакГонагал каротка. Яна нахілілася і сабрала кніжкі. – Я думаю, вам трэба вярнуцца на вуліцу і атрымаць асалоду ад сонечнага дня.

Але дзеці больш не маглі проста валяцца на сонцы.

- Гэта здарыцца сёння ноччу, - сказаў Гары, як толькі ўпэўніўся, што прафесар МакГонагал не чуе яго. – Снэйп пралезе праз люк. Ён знайшоў усё патрэбнае, а Дамблдлора няма ў замку. Гэта ён даслаў ліст, я магу паспрачацца, што Міністэрства магіі вельмі здзівіцца, калі там з'явіцца Дамблдлор.

- Але што мы можам…

Герміёна войкнула. Гары і Рон азірнуліся.

Снэйп стаяў за іх спінамі.



- Добры дзень, - сказаў ён роўна.

Дзеці моўчкі ўставіліся на выкладчыка.

- Вы не можаце сядзець у замку ў такі дзень, як гэты, - заявіў прафесар з тонкай крывой усмешкай.

- Мы тут… - пачаў Гары, не маючы аніякай ідэі, што скажа далей.

- Вам трэба быць больш асцярожнымі, - заявіў Снэйп. – Калі будзеце тырчаць тут, людзі падумаюць, што вы нешта задумалі. А «Грыфіндор» не можа сабе дазволіць згубіць яшчэ больш балаў, хіба не?

Гары ўспыхнуў. Усе трое павярнуліся, каб сысці, а Снэйп сказаў ім услед.

- Будзь асцярожным, Потэр, яшчэ адно начное блуканне, і я асабіста прасачу, каб цябе адлічылі. Добрага дня ўсім вам.

Ён пайшоў у бок настаўніцкай.

Спыніўшыся на каменных прыступках, Гары павярнуўся да астатніх.

- Правільна, менавіта гэта нам і трэба рабіць, - горача зашаптаў Гары. – Адзін з нас павінны пайсці за Снэйпам, чакаць, пакуль ён не выйдзе з настаўніцкай, і прасачыць за ім. Давай, можа, ты Герміёна?

- Чаму я?

- Гэта відавочна, - сказаў Рон. – Ты прыкінешся, што чакаеш прафесара Флітквіка.

Ён сказаў высокім голасам:

- Ах, прафесар Флітвік, я вельмі хвалююся, я думаю, што дапусціла памылку ў адказе на пытанне 14б…

- Ды змоўкні ты! – раззлавалася Герміёна, але згадзілася застацца і прасачыць за Снэйпам.

- І мы лепей пойдзем сачыць за калідорам на чацвёртым паверсе, - сказаў Гары Рону. – Хадзем.

Але гэтая частка іх плана не спрацаваў. Як толькі яны дайшлі да дзвярэй, за якімі сядзеў Пушок, з’явілася прафесар МакГонагал, якая на гэты раз раззлавалася не на жарт.

- Думаеце, вас будзе прайсці, чым шэраг складаных заклёнаў! – бушавала яна. – Хопіць гэтых глупстваў! Калі я пачую, што нехта з вас будзе хадзіць недзе тут паблізу, я забяру ў «Грыфіндора» яшчэ 50 балаў! Так, Уізлі, у свайго факультэту!

Толькі калі хлапцы вярнуліся у агульны пакой, Гары сказаў:

- Ну хаця б Герміёна на хвасце ў Снэйпа.

Але адразу пасля гэтых словаў партрэт Тлустай Ледзі адхіснуўся і да іх далучылася Герміёна.

- Прабач, Гары! – расстроена сказала яна. - Снэйп выйшаў з настаўніцкай і запытаўся мяне, што я тут раблю. Я сказала, чакаю Флітвіка, і Снэйп вярнуўся з ім, і мне давялося сысці. Так што я не ведаю, куды ён пайшоў.

- Ну што ж, хай будзе так.

Герміёна і Рон уставіліся на яго. Гары быў бледны, ягоныя вочы блішчалі.

- Сёння ноччу я пайду і паспрабую забраць філасофскі камень першым.

- З глузду з’ехаў? - выдыхнуў Рон.

- Ты не можаш! – сказала Герміёна. – Пасля таго, што сказалі МакГонагал і Снэйп? Цябе адлічаць!

- І ШТО? – закрычаў Гары. – Няўжо не разумееце? Калі Снэйп захопіць камень, Валдэрморт вернецца! Хіба вы не чулі, што было, калі ён ірваўся да ўлады? Не будзе тады ніякага «Хогвардса», каб быць адтуль адлічаным! Ён разбурыць яго ці зробіць тут школу цёмных чараў.

Згуба балаў больш не будзе мець аніякага значэння, няўжо вы не разумееце? Няўжо вы думаеце, што ён пакіне вас і вашы сем’і ў спакоі, калі «Грыфіндор» выіграе чэмпіянат факультэтаў? Калі я не паспею захапіць камень, добра, я вярнуся да Дурсляў і буду чакаць там, пакуль Валдэрморт мяне знойдзе. Гэта будзе значыць, што я памру трохі пазней, таму што я ніколі не перайду на цёмны бок.

Так што я збіраюся пралезці сёння ноччу праз люк і не спрабуйце спыніць мяне! Валдэрморт забіў маіх бацькоў памятаеце?

Ён моўчкі глядзеў на іх.

- Ты правы, Гары, - сказала Герміёна ціхім голасам.

- Я апрану мантыю-невідзімку, - сказаў Гары. – Калі пашанцуе, я вярнуся.

- Але мы ўсе пад яе залезем? – запытаўся Рон.

- Усе… усе мы трое?

- Ды, ладна, ты ж не думаеш, што мы дазволім пайсці табе аднаму?

- Канечне ж не, - хутка дадала Герміёна. – Як ты дабярэшся да каменя без нас? Лепей я пайду, вазьму свае кніжкі, дзе можа быць нешта карыснае.

- Але калі нас зловяць, вас таксама выганяць.

- Не, калі я буду дапамагаць, - сказала Герміёна змрочна. – Флітвік сказаў мне сакрэце, што я набрала 112% на іспыце. Яны не адлічаць мяне пасля такога.

***

Пасля вячэры тройца уселася асобна ў агульным пакоі. Ніхто з «грыфіндорцаў» не размаўляў з імі. Гэта быў першы раз, калі Гары гэта зусім не турбавала. Герміёна ліхаманкава гартала свае запісы, спадзяючыся знайсці нешта дапаможа ім зламаць чары за люкам.

Гары і Рон амаль не размаўлялі. Абодва думалі пра тое, што збіраліся здзейсніць.

Павольна пакой апусцеў, «грыфіндорцы» пацягнуліся спаць.

- Лепей забяры мантыю, - прамармытаў Рон, калі ў рэшце рэшт сыйшоў Лі Джордан, пазяхаючы і пацягваючыся.

Гары збегаў наверх, у сваю цёмную спальню. Ён узяў мантыю і потым заўважыў флейту, якую Хагрыд падарыў яму на Каляды. Хлопчык прыхапіў і яе, збіраючыся выкарыстаць для супакаення Пушка. Яму зусім не хацелася спяваць.

Потым ён спусціўся ў агульны пакой.

- Лепей мы тут апранем мантыю і ўпэўнімся, што ўсе пад ёй змесцімся. А тое яшчэ Філч заўважыць, як нашыя ногі швэндаюцца па калідоры.

- Што гэта вы робіце? – раздаўся голас з вугла пакою. Нэвіл вылез з-за крэсла, трымаючы падпахай сваю жабу Трэвара, які выглядаў так, быццам зараз зноў вырвецца на волю.



- Нічога, Нэвіл, нічога, - сказаў Гары, хутка схаваўшы мантыю за спінай.

Нэвіл угледзеўся ў іх вінаватыя твары.

- Вы зноў нешта задумалі, - толькі і прамовіў ён.

- Не, не, не і яшчэ раз не, - адказала Герміёна. – Не, нічога такога. Чаму ты яшчэ не спіш, Нэвіл?

Гары пакасіўся на вялікі гадзіннік каля дзвярэй. Яны не маглі дазволіць сабе змарнаваць яшчэ больш часу, Снэйп, напэўна, ужо зараз граў для Пушка, каб сабака заснуў.

- Вы не зможаце выйсці, - заявіл Нэвіл, - Вас зноў зловяць. А «Грыфіндору» нельга больш трапляць у бяду.

- Ты не разумееш, - сказаў Гары – Гэта важна.

Але Нэвіл яўна вырашыўся на адчайныя меры.

- Я не дам вам зрабіць гэта, - сказаў ён, хутка стаўшы паміж імі і праходам праз партрэт. – Я… я буду біцца з вамі!

- Нэвіл, - узарваўся Рон, - адыдзі ад дзвярэй і не будзь ідыётам!

- Не вам называць мяне ідыётам! – закрычаў у адказ Нэвіл. – Я не думаю, што вы можаце парушыць яшчэ больш правілаў! І вы самі распавялі мне, што трэба адстойваць сваё меркаванне.

- Так, але не супраць нас, - раздражнена дадаў Рон. - Нэвіл, ты не ведаеш, што робіш.

Ён зрабіў крок у бок Нэвіла. Той выраніў Трэвара на падлогу, і жаба неадкладна знікла з вачэй.

- Давай, зрабі гэта! Паспрабуй ударыць мяне! – сказаў Нэвіл, падняўшы кулакі. – Я гатовы!

Гары павярнуўся да Герміёны.

- Зрабі што-небудзь, - сказаў ён у роспачы.

Герміёна выйшла наперад.

- Нэвіл, - сказала яна, - Мне сапраўды шкада, што даводзіцца гэта рабіць.

Яна ўзняла сваю палачку.

- Петрыфікус Таталус! – закрычала яна, навёўшы палачку на Нэвіла.

Рукі Нэвіла быццам прыклеіліся да бакоў, ногі зліпліся разам. Ягонае цела адзеравянела, ён пахіснуўся і ўпаў на падлогу тварам наперад быццам дошка.

Герміёна падбегла і перавярнула хлопчыка. Ягоныя сківіцы былі намёртва сціснутыя, таму ён не мог нічога сказаць. Толькі ягоныя вочы рухаліся, паказваючы ў якім жаху ён быў.

- Што ты з ім зрабіла? – шэптам запытаўся Гары.

- Гэта поўнае аслупяненне, - патлумачыла Герміёна няшчасна. – Вой, Нэвіл, прабач, калі ласка.

- Мы не можам інакш, Нэвіл, няма часу тлумачыць, - дадаў Гары.

- Ты зразумееш пазней, - сказаў Рон, калі яны сталі разам і ахінуліся мантыяй-невідзімкай.

Тое, што яны пакінулі Нэвіла ў такім стане, не дадала сябрам аптымізму. Яны ўвесь час нерваваліся, кожны цень ад статуі падаваўся ім Філчам, кожны подых ветрыку - Піўзам. Падышоўшы да лесвіцы, яны пабачылі міс Норыс, якая хавалася зверху.

- Вой, дазволь пнуць яе хаця б гэты раз, - прашаптаў Рон ў вуха Гары, але той толькі пахітаў галавой. Вельмі асцярожна яны падняліся па лесвіцы і акуратна абышлі вакол коткі. Міс Норыс праводзіла іх сваімі падобнымі на лямпачкі вачыма, але засталася сядзець.

Больш яны нікога не сустрэлі, пакуль не дайшлі да лесвіцы, што вяла на чацвёрты паверх. Там знайшоўся Піўз, які рабіў складкі на дыване, каб людзі чапляліся і падалі.

- Хто тут? – нечакана спытаўся палтэргейст. Ён звузіў свае злобныя цёмныя вочы. – Ведаю, ты тут, нават калі не бачу. Ці ты ўпыр, ці прывід або маленькі шкаляр?

Ён узляцеў і паляцеў міма, увесь час азіраючыся.

- Паклічу Філча, я абавязаны, калі нехта поўзае тут нябачным.

У Гары ўзнікла нечаканая ідэя.

- Піўз, - сказаў ён хрыплым шэптам. – Крывавы Барон мае свае прычыны, каб быць нябачным.

Ад шоку Піўз амаль не зваліўся. Ён своечасова спахапіўся і завіс прыкладна ў траціне метра над лесвіцай.

- Прабачце, ваша крывавасць, містар Барон, сэр, - сказаў ён салодка. – Мая памылка, мая памылка я не бачыў вас. Канечне, вы ж не бачны. Прабачце старога Піўза за гэты маленькі жарт, сэр.

- У мяне тут справа, Піўз, - прахрыпеў Гары. – Не хадзі тут гэтай ноччу.

- Добра, сэр. Можаце быць упэўненым, сэр, - сказаў Піўз, падымаючыся ўверх. – Спадзяюся, вашыя справы пойдуць добра, Барон. Я не панепакою вас.

І панёсся стрымгалоў прэч.

- Крута, Гары! – прашаптаў Рон.

Некалькімі секундамі пазней яны былі на месцы, каля забароненага калідора на чацвёртым паверсе. Дзверы былі прыадчыненыя.

- Ну вось, мы спазніліся, - сказаў ціха Гары, - Снэйп ужо мінуў Пушка.

Прыадчыненыя дзверы прымусілі іх задумацца, што будзе далей. Пад мантыяй Гары павярнуўся да сяброў.

- Калі вы жадаеце павярнуць назад, я не буду вінаваціць вас, - сказаў ён. – Вы можаце забраць мантыю, мне яна зараз не патрэбная.

- Не будзь ідыётам, - гэта быў Рон.

- Мы ідзём, - дадала Герміёна.

Гары пхнуў дзверы. Яны адчыніліся з рыпеннем. З пакоя пачулася нізкае рыканне. Усе тры носа пачалі прынюхвацца, хаця пакуль ён іх і не бачыў.

- Што гэта каля ягоных лапаў? – прашаптала Герміёна.

- Выглядае як арфа, - сказаў Рон. – Напэўна, яе пакінуў тут Снэйп.

- Сабака, напэўна, прачнуўся, калі, як сціхла музыка, - сказаў Гары. – Ладна, пачнём…



Ён прыклаў флейту Хагрыда да вуснаў і падзьмуў. Мелодыі не атрымалася, але з першага гука вочы ў сабакі пачалі заплюшчвацца. Гары перавёў дыханне. Павольна рык сабакі суцішыўся, ён пахістаўся на лапах, потым упаў на калені, заваліўся на бок і нарэшце заснуў.

- Працягвай граць, - папярэдзіў Гары Рон, калі яны выслізнулі з-пад мантыі-невідзімкі і кінуліся да люка.

Чым бліжэй дзеці падыходзілі да трох вялізных галоваў, тым мацней адчуваўся гарачы смярдзючы подых сабакі.

- Я думаю, мы зможам адчыніць люк, - сказаў Рон. – Хочаш быць першай, Герміёна?

- Не!

- Добра, - Рон сціснуў зубы і акуратна пераступіў лапу Пушка. Хлапец нагнуўся і пацягнуў за кольца люка, адчыніўшы праход.

- Што ты бачыш? – спужана спыталася Герміёна.



- Нічога, толькі цемру, ніякага спосабу спусціцца ўніз, так што прыйдзецца скакаць.

Гары, які ўсё яшчэ граў на флейце, памахаў Рону, каб прыцягнуць ягоную ўвагу і паказаў на сабе.

- Ты хочаш ісці першым? Ты ўпэўнены? – перапытаў Рон. – Я не ведаю, наколькі там глыбокая яма. Тады дай флейту Герміёне, каб яна магла граць сабаку.

Гары перадаў флейту. За пару секундаў цішыні сабака зароў і тузануўся, але як толькі Герміёна пачала граць, ён зноў моцна заснуў.

Гары падабраўся да люка і паглядзеў уніз праз яго. Не было ніякіх прыкметаў дна.

Ён прасунуўся ў люк, павіснуў на руках. Потым паглядзеў на Рона і сказаў:

- Калі са мной нешта здарыцца, не ідзіце за мной. Ідзіце неадкладна ў савоўню і адашліце Буклю да Дамблдлора, добра?

- Добра.

- Я спадзяюся, пабачымся праз хвіліну, - Гары расціснуў пальцы.

Халоднае, вільготнае паветра біла яму ў твар пакуль ён падаў уніз, уніз, уніз… БУХ! З дзіўным прыглушаным гукам Гары кудысьці прызямліўся. Хлопчык усеўся на зямлю і памацаў вакол сабе, вочы пакуль не звыкліся да цемры. Падобна, што ён трапіў на нейкую расліну.

- Усё добра, - пракрычаў Гары ўверх. Светлая плямка адкрытага люка стала не больш за паштовую марку. – Тут нешта накшталт расліны, можаце скакаць!

Рон адразу ж так і зрабіў. Ён прызямліўся каля Гары.

- Што гэта за штука? – былі ягоныя першыя словы.

- Пэўна, нейкая расліна. Я спадзяюся, яна тут, каб не разбіцца. Спускайся, Герміёна!

Аддаленая музыка спынілася. Пачулася рыканне сабакі, але Герміёна ужо скокнула. Яна плюхнулася з іншага боку ад Гары.

- Мы павінны быць у шмат кіламетраў пад школай, - сказала яна.

- Пашэнсіла, што гэтая расліна была тут, - сказаў Рон.

- Пашэнсіла?! - закрычала Герміёна. – Азірніцеся! Вы, абодва!

Яна ўскочыла і з усіх моцаў прыціснулася да вільготнай сцяны. Потым дзяўчынцы давялося змагацца… бо з таго моманту, як яна прызямлілася, расліна пачала закручваць парасткі ў яе вакол шчыкалатак.

Што ж казаць пра Гары і Рона, чыі ногі ўжо былі туга аплеценыя паўзучай раслінай.

Герміёна паспела вызваліцца да таго, як расліна моцна схапіла яе. Цяпер яна глядзела ў жаху, як хлапцы змагаліся і адпіхвалі парасткі ад сабе, але чым болей яны рыпаліся, тым мацней і хутчэй расліна абмотвалася вакол іх.

- Не рухайцеся! – скамандавала Герміёна. – Я ведаю што гэта! Д'ябальская пастка!

- Вох, мне так прыемна, што я цяпер ведаю, як гэта называецца. Гэта вялікая дапамога, - прахрыпеў Рон, лёг на спіну, спрабуючы не даць расліне зацягнуцца ў сабе на шыі.

- Заткніся! Я спрабую прыгадаць, як гэта забіць!

- Добра, але ты паспяшайся, я не магу дыхаць! – прамармытаў Гары, змагаючыся з абматаўшымся вакол ягоных грудзей сцяблом.

- Пастка д'ябла… пастка д'ябра… што пра яе казала прафесар Спроўт? Яна любіць цемру і вільгаць…

- Ну дык запалі агонь! – прахрыпеў Гары.

- Так, канечне, але тут няма дрэва, - заплакала Герміёна, ламаючы рукі.

- Ты зусім звар'яцела? – зароў Рон. – Ты вядзьмарка ці хто?!

- О, канечне, - прашаптала разгублена Герміёна, яна ўзмахнула сваёй палачкай, прамармытала нешта і даслала струмень блакітных іскраў, як тыя, што яна выкарыстала супраць Снэйпа.

Праз некалькі секундаў хлапцы адчулі, што расліна іх адпусціла, бо скурчылася да святла і цяпла. Парасткі хутка зусім зваліліся з хлопцаў, вызваліўшы іх.

- Пашанцавала нам, што ты добра вучылася на травазнаўстве, Герміёна, - сказаў Гары, калі далучыўся да яе каля сцяны, выціраючы пот з твару.

- Дааа, - сказаў Рон, - і пашэнсіла, што Гары не згубіў галаву ў цяжкую хвіліну. «Тут няма дрэва», арыгінальна, нічога не скажаш.

- Нам сюды, - сказаў Гары, паказваючы на праход сярод камянёў, па якім яны маглі ісці толькі наперад.

Яны чулі толькі гук сваіх крокаў і як далікатна сцякала са сцяны вада. Праход нечакана пайшоў уніз, і Гары ўзгадаў пра «Грынгатс». З моцным грукатам у сэрцы, ён прыгадаў дракона, які, па чутках, ахоўвае скляпенні ў банку чараўнікоў. Калі яны сустрэнуць дракона, дарослага дракона… нават маленькі Норберт быў дастаткова кепскім варыянтам…

- Ты чуеш? – прашаптаў Рон.

Гары прыслухаўся. Мяккі шолах і звон чуўся спераду.

- Думаеш, гэта прывід?

- Я не ведаю… Як па мне, дык гук быццам ад крылаў.

- Наперадзе – святло. Я бачу, як нешта рухаецца.

Яны дайшлі да канца праходу і пабачылі перад сабой ярка асветлены пакой. Там было поўна маленькіх бліскучых птушак, якія ляталі па ўсёй залі і куляліся ў паветры. З супрацьлеглага бока былі моцныя драўляныя дзверы.

- Думаеш, яны нападуць, калі мы паспрабуем прайсці праз пакой? – запытаўся Рон.



- Магчыма, - сказаў Гары. – З выгляду яны бяспечныя, але калі ўсе наляцяць разам… Ладна, іншага выйсця ўсё роўна няма. Я пабег.

Ён набраў паветра, прыкрыў твар рукамі і хутка пабег да дзвярэй. У любы момант хлопчык чакаў, што яго пачнуць дзяўбці і раздзіраць вострымі дзюбамі і кіпцюрамі, але нічога не адбывалася. Ён дабраўся да дзвярэй цэлым.

Гары пацягнуў за ручку дзвярэй, але яны былі зачыненыя.

Рон і Герміёна падышлі да яго. Яны схапіліся за ручку і пачалі цягнуць разам, але дзверы былі непахісныя, нават калі Герміёна паспрабавала на іх заклён «Алохамора».

- І што цяпер? – гэта быў Рон.

- Гэтыя птушкі… яны не могуць быць тут проста дзеля ўпрыгожвання, - зазначыла Герміёна.

Яны ўгледзеліся ў маленькіх птушачак больш пільна… яны парылі над іх галовамі, зіхацелі… пастойце, зіхацелі?

- Гэта не птушкі! – раптоўна сказаў Гары. – Гэта ключы! Лятучыя ключы, паглядзіце ўважліва. І гэта павінна значыць…

Ён паглядзеў навакол пакуль астатнія двое разглядалі стаю ключоў.

- Так! Глядзіце! Мётлы. Мы можам злавіць ключ ад дзвярэй!

- Але тут іх сотні!

Рон яшчэ раз паглядзеў на дзвярны замок.

- Мы шукаем вялікі, у старым стылі, магчыма, срэбраны ключ… як гэтая ручка.

Яны ўселіся на мётлы і узляцелі ўверх, спрабуючы выглядзець патрэбны ў воблаку ключоў. Але зачараваныя ключы былі такія хуткія, што іх было немагчыма злавіць.

Але нічога, калі падумаць, не дарма Гары быў самым маладым шукальнікам у гэтым стагоддзі. Сярод плямаў ён пабачыў тое, што астатнія б людзі не заўважылі. Пасля колькі хвілінаў палёту праз вясёлкавыя віхуры пёраў ён заўважыў вялікі срэбраны ключ з выгнутым крылом, быццам бы яго ўжо нехта злавіў і потым зноў выпусціў.

- Гэта ён! – крыкнуў ён астатнім. – Вось паглядзіце, вялікі такі… не! Тут, з ярка-блакітнымі крыламі… са скамечанымі пёркамі з аднаго боку!

Рон хутка паляцеў у тым кірунку, куды паказваў Гары, урэзаўся ў столь і амаль зламаў сваю мятлу.

- Мы былі зусім блізка ад яго! – закрычаў Гары, не адрываючы вачэй ад ключа з падбітым крылом. - Рон, ты сачы за ім зверху. Герміёна, стань ззаду і спыні яго, калі ён паляціць уніз. А я паспрабую злавіць яго. Зараз!




Рон нырнуў, Герміёна ірванула ўверх, ключ сышоў ад іх абодвух. Гары прашмыгнуў за імі. Ён ляцеў прама на сцену, хутка нахіліўшыся, і з непрыемным, драпачным гукам, прыпячатаў ключ да каменя адной рукой. Рон і Герміёна пракрычалі трохразовае «ўра!».

Яны хутка прызямліліся, і Гары пабег да дзвярэй, ключ трапятаўся ў ягонай руцэ. Хлопчык засунуў яго ў замочную свідравіну і павярнуў. Спрацавала: замок шчоўкнуў і адчыніўся. Ключ вырваўся і ўляцеў, на гэты раз ён выглядаў удвая больш памятым.

- Гатовыя? - Гары запытаўся ў астатніх, іх рукі сустрэліся на дзвярах. Яны кіўнулі і разам пхнулі дзверы.

Наступны пакой быў такі цёмны, што яны зусім нічога не бачылі. Але як толькі дзеці прайшлі трохі наперад, пакой раптоўна напоўніўся святлом, які адкрыў ім дзіўнае відовішча.

Яны стаялі ў вуглу велічэзнага поля для шахматаў, ззаду ад чорных фігураў, якія ўсе былі вышэй за іх і выглядалі быццам выразаныя з каменю. Насупраць іх, з іншага боку пакою стаялі белыя фігуры. Гары, Рон і Герміёна здрыгануліся, бо ў белых шахматаў не было твараў.

- Што мы павінны зрабіць? – прашаптаў Гары.

- Гэта відавочна, хіба не? – запытаўся Рон. – К**аб трапіць на той бок, н**ам трэба згуляць партыю.

За белымі фігурамі яны пабачылі дзверы.

- Як? – нервова запыталася Герміёна.



- Я думаю, - прапанаваў Рон, - мы павінны заняць месцы фігураў.

Ён падышоў да чорнага каня і паклаў руку на яго галаву. У той жа момант той ажыў. Конь стаў на калена, а рыцар на ягонай спіне паглядзеў на Рона.

- Мы павінны эээ далучыцца да вас, каб прайсці на той бок пакою? – чорны коннік кіўнуў. Рон павярнуўся да астатніх.

- Дайце падумаць, - сказаў ён. – Я думаю, мы павінны знайсці месца для нас траіх сярод чорных фігураў…

Гары і Герміёна стаялі ціха, назіраючы за Ронам. Урэшце ён сказаў:

- Так… вы не крыўдуйце, але ніхто з вас не гуляе добра ў шахматы…

- Мы не крыўдуем, - сказаў хутка Гары. – Проста скажы, што трэба рабіць.

- Добра, Гары, ты займі месца слана, а ты, Герміёна, ідзі за ім да ладдзі.

- А што будзеш рабіць ты?

- Я збіраюся быць рыцарам-коннікам, - заявіў Рон.

Шахматы, падобна, што ўсё пачулі, бо слон і ладдзя развярнуліся і сышлі з поля, пакідаючы вольныя клеткі для Гары, Рона і Герміёны.

- Белыя заўсёды робяць першы ход у шахматах, - сказаў Рон, аглядаючы поле для гульні. – Вось, глядзіце…

Белая пешка перайшла наперад на дзве клетцы.

Рон пачаў рухаць чорныя фігуры. Яны ціха перасоўваліся туды, куды ён іх дасылаў. Калені ў Гары дрыжалі. Што, калі яны прайграюць?

- Гары, ідзі па дыяганалі на чатыры клетцы ўправа.



Іх першы сапраўдны шок быў, калі іх другога конніка збілі. Белая каралева разбіла яго і выкінула за межы поля, дзе ён ціха ляжаў тварам уніз.

- Давялося ахвяраваць ім, - патлумачыў Рон, які выглядаў разгубленым. – Каб расчысціць дарогу для слана. Герміёна, ідзі, ты можаш забраць белага слана.

Кожны раз, калі нехта з іх фігураў быў збіты, белыя былі бязлітасныя. Хутка цэлая куча чорных ляжала ўздоўж сцяны. Двойчы ў небяспецы былі Гары і Герміёна. Рон сам хутка перасоўваўся па дошцы, сабраўшы

амаль столькі ж белых фігураў, колькі было згублена чорных.

- Мы амаль дайшлі, - мармытаў ён. – Дайце мне падумаць… дайце мне падумаць…

Белая каралева павярнула пусты твар у ягоным кірунку.

- Да, - сказаў Рон павольна. – Гэта адзіны варыянт. Я ахвярую сабой.

- Не! – закрычалі Гары і Герміёна.

- Гэта шахматы! – рэзка адказаў Рон. – Прыходзіцца здаваць некаторыя фігуры! Я зраблю адзін крок наперад, каралева «з'есць» мяне, але гэта дазволіць табе, Гары, аб'явіць шах і мат каралю белых!

- Але…

- Ты хочаш спыніць Снэйпа ці не?

- Рон…

- Глядзі, калі ты не паспяшаешся, ён можа завалодаць каменем!

Іншага выйсця не было.

- Гатовы? – запытаўся Рон з бледным рашучым тварам. – Я пайшоў, не зацягвайце, і вы пераможаце.



Ён выйшаў наперад і белая каралева накінулася на яго. Яна стукнула Рона па галаве сваёй каменнай рукой, і ён упаў на зямлю. Герміёна ўскрыкнула, але засталася на месцы. Белая каралева за нагу сцягнула Рона з поля. Падобна, што ён быў у непрытомнасці.

Увесь трасучыся, Гары перайшоў на тры клетцы ўлева.

Белы кароль зняў карону і кінуў яе пад ногі Гары. Яны перамаглі. Белыя фігуры пакланіліся і разышліся, вызваляючы Гары і Герміёне дарогу да дзвярэй. Кінуўшы апошні адчайны позірк на Рона, яны прайшлі праз дзверы і трапілі ў наступны калідор.

- Што, калі ён...?

- З ім усё будзе добра, - сказаў Гары, спрабуючы ўпэўніць і сабе. - Як думаеш, што там далей?

- У нас быў падарунак прафесара Спроўт, д'яблаву пастку яўна паставіла яна, Флітвік яўна навёў чары на ключы, МакГонагал змяніла шахматныя фігуры, каб ажывіць іх, застаюцца Квірэл і Снэйп.

Яны дайшлі да наступных дзвярэй.

- Ну што? - прашаптаў Гары.

- Хадзем.

Гары адчыніў дзверы.

Такі агідны пах напоўніў ноздры, што дзеці нацягнулі на насы мантыі. Праз слёзы, якія засцілалі вочы, Гары і Герміёна пабачылі перад сабой на падлозе троля нават большага, чым той, ад якога яны з цяжкасцю вырваліся. Троль нерухома ляжаў на падлозе, у галаве яго была рана.

- Я вельмі ўсцешаны, што нам не прыйдзецца з ім біцца, - прашаптаў Гары, пераступаючы праз агромністыя ногі. - Давай хутчэй. Дыхаць немагчыма.



Ён моцна пхнуў наступныя дзверы. Абодвум было страшна зірнуць, што там. Але ў пакоі не было нічога такога, хіба што стол з сям›ю бутэлькамі рознай формы, якія былі выстаўленыя ў адну лінію.

- Праца Снэйпа, - адзначыў Гары. - Як думаеш, што трэба рабіць?

Яны пераступілі парог, і тут нечакана сцяна полымя адрэзала ім дарогу назад. Гэта быў незвычайны агонь, пурпурны. У той жа момант чорны канчаткова закрыў ім дарогу да дзвярэй. Яны трапіліся ў пастку.

- Глядзі! - Герміёна падняла скрутак паперы, які ляжаў на адной з бутэлек. Гары, зазіраючы праз плячо, прачытаў:

*Небяспека ляжыць перад табой,*
*увесь спакой застаўся ззаду,*
*Двое з нас вам дапамогуць,*
*але трэ яшчэ нас адшукаць.*

*Адзін вядзе наперад,*
*Другі кажа, як адправіцца назад,*
*Двое сярод нас – бяспечныя, у іх крапіўнае віно,*
*Трое – забойцы з атрутай.*

*Каб не застацца вечна тут, зрабі свой выбар.*
*Для дапамогі мы даем табе падказку:*
*Першая, дзе б не хавалася атрута,*
*Заўсёды будзе злева ад яе крапіўнае віно,*

*Другая, розны змест у бутэлечках з канцоў,*
*Але калі табе трэба наперад, то можна іх не браць,*
*Трэцяя, кожная з нас памер свой уласны мае,*
*Ні гігант, ні карлік смерці ў сабе не хаваюць,*
*Чацвёртая, другія з канца бутэлькі,*
*Хоць знешне блізняты, але розныя ў сутнасці.*

Герміёна з палёгкай уздыхнула, і Гары ўбачыў, што яна ўсміхаецца. Апошняя рэч, якую ён ад яе чакаў у такую хвіліну.

- Супер! - сказала яна. - Гэта не магія, гэта логіка – як пазл. Шмат хто з найвялікшых чараўнікоў, якія не маюць нават уяўлення пра логіку, засеў бы тут назаўсёды.

- Хіба мы не такія?

- Канечне, не, - заявіла ўпэўнена Герміёна. - Усё, што нам трэба, ёсць на гэтай паперцы. Сем бутэлек, тры з атрутай, дзве з крапіўным віном, адна правядзе нас пра чорны агонь, другая праз пурпурны.

- Але як мы даведаемся, дзе якая?

- Дай мне хвіліну.

Герміёна перачытала тэкст на паперцы некалькі разоў, потым нахілілася да бутэлек, нешта спяваючы сабе пад нос і паказваючы на іх, урэшце пляснула ў ладкі.

- Бяры гэтую, - сказала дзяўчынка. - Найменшая бутэлька правядзе цябе праз чорны агонь... да каменя.

Гары паглядзеў на вельмі маленькую бутэлечку.

- Тут дастаткова толькі для аднаго з нас, - сказаў ён. - Тут хіба што адзін глыток.

Яны пераглянуліся.

- Якая правядзе назад праз пурпурны агонь?

Герміёна паказала на круглую бутэльку, якая стаяла справа з краю.

- Ты віп’еш гэтую, - сказаў Гары. - Не, паслухай, вяртайся назад і забяры Рона. Хапайце мётлы з пакою з ключамі, гэта дапаможа вам прамінуць Пушка. Потым ляціце прама да савоўні, дашліце Буклю да Дамблдлора. Нам ён патрэбны тут. Я буду намагацца стрымаць Снэйпа столькі, колькі змагу, але я, натуральна, яму не роўны.

- Але, Гары, што калі з ім будзе Сам-ведаеш-хто?

- Мне ўжо пашэнсіла адзін раз, хіба не? - сказаў Гары, паказваючы на свой шнар. - Можа, пашанцуе зноў.

Вусны Герміёны задрыжалі, і яна нечакана кінулася да Гары і абняла яго.

- Герміёна!

- Гары, ты вялікі чараўнік, ты ведай.

- Я не такі добры ў гэтай справе, як ты, - сказаў Гары, вельмі збянтэжаны, калі яна яго адпусціла.

- Як я! - сказала Герміёна. - Кнігі! І розум! Ёсць больш важныя рэчы за гэтыя – сяброўства і смеласць і ах, Гары, будзь асцярожным!

- Ты п’еш першай, - сказаў той. - Ты ж упэўненая, якая бутэлька якая?

- Абсалютна, - адказала дзяўчынка. Яна адпіла вялікі глыток з круглай бутэльцы і здрыганулася.

- Гэта не атрута? - запытаўся заклапочана Гары.

- Не, але гэта... як лёд.

- Ідзі хутчэй, пакуль гэтая штука дзейнічае.

- Удачы. Будзь асцярожным!

- ІДЗІ!

Герміёна развярнулася і пайшла прама праз пурпурнае полымя.



Гары глыбока ўздыхнуў і ўзяў маленькую бутэльку. Ён павярнуўся да чорнага агню.

- Ну вось і мая чарга, - сказаў ён і з аднаго глытка выпіў вадкасць з маленькай бутэлечцы.

Герміёна была права: сапраўды было адчуванне таго, што яго цела заільдзянела. Ён паставіў бутэльку і пайшоў наперад, абхапіўшы сабе рукамі. Гары бачыў, як чорныя сполахі лізалі ягонае цела, але не адчуваў іх. Некалькі момантаў ён не бачыў нічога акрамя агню, а потым аказаўся з іншага боку, у апошнім пакоі.

Тут ужо быў нехта. Але гэта не быў Снэйп. Гэта нават не быў Валдэрморт.



# Частка сямнаццатая

# Чалавек з двума тварамі

Гэта быў Квірэл.

- Ты! - закрычаў Гары.

Квірэл усміхаўся. Ягоны твар больш не торгаўся.

- Я, - сказаў ён спакойна. - А я ўсё разважаў, ці мы сустрэнемся тут, Потэр.

- Але, я думаў... Снэйп.



- Северус? - Квірэл засмяяўся і гэта не было ягонае звычайнае дрыготкае высокае хіхіканне, але халодны і калючы смех. - Да, Северус, вельмі падыходзіць на ролю злодзея, хіба не? Так карысна, калі гэты кажан-перарастак соўгаецца навокал. Хіба побач з ім нехта западозрыць б-б-беднага з-з-заіку п-прафесара Квірэла?

Гары не мог паверыць. Гэта не магло быць праўдай. Не магло.

- Але Снэйп спрабаваў забіць мяне!

- Не, не, не. Я спрабаваў забіць цябе. Твая сяброўка міс Грэнджэр выпадкова закранула мяне, калі яна даслала

агонь на Снэйпа на матчы па Квідычу. У выніку перашкодзіла мне бачыць цябе. Яшчэ пару секундаў і я б скінуў цябе з мятлы. І ўвогуле, гэта атрымалася б нават і раней, калі б не Снэйп, які мармытаў сабе пад нос контр-заклёны, спрабуючы выратаваць цябе.

- Снэйп спрабаваў выратаваць мяне?

- Канечне, - сказаў Квірэл прахалодна. - Чаму ты думаеш, ён вырашыў быць суддзём на наступным матчы? Ён жадаў ўпэўніцца, што я не зраблю гэта зноў.

Смешна, сапраўды... мог бы не турбавацца. Я не зраблю нічога такога на вачах у Дамблдлора. А ўсе астатнія выкладчыкі думаюць, што Снэйп спрабуе не даць «Грыфіндору» выйграць. Гэта пашкодзіла ягонай рэпутацыі. І ўсё дарма, бо я ўсё роўна заб›ю сёння ноччу.

Квірэл пстрыкнуў пальцамі. З паветра ўзніклі вяроўкі, якія падняліся ў паветры і абвіліся вакол Гары.



- Ты занадта цікаўны, каб жыць, Потэр. Сноўдацца вакол школы ў Хэлоўін, каб пабачыць, што я прыходзіў паглядзець, хто ахоўвае камень.

- Гэта вы запусцілі троля?

- Канечне. Кіраванне тролямі – мой асаблівы талент. Ты ж бачыў, што я зрабіў з тым, у мінулым пакоі? Нажаль, пакуль астатнія бегалі вакол, Снэйп, які ўжо падазраваў, адразу пайшоў на чацвёрты паверх, каб злавіць мяне. Нажаль, не толькі троль не здолеў стукнуць цябе да смерці, яшчэ і трохгаловы сабака не змог нармальна ўкусіць Снэйпа за нагу. Цяпер стой ціха, Потэр. Я хачу вывучыць гэтае цікавае люстэрка.

Толькі цяпер Гары заўважыў, што стаяла за Квірэлам. Гэта было люстэрка мараў.

- Гэтае люстэрка - ключ да таго, каб знайсці камень, - прамармытаў Квірэл, пагрукваючы па раме. - Я так і думаў, што Дамблдлор зробіць нешта накшталт такога... але ж ён у Лондане. А я буду далёка, калі ён вернецца...

Гары мог думаць толькі, як бы заняць Квірэла размовай і не звяртаць увагу на люстэрка.

- Я бачыў вас і Снэйпа ў лесе, - выпаліў ён.

- Так, - сказаў Квірэл, працягваючы лянiва прагульвацца вакол люстэрка. - Ён быў са мной, бо спрабаваў зразумець, наколькі далёка я прасунуўся. Ён падазраваў мяне ўвесь час. Спрабаваў напалохаць мяне – прынамсі ён думаў, што можа. Але ж сам Лорд Валдэрморт на маім баку...

Квірэл выйшаў з-за люстэрка і прагна ўтаропіўся на яго.

- Я бачу камень... Я аддаю яго свайму гаспадару... але дзе ён?

Гары пры гэтым ціха змагаўся з вяроўкамі, якія яго трымалі, але яны не паддаваліся. Ён падумаў, што павінны адцягнуць увагу Квірэла ад люстэрка.

- Але Снэйп заўсёды выглядаў так, быццам мяне вельмі моцна ненавідзець.

- О, канечне ён цябе ненавідзець, - сказаў Квірэл мімаходам, - нябёсы, канечне ненавідзець. Ён вучыўся ў «Хогвардсе» з тваім бацькам, ты ведаў? Яны не пераносілі адзін аднаго. Але ён ніколі не хацеў тваёй смерці.

- Але я чуў, як вы плакалі некалькі дзён таму. Я думаў, што Снэйп пагражаў вам...

Упершыню, грымаса страху мільганула на твары Квірэла.

- Часам, - сказаў ён, - мне бывае цяжка выконваць інструкцыі майго гаспадара. Ён вялікі чараўнік, а я слабы...

- Вы маеце на ўвазе, што былі ў класе з ім? - ахнуў Гары.

- Ён са мной, куды б я не пайшоў, - сказаў ціха Квірэл. - Я сустрэў яго пад час свайго падарожжа вакол свету. Я тады быў дурным маладым хлапцом, поўным смешных ідэяў пра дабро і зло.

Лорд Валдэрморт паказаў мне, як я памыляўся. Няма зла і дабра, ёсць толькі моц, і занадта слабыя, каб шукаць яе. З таго часу я сумленна служыў яму, хоць падводзіў яго шмат разоў. За гэта ён мяне жорстка караў.

Квірэл раптам здрыгануўся.

- Ён нялёгка прабачае памылкі. Калі я праваліў крадзеж каменя з «Грынгатса», ён быў незадаволены найбольш. Ён пакараў мяне. Вырашыў, што ён павінны быць яшчэ бліжэй да мяне, каб назіраць...

Голас Квірэла заціх. Гары прыгадаў сваё падарожжа ў Касы завулак. Як ён мог быць такім дурням? Ён бачыў там Квірэла ў той дзень і нават паціснуў яму руку ў «Дзіравым катле».

Квірэл вылаяўся.

- Я не разумею... хіба камень унутры люстэрка? Можа, я павінны разбіць яго?

Думкі Гары панесліся наперад... Што я хачу больш за ўсё на свеце ў гэты момант, думаў хлопчык, дык гэта знайсці камень раней за Квірэла. Таму, калі я пагляджу ў люстэрка, я пабачу яго, дзе ён схаваны. Але як гэта зрабіць, каб Квірэл ні аб чым не здагадаўся?

Ён паспрабаваў перасунуцца трохі ўлева і зазірнуць у люстэрка, каб Квірэл гэтага не заўважыў, але вяроўкі вакол шчыкалатак былі занадта тугія. Хлопчык спатыкнуўся і ўпаў. Квірэл не звярнуў на гэта ўвагу. Ён усё яшчэ размаўляў сам з сабой.




- Што павінна зрабіць гэтае люстэрка? Як яно працуе? Дапамажы мне, гаспадар!

Да жаху Гары пачуўся голас у адказ, і голас быццам бы таксама ішоў ад Квірэла.

- Выкарыстай хлапца... выкарыстай хлапца...

Квірэл павярнуўся да Гары.

- Так, Потэр, ідзі сюды.

Ён пляснуў у далоні і вяроўкі, якія звязвалі Гары зніклі. Гары павольна падняўся на ногі.

- Ідзі сюды, - паўтарыў Квірэл. - Паглядзі на люстэрка і скажы, што бачыш.

Гары падышоў да яго.

Я павінны схлусіць, адчайна думаў ён. Я павінны паглядзець і прыдумаць тое, што я бачу. Гэта ўсё.

Квірэл падышоў бліжэй ззаду яго.

Гары адчуў моцны дзіўны пах, які ішоў з турбана Квірэла. Ён заплюшчыў вочы, стаўшы перад люстэркам, а потым іх зноў расплюшчыў.

Першым чынам ён убачыў сваё адлюстраванне, белы і спужаны твар. Але імгненнем пазней адлюстраванне ўсміхнулася яму. Яно залезла ў сваю кішэню і дастала адтуль  крывава-чырвоны камень. Гары з люстэрка падмаргнуў яму і паклаў камень назад у сваю кішэню. Пасля гэтага Гары адчуў нешта цяжкое ў сваёй сапраўднай кішэні. Неяк, неверагодна, ЁН АТРЫМАЎ КАМЕНЬ.

- Ну? - запытаўся Квірэл нецярпліва. - Што ты бачыш?

Гары набраўся мужнасці.

- Я бачу, каб мне паціскае руку Дамблдлор, - знайшоўся ён. - Я выйграў кубак школы для «Грыфіндора».

Квірэл зноў чартыхнуўся.

- Сыдзі з дарогі! - калі Гары адсунуўся, ён зноў адчуў Філасофскі камень каля сваёй нагі. Можа, рызыкнуць збегчы?

Але ён не паспеў прайсці і пяці крокаў, як высокі голас, які не ішоў праз вусны Квірэла, спыніў яго.

- Ён хлусіць... ён хлусіць...

- Потэр, вярніся! - закрычаў Квірэл. - Скажы мне праўду! Што ты бачыў?!

Высокі голас загаварыў зноў.

- Дай мне з ім паразмаўляць. Твар да твару.

- Гаспадар, але вы не дастаткова моцны!

- Для гэтага ў мяне моцы дастаткова...

Гары адчуў, быццам д›яблава пастка зноў сціскае яго грудзі. Ён не мог паварушыць аніводным мускулам. Скамянелы, ён назіраў, як Квірэл пацягнуўся і пачаў размотваць свой турбан. Што ён робіць? Турбан быў зняты. Квірэл выглядаў дзіўна малым без яго. Потым ён павольна павярнуўся на месцы.

Гары б закрычаў, але не мог выціснуць з сабе ніводнага гуку. Там, дзе ў Квірэла павінна была быць патыліца, там быў твар. Больш жахлівага твару Гары ніколі не бачыў. На белай колеру крэйды скуры гарэлі чырвоныя вочы, носу не было, а толькі ноздры быццам у змяі.

- Гары Потэр, - зашыпела гэта.



Гары паспрабаваў адступіць на крок, але ягоныя ногі не рухаліся.

- Бачыш, якім я стаў? - сказаў твар. - Толькі ценем і дымам... У мяне хапае моцаў існаваць у іншым целе. Але заўсёды былі тыя, хто аддае мне свае сэрцы і розумы.

Кроў адзінарога ўзмацніла мяне, гэтымі апошнімі тыднямі... ты бачыў вернага Квірэла, які піў яе для мяне ў лесе.. і калі ў мяне будзе эліксір жыцця.  Здолею  стварыць для сабе цела. Цяпер... Чаму ты не кажаш, што філасофскі камень у тваёй кішэні?

Ну вось, ён ведае. Адчуванні нечакана вярнуліся да ног Гары. Ён кінуўся бегчы.

- Не будзь ідыётам! - гыркнуў твар. - Лепей захавай сваё жыццё і ідзі да мяне...

Ці табе наканаваны той жа лёс, што і тваім бацькам. Перад смерцю яны прасілі ў мяне аб літасці...

- ХЛУСНЯ! - закрычаў Гары.

Квірэл хадзіў вакол спінай да яго, каб Валдэрморт мог яго бачыць. Д›ябальскі твар не ўсміхаўся.

- Як кранальна, - прашыпеў ён. - Я заўсёды паважаў смелых... Да, хлапец, твае бацькі былі смелымі... Я забіў першым твайго бацьку, і ён мужна змагаўся... але патрэбы забіваць тваю маці не было... яна спрабавала абараніць цябе... Цяпер аддай мне камень, калі не хочаш, каб яе смерць была марнай.

- НІКОЛІ!

Гары скокнуў да агнявых дзвярэй, але Валдэрморт закрычаў:

- ЗЛАВІ ЯГО!

У наступную секунду Гары адчуў, як рукі Квірэла схапілі яго за запясці. У той жа момант рэзкі пранізлівы боль апаліў шнар Гары, падавалася, што яго галава зараз расколецца на два кавалкі, ён закрычаў і на яго здзіўленне Квірэл адпусціў яго.

Боль у галаве паменшылася. Ён дзіка агледзеўся і ўбачыў, што Квірэл адышоў, згорбіўся ад болю і глядзеў на свае пальцы ў пухірах апёкаў.

- Схапі яго! ЛАВІ ЯГО! - зноў закрычаў Валдэрморт, і Квірэл зрабіў выпад, спрабуючы злавіць Гары. Шнар Гары, падавалася гарыць, асляпляючы яго. Але ён пачуў, як Квірэл вые ад болю.

- Гаспадар, я не магу дакрануцца да яго... мае рукі... ооо мае рукі!

І Квірэл, хаця Гары ўжо ўпаў на калені, адпусціў яго шыю і ўтаропіўся на свае рукі. Хлопчык пабачыў, што скура на іх выглядала спаленай, яны былі чырвоныя, колеру сырога мяса і бліскучыя.

- Дык забі яго, ідыёт, і сыходзім! - крычаў Валдэрморт.

Квірэл падняў руку для смяротнага праклёну, але Гары інстыктыўна схапіў яго за твар.

- ААААААА!

Квірэл адскочыў ад яго, яго твар стаў такім жа як рукі. Гары зразумеў, што ён не можа да яго дакрануцца без жахлівага болю. Гэта быў ягоны адзіны шанец: трымаць прафесара, каб яму было так балюча, і ён не мог накласці заклён.

Гары ускочыў на ногі, схапіў Квірэла за рукі і прыціснуў да сабе так моцна, як толькі мог. Той закрычаў і паспрабаваў адкінуць Гары прэч. Боль у галаве Гары стаў амаль невыносным, ён не мог бачыць, ён мог толькі чуць страшэнныя крыкі Квірэла і патрабаванні Валдэрморта:

- ЗАБІ ЯГО! ЗАБІ!

Іншыя галасы, магчыма, у галаве Гары крычалі:

- Гары! Гары!

Ён адчуў, што рукі Квірэла адпусцілі яго, зразумеў, што ўсё скончана. І праваліўся ў чарнату ўсё ніжэй... ніжэй... ніжэй...

***

Нешта залатое блішчала над ім. Снітч! Ён паспрабаваў злавіць яго, але ягоныя

рукі былі такія цяжкія.

Ён міргнуў. Не было там ніякага снітчу. Гэта была пара акуляраў. Як дзіўна.

Ён міргнуў зноў. Усміхаючыся твар Альбуса Дамблдлора плаваў над ім.

- Дзень добры, Гары, - сказаў Дамблдлор.

Гары ўтаропіўся на яго, потым прыгадаў:

- Сэр! Камень! Гэта быў Квірэл! Ён забраў камень! Сэр, хутчэй...

- Супакойся, дарагі хлопча, ты трохі адстаў ад жыцця, - сказаў у адказ Дамблдлор. - У Квірэла няма каменя.



- А ў каго ён? Сэр, я...

- Гары, калі ласка, адпачывай, ці мадам Помфры пагоніць мяне прэч.

Гары прыпадняўся і агледзеўся вакол. Ён зразумеў, што знаходзіцца ў бальнічным крыле. Ён ляжаў на ложку з белымі прасцінамі, а стол каля яго нагадваў цукерачную краму.

- Падарункі ад сяброў і прыхільнікаў – патлумачыў Дамблдлор, ззяючы. - Тое, што здарылася знізу ў падвалах паміж табой і прафесарам Квірэлам – вялікі сакрэт, таму, натуральна, пра гэта ведае ўжо ўся школа.

Я думаю, гэта твае сябры містар Фрэд і містар Джордж Уізлі даслалі табе крышку ад ўнітаза з бліжэйшай прыбіральні. Без сумневаў, яны думалі, што павесяляць цябе. Мадам Помфры, тым не менш, палічыла падарунак негігіенічным і канфіскавала яго.

- Як доўга я тут?

- Тры дні. Містар Рональд Уізлі і міс Грэнджэр будуць вельмі ўсцешаныя, што ты ачуняў. Яны вельмі хваляваліся.

- Але, сэр, камень...

- Я бачу, ты ні пра што іншае думаць не можаш. Добра, камень. Прафесар Квірэл не здолеў забраць яго ў цябе. Я з'явіўся своечасова, каб перашкодзіць гэтаму, хаця, я павінны адзначыць, што ты і сам няблага спраўляўся.

- Як вы даведаліся? Атрымалі саву Герміёны?

- Мы, напэўна, размінуліся ў паветры. Не паспеў я дабрацца да Лондана, як адчуў, што павінны быць у месцы, якое толькі што пакінуў. Я адразу ж паляцеў назад і такім чынам змог вырваць цябе з рук Квірэла.

- Гэта былі вы...

- Я баяўся, што спазніўся.

- Вы былі блізкія да гэтага, я не мог далей трымаць яго падалей ад каменю.

- Не камень, хлопча, ты. Гэтая барацьба амаль не забіла цябе. У нейкі жахлівы момант я падумаў, што ўсё кепска. Што тычыцца каменя, то ён знішчаны.

- Знішчаны? - перапытаў здзіўлена Гары. - Але ваш сябра Нікаля Фламель...

- О, ты ведаеш наконт Нікаласа? - Дамблдлор быў задаволены. - Ты дакапаўся да самай сутнасці падзеяў, хіба не? Мы з Нікаласам трохі паразмаўлялі, і ён згадзіўся, што гэта найлепшы выхад.

- Але гэта значыць, што ён і ягоная жонка памруць?

- У іх дастаткова эліксіру, каб скончыць свае справы. А потым... Так, потым яны памруць.

Дамблдлор усміхнуўся, гледзячы на здзіўлены твар Гары.

- Ты занадта малады, каб зразумець, але для Нікаласа і Перэнелі гэта будзе адпачынак пасля доўгага, вельмі доўгага дню. Акрамя таго, смерць для добра арганізаванага розуму быццам наступная вялікая прыгода.

Ведаеш, камень – гэта не такая ўжо супер-рэч. Так, ён дае шмат грошаў і жыцця столькі, колькі пажадаеш! Гэта тыя дзве рэчы, якія абрала б для сабе большасць людзей абралі, нажаль, людзі часта абіраюць тое, што для іх найгоршае.

Гары ляжаў, не знаходзячы словаў. Дамблдлор прамурлыкаў нейкую мелодыю і усміхнуўся.

- Сэр? Я падумаў... сэр, нават калі каменя болей няма... Вал... я маю на ўвазе, Самі-Ведаеце-Хто...

- Называй яго Валдэрморт, Гары. Заўсёды называй рэчы сваімі імёнамі. Інакш гэта толькі павялічвае страх.

- Так, сэр. Валдэрморт збіраецца паспрабаваць іншыя спосабы, каб вярнуцца? Ён жа не памёр?

- Не, не змог. Ён зараз недзе там... магчыма, шукае новае цела, каб жыць у ім. Так як ён не сапраўды жывы, яго нельга забіць. Ён пакінуў Квірэла паміраць, паказаўшы, што дае сваім прыхільнікам столькі ж міласэрднасці, колькі сваім ворагам.

Тым не меней, Гары, у гэты раз ты толькі адклаў ягонае вяртанне, ён проста ў наступны раз возьме кагосьці яшчэ, хто гатовы змагацца за яго ў гэтай безнадзейнай барацьбе. І калі гэта не атрымаецца зноў і зноў, то ён можа ніколі не вярнуцца.

Гары паспрабаваў кіўнуць, але хутка спыніўся на паўдарозе, бо ад гэтага забалела галава. Потым сказаў:

- Сэр, ёсць яшчэ рэчы, пра якія я хацеў бы ведаць, калі вы зможаце мне распавесці... Я жадаю ведаць праўду пра...

- Праўда, - Дамблдлор уздыхнуў, - гэта выдатная і адначасова жахлівая рэч, да якой трэба ставіцца з вялікай засцярогай. Тым не менш, я адкажу на твае пытанні, калі толькі ў мяне не будзе вельмі важкай прычыны не рабіць гэтага. У такім выпадку, я спадзяюся, ты мне даруеш. Канечне, я не буду хлусіць.

- Так, Валдэрморт сказаў, што забіў маю маці толькі таму, што яна спрабавала абараніць мяне. Але чаму ён увогуле вырашыў мяне забіць?

На гэты раз Дамблдлор ўздыхнуў яшчэ глыбей.

- Нажаль, на першае ж тваё пытанне я не магу адказаць. Не сёння. Не зараз. Ты даведаешся, аднойчы. Пакуль што выкінь гэта з галавы, Гары. Калі ты будзеш старэйшым... Я ведаю, ты ненавідзіш чуць такое, але даведаешся, калі ты будзеш гатовы.

- Але чаму Квірэл не мог да мяне дакрануцца?

- Твая мама загінула, абараняючы цябе. Калі ёсць рэч, якую Валдэрморт не можа зразумець, дык гэта любоў. Ён не разумее, што любоў такая ж моцная, і твая мама пакінула на цябе свой знак. Не шнар, але нябачны знак. Калі любоў - такая глыбокая, то чалавек нават калі памірае, дае нам сваю абарону назаўжды. У тым ліку і на скуры.

Квірэл - поўны нянавісці, прагнасці і амбіцыяў, падзяліў гэта ўсё з душой

Валдэрморта і не мог да цябе дакрануцца. Для яго было невыносна дакранацца да чалавека, пазначанага такім дабром.

Дамблдлор раптам вельмі зацікавіўся птушкай на падваконні. А Гары у гэты час выцер вочы рукавом. Калі да хлопчыка вярнуўся голас, ён запытаўся:

- А нябачная мантыя... вы ведаеце, хто даслаў яе мне?

- О, так здарылася, што твой бацька пакінуў яе мне, і я падумаў, што яна табе спадабаецца, - вочы Дамблдлора заблішчалі. - Надзвычай карысная рэч... твой бацька, калі ён вучыўся тут, у асноўным выкарыстоўваў яе, каб красці з кухні ежу.

- І апошняе...

- Давай.

- Квірэл сказаў, што Снэйп...

- Прафесар Снэйп, Гары.

- Так, ён. Квірэл сказаў, ён ненавідзіць мяне, бо ненавідзеў майго бацьку. Гэта праўда?

- Так, яны сапраўды не любілі адзін аднаго. Прыкладна так, як ты і містар Малфой. І потым твой бацька зрабіў нешта, што Снэйп так і не здолеў яму дараваць.

- Што?

- Ён выратаваў Снэйпу жыццё.

- Што?!

- Так, - сказаў Дамблдлор задумліва. - Цікава, як у людзей працуе розум, ці не так? Прафесару Снэйпу было невыносна тое, што ён застаўся вінаватым твайму бацьку.... Я думаю, што ён так апантана абараняў цябе ўвесь год, каб разлічыцца з пазыкамі мінулага. Потым ён спакойна зможа працягваць ненавідзець твайго бацьку...

Гары спрабаваў зразумець гэта, але ад гэтага толькі пачынала мацней балець галава.

- І сэр, яшчэ адна штука...

- Толькі адна?

- Як я атрымаў камень з люстэрка?

- Ммм, як... я ўсцешаны, што ты запытаўся пра гэта. Гэта была адна з маіх бліскучых ідэяў, і, паміж намі, гэта чагосьці ды значыць. Разумееш, толькі той, хто жадаў знайсці філасофскі камень, знайсці, але не выкарыстаць, мог яго ўзяць. У адваротным выпадку ён проста бачыў, як ён здабывае золата або п’е эліксір жыцця.



Мой розум часам мяне здзіўляе. Цяпер дастаткова пытанняў. Я думаю, табе паспрабаваць гэтыя прысмакі. Ах! Усесмачныя арэшкі Бэці Бот! Нажаль, у маладосці мне не вельмі шэнсіла з імі, трапіўся адзін са смакам ванітаў. Пасля гэтага я баюся спрабаваць іх. Але я думаю, нічога страшнага, калі я з›ем вось гэты колеру ірыскі, хіба не?

Ён усміхнуўся і закінуў залаціста-карычневы арэшак у рот. Прафесар папярхнуўся:

- Кашмар! Вушная сера!

***

У палату зайшла мадам Помфры, медсястра, прыязная, але вельмі строгая жанчына.

- Толькі пяць хвілінаў, - папрасіў Гары.

- Катэгарычна не.

- Але ж прафесару Дамблдлору дазволілі?

- Тое, што ён дырэктар, змяняе сітуацыю. І табе трэба адпачыць.

- Я ж адпачываю. Паглядзіце, ляжу і ўсё. Ах, ну калі ласка, мадам Помфры...

- О, ну ладна, - сказала яна. - Але толькі пяць хвілінаў.

І яна дазволіла ўвайсці Рону і Герміёне.

- Гары!

Герміёна была гатовая кінуцца яму на шыю, але Гары быў ўсцешаны, што яна стрымалася, бо галава ў яго ўсё яшчэ вельмі балела.

- О, Гары, мы ўжо вырашылі што... Дамблдлор так хваляваўся...

- Уся школа толькі пра гэта і размаўляе, - сказаў Рон. - А што насамрэч здарылася?

Гэта быў адзін з тых рэдкіх выпадкаў, калі сапраўдная гісторыя была нават больш дзіўная і захапляльная, чым дзікія чуткі. Гары расказаў ім усё: пра Квірэла, люстэрка, камень і Валдэрморта.

Рон і Герміёна былі вельмі добрымі слухачамі, яны ахалі ва ўсіх патрэбных месцах, а калі Гары казаў пра тое, што было пад турбанам Квірэла, Герміёна нават ускрыкнула.

- Дык што камень знішчаны? - урэшце запытаўся Рон. - І Фламель цяпер памрэ?

- Менавіта так я і сказаў, але Дамблдлор думаеш, што ... як там было... што для добра арганізаванага розуму смерць – гэта яшчэ адна вялікая прыгода.

- Я заўсёды казаў, што ён не ў сваім розуме, - сказаў Рон, выглядаючы трохі ўражаным: такім вар'ятам аказаўся ягоны герой.

- А што здарылася з вамі двума?

- Ну, я вярнулася, усё было ў парадку, - сказала Герміёна. - Прывяла Рона ў прытомнасць, што запатрабавала даволі шмат часу, і мы пабеглі ў савоўню, каб даслаць саву Дамблдлору. Але сустрэлі яго ў холе, ён ужо ўсё ведаў, толькі сказаў: «Гары пайшоў за ім, так?» - і памчаўся на чацвёрты паверх.

- Думаеш, ён ведаў, што будзе надалей? - сказаў Рон. - Ён жа даслаў табе мантыю твайго бацькі і астатняе?

- ШТО? - узарвалася Герміёна. - Калі ён ведаў... я хачу сказаць, гэта жахліва: ты мог загінуць!

- Не, - сказаў Гары глыбокадумна. - Ён дзіўны чалавек, гэты Дамблдлор. Я думаю, ён хацеў даць мне шанец. Я думаю, ён ведаў болей ці меней пра тое, што адбывалася тут.

Мабыць, ён ведаў і тое, што мы збіраемся рабіць, і замест таго, каб спыніць нас, вырашыў навучыць таму-сяму і прыйшоў на дапамогу ў патрэбны момант. Я не думаю, што гэта было выпадковасцю, што ён даў мне магчымасць зразумець, як працуе люстэрка. Падаецца, ён думаў, што я магу сустрэцца твар да твару з Валдэрмортам...




- Даа, у Дамблдлора рэальна сарвала дах, - з гонарам прамовіў Рон. - Слухай, заўтра будзе свята ў гонар заканчэння навучальнага году. Па балах «Слізэрын» перамагае, канечне, ты ж прапусціў апошні матч па квідычу, нас раскатаў «Равенкло». Але затое будзе многа смачнай ежы.

У гэты момант у палату ўварвалася мадам Помфры.

- Вы тут прасядзелі ўжо 15 хвілінаў, цяпер прэч адсюль!

***

Адаспаўшыся за ноч, Гары адчуваў сабе амаль здаровым.

- Я хачу пайсці на свята, - сказаў ён мадам Помфры, калі тая папраўляла на ягонай тумбачцы вялікую колькасць каробак з цукеркамі. - Я магу, праўда ж?

- Прафесар Дамблдлор сказаў, што табе можна пайсці, - паведаміла саркастычна лекарка, быццам, на яе меркаванне, прафесар Дамблдлор не разумеў, наколькі рызыкоўнымі могуць быць святы. - І да, да цябе зноў госці.

- О, крута, - сказаў Гары. - Хто там?

У наступны момант Хагрыд праціснуўся ў палату. Як звычайна, ён выглядаў занадта вялікім для пакою. Ён сеў побач з Гары, кінуў на хлопчыка адзін позірк і заплакаў.

- Гэта ... ўсё... мая... віна! - ён рыдаў, схаваўшы твар у далонях. - Я казаў злыдні, як абмінуць Пушка! Я сказаў яму! Гэта была адзіная рэч, якую я ведаў, і я сказаў яму! Тыыы мог памерці! Усё дзеля гэтага яйка цмока! Я ніколі не буду піць зноў! Мяне трэба выгнаць, каб я жыў з магламі

- Хагрыд! - сказаў Гары, шакаваны тым, як дрыжыць ад гора і згрызотаў сумлення велікан, буйныя слёзы цяклі па ягонай калматай барадзе. - Хагрыд, ён бы неяк даведаўся, гэта ж Валдэрморт, ён бы даведаўся, нават калі б ты не сказаў яму.

- Але ты мог загінуць, - рыдаў Хагрыд. - ах, не кажы гэтае імя!

- ВАЛДЭРМОРТ! - закрычаў Гары, Хагрыд быў настолькі здзіўлены, што спыніў рыдаць. - Я сустрэўся з ім, і я называю яго сапраўдным імем. Калі ласка, супакойся, Хагрыд, мы выратавалі камень, ён знішчаны, і цяпер ён яго ўжо не здолее выкарыстаць. Вазьмі шакаладную жабку, і не грузі мяне...

Хагрыд выцер нос рукавом і сказаў:

- Гэта наг’дала мне, што ў мне ёсць пад’рунак.

- Гэта ж не сэндвіч з гарнастаем, спадзяюся? - запытаўся Гары з трывогай, і гэта нарэшце выклікала ў Хагрыда слабую ўсмешку.

- Кхе, Дамблдлор даў мне выходны ўчора. Канечне, ён павінны быў мяне звольніць, але вось...



Ён працягнуў хлопчыку прыгожую кніжку з скуранай вокладкай. З цікаўнасцю Гары расчыніў яе. Альбом – а гэта быў ён – быў напоўнены фотаздымкамі чараўнікоў, якія ўсміхаліся і махалі яму з кожнай старонкі. Гэта былі ягоныя тата і мама.

- Даслаў саву ўсім старым школьным сябрам ттваіх бацькоў, запытаўсся іх пра ф'та... Ведаў, што ў цябе няма івонага... падабаецца?

Гары не змог вымавіць ані слова, але Хагрыд і так усё зразумеў.

***

Гары спусціўся у вялікую залю на выпускны ў адзіноце. Ён з цяжкасцю вырваўся ад мадам Помфры, якая завіхалася вакол яго і настойвала на апошнім аглядзе, так што да яго прыходу вялікая зала была ўжо поўная вучнямі. Яна была ўпрыгожаная колерамі «Слізэрына» - зялёным і срэбраным, у гонар таго, што факультэт сем год запар выйграў кубак школы. Сцяну за сталом настаўнікаў цалкам закрываў вялізны банер са змяёй «Слізэрына».

Калі Гары ўвайшоў наступіла раптоўная цішыня, а затым усё пачалі казаць гучна і адразу. Ён слізгануў ў крэсла паміж Ронам і Герміёнай за сталом «Грыфіндора» і стараўся не звяртаць увагі на тое, што людзі стаялі і глядзелі на яго.

На шчасце, праз пару хвілінаў зайшоў Дамблдлор. Шум заціх.

- Яшчэ адзін год скончыўся! - сказаў весела Дамблдлор. - Але перад тым, як вы ўсе пачнеце есці найсмачнейшае смакоцце, я павінен патурбаваць вас яшчэ трохі дробязямі старога дырэктара. Спадзяюся, вашыя галовы цяпер усё ж трохі больш поўныя ведамі, чым яны былі. Але ў вас усё лета наперадзе, каб зноў іх спустошыць...

Цяпер, трэба абвесціць вынікі змагання за кубак школы, вынікі - наступныя: на чацвёртым месцы - «Грыфіндор» з 312 баламі, на трэцім - «Хафлпуф» з 352, другім - «Ровенкло» з 426 баламі і на першым - «Слізэрын» з 472 баламі.



Ад сталоў «Слізэрына» раздаўся аглушальны шторм апладысментаў. Гары бачыў, як Драко Малфой грукаў срэбраным кубкам па стале. Гэта было ванітнае відовішча.

- Так, так, выдатна, «Слізэрын», - сказаў Дамблдлор. - Аднак, павінны быць прынятыя да ўвагі апошнія падзеі...

У залі ўсе замерлі. Усмешкі «слізэрынцаў» зніклі.

- Ага, - сказаў Дамблдлор. - У мяне ёсць трохі дадатковых балаў, каб раздаць іх вучням. Дайце паглядзець. Так... Першыя для містара Рональда Уізлі...

Рон пачырванеў да вушэй і стаў падобны на бурак.




- За найлепшую партыю ў шахматы, згуляную ў «Хогвардсе», я ўзнагароджваю «Грыфіндор» 50 баламі.

Ад гучнага «Ура!» «грыфіндорцаў», падалося, што пачалі вагацца зоркі на столі.

Чулася, як Персі казаў іншым старастам:

- Мой брат, ведаеце! Мой малодшы брат! Ён прайшоў праз шахматы МакГонагал!

Урэшце рэшт зноў усталявалася цішыня.

- Другое для Герміёны Грэнджэр... за выкарыстанне халоднай логікі, у той час, як вакол палаў агонь, я ўзнагароджваю факультэт «Грыфіндора» 50 баламі.

Герміёна схавала твар у далонях. Гары падазраваў, што яна плакала. «Грыфіндорцы» ўскочылі - яны атрымалі адразу сто балаў.

- Трэцяе для містэра Гары Потэра, - сказаў Дамблдлор. У пакоі стала зусім-зусім ціха. – за моцныя нервы і надзвычайную смеласць я ўзнагароджваю «Грыфіндор» шасцюдзесяццю баламі.

У залі падняўся аглушальны шум. Тыя, хто здагадаўся лічыць, пакуль астатнія крычалі і абдымаліся, ведалі, што ў «Грыфіндора» цяпер было 472 бала, столькі ж, колькі ў «Слізэрына».

Зараз яны дзеляць кубак школы… але маглі б і выйграць, калі б толькі Дамблдлор даў Гары на 1 бал болей.

Дамблдлор узняў рукі. Заля зноў суцішылася.

- Мужнасць, - сказаў Дамблдлор, усміхаючыся. – не толькі ў тым, каб супрацьстаяць ворагам, але і ў тым, каб супрацьстаяць сябрам. Таму я дзесяць балаў атрымлівае спадар Нэвіл Лонгботам.

Нават за межамі Вялікай залі добра чулі выбух галасоў, крыкаў і віншаванняў ад сталоў «Грыфіндору». Гары, Рон і Герміёна ўскочылі і радасна віталі Нэвіла, які, збялелы, знік сярод людзей, што кінуліся яго абдымаць. За ўвесь год ён не зарабіў для факультэту ніводнага балу.

Гары ў захапленні штурхнуў Рона ў бок і паказаў на Малфоя, які не мог выглядаць больш уражаным, нават калі б на яго наклалі заклён Звяжы-Цела.

- Што значыць, - Дамблдлор лёгка спыніў процьму апладысментаў, якім «Равенкло» і «Хафлпуф» святкавалі паразу «Слізэрына», - мы павінны трохі змяніць дэкарацыі.

Ён пляснуў у ладкі. У выніку зялёныя заслоны сталі пунсовымі, срэбра змянілася на золата, велізарныя змеі зніклі, «грыфіндорскі» леў заняў сваё месца.



Снэйп paціснуў руку прафесару МакГонагал, з вымучанай усмешкай. Ён паглядзеў у вочы Гары, і хлочык зразумеў, што пачуцці Снэйпа да яго не змяніліся ні на кроплю.

Але гэта больш не хвалявала Гары. Выглядала, быццам жыццё вернецца да нармальнага ў наступны навучальны год настолькі, наколькі нешта можа быць нармальным у «Хогвардсе».

Гэта быў найлепшы вечар у жыцці Гары, лепей нават чым перамога ў квідычы ці Каляды, ці тады, калі яны вырубілі горнага троля... ён ніколі-ніколі не забудзе гэтую ноч.

***

Калі прыйшлі вынікі іспытаў, Гары ўжо амаль забыўся на іх існаванне. Для яго вялікай неспадзяванкай было то, што абодва, ён і Рон, здалі іх даволі няблага. Герміёна, канечне, была найлепшай сярод першакурснікаў.

Нават Нэвіл перайшоў на другі курс, ягоныя добрыя адзнакі па травазнаўству скампенсавалі жахлівыя вынікі па зелляварэнню. Яны спадзяваліся, што Гойла, які быў амаль такі ж тупы, як злосны, усё ж выпхнуць з «Хогвардсу», аднак ён таксама ўсё паздаваў. Гэта было крыўдна, але як сказаў Рон, нельга мець усё і адразу.

***

І вось зусім нечакана іх шафы апусцелі, рэчы былі спакаваныя, жабу Нэвіла знайшлі, калі яна хавалася ў куце прыбіральні. Усе студэнты атрымалі нататкі, дзе было запісана пра забарону выкарыстоўваць чараўніцтва пад час вакацыяў («Я заўсёды спадзяюся, што яны забываюць даць нам гэтыя паперкі», - сказаў Фрэд Уізлі сумна).

Хагрыд быў каля возера, каб рассадзіць іх на лодкі, потым яны дабраліся да «Хогвардс Экспрэсу», смяяліся і размаўлялі ў той час, як сельская мясцовасць станавілася больш зялёнай і ахайнай, елі Усесмачныя арэшкі Бэці Бот.

Калі за вокнамі з›явіліся маглаўскія гарады, дзеці сцягнулі манціі і апранулі курткі і паліто. І вось нарэшце выйшлі на платформе дзевяць і тры чвэрці на вакзале «Кінгс Крос».

Спатрэбілася нямала часу, каб яны ўсе выйшлі платформу. Кантралёр стаяў

каля праходу і дазваляў дзецям праходзіць праз праход па двое ці па трое, каб яны не прыцягвалі ўвагі маглаў.

- Вы павінны прыехаць і правесці з намі гэтае лета, - сказаў Рон, - Вы абодва. Я дашлю вам саву.

- Дзякуй, - сказаў Гары, - Я буду чакаць.

У плыні натоўпу сябры рухаліся да выхаду ў маглаўскі свет. Некаторыя з вучняў «Хогвардса» крычалі:



- Пакуль, Гары!

- Пабачымся, Потэр!

- Ты знакамітасць, - сказаў Рон, усміхнуўшыся.

- Не там, куды я іду, магу цябе запэўніць, - сказаў Гары.

Ён, Рон, і Герміёна прайшлі праз вароты разам.

- Гэта ён, мама, гэта ён, глядзі!

Гэта была Джыні Ўізлі, малодшая сястра Рона, і паказвала яна зусім не на брата.

- Гары Потэр! - крычала яна. - Глядзі, мам! Я яго бачу.

- Цішэй, Джыні, і гэта непрыстойна паказваць пальцам.

Місіс Уізлі усміхнулася яму зверху ўніз.

- Складаны год? - запыталася яна.

- Вельмі, - сказаў Гары. - Дзякуй за смакоцце і швэдар, місіс Уізлі.

- О, няма за што, даражэнькі.

- Ты, там, гатовы?

Гэта быў дзядзя Вернан, які зусім не змяніўся, з пурпурным тварам, з тымі ж вусамі, які выглядаў разлаваным і знерваваным пабачыўшы Гары, які нёс клетку з савой на станцыю, поўную звычайных людзей. Ззаду стаялі цёця Пятуння і Дадлі, якія ў жаху глядзелі на Гары.

- Вы, пэўна, сваякі Гары! - усклікнула місіс Уізлі.

- Можна і так сказаць, - адгукнуўся дзядзя Вернан. - Паспяшайся, хлопча, мы не можам тут стаяць цэлы дзень.

Ён адышоў прэч.

Гары затрымаўся, каб развітацца з Ронам і Герміёнай.

- Пабачымся летам.

- Спадзяюся, у цябе будуць добрыя канікулы, - сказала Герміёна, якая, пазнаёміўшыся з дзядзькам Вернанам, зусім не была ў гэтым ўпэўненая.

- Яшчэ якія, - сказаў Гары, і яны былі здзіўленыя усмешкай, якая з'явілася на ягоным твары. - Яны ж не ведаюць, што нам нельга выкарыстоўваць магію дома. Гэтым летам я збіраюся атрымаць шмат задавальнення ад сустрэчаў з Дадлі...

КАНЕЦ



# Змест

